свой годовой доход, 10 тысяч дукатов, Радзивилл пожертвовал на проект, посвящённый переводу и изданию Библии.

Радзивилл вел активную переписку с именитыми немецкими и швейцарскими теологами: Кальвином, Булингером, Вольфом, Мускулусом и Меланхтоном, обсуждал с ними различные вопросы христианской жизни. Он приглашал из-за границы известных богословов и проповедников, покровительствовал Сымону Будному и другим религиозным деятелям. По его инициативе и при его финансовой поддержке при зборах были созданы школы, в городах были организованы типографии, началось издание различной литературы. Не вызывает сомнений, что Николай Радзивил «Чёрный» вкладывал огромные средства из личного бюджета в дело Реформации.

На письмо папского посла в Польше Алаизия Липомано, в котором облечённый властью иерарх убеждает Радзивилла изменить свою евангельскую позицию и признать власть Рима, Николай недвусмысленно ответил, что католическая церковь отклонилась от чистоты библейского учения, и он не хочет быть её частью: «От сотворения мира истинная вера, через которую Бог объявлял людям правду, была всегда в меньшинстве, стеснённая. То же происходит и сегодня. Потому я лучше хочу быть в этой презираемой нунцием церкви как еретик, чем в римской церкви как святой…». Что же стало причиной столь радикального религиозного поворота? Известный литературовед и историк Иван Васильевич Саверченко, пытаясь обозначить причины обращения литовского магната в протестантизм, пишет, что Николай Радзивил «Чёрный» стал сторонником Реформации примерно в 36-летнем возрасте, преимущественно в результате внутренних духовных поисков [5, с. 730].

Вкратце отметим и другие причины, которые наталкивают на мысль, что выбор веры и просветительская деятельность Николая Радзивилла – это не дань моде. Однажды, когда шляхта обратилась к Радзивиллу с просьбой издать правовой документ ВКЛ, великий канцлер дал согласие, и уже в 1551 году был создана комиссия для подготовки нового Статута. Однако Статут ВКЛ вышел только в 1566 году. Между тем уже упоминавшаяся нами Радзивилловская Библия вышла 1563 году [2]. Таким образом, проектом первостепенной важности для подданных своего государства Николай Радзивилл «Чёрный» счёл издание Библии. Он понимал, что нравственное и моральное состояние, а также единство и величие нации, в первую очередь зависят от духовного состояния народа.

В 1558 году московский царь Иван IV начал войну против ВКЛ,

которая затянулась на 25 лет. В начале 1562 г. царские полки опустошили Мстиславщину, околицы Шклова, Орши, Витебска, Дубровно и Копыся [6, с. 143]. Впоследствии были оккупированы и другие белорусские земли. В феврале 1563 г. (сроком на 16 лет) был захвачен Полоцк. Из-за издевательств, насилия и убийств Иван IV получил прозвище «Жахлівы». Армия ВКЛ нуждалась в финансовой поддержке и Радзивилл несомненно понимал это. Однако ввиду сложившихся обстоятельств, белорусский магнат не свернул проект по переводу и изданию Библии, но по-прежнему считал возрождение духовности приоритетом своей деятельности. Николай Радзивилл в первую очередь вкладывает финансовые средства в духовное просвещение своего народа. Он не игнорировал военный конфликт с восточным соседом, дело в том, что великий канцлер смотрел на происходящее под другим углом. Он считал, что, мужество, единство и нравственность прежде всего зависят от духовного восприятия Слова Божьего.

Вряд ли Жаном Кальвином или Мартином Лютером двигали политические интересы, вряд ли политические интересы играли первостепенную роль в деятельности белорусского просветителя Франциска Скорины. Эти люди в первую очередь были людьми веры, их главным желанием, целью их деятельность и смыслом их жизни было духовное возрождение нации, которой они принадлежали!

Несмотря на сложную военно-политическую обстановку на восточной границе государства, несмотря на религиозное давление прокатолически настроенной шляхты, несмотря на трудности, связанные с внутренней политикой, Николай Радзивилл Чёрный видел фундамент нации в её духовной составляющей. Он связывал возрождение ВКЛ с новой христианской верой – кальвинизмом и руководствовался при этом в первую очередь духовными, а не политическими соображениями. Великий канцлер, воевода виленский, Николай Радзивилл Чёрный считал, что в основе единого, сильного государства лежат духовные ценности, связанные с личной ответственностью человека перед Богом.

**Список использованных источников**

1. Березкина, Н.Ю. Культурно-просветительская деятельность Брестской типографии (1553-1570) / Н.Ю. Березкина // Берасцейскія кнігазборы. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і персектывы даследавання» (Брэст, 30–31 кастрычніка 2008 г.) УК «Абласная бібліятэка імя М. Горкага» ; складальнікі А.М. Мяснінкіна, Т.С. Кавенька. – Брэст, 2010. – С. 230–237.

2. Гапеева, Т. Навукоўцы: «Радзівіл Чорны выдаў Біблію замест Статута» / Т. Гапеева. // Брестская газета № 22 (546) 31 мая – 6 июня [Электронный ресурс]. – 2013. – Режим доступа : http://www.b-g.by/ru/22_2013/culture/17127/. – Дата доступа : 30.09.2015.
3. Жудинова, Е.В. Религии мира. Протестантизм / Е.В. Жудинова. – М.: ООО «ТД «Издательство Мир книги, 2006. – 192 с.
4. Карташев, А.В. Сигизмунд II Август великий князь Литовский с 1544 г. и король польский с 1548 по 1572 гг. / А.В. Карташев. // Очерки по истории Русской Церкви Том 1 [Электронный ресурс]. – 2015. – Режим доступа : http://www.klikovo.ru/books/41855/41943.html. – Дата доступа : 30.09.2015.
5. Саверчанка, І.В. Гісторыя філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі : у 6 т. / І.В Саверчанка. – Т. 2. Потарэнесанс і Адраджэнне / С.І. Санько [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т філасофіі. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – 840 с.
6. Снапкоўскі, У.Е. Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: Вучэб. дапам. для студэнтаў фак міжнар. адносін: У 2 ч. Ч.1. Ад пачату дзяржаўнасці да канца XVIII ст. / У.Е. Снапкоўскі. – Мн.: БДУ, 2003. – 281 с.

УДК 81’ 255. 2 : 811. 161. 3

***А. Г. Міхалевіч, Н. Р. Мордас***

## ТРАДЫЦЫІ СКАРЫНЫ Ў ПЕРАКЛАДЗЕ ТЭКСТАЎ САКРАЛЬНАГА ХАРАКТАРУ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

У артыкуле разглядаюцца асаблівасці перакладу на аснове параўнальнага аналізу Ф. Скарынам лацінскіх, чэшскіх, старажытнаяўрэйскіх і царкоўнаславянскіх тэкстаў, якія пасля былі надрукаваны як 23 кнігі Бібліі. Канстатуецца адлюстраванне многіх скарынаўскіх традыцый у сучасных перакладах. Аналізуюцца некаторыя трансфармацыі моўных сродкаў параўнання ў перакладах Новага Запавету на беларускую мову шляхам супастаўлення беларускамоўных кампаратыўных адзінак з тэкстам сінадальнага перакладу на рускую мову.

Далёка за межамі нашай Радзімы вядома імя Францыска Скарыны – беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара, асветнікагуманіста, грамадскага дзеяча, пісьменніка, прадпрымальніка, вучонагалекара. Сярод многіх заслуг гэтай гістарычнай асобы – пераклад лацінскіх, чэшскіх, старажытнаяўрэйскіх, царкоўнаславянскіх тэкстаў, якія Францыск Скарына ажыццявіў на аснове параўнальнага аналізу згаданых адзінак, а затым выданне ім 23 кніг Бібліі пад агульнай назвай “Библия руска, выложена доктором Франциском Скариною из славного

града Полоцька, богу ко чти и людем посполитым к доброму научению".

Нельга не адзначыць ролі Бібліі ў гісторыі чалавецтва. Адна з вядомых лацінскіх прымавак гаворыць: "Habent sua fata liberi ("Кнігі маюць свой лёс"). Аднак ёсць кнігі, якія не толькі маюць асаблівы лёс, але і самі становяцца лёсам, вызначаюць шляхі цывілізацыі і культуры. Да такіх найвялікшых кніг якраз і належыць Біблія – Першакніга еўрапейскай цывілізацыі, якая стала падмуркам усёй еўрапейскай культуры, у тым ліку і беларускай, адыгрываючы асаблівую ролю ў жыцці мільёнаў людзей розных часоў і народаў.

Біблія Францыска Скарыны вызначаецца тым, што яна не з'яўляецца поўным адпаведнікам хаця б якога-небудзь рукапіснага ці друкаванага звода Святога Пісання. Яна адыходзіць ад царкоўных традыцый перш за ўсё сваім зместам, паколькі пазбегла многага кананічнага. Для выданняў нашага славутага земляка характэрны таксама агульная накіраванасць, свецкая прыўзнятасць, грамадскія, нацыянальна-патрыятычныя, гуманістычныя і асветніцкія тэндэнцыі. Варта адзначыць, акрамя таго, дасканаласць выяўленчых сродкаў, іх экспрэсіўнасць, алегарычны характар і, безумоўна, багаты гістарычны, філасофскі і тэалагічны каментарый. Усё гэта было выкарыстана як багаты вопыт сучаснымі перакладчыкамі тэкстаў сакральнага характару на беларускую мову.

Як вядома, пераклад з'яўляецца сёння самастойнай полікультурнай камунікатыўнай адзінкай, у якой менавіта перакладчык садзейнічае ажыццяўленню абмену навуковай інфармацыяй, эквівалентна трактуючы яе як раўназначнасць аб'ёму перадачы аб'ёму інфармацыі і нормам мовы перакладу. Вялікую цікавасць у гэтым плане выклікае пераклад тэкстаў менавіта сакральнага характару, у прыватнасці Бібліі, на беларускую мову.

Згодна з падлікамі, на сённяшні дзень Біблія застаецца адзінай кнігай, якую часцей за ўсё перакладаюць у свеце. Так, да пачатку 2015 года яна была поўнасцю перакладзена больш чым на 450 моў і часткова амаль на дзве з паловай тысячы моў свету. Актыўны пераклад царкоўна-рэлігійнай літаратуры на беларускую мову пачынаецца ў апошнія дзесяцігоддзі XX стагоддзя. Тут варта прыгадаць сінадальны пераклад "Кніг свяшчэннага Пісання кананічных" [1], Евангеллі ў перакладзе Анатоля Клышкі 1989-1990 гадоў [2]. Акрамя таго, шырока вядомы пераклад Новага Запавета на беларускую мову, які ажыццявіў ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі [3]. У 2007 годзе ўпершыню тэкст Свяшчэннага Пісання быў перакладзены на сучасную беларускую мову ў форме, прызначанай для выкарыстання пры богаслужэннях.

Безумоўна, гэта вельмі актуальна ў цяперашняй духоўнай і моўнай сітуацыі на Беларусі.

Пераклад тэкстаў сакральнага характару з іншых моў, з'яўляючыся своеасаблівым інструментам полікультурнай камунікацыі, – даволі складаны працэс, які прадугледжвае не толькі дакладнае веданне лінгвістычных законаў, але і добрае валоданне царкоўнымі паняццямі, неабходнасць знаходжання тэксту і самога перакладчыка на адной духоўнай хвалі. Звычайна асэнсаванне перакладчыкам мастацкага арыгіналу прыводзіць да яго непазбежнай суб'ектыўнай трансфармацыі і – як вынік – да праяўлення індывідуальна-творчага пачатку. Менавіта гэтага і нельга дапусціць пры перакладзе Свяшчэнных тэкстаў. Спецыфіка перакладу біблейскага тэксту яшчэ і ў тым, што любы пераклад Бібліі адначасова з'яўляецца і яе тлумачэннем. Таму асноўным патрабаваннем да перакладу выступае экзегетычная дакладнасць, а не лінгвістычная эфектыўнасць. Для дасягнення гэтай дакладнасці закранаецца цэлы шэраг няпростых гістарычных, тэалагічных, лінгвістычных і іншых пытанняў. Праблема заключаецца яшчэ і ў тым, што старагрэчаская і царкоўнаславянская мовы, з якіх рабіўся пераклад, вельмі старажытныя, шмат якія лексічныя адзінкі ў розныя гістарычныя перыяды неслі неадэкватную семантычную нагрузку і на цяперашні момант ужо не маюць такога значэння, якое было ім уласціва ў даўнія часы. Таму вельмі цікава выявіць пэўныя трансфармацыі моўных сродкаў параўнання ў перакладах Новага Запавету на беларускую мову шляхам супастаўлення беларускамоўных кампаратыўных адзінак з тэкстам сінадальнага перакладу на рускай мове.

Кампаратыўныя канструкцыі ў перакладах часта перадаюцца даслоўна, захоўваюцца асаблівасці іх граматычнай будовы і сэнсава-канататыўны змест. Перакладчыкі выкарыстоўваюць адпаведныя злучнікі, якія, акрамя параўнальнага значэння, надаюць кампаратыўнай канструкцыі пэўныя мадальныя адценні. Напрыклад, Евангелле паводле Матфея 6:12: *"И прости нам долги наши,* ***как*** *и мы прощаем должником нашим"* (синодальный перевод); *"І адпусці нам грахі нашыя,* ***як*** *і мы адпускаем вінаватым нашым"* (пераклад У.Чарняўскага); *"І даруй нам нашы правіны,* ***як*** *і мы даруем вінаватым перад намі"* (пераклад В.Сёмухі); *"І даруй нам нашы правіны,* ***як*** *і мы даруем нашым вінаваўцам"* (пераклад А.Клышкі); *"І даруй нам даўгі нашыя,* ***як*** *і мы даруем даўжнікам нашым"* (пераклад Біблейскай камісіі).

Часам адбываюцца сінанімічныя змены параўнальных злучнікаў рознымі перакладчыкамі, напрыклад:

- Адкрыццё Іаана Багаслова 19:1: *"После сего я услышал на*

*небе громкий голос, **как бы** многочисленного народа…"* (синодальный перевод); *"Пасля гэтага чуў я голас гучны на небе, **як быццам** многіх натоўпаў…"* (пераклад У.Чарняўскага); *"Пасля гэтага я пачуў на небе гучны голас, **як бы** вялікага мноства людзей…"* (пераклад В. Сёмухі);

- Пасланне Іакава 1:10 :*" …потому что он прейдет, **как** цвет на траве"* (синодальный перевод); *"…бо праміне ён, **як** краска палявая"* (пераклад У. Чарняўскага); *"… бо ён мінецца, **бы** краска ў траве"* (пераклад В. Сёмухі).

У перакладах біблейскіх тэкстаў на беларускую мову параўнанні можна выявіць на розных узроўнях:

- на моўным – як прыём эстэтычнага мадэлявання рэчаіснасці;
- на ідэйным – як сродак праяўлення глыбіннага сэнсу;
- на кампазіцыйным – як элемент структурнай арганізацыі тэксту.

Таму пры перакладзе неабходна спалучаць іх літаральнае і сімвалічнае значэнні, маючы на ўвазе, што параўнанне з'яўляецца тут не толькі ўпрыгожаннем тэксту. Яно ёсць спосаб больш шырокага бачання свету. Даволі часта яскравы і нечаканы вобраз, створаны пры дапамозе параўнання, дапамагае разуменню і запамінанню складаных тэалагічных ідэй. Такія параўнанні звычайна закранаюць унутраную сутнасць аб'ектаў, экспліцыруюць гэту сутнасць і раскрываюць яе з розных бакоў. Менавіта пры перакладзе такіх параўнальных канструкцый неабходны дакладнасць і далікатнасць з боку перакладчыка. Напраклад, апісанне знешняга выгляду Ісуса Хрыста падчас Яго праабражэння на гары Фавор пададзена трыма евангелістамі наступным чынам:

- *"Одежды Его сделались блистающими, весьма белыми, как снег…"*(паводле Марка 9:3) *– і пераклад: "І ўбранне Яго стала бліскучым і надзвычай белым, як снег"*;
- *" и преобразился пред ними: и просияло лице Его, как солнце, одежды же Его сделались белыми, как свет"* (паводле Матфея 17:2*) – і пераклад: "і перамяніўся перад імі, і заззяла аблічча Яго, як сонца, а ўбранне Яго стала белае, як святло";*
- *"И когда молился, вид лица Его изменился, и одежда Его сделалась белою, блистающею" "* (паводле Лукі 9:29) *– і пераклад: "І калі маліўся, выгляд твару Яго стаў іншым, і ўбранне Яго стала белым і зіхатлівым* ".

Пералічаныя апісанні падобныя, аднак у той жа час адрозніваюцца пэўнымі дэталямі. Іх супастаўленне дазваляе вызначыць, што параўнанне "*белыми, как снег*" - "*белым, – к снег*" і ў рускай, і ў беларускай мовах мае на ўвазе не толькі колер вопраткі, але і ўтрымлівае ацэначную функцыю. Яно паказвае чысціню, святасць,

надзвычайнасць Таго, каму яна належыць. Бо што такое снег для той паўднёвай краіны? Гэты нешта ўнікальнае, незвычайнае, гэта нейкі эталон чысціні і прыгажосці, адлюстраванне неба на зямлі. Толькі на горнай вяршыні Хеўрон былі невялікія плямкі снегу. Мабыць, тады, як і сёння, жыхары Палесціны, гледзячы на тую вышыню, былі ўражаны снегавым покрывам. Таму і выкарыстоўваецца гэты вобраз снегу як сімвал белізны і чысціні, перадаючы пачуцці апосталаў, якія ўбачылі праабражэнага Хрыста. Той ззяў, як снег на горнай вяршыні.

Такім чынам, пераклад моўных сродкаў параўнання, які адлюстраваў многія традыцыі Францыска Скарыны, характарызуецца неаднароднасцю і варыянтнасцю на лексічным і граматычным узроўнях, якія, між тым, амаль што не прыводзяць да парушэнняў і зместавых пераўтварэнняў. Выкарыстанне розных моўных сродкаў у перакладных тэкстах сакральнага характару і адначасовае захаванне сэнсавага напаўнення гэтых тэкстаў сведчаць пра багацце беларускай мовы і яе здольнасць перадаваць любую інфармацыю.

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Библия. Книги священного Писания кононические / Синодальный перевод. – М.: Российское библейское общество, 1997. – 1312 с.

2. Клышка, А. Новы Запавет Госпада нашага Ісуса Хрыста (Евангеллі паводле Мацвея, Марка) // Спадчына. – 1990. - № 1–4.

3. Новы Запавет / Пераклад на беларускую мову У. Чарняўскага. – Мінск: Біблейскае таварыства, 2003. – 304 с.

УДК 81’42

***Н. В. Соловьёва***

## ЛЕКСИЧЕСКИЕ ОСОБЕННОСТИ ТИТУЛАТУРЫ МОСКОВСКИХ ПРАВИТЕЛЕЙ В ДИПЛОМАТИЧЕСКОЙ ПЕРЕПИСКЕ С ВКЛ КОНЦА XVI ВЕКА

В статье рассматриваются особенности функционирования титулов *господарь, царь, повелитель, самодержец* в составе официальной титулатуры московских правителей, представленной в дипломатической переписке с официальными лицами Великого княжества Литовского в конце XVI века; анализируются лексические и стилистические изменения в употреблении титулов, объясняются причины этих изменений.

В дипломатической переписке с ВКЛ 1585–1600 гг. обязательными элементами официальной титулатуры московских правителей являются, наряду с традиционным именованием *великий князь,* титулы *царь* и *господарь*:

| Полная титулатура | Сокращенная титулатура |
|---|---|
| *Великии г(о)с(по)д(а)ръ, царъ и великии княз Феодор Ивановичъ всея Руси, влодимерскии, московъскии, новгородъскии, царъ казаньскии, цар астраханскии, г(о)с(по)д(а)ръ псковскии и великии князь смоленьскии, тверъскии, югорскии, перъмскии, вятскии, болгарскии и иных, г(о)с(по)д(а)ръ и великии княз Новагорода Низовъское земли, черъниговскии, резаньскии, ростовскии, ярославскии, белоозерскии, лифляятскии, удорскии, обдорскии, конъдынскии и всея Сибирское земли и Сиверныя стороны повелитель и иных многих земль г(о)с(по)д(а)ръ* [1, 9, с. 21] | *… к великому господару нашому цару и великому князю Феодору Ивановичу всея Руси* [1, 12, с. 28] |

В составе полной титулатуры титулы *господар, цар* и *великии князь* встречаются не единожды: в самом начале перед собственным именем монарха (*великии г(о)с(по)д(а)ръ, царъ и великии княз Феодор Ивановичъ*) и затем повторяются при перечислении территориальных владений – так называемых «географических титулов» (*царъ казаньскии, г(о)с(по)д(а)ръ псковскии, великии князь смоленьскии* и т.п.).

Отмеченная специфика употребления свидетельствует о различной функциональной нагрузке перечисленных титулов в зависимости от места, занимаемого в составе титулатуры. Очевидно, что употребление в начальной позиции перед именем собственным декларирует личный статус монарха, определяя его место на внешнеполитической арене, в кругу правителей европейских государств. Повтор титула во второй, «географической» части титулатуры отражает особенности внутригосударственного устройства, специфику реализации монаршей власти на определенной территории, в том числе, и в силу сложившихся традиций. На это, в частности, указывает наличие определения *великии* при титуле *г(о)с(по)д(а)ръ* лишь в начальной части титулатуры. *Великии г(о)с(по)д(а)ръ* – это общий статус монарха, призванный подчеркнуть его равенство и даже превосходство в кругу других европейских правителей. В то же время при употреблении во второй части титулатуры слово *г(о)с(по)д(а)ръ* все еще сохраняет значение, близкое исконному общеславянскому ‘хозяин, владелец’, акцентируя при этом факт подчинения перечисленных территорий московскому

правителю: *г(о)с(по)д(а)ръ псковскии, г(о)с(по)д(а)ръ и великии княз Новагорода Низовъское земли, иных многих земль г(о)с(по)д(а)ръ.*

Употребление слова *царь* для именования московских князей отмечается уже в конце XV века [2], однако официально именоваться «царями» русские монархи начинают только после венчания на царство Ивана IV в 1547 году.

Примечательно, что в титулатуре, сложившейся к концу XVI века, слово *царь* при повторе употребляется лишь в составе титулов *царъ казаньскии* и *царъ астраханскии*, т.е. с названиями территорий, находившихся под управлением монгольских ханов вплоть до завоевания Иваном IV в середине XVI века, что позволяет думать о правомерности предположения о «восточном» происхождении титула, впервые озвученного еще Н.М. Карамзиным («Сие имя не есть сокращение Латинского Caesar, как многие неосновательно думали, но древнее Восточное, которое сделалось у нас известно по Славянскому переводу Библии и давалось Императорам Византийским, а в новейшие времена Ханам Могольским, имея на языке Персидском смысл трона, или верховной власти» [3]).

Изменение формы власти московского правителя на какой-либо территории обязательно находила отражение в официальной титулатуре. Так, титул *всея Сибирское земли повелитель* в титулатуре Федора Ивановича означал протекторат Московского государства над Сибирским ханством, установленный при Иване Грозном в середине XVI века. Однако завоевания Ермака, итогом которых стало строительство в 1586 г. Тюмени – первого русского города в Сибири, обусловили изменения и в титуле царя. Уже в документах 1589 г. титул *повелитель* изменяется на *обладатель*: *…всее Сибирское земли и Северные страны обладателя и г(о)с(по)д(а)ра* [1, 46, с. 95].

В текстах 1590-х гг. титул встречается также в форме *облаадатель*: *… и иных многих г(о)с(по)д(а)рствъ г(о)с(по)д(а)ря и облаадателя* [1, 90, с. 223]. Интересно, что в качестве царского титула вариант *облаадатель* неоднократно отмечен в различных типах деловых текстов кон. XVI–XVII вв. [4]; [5], что свидетельствует о сознательном характере таких написаний. Преднамеренное употребление не обусловленного этимологически хиатуса следует, очевидно, расценивать как стремление к искусственной языковой архаизации царских титулов с целью подчеркнуть сакральный и традиционный характер государственной власти.

Еще одним важным изменением в титулатуре московского монарха в дипломатической переписке с ВКЛ конца XVI века является закрепление титула *самодержец*. Новым титулом титулатура

русского правителя пополняется уже в грамоте 1587 г.: … *и всея Сибирския земли и Сиверныя страны повелител и иных многих г(о)с(по)д(а)рствъ господар и самодержецъ* [1, 27, с. 59]. Примечательно, что титул сначала появляется в финальной позиции, относительно незаметной в составе объемной титулатуры: новый статус правителя, официально закрепляющий новую форму государственной власти – безграничное единоличное правление монарха, декларируется с некоторой осторожностью. И совершенно закономерным выглядит перемещение нового титула в начальную, несущую наибольшую смысловую и экспрессивную нагрузку часть титулатуры уже в следующей грамоте: *мы, великии г(о)с(по)д(а)ръ царъ и великии князь Феодоръ Ивановичъ всея Руси самодеръжецъ …* [1, 37, с. 79]. Именно в этой позиции титул *самодержецъ* закрепляется в более поздних документах московских правителей Федора Ивановича и Бориса Годунова, представленных в составе Метрики ВКЛ.

Таким образом, структура отмеченной в дипломатической переписке конца XVI века титулатуры московских правителей и составляющие ее лексические элементы не случайны и призваны вкупе сформировать авторитетный политический образ русского монарха. При этом смысловая и функциональная нагрузка титула варьировалась в зависимости от позиции в составе титулатуры: если титулы, представленные в начальной части, определяли общий статус русского правителя в межгосударственных отношениях, то титулы, расположенные в «географической» части, характеризовали специфику монаршей власти на определенной территории. Как показывает анализ употребления царской титулатуры в переписке с ВКЛ, наиболее важные с точки зрения определения статуса правителя титулы обнаруживали тенденцию к перемещению в начальную часть титулатуры. Кроме того, усиление смысловой значимости титула осуществлялось за счет искусственной его архаизации.

**Список использованных источников**

1. Lietuvos Metrika. – Vilnius: Mokslo ir enciklopediju leidykla. – Knyga 594: (1585 – 1600) / Lietuvos istorijos institutas; parenge Algirdas Baliulis. – Vilnius: Lietuvos istorijos instituto leidykla, 2006. – 300 p.

2. Агоштон, М. Титул правителя Московского государства (1474 – 1533) / М. Агоштон // Вестник ВолГУ. Сер. 4. – 2004. – № 9. – С. 6 – 15.

3. Карамзин, Н.М. История государства Российского / Н.М. Карамзин // Библиотекарь [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://www.bibliotekar.ru/karamzin/58.htm. – Дата доступа: 30.09.2015.

4. Карданова, Н.Б. Особенности формуляра царской грамоты к дожам

Венеции: инвокация, интитуляция, начальное приветствие / Н.Б. Карданова // Научная электронная библиотека [Электронный ресурс].– Режим доступа: http://cyberleninka.ru/article/n/osobennosti-formulyara-tsarskoy-gramoty-k-do-zham-venetsii-invokatsiya-intitulyatsiya-nachalnoe-privetstvie#ixzz3CAM3Hg00. – Дата доступа: 02.09.2014.

5. Страхова, О.Б. Официальная титулатура русских патриархов в изданиях Московского Печатного двора (1589 – 1700 гг.) / О.Б. Страхова // Palaeoslavica XV/2. – 2007. – P. 117 – 206.

УДК 002.2(476)+008(476)+094(476)

***А. А. Суша***

## “СКАРЫНАЎСКІЯ ЮБІЛЕІ”: АД ПЕРШАГА ДА АПОШНЯГА

У артыкуле разглядаецца вопыт правядзення ў нашай краіне юбілеяў беларускага кнігадрукавання і святкавання юбілеяў яго заснавальніка – Францыска Скарыны. На падставе праведзенага аналізу выказваюцца прапановы па правядзенні святкавання 500-годдзя беларускага кніга-друкавання ў 2017 г.

У 2017 г. наша краіна будзе адзначаць вялікую дату – 500-годдзе беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Гэты юбілей, безумоўна, звязаны з дзейнасцю славутага Францыска Скарыны. Выдатны дзеяч беларускай культуры эпохі Адраджэння здолеў праявіць сябе як першадрукар, выдавец, рэдактар і перакладчык біблейскіх зводаў, аўтар арыгінальных прадмоў і каментарыяў да кніг Святога Пісання і іншых выданняў, які ўнёс неацэнны ўклад у многія сферы мастацкай і навуковай творчасці. У яго дзейнасці ярка адбіліся гуманістычныя, асветніцкія і дэмакратычныя тэндэнцыі, павевы еўрапейскага Адраджэння, культурныя сувязі з Расіяй, Украінай і іншымі краінамі. Францыск Скарына, які стаяў ля вытокаў нацыянальнай беларускай культуры, з’яўляецца яе сімвалам.

Веліч асобы Ф. Скарыны бачылі многія нашы папярэднікі, таму святкаванне юбілеяў беларускага кнігадрукавання ўжо мае сваю гісторыю. У прыватнасці кіраўнікі яшчэ зусім маладой Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў свой час прынялі рашэнне аб святкаванні на самым высокім дзяржаўным узроўні 400-гадовага юбілею беларускага кнігадрукавання. У 1925 г. прайшлі шматлікія мерапрыемствы ў розных гарадах Беларусі, прычым іх статус быў

настолькі высокім, што нават святкаванне сямігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі прайшло ў рамках юбілею айчыннага кнігадрукавання. За адпраўную кропку для святкавання юбілею быў абраны 1525 г. – калі выйшла першае дакладна датаванае выданне на беларускіх этнічных землях – “Апостал” Ф. Скарыны. Адзначыць юбілей у 1917 г. – праз 400 гадоў пасля выхаду першы пражскіх выданняў Ф. Скарыны – не дазвалялі падзеі Першай сусветнай вайны і рускіх рэвалюцый, а пра час выхаду “Малой падарожнай кніжкі” ў тыя гады дакладных звестак не было і нават лічылася, што яна выйшла пазней, чым “Апостал” [10].

Таму менавіта ў 1925 г. адбыліся асноўныя святочныя мерапрыемствы. Да гэтага юбілею былі прымеркаваны два фундаментальныя выданні па гісторыі беларускай кнігі, якія з’яўляюцца непераўзыдзенымі дагэтуль. Першае з іх было падрыхтавана па даручэнні Савета Народных Камісараў БССР Інстытутам беларускай культуры і выйшла ў 1926 г. пад назвай “Чатырохсотлецце беларускага друку” [16] і ўключала шэраг вельмі глыбокіх даследаванняў па гісторыі беларускага кнігадрукавання ў кантэксце айчыннай і агульнаеўрапейскай культуры. Другое выданне пабачыла свет у тым жа годзе ў Коўне (Каўнасе) пад назваю “Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі” [7] (нядаўна перавыдадзена факсімільна [8]). Гэта сапраўды фундаментальнае выданне сабрала ў сабе звесткі пра большасць вядомых на той час помнікаў беларускага пісьменства, напісаных кірылічным алфавітам у XI–XVIII стст.

Вельмі пышна і пафасна адзначаўся таксама юбілей 450-годдзя беларускага кнігадрукавання ў 1967 г. Вялікія святочныя мерапрыемствы прайшлі ў Мінску (найперш, у Акадэміі навук БССР) і ў Полацку.

Праведзенае ў 1989–1991 гг. святкаванне 500-годдзя з дня нараджэння Ф. Скарыны стала выключнай падзеяй у культурным жыцці Беларусі, надало моцны штуршок яго далейшаму развіццю. Тады былі праведзены шматлікія канферэнцыі, выйшлі з друку шматлікія навуковыя і папулярныя працы [2; 3; 4; 6; 9; 11; 12; 13; 14; 15; 17], факсімільна перавыдадзены пражскія выданні Ф. Скарыны [1], былі ўсталяваны помнікі і мемарыяльныя шыльды, праведзены сотні мерапрыемстваў ва ўсіх куточках Беларусі і за мяжою. Можна выказаць меркаванне, што дзякуючы таму юбілею Беларусь (тады яшчэ БССР) здолела паўнацэнна і шырока заявіць пра сябе як краіну з развітой культурай, чым абгрунтавала права краінай звацца (яшчэ не маючы на той час уласнай міжнароднай палітыкі).

У сувязі з выключнай значнасцю спадчыны беларускага першадрукара для айчыннай, агульнаславянскай і ў цэлым еўрапейскай культуры выглядае мэтазгоднай распрацоўка комплекснай праграмы

мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і святкаванні ў 2017 г. паўтысячагадовага юбілею беларускага кнігадрукавання. Гэта праграма павінна ўключыць цэлы шэраг навуковых, мастацкіх, адукацыйных і асветніцкіх мерапрыемстваў і мець пашырэнне не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.

Найбольш значныя мерапрыемствы павінны быць рэалізаваны на міжнародным узроўні. Да іх трэба аднесці падрыхтоўку і ўключэнне святочных мерапрыемстваў у каляндар памятных дат ЮНЭСКА і магчымае аб'яўленне 2017 г. годам Францыска Скарыны. Работа ў гэтым напрамку адбываецца ўжо сёння.

Міжнародны характар мае таксама праца па папулярызацыі спадчыны Ф. Скарыны шляхам яе вяртання на Радзіму першадрукара. Як вядома, толькі нязначная частка яго выданняў (калекцыя з 10 адзінак) сёння захоўваецца ў нашай краіне. У той час як вынікі навуковай і даследчай працы паказваюць, што ў свеце захавалася не менш чым 430 друкаваных асобнікаў і каля 40 рукапісных спісаў з кніг Ф. Скарыны.

У гэтым кантэксце вялікае значэнне мае справа пошуку і, пры магчымасці, вяртання кніжнай спадчыны пачынальнікаў беларускага кнігадрукавання ў дзяржаўныя бібліятэчныя зборы нашай краіны.

Праца ў гэтым напрамку вядзецца ўжо даволі даўно. Так, у межах гэтай дзейнасці Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі быў набыты шэраг рэдкіх і каштоўных кніг. Сярод іх: усе першыя выданні знакамітай працы Казіміра Семяновіча "Вялікае мастацтва артылерыі" (1650, 1651, 1676, 1729 гг.), старажытны беларускі "Псалтыр" (Вільня, 1782), "Жыція святых" Дзмітрыя Растоўскага з самай старажытнай графічнай выявай Магілёва (Магілёў, 1702), унікальная калекцыя старажытных беларускіх карт і інш. Найбольш дарагія выданні набыты пры фінансавай падтрымцы беларускіх і замежных устаноў і арганізацый (у т.л. дзяржаўных – як Фонд Прэзідэнта па падтрымцы культуры і мастацтва, так і прыватных – напрыклад, БПС-Сбербанка). Многія іншыя беларускія ўстановы таксама дасягнулі значных поспехаў у справе вяртання кніжных помнікаў на радзіму. Сярод найбольш актыўных – Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага, Музей гісторыі Магілёва, Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік "Нясвіж", Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь, Музей "Замкавы комплекс "Мір".

Актыўнасць апошніх гадоў дазваляе выказваць надзею нават на магчымасць вяртання выданняў Францыска Скарыны. Нягледзячы на ўнікальнасць гэтых выданняў і выключную рэдкасць з'яўлення іх у

продажы, магчымасць іх набыцця ў прыватных уладальнікаў існуе і сёння актыўна адпрацоўваецца. Прынамсі, магчымыя для куплі выданні сёння вядомы беларускім спецыялістам. Паказальным тут можа быць прыклад дзейнасці нашых папярэднікаў: у 1925 г. падчас святкавання 400-годдзя беларускага кнігадрукавання маладая БССР здолела знайсці магчымасць для набыцця дзесяці выданняў Францыска Скарыны – тых самых, што дагэтуль зберагаюцца ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

У той жа час, рэальнае вяртанне першадрукаў Ф. Скарыны і яго паслядоўнікаў магчыма ў вельмі абмежаваным маштабе. У такой сітуацыі неабходна ажыццяўленне альтэрнатыўных мерапрыемстваў па вяртанні нашай кніжнай спадчыны ў навуковы і грамадскі ўжытак беларусаў і іх еўрапейскіх суседзяў. Адным з такіх шляхоў уяўляецца часовае вяртанне арыгінальных выданняў у Беларусь падчас кніжных выстаў і іншых мерапрыемстваў. Такую практыку ўпершыню распачала Нацыянальная бібліятэка Беларусі ў 2012 г. выставай адзінаццаці пражскіх выданняў Бібліі Ф. Скарыны са збораў бібліятэкі Верхнялужыцкага навуковага таварыства (Гёрліц, Германія). Падобныя выставы з замежных збораў запланаваны на бліжэйшыя гады.

Яшчэ адным альтэрнатыўным кірункам вяртання спадчыны пачынальнікаў беларускага кнігадрукавання з’яўляецца віртуальная яе рэканструкцыя і прадастаўленне шырокай аўдыторыі доступу да яе праз выкарыстанне сучасных інфармацыйных тэхналогій. Работа ў гэтым напрамку была распачата ўжо даволі даўно і прывяла да заўважных дасягненняў. Сёння праводзяцца работы па выяўленню, вывучэнню, правядзенню навуковай экспертызы і стварэнні навуковага апісання выданняў з замежных збораў, іх алічбоўка, ствараецца матэрыяльна-тэхнічная база. Калі казаць пра спадчыну беларускага першадрукара, то дзякуючы ўзаемадзеянню Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі са сваімі замежнымі партнёрамі ўжо атрыманы лічбавыя копіі некалькіх дзясяткаў яго выданняў. Падобную працу неабходна больш інтэнсіўна праводзіць і ў дачыненні іншых беларускіх рэдкіх і старадрукаваных выданняў, якія, на жаль, адсутнічаюць у дзяржаўных зборах нашай краіны.

У якасці альтэрнатыўнага шляху вяртання кніжнай спадчыны можа быць разгледжана факсімільнае ўзнаўленне найбольш каштоўных помнікаў. Што і казаць, калі нават спадчына Францыска Скарыны дагэтуль не перавыдадзена ў поўным аб’ёме. Такое ўзнаўленне павінна быць выканана на найвышэйшым паліграфічным узроўні ў адпаведнасці з актуальнымі магчымасцямі нацыянальнага і сусветнага кнігавыдання.

За апошнія гады ў Беларусі рэалізаваны цэлы шэраг падобных выдавецкіх праектаў. Пабачылі свет у выглядзе факсімільнага ўзнаўлення Слуцкае Евангелле XVI ст. (2009), Віленскі "Буквар" 1767 г. (2012), Полацкае Евангелле канца XII – пачатку XIII ст. (2012), Баркалабаўскі летапіс XVII ст. (2013), "Посах кіравання" Сімяона Полацкага 1667 г. (2013), Тураўскае Евангелле XI ст. (2014) і інш. Многія з названых праектаў набылі агульнанацыянальны маштаб. Іх вынікі ў межах шматлікіх мерапрыемстваў ва ўсіх рэгіёнах Беларусі былі бясплатна перададзены ва ўстановы культуры, навукі і адукацыі не толькі нашай краіны, але і замежжа.

Праект па факсімільным узнаўленні кніжнай спадчыны Францыска Скарыны быў нядаўна ініцыяваны Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і Банкам БелВЭБ. Сёння ён знаходзіцца ў стадыі рэалізацыі і многія бібліятэкі, музеі, навуковыя і навучальныя ўстановы Беларусі і замежных краін ужо атрымалі першыя тамы поўнага факсімільнага выдання кніжнай спадчыны першадрукара [5].

Комплексная праграма мерапрыемстваў павінна таксама ўключаць шматлікія іншыя выставачныя, асветніцкія, навуковыя, віртуальныя, выдавецкія і іншыя мерапрыемствы, а таксама конкурсы, спаборніцтвы, гульні і віктарыны. Адпаведныя прапановы распрацаваны Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і праходзяць абмеркаванне ў прафесійных колах беларускіх бібліятэкараў. Яны прадугледжваюць правядзенне юбілейных мерапрыемстваў на працягу бліжэйшых дзесяці гадоў – ад сённяшняга 2015 г. года, калі мы святкуем 525-годдзе Скарыны, да 2025 г., калі будзе адзначацца 500-годдзе завяршэння друкарскай дзейнасці Ф. Скарыны. Аднак асноўная дата, на якую зроблены акцэнт Праграмы мерапрыемстваў, – безумоўна, 2017 г.

Прапановы маюць характар рэкамендацыі, патрабуюць удзелу бібліятэчнай супольнасці ў дапрацоўках і дапаўненнях і жадання прыняць удзел у іх рэалізацыі. Бясспрэчна, што рэалізацыя названых мерапрыемстваў магчымая толькі пры цесным супрацоўніцтве супрацоўнікаў бібліятэк, музеяў, архіваў, навуковых і навучальных установ, а таксама іх замежных партнёраў. Зразумелым з'яўляецца і тое, што рэалізацыя праграмы мерапрыемстваў магчымая толькі пры паўнацэннай падтрымцы гэтых ініцыятыў з боку органаў дзяржаўнага кіравання. На такую падтрымку, безумоўна, можна спадзявацца, паколькі запланаваны комплекс мерапрыемстваў дазволіць прадставіць Рэспубліку Беларусь як краіну з багатай культурнай спадчынай, даўнімі традыцыямі кніжнай культуры, цесна знітаванай з культурамі славянскіх і іншых еўрапейскіх краін. А ўстановы культуры, навукі і

адукацыі ў гэтым кантэксце здолеюць пераканаўча давесці сваю выключную ролю ў развіцці сучаснага беларускага грамадства.

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Біблія: факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Францыскам Скарынаю ў 1517–1519 гг.: у 3 т. / [адказны рэдактар С. В. Кузьмін]. – Мінск: Беларуская Савецкая Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 1990–1991. – 3 т.

2. Гравюры Францыска Скарыны = Гравюры Франциска Скорины = Francisk Scorina's ehgravihgs: Альбом / аўт. тэксту і склад. Л. Ц. Баразна; навук. рэд. А. І. Жураўскі, П. В. Масленікаў, Г. В. Штыхаў; прадм. В. Ф. Шматава. – Мінск: Беларусь, 1990. – 190 с.

3. Дварчанін, І. Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве / Ігнат Дварчанін; пер. з чэш. мовы Т. Кароткай. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 185, [2] с.

4. Кніжная культура Беларусі: Да 500-годдзя з дня нараджэння Ф.Скарыны: (Зб. навук. прац) / Акад. навук БССР, Цэнтр. навук. б-ка імя Якуба Коласа; [рэдкал.: Г. Я. Галенчанка і інш.]. – Мінск, 1991. – 220, [3] с.

5. Кніжная спадчына Францыска Скарыны = Книжное наследие Франциска Скорины = Book heritage of Francysk Skaryna: [да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання] / Нацыянальная бібліятэка Беларусі; [адказны рэдактар А. А. Суша]. – Мінск: Нацыянальная бібліятэка Беларусі, 2013.

6. Конан, У. М. Боская і людская мудрасць: (Францішак Скарына: жыццё, творчасць, светапогляд) / Уладзімір Конан. – Мінск: Рэдакцыя газеты “Голас Радзімы”, 1990. – 64 с.

7. Ластоўскі, В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі = Qudu knygos istorija: Спроба паясніц. кнігапісу ад канца X да пач. XIX ст. / апрац. В. Ластоўскі; [вокл. выканаў М. Дабужынскі; выд. коштам Бел. цэнтра ў Літве]. – Коўна: Адціснута ў друк. Ф. Сакалоўскага і Лана, 1926. – VIII, 776 с.

8. Ластоўскі, В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі / Вацлаў Ластоўскі; [прадмова А. Сушы]. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. – 29, VIII, 776, [1] с.

9. Мова выданняў Францыска Скарыны / А. М. Булыка, А. І. Жураўскі, У. М. Свяжынскі; АН БССР. Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – 252, [1] с.

10. Піотуховіч, М. Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасць / Міхаіл Піотуховіч // Чатырохсотлецце беларускага друку = Quadringentennium typorum alboruthenicorum: 1525–1925: зборнік / Інстытут беларускай культуры. – У Менску, 1926. – С. 170.

11. Скарына і яго эпоха / [В. А. Чамярыцкі і інш.]; Акадэмія навук Беларускай ССР, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – 479, [2] с., [23] л.

12. Скарынаўскія чытанні: тэзісы дакладаў і паведамленняў / [рэдкалегія: У. І. Анічэнка (галоўны рэдактар) і інш.]. – Гомель, 1990. – 69 с.

13. Францыск Скарына і яго час: энцыклапедычны даведнік / [рэдка-

легія: І. П. Шамякін (галоўны рэдактар) і інш.]; Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. – Мінск: Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, 1988. – 607, [1] с.

14. Францыск Скарына: жыццё і дзейнасць: паказальнік літаратуры / Акадэмія навук Беларускай ССР, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа АН БССР, Кніжная палата СССР; [складальнікі: Я. Л. Неміроўскі, Л. А. Осіпчык; рэдактар А. І. Мальдзіс]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – 267, [2] с.

15. Чамярыцкі, В. А. Беларускі тытан эпохі адраджэння: Да 500-годдзя з часу нараджэння Францыска Скарыны / В.А.Чамярыцкі; Праўленне тав-ва "Веды" Беларус. ССР. – Мінск, 1990. – 24 с.

16. Чатырохсотлецце беларускага друку = Quadringentennium typorum alboruthenicorum: 1525–1925: зборнік / Інстытут беларускай культуры; [адказны рэдактар Аркадзь Смоліч; вокладка, застаўка, канцоўка і загалоўныя літары па рысунках Марыі Лебедзевай і Міхала Эндэ]. – У Менску: коштам Інстытуту беларускай культуры, 1926. – [8], 353, [7] с.

17. Five centures of Scoriniana, XVI–XX = Пяць стагоддзяў Скарыніяны, XVI–XX / Compl. and ed.: Vitaut Tumash. – New York: Byelorussian Inst. of Arts and Sciences, 1989. – 283 p.

УДК 140.8:614.253

***Ю. П. Ющенко, В. В. Білецька***

# МОРАЛЬНО-ЕТИЧНІ ПОГЛЯДИ ФРАНЦИСКА СКОРИНИ ТА ЇХ ВПЛИВ НА ФОРМУВАННЯ СВІТОГЛЯДУ СХІДНОСЛОВ'ЯНСЬКИХ НАРОДІВ

У тезах розкриваються основні морально-етичні аспекти спадщини Ф. Скорини, простежується вплив поглядів мислителя на становлення світогляду східнослов'янських народів у другій половині XVI – першій половині XVII століття. Авторами висвітлюються міркування Ф. Скорини з приводу етичного ідеалу людини і критеріїв її високоморальної поведінки, а також розкривається значення діяльності філософа у історико-культурному процесі східнослов'янського регіону.

Серед представників європейського відродження другої половини XVI століття помітне місце займає постать білоруського гуманіста, першодрукаря і просвітника Франциска Скорини. Саме він став основоположником ренесансно-гуманістичного напряму у східнослов'янській філософській і суспільно-політичній думці. Культурно-просвітницька діяльність і творча спадщина Ф. Скорини

вивчається протягом ось уже двох століть, про що свідчить ціла низка наукових праць та досліджень як українських, так і зарубіжних вчених. Проте у значній частині досліджень лише побіжно згадується ім'я Ф. Скорини в загальнім контексті більш широких проблем. Багато актуальних для свого часу праць, присвячених життєвому та творчому шляху мислителя, на сьогодні потребують концептуального оновлення, а в багатьох сучасних фундаментальних дослідженнях все ще залишаються «білі плями». Дотепер недостатньо висвітленими залишаються питання діяльності Ф. Скорини, його соціальне середовище, подальший розвиток поглядів гуманіста у працях послідовників, ідейно-духовні витоки його біблійських видань, ставлення читачів різних соціальних груп до його творчого наробку, причини припинення друкарського діяльності та інші. Таким чином, потреба у глибокому системному аналізі творчої спадщини Ф. Скорини та її впливу на зародження і розвиток ренесансної культури у східнослов'янському регіоні постає доволі актуальною на сучасному етапі.

Зародження наукового скоринознавства більшість дослідників пов'язують з іменами І. Бакмейсцера, І. Штритера, П. Алєксєєва, які поряд із мовознавчо-описовими аспектами досліджень спадщини Ф. Скорини, апелювали і до редакційно-перекладацької його діяльності. У радянський період з'явилися наукові праці М. Алексютовича, О. Коршунова, С. Падокшина, Е. Дорошевича, В. Огриша, В. Конана, Я. Ісаєвича, М. Гринчика, та інших, у яких висвітлювалися життя і діяльність Ф. Скорини, його світогляд, окремі аспекти мовної і перекладацької діяльності мислителя, а також мистецькі особливості його творчої спадщини. Представники сучасної білоруської та російської (Г. Галенчанка, Ю. Лабінцев, У. Конан, Б. Сапунов), а також зарубіжної історіографії (Ф. Сокалава, А. Баршчеускі, Г. Піхура, А. Надсан) у своїх дослідженнях акцентують увагу на історико-філологічних та лінгвістичних особливостях видань білоруського гуманіста та їх ролі у громадсько-політичному і культурному житті східнослов'янських народів.

Мета дослідження полягає у розкритті морально-етичних поглядів Ф. Скорини та їх впливу на формування світогляду східнослов'янських народів.

Ім'я східнослов'янського філософа-гуманіста епохи Відродження Франциска Скорини на сьогодні відоме широкому колу людей у всьому світі. Як яскравий представник свого часу, Ф. Скорина завжди прагнув служити спільній справі духовного відродження людини, її внутрішньому самовдосконаленню. Він першим здійснив спробу

синтезу давньоруської філософсько-етичної традиції, для якої характерним є погляд на природу і суспільство через ідеал морально прекрасного із західноєвропейською філософською культурою і суспільною думкою [5, с. 9]. Звертаючись до проблеми людини у суспільстві вчений намагався знайти їй пояснення через призму етичного, що суттєво відрізнялося від традиційного християнського трактування.

Як відомо, доволі поширеним способом філософствування у Середні віки було коментування Біблії. Будучи глибоко віруючою і релігійною людиною, Ф. Скорина, визнавав догмати християнського віровчення: божественну Трійцю, людську природу Христа, безсмертя душі та інші. В той же час у відношенні мислителя до Священного писання, можна знайти глибокі протиріччя: щира довіра з одного боку і спроба нетрадиційного вільного трактування тих чи інших релігійно-філософських проблем – з іншого [5, с. 83]. У своїх передмовах до Священного писання письменник намагався виправдати та обґрунтувати ідеї про релігійну та моральну автономію людини, її гідність, яка, на його думку, визначається не скільки походженням чи соціальним положенням, скільки інтелектуально-моральними чеснотами [5, с. 10].

Ф. Скорина став першим східнослов’янським перекладачем Біблії на близьку до народної мову. Своєрідний новаторський переклад робив останню доступнішою більш широкому колу читачів та дозволяв її вільне тлумачення. Скориненська Біблія зіграла величезну роль у становленні і розвитку суспільної свідомості східнослов’янських народів, ліквідувавши посередництво офіційної церкви і теології у відношенні людини до «божественного одкровення» [2, с. 125].

Демократизуючи Священне писання, тобто роблячи його предметом вивчення «людей посполитих» (пануючою церквою це категорично заборонялося), Ф. Скорина утверджував принцип *особистого ставлення людини до віри*. Відтепер кожному відкривалася можливість для індивідуального релігійного філософствування, вільного від офіційних церковно-теологічних авторитетів і догматів [1, с. 30]. В цілому ж світогляд східнослов’янського філософа являв собою буржуазну по своїй тенденції спробу ревізії офіційного християнського вчення, і в першу чергу етики [5, с. 10].

Морально-філософська спрямованість діяльності Скорини обумовила ту обставину, що питання етики в його творах займали провідне місце. Однією із суттєвих особливостей філософсько-

коментаторської творчості мислителя було прагнення за допомогою Священного писання обгрунтувати деякі, головним чином етичні, ідеї епохи Відродження. Біблійно-християнську етику гуманіст намагався синтезувати з етичними ідеями античної філософії, адаптувавши обидві до актуальних соціально-політичних і національно-культурних завдань східнослов'янських народів, від імені яких він виступав. Етика філософа орієнтувала людину переважно на практичне, суспільно-корисне життя, служіння «пожитку посполитому», оволодівання знаннями та постійне інтелектуально-моральне самовдосконалення [5, с. 97].

У передмові до Притч Соломонових Скорина стверджував, що головне призначення людини полягає у вдосконаленні земного життя. Найвищим благом, на думку гуманіста, є служіння богу через служіння людям. Саму ж людину мислитель розглядав головним чином в трьох вимірах: як істоту розумну, моральну і суспільну. В основу своєї етичної концепції Ф. Скорина поклав думку, про необхідність постійного вдосконалення людської природи, адже від цього вдосконалення буде залежати вдосконалення суспільного життя. Основний постулат морального закону, виведений філософом із розуму, можна сформулювати наступним чином: *вчиняй з усіма так, як би ти хотів, щоб вчиняли із тобою, і не вчиняй з іншими так, як би не хотів, щоб вчиняли з тобою.* На цьому раціональному принципі, на думку письменника, тримаються всі «писані» моральні закони, в тому числі закон Старого і Нового заповітів [3, с. 34].

Етичним ідеалом для Скорини завжди була інтелектуально-моральна особистість. Інтелектуальні чесноти у мислителя завжди пов'язувалися із поняттям *«мудрість»,* а моральні із поняттям *«добрі звичаї»*. Останні, на думку філософа, досягаються не лише «шляхом розуму», а й «шляхом прикладу», тобто у результаті вивчення Біблії, наслідування її позитивним героям та етичним заповідям [5, с. 104]. Скориненське трактування мудрості нагадує вчення стоїків про те, що перед кожною людиною відкрита можливість досягнення інтелектуально-моральної досконалості за рахунок залучення до оволодіння знаннями. Мудрість, наука і розум, вважає мислитель, – передумови «добрих звичаїв» та людського щастя. Свою ж місію на цьому шляху Скорина вбачав у наданні людям необхідних знань про доброчесне особисте та суспільне життя.

*Людинолюбство* і *справедливість* – два головних критерії моральної поведінки людини, на базі яких Ф. Скорина сформулював свій морально-категоричний імператив. Філософ вважав, що на основі справедливості і людинолюбства повинні будуватися не лише взаємо-

Жытк.; *Як прынясуць ад краста, то спраўлялі хрысціны.* Мазыр; *Саўсім нядаўна ў нас былі крэсціны.* Макаўе Гом**.** Спецыяльнае найменне меў і другі дзень хрэсьбін: ***пахмелкі, пахмелле:*** *На другі дзень тожа гулялі хрэсьбіны. Называўся гэты дзень "пахмелкі".* Азяраны Рагач. *Адным з этапаў правядзення абраду хрышчэння з'яўлялася перапіванне кумоў: Перадача чарак з грашыма хросным бацькам называецца "перапіваць кумоў". Юравічы Калінк.*

2. Назвы асоб, якія ўдзельнічаюць у абрадзе. Пры крашчэнні галоўнымі ўдзельнікамі былі ***кросныя бацькі, кросныя радзіцелі, хросныя.*** *У народзе іх называлі* ***кум і кума.*** Баршчоўка Добр. Зафіксавана і зборная назва **кумаўё**: *Прыходзім, гуляем, дзіцёначка* ***кумаўё*** *ложа пад печ, каб быў крэпкі, як печ.* Мірны Гом.

На тэрыторыі Гомельшчыны для наймення кросных бацькоў зафіксаваны наступныя назвы: ***хросная маці, матка хрышчоная****: Для гэтага бяруцца* ***хросныя маці і бацька.*** Белін Петр.; *Куму называлі* ***матка хрышчоная****.* Мазыр; ***хросны бацька, хросны тата***: ***Хросны бацька*** *бярэ дзіця і дзержыць яго пры малітвах.* Белін Петр.; *Хросныя крысцілі дзіця. Таго, хто не знаў отча наш, таго ён і не ўзяўся хрысціць.* Крупец Добр.

Нованароджаны пры крышчэнні называўся ***хрэшчэнік, хрэснік:*** *Куму называлі матка хрышчоная, а дзіцятка –* ***хрышчэніца, хрышчэнік.*** Мазыр; *Два раза ў год хросная і бабка наведваюць* ***хрэснікаў****.* Крыўск Буда-Каш. Першае дзіця ў сям'і называлі ***первенец:*** *Первенец – дзіця, якое першым нарадзілася ў сям'і.* Крупец Добр.

Пачэснае месца адводзілася ***павітусе, бабе, бабе-прыродухе, бабушцы***: *Павітуха займала пачэснае месца.* Крупец Добр. ***Баба,*** *што купала ў первы раз, кашу варыла.* ***Баба-прыродуха*** *– старая баба, баба-павітуха. Яна прыходзіла ў ответкі 3 разы, прыносіла падаркі.* Удалёўка Лоеўск.; ***Бабушка*** *варыла кашу, пірага пекла з макам ці з ігрушамі.* Жлобін.

На абрадзе хрышчэнне выбіраўся ***касір, лічыльнік:*** *Але перад этым нада было выбраць касіра, які будзе збіраць выкуп за кашу.* Петрыкаў Петр.; *Выбіралі сярод прысутных самага жартаўлівага чалавека, які быў* ***лічыльнікам*** *(лічыў, якую суму пакладзе на горшчык з кашай кум, баба).* Дзякавічы Жытк.

Зафіксаваны і найменні жанчыны, якая нарадзіла па-за шлюбам: ***крапіўніца****: Чаму так? Таму што дзіця сваё ў крапіве яна найшла, так у нас гаворать.* Крупец Добр.; ***гуляшчая:*** *Хякая без шлюбу нарадзіла, то гуляшчай называлі.* Отар Чачэрскі.

3. Назвы рытуальных прадметаў або сімвалаў, якія выкарыстоўваліся падчас абраду: ***ручнік****: Бабіна каша ўгортваецца ў* ***ручнік****.*

Навасёлкі Петр.; ***гаршчок****: Патом ужэ кум разбіваў той* ***гаршчок****.* Новыя Галоўчыцы Петр.; ***крыж, крэшчык: Крыж*** *свеціцца і адзяецца на дзіця; У цэркві кум должэн быў купіць* ***крэшчыка*** *сваяму хрышчэнцу.* Петрыкаў. Падчас правядзення абраду хрышчэння рытуальнымі лічыліся самыя разнастайныя прадметы і нават жывыя істоты: ***кот, певень****: Потым падаюць кашу. Ловяць* ***ката ці пеўня*** *і саджаюць у чыгун, накрываюць ручніком і пытаюцца ў бабы, ці яе гэта каша?* Чамярысы Браг.

Пасля таго, як хрышчэнне дзіцяці закончылася, бабу дадому вазілі на ***баране, тачцы, санках, карыце, начоўках, калясцы, балеі, калёсах, карчы:*** *Садзілі кума і куму на* ***барану*** *і ездзілі да крамы.* Навасёлкі Петр.; *А калі жартаўнікі, маглі і ў* ***карыце*** *зацегці.* Ст. Дуброва Акцябр.; *Быў звычай вазіць бабку, яе саджалі ў* ***начоўкі*** *і вазілі, каб гарэлкі дала.* Неглюбка Ветк.; *Бабушку нада была вазіць. Калісь вазілі на* ***санях****, еслі зімой, летам –* ***на калёсах.***

Прынцыповае значэнне мелі і прадметы, якія трэба было браць ў царкву для правядзення абраду хрышчэння: ***хлеб, соль, свечка:*** *Бралі з сабой грамнічную свечку, кусок хлеба, шчапотку солі, іншыя клалі грошы, сыр і яшчэ што-небудзь, каб чалавек стаў шчаслівым і багатым.* Кірава Добр.; ***мятнік, увівч:*** *Кума брала у цэркву мятнік (кусок тканіны) і хлеб.* Мілашавічы Лельч.; *Ім даюць увівч* (кавалак тканіны), *каб выціраць рукі.* Мормаль Жлоб.

4. Навы абрадавай ежы. Найбольш пільная ўвага надавалася ***кашы, бабінай кашы:*** *На хрэсьбінах была бабка-павітуха, якая прыгатавала* ***кашу****.* Багрымавічы Петр.; ***Бабіна каша*** *ўгортваецца ў ручнік.* Навасёлкі Петр.

Да прыгатавання бабінай кашы прад’яўляліся пэўныя патрабаванні, яе ўпрыгожвалі: Баба варыла кашу з прасяных круп, дабаўляла ў кашу **масла, мёд, малако.** Гаць Акцябр.; *Верх кашы баба ўпрыгожвае* ***кветкамі, кладзе грошы*** *і абавязкова ўтыркае* ***карандаш****, прыгаворваючы: “Вучыся добра, жыві багата і каб квітнеючае была ў цябе жыццё”.* Чамярысы Браг.

У некаторых раёнах Гомельшчыны першы раз падавалі ***падстаўную кашу****: Першы раз бабе падавалі не яе кашу, а падстаўную.* Гаць Акцябр. Далейшы пачастунак быў самым разнастайным: ***боршч:*** *Хазяйка* ***строіла гарэлку, кашу варыла і боршч варыла****. Кашу з пшана.* Новыя Галоўчыцы Петр.; ***блінчыкі, кісель****: Абавязкова павінны быць на стале блінчыкі з смятанай і макам, кісель.* Гаць Акцябр.; ***аладкі, булачкі****: Маладая маці выпякці далжна што-небудзь на стол: аладкі, булачкі*. Пружынішчы Акцябр.

Абрады, звязаныя з сямейным жыццём чалавека, з’яўляюцца праяўленнем традыцыйнай культуры беларусаў, таму ў генетычных адносінах амаль уся лексіка належыць да агульнаславянскага лексічнага фонду. Гэта такія лексемы, як *бабка, дзед, кум, радня, хрысціць, каша, гаршчок, мятнік, ручнік, кажух, маці, бацька, парадзіха* і інш. [2].

Большасць зафіксаваных лексем з’яўляюцца матываванымі найменнямі. Пад матываванасцю слова звычайна разумеюць “абумоўленасць яго значэння значэннем іншага слова, ад якога яно ўтворана” [3, с. 121], усведамленне сувязі значэння і гукавой абалонкі, якая выражае гэта значэнне [4, с. 153].

У адпаведнасці з такім азначэннем выдзяляюцца розныя тыпы матывацыі: *лексічная* (адносіны матываванага слова з аднакаранёвым словам) і *структурная* (адносіны слова з аднаструктурнымі найменнямі). Пад структурна-семантычным тыпам матывацыі мы разумеем адзінства лексічнай і структурнай матывацыі слова, якое праяўляецца ў яго сувязі з гучаннем і значэннем утваральнай асновы і суадносінах з аднаструктурнымі моўнымі адзінкамі.

Як паказвае аналіз, самым пашыраным тыпам структурна-семантычнай матывацыі разглядаемых назваў з’яўляецца намінацыя паводле працэсуальнай прыкметы: *пахмелкі, хрышчэнік, мятнік, хрэсьбіны, красціны, радзіны, адведкі, вотведы, сматрыны, рубаха.* У такой дэрывацыі ўдзельнічаюць суфіксы -к-, -ух-, -іц-, -ах-, -ын. Радзей утвараюцца найменні ад назоўнікаў: *кажух, бабушка, ручнік.* Зафіксаваны на тэрыторыі Гомельскага рэгіёна і складаныя назвы. Сустракаюцца наступныя мадэлі састаўных назваў: прыметнік + назоўнік: *свяцовы мак, падстаўная каша, хросны бацька, хросная маці*; дзеяслоў + назоўнік або назоўнік з прыназоўнікам: *вадзіць “хвост”; збіраць на шапачку; класць на кашу;* назоўнік + назоўнік: *перапіванне кумоў*; дзеяслоў + назоўнік + назоўнік з прыназоўнікам: выціраць рукі аб плацце: *Пасля бабцы дарылі падарак, ткань на плацце. Гэта называлася выціраць рукі аб плацце.* Кіцін Жлоб.

Даволі значную групу ў гаворках Гомельшчыны складаюць экспрэсіўныя абрадавыя назвы. Асаблівасцю эмацыянальна-экспрэсіўнай лексікі з’яўляецца тое, што эмацыянальная афарбоўка накладаецца на лексічнае значэнне слова, але не зводзіцца да яго: дэнататыўнае значэнне слова ўскладняецца канататыўным. Такія лексемы, акрамя намінатыўнай, маюць яшчэ і экспрэсіўную функцыю, якая робіць іх адметнымі, выразнымі ў лексічнай сістэме народна-дыялектнай мовы, і дазваляюць перадаць такія эмацыянальна-ацэначныя адносіны суб’екта да прадмета, як ласкальнасць, іронія, кпіны.

У лексіцы хрэсьбіннага абраду зафіксавана шмат слоў з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі, якія перадаюць розныя адценні пачуццяў. Такія адценні значэння могуць выражацца ўнутраным зместам моўных адзінак, з'яўляюцца эксплiцытнымі – выражацца праз знешнія, фармальныя паказчыкі (суфіксы суб'ектыўнай ацэнкі).

Выключным багаццем экспрэсіўных адценняў вылучаецца лексіка са значэннем асобы. Шырока прадстаўлена яна ў хрэсьбінных песнях: *Бабулька ж мая міленькая.* Добруш; *А дзесятую дачушку. Яе браты калыхалі.* Добруш; *Люлі, люлі, сястрыца.* Добруш; *Не шкадуйце, мае кумочкі.* Добруш; *А на дачушку – няхай выбачае.* Тураў Жытк.

Памяншальна-ласкальныя суфіксы назоўнікаў, што сустракаюцца ў радзінных песнях, у сваёй большасці не звязаны з памяншэннем прадмета (хацінка не маленькая хата), а з выражэннем адносін павелічальнасці або ласкальнасці. Так, суфіксы -еньк-, -аньк-, -іньк- выяўляюць станоўчыя адносіны да аб'екта, маюць значэнне яркай эмацыянальнасці і размоўнай экспрэсіўнасці: *Бяжыць (імя) к сваёй **ба-бусеньке**. Бяжыць яна **скоранька**, Просіць яна **шчыранька**: – Дай жа, Божа, маёй унучцы **Лягенько**, **дабрэсенько**, **скарэсенько**!* Буркі Браг.

Такія ж адносіны выражаюцца з дапамогай суфіксаў **-ак-**: *Абы вырас унучак.* Добруш; **-к-**: *Аж да ўторнічка гуляць.* Добруш; *У нас радзінкі былі.* Добруш; **-ак-, -ок-, -ёк-**: *А Машын палюбоўнічак.* Покаць Чач.; **-ц-**: *З харошага дзераўца, З асату.* **Юравічы Калінк.; -ачк-, -очк-, -ечк-, -ейк-**: *Кума мая, **кумачка.*** Краснае Браг. *Баханачку хлеба,* Лубянікі Браг.; *Чаму мяне ў **госцейкі** Не завеш?* Юравічы Калінк.; **-чык**: *Не шкадуйце, мае кумочкі, Па рубельчыку даць.* Добруш; **-ятк-**: *Дадому з дзіцяткам.* Лубянікі Браг.; **-іц-**: *Раса пала на травіцу.* Добруш; "Сястрыца, расці скора. Добруш.

У складзе суфіксальных утварэнняў можна вылучыць словы максімальнай ступені экспрэсіўнасці – такія дымінутывы, якія ўтвараюцца ад дымінутываў: бабулечка ад бабуля: *Дам табе, **бабулечка**, Тры пуды маку* Добруш; бабусенька ад бабуся: *Бяжыць к сваёй **бабусеньке***. Буркі Браг.; дзіцёначак ад дзіцёнак: *Вот родзіцца **дзіцёначак***. Дуброўная Браг.; кумочкі ад кумок: *А сягоння, мае **кумочкі**, Мы на хрэсьбіны прыйшлі.* Добруш. У такіх назоўніках праяўляецца ўзмоцненая ступень ласкальнасці, мяккасці, добрых адносін.

Сустракаюцца ў традыцыйных фальклорных хрэсьбінных песнях і клічныя формы назоўнікаў: *Ці ты, **куме**, розуму Пытаеш?* Юравічы Калінк.; *Ой, ты, **кумачку-пане**, Ой, такі ў цібе стане.* Касакоўка Жлоб.; уласна дыялектныя канчаткі дзеясловаў: *Наша бабка ды па*

*двару ходзя*. Касакоўка Жлоб.; *Бабка кашку нясе**ць**, А кум казной трасе**ць***. Касакоўка Жлоб.; *Буд**умо** піці До понедзелка.* Рычоў Жытк.

У песнях, звязаных з хрэсьбіннай абраднасцю, часта фіксуюцца кароткія формы прыметнікаў, якія, як вядома, сустракаюцца найчасцей у фальклорных творах: *У адным кубку **зеляно** віно.* Добруш; *У трэцім кубку **горка** гарэлка.* Добруш; ***Саладок** мядок для кумы з кумам.* Добруш; *У бабкі кашка **смачна**, А ў кума казна **ясна***. Касакоўка Жлобін.

Прадстаўлены ў хрэсьбінных песнях і вобразныя сродкі, якія таксама прызначаны падкрэсліць важнасць хрэсьбіннага абраду. Сярод тропаў найчасцей сустракаюцца параўнанні: *Каша павінна вырасці і быць **жоўтай, як сонца,** рассыпчатай.* Покаць Чач.; *Калі адкрываюць ручнік, адтуль, **як шалёны,** вылятае кот.* Палессе Чач.; эпітэты: *Цячэ **рэчанька**, цячэ **быстрая.*** Іванаўка Чач., *Із-пад **камушка серабрыстага*** Іванаўка Чач.

Іншамоўная лексіка ў межах разглядаемага семантычнага поля складае даволі кампактную мікрагрупу і адносіцца пераважна да так званых “культурных” запазычанняў. Многія з іх былі засвоены беларускай мовай яшчэ ў старажытнасці, з’яўляюцца даўнімі запазычаннямі: з польскай: кофта < пол. kofta; [3, т. 2, с. 355]; нямецкай: хвартух < пол. fartuch < ням. Vortuch; [3, т. 2, с. 300]; лацінскай праз пасрэдніцтва польскай мовы: касір < пол. casa < лац. capsa ‘футарал’; [3, т. 2, с. 300]; арабскіх моў: хуста < пол. chusta < іт. fustagno < ст.лац. fustanūm < араб. Fastât, стар. назва Каіра.

Абрадавая лексіка, якая да сённяшняга часу шырока функцыянуе на тэрыторыі Гомельскага рэгіёна, вызначаецца багатай і складанай сістэмай лексічных сродкаў, варыянтнасцю і разнастайнасцю сродкаў з іх семантычнымі і граматычнымі асаблівасцямі, з’яўляецца неад’емнай часткай духоўнай культуры беларусаў, у якой захаваны старажытныя моўныя з’явы.

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Зеленин, Д.К. Восточнославянская этнография / Д.К. Зеленин. – М.: Наука, 1991. –511 с.

2. Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка в 4-х т.: пер. с нем. и доп. О.Н. Трубачёва / под ред. и с предисл. Б.А. Ларина / М. Фасмер – М., 1986–1987.

3. Моисеев, А.И. Мотивированность слов // Исследования по грамматике русского языка. Учёные записки ЛГУ, 1963. Вып. 68, № 322.

4. Супрун, А. Е. Лекции по лингвистике / А. Е. Супрун. – Мн., 1980.

УДК 392.51(476.2-37Светлагорск)

***А. Д. Дакукін***

# МЯСЦОВЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ВЯСЕЛЬНАЙ АБРАДНАСЦІ СВЕТЛАГОРШЧЫНЫ

У артыкуле на багатым фактычным матэрыяле аналізуецца вясельная абраднасць аднаго з раёнаў Гомельскай вобласці – Светлагорскага раёна. Увага засяроджваецца на асобных структурных кампанентах мясцовага вяселля, якія выяўляюць агульнаэтнічную аснову, маюць адметныя рытуалы і цесна звязаны з народнымі вераваннямі.

Традыцыйная народная культура – з’ява вельмі шматгранная, якая ўключае мноства абрадавых дзеянняў, прыкметы і павер’і. Некаторыя з іх з цягам часу забываюцца, а іншыя працягваюць існаваць далей, удакладняюцца, набываюць новы сэнс. Характэрным ў гэтым плане нам падаецца вясельны абрад, бо ён звязаны са шлюбам – вызначальнай падзеяй жыцця, якая і сёння не страціла сваёй важнасці. Заўважыць гэта можна на багатым фальклорным матэрыяле, запісаным у вёсках Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці.

Вяселле на Светлагоршчыне, як і ў іншых рэгіёнах Беларусі, мае тры часткі: перадвясельную, уласна вясельную і паслявясельную. Часткі дыферэнцуюцца на больш дробныя этапы, кожнаму з якіх адводзіцца пэўная функцыя і адметныя рытуалы. Сутнасць гэтых этапаў разгледзім ніжэй і падмацуем фактычным матэрыялам.

Сватанне – першы этап давясельнай часткі, які з’яўляецца надзвычай важным. У сваты хадзілі, звычайна, мужчыны з боку маладога, прычым часта рабілася гэта ўвечары, патаемна: “*Вяселле пачыналі са сватаўства, тады ў дом да дзяўчыны прыязжалі сваты. Тут дагаварваліся пра дзень, калі будуць гуляць вяселле. Спявалі песні, у якіх гаварылася пра тое, аб чым думала маладая. Такжа дарылі пярсцёнак. Шчэ да вяселля гатовілі падарункі*”( запісана ў в. Асінаўка ад Садаводавай Розы Іванаўны, 1929 г.н.)  [2, с. 199]*.

Выбар часу сватання (а потым і вяселля) быў абумоўлены, па-першае, абрадавымі дзеямі і засцярогамі ад чутак, сурокаў (сваты ішлі вечарам, зацемна, каб ніхто не бачыў), а, па-другое, практычнымі мэтамі (надвячоркам усе вяртаюцца з працы і могуць сустракаць сватоў; вяселле спраўлялі восенню ці ўзімку, калі ўжо сабраны ўраджай, не пачаліся яшчэ пасты): “*Пачыналі гуляці толькі пасля Вадохрышча. Свадзьба была толькі зімой. Тыя, хто хацеў ўлетку*

*гуляці, быстра расходзіліся. Сваты прыязджаюць пасля захаду сонца, штоб людзі не відзелі і не дагадаліся, еслі нявеста не захоча замуж*” (запісана ў в. Высокі Полк ад Чудноўскай Марыі Іванаўны, 1922 г.н.) [2, с. 200]; “*Нельзя рабіць свадзьбы ў час паста, бо будуць няшчаслівыя маладыя. Раньшы рабілі свадзьбы восенню, пасля таго, як скончацца ўсе палявыя работы*” (запісана ў в. Печышчы ад Дайнека Дар’і Фядосаўны, 1927 г.н., Дайнека Анастасіі Фядосаўны, 1922 г.н.) [2, с. 203].

Выбар пары залежаў у мінулыя часы ў большай ступені ад меркавання родных, чым ад жадання маладых. Бацькі з абодвух бакоў знаёміліся і (пры ўмове згоды) дамаўляліся аб часе, калі прыйдуць сваты. Іншы раз хлопец і дзяўчына нават ніколі не бачылі адзін аднаго: “*Вось, калі дагаварыліся, дык і засылалі сватоў. Бывала так, што маладыя дайжа і не ведалі адзін аднаго да сватання, а адмовіць было нельга, бо была такая воля бацькоў. Але бывала і такое, што сваты прыхадзілі проціў волі бацькоў. І калі не жадалі прымаць бацькі іх, то выганялі па-разнаму: хто мятлой, хто венікам. Але большасць случаяў было па волі бацькоў*”( запісана ў в. Хутар ад Філіпчык Валянціны Якімаўны, 1950 г.н.,) [2, с. 204]. Але з цягам часу пачынае пераважаць самастойны выбар дзяцей: “*На сватанне хросныя даўжны прыйці! Жаніх, бацька родны (еслі е ў цябе бацька) і хросны. Ну і дамаўляюцца ці пойдзе дзяўчына. А дзяўчына ўперад яшчэ з ім дамовіцца. Яна скажа, і яе радзіцелі знаюць, што прыдуць сваты, і яны ўже гатовяцца*”(запісана ў в. Хутар ад Мігай Анастасіі Сяргееўны, 1930 г. н)*. Былі, аднак, выпадкі нечаканага сватання. Зразумець тут рашэнне дзяўчыны можна было па наступных прыкметах: “*Спачатку сваталі нявесту. Матка нявесты падгатаўлівала гарбуз. Калі нявеста не згодна ісці замуж, то гарбуз аддавалі сватам, гэта і быў адказ. А калі дзяўчына была згодна, то гарбуз разбівалі і выкідвалі далёка за хатай*” (запісана ў в. Печышчы ад Дайнека Дар’і Фядосаўны, 1927 г.н., Дайнека Анастасіі Фядосаўны, 1922 г.н.) [2, с. 203]. Найбольш папулярным спосабам адмовы быў гарбуз, які маглі прама перадаваць у рукі, падкідваць у воз і інш.

Сватанне не азначала яшчэ канчатковага і непазбежнага вяселля, бо трэба было яшчэ дамовіцца з больш шырокім колам родных, што рабілася далей на запоінах і заручынах. Калі рашэнне, прынятае на папярэднім этапе, адмянялася, то бакі павінны былі вярнуць выдаткі (хлеб, выпітую гарэлку, падарункі).

Этап запоінаў выражаны ў розных раёнах Светлагоршчыны неаднолькава. Часта ён адбываўся адразу пасля сватання, іншы раз

гэтыя этапы не размяжоўваліся: “*Запоіны, заручыны, сватанне – гэта ў нас у Хутары ўсё адно і тое ж. Раней як хадзілі ў сваты... Не хлопец з дзеўкаю дагаварываліся, а бацькі выбіралі маладых. Колісь такое было: глядзелі, падбіралі, каб з роду знатнага былі, бралі ж не абы-каго, калі хто бяднейшы, дык ён і выбіраць доўжэн быў бяднейшую, бо бацька не аддасць беднаму багатую*”(запісана ў в. Хутар ад Філіпчык Валянціны Якімаўны, 1950 г.н.) [2, с. 204].

Заручыны (змовіны) – наступны этап давясельнага перыяду, на які запрашалі ўсіх сваякоў, знаёмілі са шлюбнай парай і меркавалі, як спраўляць вяселле, што рыхтаваць і ў якім аб’ёме: “*Там ужо дагаворваюцца па які дзень, дак ужо багата ізде людзей, там можа сабраць, дапусцім, сваіх сясцер, дочак сваіх. Выдавалі падаркі. Матэрыял метраў дзесяць. Каму платочак, хустачку, каму што. Маладой даюць падаркі на замовіны. І маладая дае*” (запісана ў в. Стракавічы ад Дзімідовіч Ніны Іванаўны, 1930 г. н. (раней пражывала ў в. Славань Светлагорскага р-на Гомельскай вобл.)) [1, с. 410]. Іншы раз інфарманты пад змовінамі разумеюць сватанне, не адрозніваюць іх ад запоінаў: “*Калі прыхозяць сваты, эта называлася змовіны*” (запісана ў в. Прудок ад Лаўрановіч Ніны Сцяпанаўны, 1941 г. н)*. На заручынах прымалася канчатковае рашэнне аб жаніцьбе, яго ўжо нельга было адмяніць (бо вярнуць такія вялізныя выдаткі сялянскай сям’і было складана).

Вяселле святкавалася на працягу некалькіх дзён. Пачыналі, звычайна, у нядзелю, а ў суботу збіраліся нявеста са сваімі сяброўкамі і рабілі вэлюм, таму гэты дзень называлі “зборная субота”: “*Раней свадзьбы гулялі ў васкрасенне, панядзелак і аўторак. Субота была зборная. У суботу ўжо гатовяць і маладой фату, і нарады, плацці, прыданае – палатно, юпкі натканыя, посцілкі, рушнікі. Таксама пеклі каравай*” (запісана ў в. Хутар ад Філіпчык Валянціны Якімаўны, 1950 г.н.,) [2, с. 204]*. Трэба адзначыць, што намі не знойдзена прыкладаў бытавання на Светлагоршчыне абраду ўпрыгожвання ёлкі і далейшага яе выкупу жаніхом, што з’яўляюцца абавязковымі ў перадвясельную суботу ў іншых мясцовасцях Гомельшчыны. Адзіны падобны выпадак зафіксаваны ў в. Чыркавічы: “*Разам з сабою абавязкова бралі ёлку. Ету ёлку высякалі ў лесе, і ў маладога дзеўкі маладыя з бумагі дзелалі разныя цвяточкі, лентачкі і імі абвівалі ўсю ёлку, гэта, як кажуць, – вілі ёлку. Вот бралі ету ёлку і ехалі да маладой. Малады і глаўны дружок, які дзяржаў ету ёлку, ехалі ўперадзе. Калі яны пад’язджалі, то людзі, якія ўстрачалі маладога, стараліся атарваць ветачку з етай ёлкі. Гэта азначала, што ветачка можа*

*прынесці шчасце, багацце*" (запісана ў в. Чыркавічы ад Усціменкі Марыі Якаўлеўны, 1929 г.н.) [2, с. 204]. Але з расповеду вынікае, што ёлку рабілі ў хаце маладога, прычым для ўпрыгожвання вясельнага поезда пры ад'езде жаніха па маладую ў першы дзень вяселля, без выкупу ў суботу. Па прыведзеных звестках можна меркаваць, што такі звычай не зусім характэрны для вяселля Светлагорскага раёна.

Важным момантам у сістэме вясельнай абраднасці Светлагоршчыны з'яўляўся абрад выпечкі каравая, з якім былі звязаны шматлікія прыкметы і павер'і. Караваі былі асобныя ў жаніха і ў нявесты. Для выпякання іх запрашалі жанчын-каравайніц, якія павінны былі быць немаладымі, шчаслівымі ў сямейным жыцці і мелі ўжо вопыт працы з вясельным печывам. Каравай быў важным і з міфалагічнага пункту погляду, бо з яго падрыхтоўкай быў звязаны будучы лёс маладых, а таксама і прыкладны час вяселля для іншых незамужніх дзяўчат і інш. Упэўніцца ў гэтым дапамогуць змешчаныя далей запісы: "*У дзень зборнай сыботы ў доме жаніха і нявесты сабіраюцца сваячкі і суседкі пячы каравай. У эты час нявесце і жаніху нявьзя захадзіць у дом. У каравайніцы выбіралася 5 замужніх жанок, з якіх адна маладуха, якая нядаўна гуляла вяселле. Мужыкам тожа няльзя прыходзіць у дом. Можна толькі брату.*

*Заканчуецца сыбота застоллем каравайніцаў. Яны п'юць і пяюць: "Багат, Надзечка, бацька твой. // Густая пшаніца на навіне, / Высокія стагі на гумне, / Вышэй каравай на стале. // Удача, удача! // Наш каравай удаўся, / Ды шырокім лісцем услаўся, / У чырвоныя кветкі ўбраўся". Потым выкупаюць каравай. У нас гэнта быў брат нявесты і лучша кроўны*" (запісана ў в. Высокі Полк ад Чудноўскай Марыі Іванаўны, 1922 г.н.) [2, с. 201].

Каравай – гэта абавязковая абрадавая страва, якая з'ўляецца адметнай часткай шлюбных урачыстасцей менавіта на поўдні Беларусі. Этап яго выпякання можна лічыць пачаткам уласна вясельнай часткі.

Першы дзень, як правіла, святкавалі ў хаце маладой. Раніцай жаніх разам са сваёй дружынай прыязджаў туды і павінен быў "адкупіцца": сяброўкі нявесты засланялі ўваход у двор, паказвалі маладому іншых "нявест", а той даваў ім цукеркі, грошы, каб прайсці ў хату: "*У нядзелю пачыналася свадзьба. Гулялі свадзьбу госці маладой у яе хаце, а госці маладога – у хаце маладога. Але пасля, бліжэй да вечара, свадзьбу гулялі толькі ў маладой разам з гасцямі маладога… Госці маладога прыходзілі ў яго хату і таксама пілі, гулялі. А малады збіраўся ўжо да маладой… Малады з дружкамі імкнуліся хутчэй прайсці гэты натоўп людзей, каб начаць сватаўство.*

*Але маладую хавалі, закрывалі, трэбавалі выкуп, маладому падстаўлялі другую маладу. Маладыя з дружкамі трэбуюць, каб аддалі маладую, а дружкі маладой ахраняюць яе, трэбуюць выкуп: канфеты, гарэлку, грошы. Як ужо выкупілі маладую, малады бярэ яе за руку, выходзяць яны ўжо з хаты*" (запісана ў в. Чыркавічы ад Усціменкі Марыі Якаўлеўны, 1929 г.н) [2, с. 204–205].

Далей пачыналася застолле ў хаце маладой. Галоўным дзеяннем тут быў пасад (абодвух маладых ці аднае нявесты) – усаджванне на дзяжу ці лаву, пакрытую кажухом поўсцю наверх, што сімвалізавала шчасце і багацце маладой сям'і. Гэтых жа мэт імкнуліся дасягнуць пры абсыпанні жытам: "*Вось яны падыходзяць да хаты маладой, і там іх сустракаюць бацькі нявесты. Абычна сустракалі не родныя бацькі нявесты, а хросныя бацькі. Адчыняліся вароты, ставіўся стол, накрыты самадзельнымі скацеркамі, на стол ставіліся абавязкова мёд, чарка, гарэлка і хлеб-соль. Маладым давалі папробаваць тры разы мёду, каб жылося сладка, хлеб давалі адкусіць, каб былі пышныя, багатыя, налівалі па чарачкі гарэлкі. Гарэлку не трэба было выпіваць, а трэба было толькі прыгубіць і разбрызгаць. Лічылася, што сколькі капеляк, дык столькі шчасця, багацця, кахання. Тады ці брат, ці сястра маладой бралі яе за руку і вялі не проціў сонца, а па сонцу да лавы, на якой быў засцелены авеччы кажух або там стаяла дзяжа. І ўжо маладую садзілі ці на лаву, ці на кажух. Лічылася, што маладая будзе багатай, здаровай, вялікай. Потым усе ішлі за стол. Маладыя павінны былі сядзець на кажуху. Дружкі маладога сядзелі па руку жаніха, а дружкі маладой – па руку нявесты. А як маладыя заходзілі ў хату, то маладой давалі платочак з жытам, і яна начынала крастом абсыпаць хату. Сыпле за печ, каб жызнь была такая доўгая, сколькі зёрнышак упала, а следам маладога і маладую пасыпалі таксама жытам*" (запісана ў в. Чыркавічы ад Усціменкі Марыі Якаўлеўны, 1929 г.н.) [2, с. 205]. Тут мы бачым цесную сувязь паміж дзеяннямі і міфалагічнымі ўяўленнямі, якія маюць прадуцыравальнае значэнне (уплыў на забеспячэнне здароўя, дабрабыту сям'і). Цікава, што на кажух магла садзіцца толькі цнатлівая дзяўчына: "*Сказалі, што кажух еты абазначаў, што ета дзевушка ідзе замуж. Гаворaць, еслі ішла разводная ілі з дзіцёнкам, то на кажух не садзілі*" (запісана ў в. Баравікі ад Сцепанцовай Марыі Сяргееўны, 1949 г.н.)*. На пасад маглі садзіць як у хаце нявесты, так і ў хаце жаніха.

Нарэшце адбывалася цэнтральная падзея свята – дзяльба каравая. Яго ўрачыста выносілі, а сват (хросны бацька жаніха) прасіў дазволу на разразанне печыва. Атрымаўшы яго, пачынаў дзяліць.

Адметна, што першы кавалак маглі даваць маладым, хросным альбо бацькам: "*У гэты дзень дзялілі каравай толькі маладой, а каравай маладога – назаўтра. Каравай няслі тыя, хто яго рабіў і прыгаворвалі: "А ў нашым караваі із сямі палёў пшаніца, / Із васьмі рэчак вадзіца, / Із дзевяці кароў масла / І яец палтараста!" Падносілі яго к сталу, а бацька хросны маладой павінен быў выкупіць еты каравай, каб яго раздзяліць. Калі ўжо каравайшчыкі згаджаюцца з цаною, тады бацька аддае ім ці грошы, ці што другое. Прадаўшы каравай, каравайшчыкі ўходзяць, а ў дзвярах стаяць родныя бацькі. І тады хросныя матка і бацька тры разы просяць дазволу каравай падаць маладым...*" (запісана ў в. Хутар ад Філіпчык Валянціны Якімаўны, 1950 г.н.) [2, с. 206].

Пасля дзяльбы каравая маладыя збіраюцца ехаць у хату жаніха. Разам з імі вязуць і вялізны куфар, дзе змяшчаецца пасаг (адзенне, посцілкі, палатно і пад.). Пасля прыезду гэтыя рэчы вывешваюць і выкладваюць навідавоку, каб усе маглі бачыць, якая нявеста-майстрыха: "*А тады маладую забяруць, і паедуць ужэ к жаніху. А назаўтра ўжэ, у панядзелак, гулялі ўжэ і ў маладой, і ў маладога. Вот так во свадзьба была. Два дня гулялі*" (запісана ў в. Рудня ад Шумавай Марыі Арсеньеўны, 1934 г.н., Шумава Уладзіміра Уладзіслававіча, 1964 г.н., Караткевіч Галіны Кірылаўны, 1941 г.н., (раней пражывала ў в. Шчытная Жлобінскага раёна))*.

У хаце маладога свякроў здымала вэлюм і вянок з нявесты і апранала хустку. Гэта сімвалізавала яе выхад замуж і развітанне з дзявочым жыццём: "*Пасля таго, як маладыя прыехалі да маладога, к нявесце падыходзіла свякруха, здымала з маладой вянок і павязвала ёй хустачку. Такім чынам маладую пераводзілі ў маладзіцу, а вянок абавязкова закідвалі на кут*" (запісана ў в. Хутар ад Філіпчык Валянціны Якімаўны, 1950 г.н.) [2, с. 206]; "*Потым да нявесты падыходзіла свякруха і знімала абрад свадзьбы і завязвала платок пад бараду.*

*Нашу Алачку пасадзілі пад паліцай,*
*Ды і назвалі маладзіцай*"

(запісана ў в. Чыркавічы ад Усціменкі Марыі Якаўлеўны, 1929 г.н.,) [2, с. 205]. У хаце свекрыві нявесту маглі таксама садзіць на пасад.

Начаваць маладыя аставаліся ў хаце жаніха: "*Потым маладым адводзілася комнатка, дзе дружкі гатовілі маладым пасцель. Пасля гулянкі малады прыводзіў маладую ў гэту комнатку, садзіўся на кравац, а маладая павінна была разуць мужыка і дастаць з сапага кнут, якім муж яе павінен тры разы ўдарыць слягка для таго, што жана даўжна пакарыцца мужу*" (запісана ў в. Хутар ад Філіпчык Валянціны Якімаўны, 1950 г.н.) [2, с. 205–206].

Другі дзень вяселля святкаваўся ў хаце жаніха і быў падобны на папярэдні па сваім змесце: “*На другі дзень маладая надзявала другое плацце. Зноў жа сабіраліся госці і працягвалася гулянка. Ужо дзялілі каравай маладога ў яго ж хаце, а маладой госці гулялі ў хаце без маладой. Адбывалася так: тыя гулялі там, а тыя тут. Пелі песні, гулялі ў гульні, выдумлялі ўсё-ўсякае. Запрагалі коней, ездзілі па сялу, граючы на гармоні*” (запісана ў в. Хутар ад Філіпчык Валянціны Якімаўны, 1950 г.н.) [2, с. 206]. Калі святкаванне вяселля было кароткім, то менавіта зараз пачыналася паслявясельная частка.

Трэці дзень быў насычаны разнастайнымі гульнямі, жартамі: ці то пачынаюць “жаніць” гасцей, ці то пераапранаюцца, ці то ловяць курэй і пад.: “*На трэці дзень было заканчэнне свадзьбы. Маладая таксама, як і на другі дзень, перадзявала нарад. Звычайна на трэці дзень яна надзявала спадніцу і кофту, а вянка не надзявалася. У гэты дзень дзелалася так: бралі якіх-небудзь дзеда і бабу, пераадзявалі ў маладых. І тут проста ішла інсцэніроўка свадзьбы. Сапраўдныя маладыя сядзелі як госці, а тут ужо як бы начыналася свадзьба на трэці дзень па новай. Старых бабу і дзеда па-свойму наражалі, чаплялі вяночкі ім. Тут ужо смяяліся, весяліліся мудрэй, чым у першы дзень. Вот етым і заканчвалася свадзьба. Госці расхадзіліся па дамам, а маладая павінна была памыць усю пасуду, увабраца, бо яна была ўжо хазяйка ў етым доме*” (запісана ў в. Хутар ад Філіпчык Валянціны Якімаўны, 1950 г.н.) [2, с. 206]; “*Напрыканцы вяселля некаторыя з гасцей пераапраналіся ў розных чарцей, цыганоў, дактароў. Яны ідуць на падаіму, гэта значыць ідуць у госці да хросных або да родных, або проста да аднавяскоўцаў. На нашым вяселлі галоўным быў цыган з пугай. Была цыганка, была доктарка, была русалка. Цыган шоў па вуліцы і паганяў пугаю тых, хто яму сустракаўся. Цыганка гадала пра судзьбу праходжым. Русалка заварожвала мужчын. А доктарка дапамагала тым, каму станавілася нібыта нядобра. А ўся свадзьба шла па вуліцы за імі. Вяселле закончвалася ад’ездам гасцей і бацькоў маладой. Гэта суправаджалася песнямі, пацалункамі*” (запісана ў в. Чыркавічы ад Наўроцкай Яўгеніі Піліпаўны, 1928 г.н.) [2, с. 209]. Гэты дзень меў і разнастайныя назвы – петухі, пярэзвы, падоймы: “*Звычайна робяць трэці дзень вяселля, дзе жэняць бацькоў маладой. На другі дзень вяселля ў маладога павінны ўзяць петуха, або курыцу, чапляюць ёй чырвоную ленту. Да яе гасцям даюць бутэльку гарэлкі для таго, каб збіраліся на трэці дзень вяселля – “петухі*” (запісана ў в. Крукі ад Мацвеенка Зінаіды Сяргееўны) [1, с. 421]; “*Помню, дак і па нядзелі*

*некаторыя гулялі – багатыя. Парэзвы называліся, помню, як бацька мой казаў, парэзвы – ета завуць ужэ, вот гуляюць, прымерна, у меня, а тады ужэ твае бацькі завуць, дак гэта называецца пярэзвы*" (запісана ў в.Рудня ад Шумавай Марыі Арсеньеўны, 1934 г.н., Шумава Уладзіміара Уладзіслававіча, 1964 г.н., Караткевіч Галіны Кірылаўны, 1941 г.н., (раней пражывала ў в. Шчытная Жлобінскага раёна))*; "*На втары дзень было інтересно. У нас на втары дзень былі падоймы. Ну, іменна быў на другі дзень хадзілі раней, хадзілі іменна к свякрусі, бралі куры, потым неслі ў рэшаце, шла ўся свадзьба, маладыя. Пераадзеваліся, і доктар той быў*" (запісана ўв. Чыркавічы ад Гаўрыленка Наталлі Рыгораўны, 1961г.н.)*. На гэтым свята заканчвалася. Жонка, якая заставалася жыць у хаце мужа, магла наведаць бацькоў толькі праз тыдзень: "*А на сёмы дзень пасля свадзьбы бацькі маладога павінны былі прывесці маладую да яе бацькоў, каб яны сустрэліся, пагаварылі*" (запісана ў в. Хутар ад Філіпчык Валянціны Якімаўны, 1950 г.н.) [2, с. 206].

Такім чынам, на аснове прааналізаваных матэрыялаў мы можна скласці агульнае ўяўленне аб агульных рысах шлюбнага свята на Светлагоршчыне. Вяселле ў кожнай вёсцы мае свае адрозненні ў часе і працягласці святкаванняў, тлумачэнні рытуальных дзеянняў, колькасці этапаў, але ёсць і найбольш тыповыя складнікі вяселля, якое ўключае тры часткі: давясельную (сватанне, запоіны, заручыны (змовіны), зборная субота), уласна вясельную (выпечка і дзяльба каравая, выкуп нявесты, пасад, развіванне маладой) і паслявясельную. Тут назіраецца супадзенне ў структуры вяселля Светлагоршчыны ў параўнанні з вясельнай абраднасцю іншых рэгіёнаў Беларусі. Адметнасцямі вяселля ў Светлагорскім раёне з'яўляюцца змовіны (іх маглі не адмяжоўваць ад сватання і запоінаў), зборная субота (адсутнасць рытуалаў, звязаных з "ёлкай"), шырокая распаўсюджанасць міфалагічных уяўленняў, звязаных з караваем.

* Архіў фальклорнай навукова-даследчай лабараторыі ГДУ імя Ф. Скарыны

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Вяселле на Гомельшчыне : фальклорна-этнаграфічны зборнік / Укладанне І.Ф. Штэйнер, В.С. Новак. – Мінск: ЛМФ "Нёман", 2003. – 470 с.

2. Вясельная традыцыя Гомельшчыны : фальклорна-этнаграфічны зборнік / Укладанне В.С. Новак; Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны. – Мінск: Права і эканоміка, 2011. – 485 с. – (Серыя "Гуманітарныя навукі").

УДК 808.26 – 3

*Н. И. Лапицкая*

# ТЕКСТЫ ВОСТОЧНОСЛАВЯНСКИХ ЗАГОВОРОВ КАК ИСТОЧНИК ЭТНОЛИНГВИСТИЧЕСКИХ ИССЛЕДОВАНИЙ

В статье рассматриваются основные направления исследования восточнославянских заговоров, основные группы заговорной лексики, заслуживающие внимания лингвистов.

Язык выступает в качестве важнейшего элемента познания. Значимыми в этом отношении являются следующие высказывания Ф.И. Буслаева: «Сколько бы народ ни отклонился от своего первобытного состояния: пока он не утратит своего языка, до тех пор не погибнет в нем духовная жизнь его предков». «Вместе с родным языком мы нечувствительно впитываем в себя все воззрения на жизнь, основанные на верованиях и обычаях, в которых язык образовался: и как предания, донесшиеся до нас из отдаленных веков только в звуке, мифология народная надолго будет жить в языке своей яркой изобразительностью и метким взглядом на природу» [1, с. 87–88].

Заговоры – своеобразный архаичный фольклорный жанр. Функции заговоров чисто прагматические: они проговаривались с целью достичь определённого результата (вылечить больного, вызвать дождь и т.д.). Эти слова воспринимались как вещие, пророческие, имеющие таинственную силу.

Е.Ф. Карский писал: «… Заговор есть выраженное словами пожелание, часто соединенное с известным обрядом или действием, пожелание, которое непременно должно исполниться» [2, с. 60]. А.Н. Афанасьев подчеркивал, что «могучая сила заговоров заключается именно в известных эпических выражениях, в издревле узаконенных формулах…» [3, с. 14].

Психологическую основу этого «вида русской народной поэзии» рассматривал Н. Крушевский, который отмечал, что «предметы неодушевленные и даже известные изменения в предметах (например, различные болезни) кажутся народу живыми и разумными существами; потому упоминание их названий может вызвать их самих» [4, с. 17].

Новый период в изучении заговорных текстов начался в 70-е–80-е годы XX столетия, после окончательного выделения этнолингвистики в самостоятельный раздел языкознания. В связи с этим

Т.Б. Лукинова отмечает: «Дальнейшее успешное развитие сравнительно-исторической лексикологии все настоятельнее требует привлечения экстралингвистических фактов. При этом, чем древнее изучаемые пласты лексики, тем более возрастает значение данного требования. Особенно важны свидетельства смежных гуманитарных наук, и в первую очередь этнографии, для тех лексических групп, у которых можно предполагать связь с широким комплексом древних верований и представлений об окружающем мире, обусловленными ими обрядами, все вместе относимые к тому, что обозначается термином славянское язычество» [5, с. 119].

Достаточно большое количество работ посвящено рассмотрению особенностей, специфики жанра заговоров. Это труды В.Н. Топорова, А.Л. Топоркова, Т.А. Агапкиной, А.М. Астаховой и др. В белорусской лингвистике следует назвать исследования Г.А. Барташевич и Т.М. Судник. В связи с разработкой вопросов этнофразеологии заговоры рассматриваются В.И. Ковалем (см. [6]). В исследованиях данной направленности отмечается важность обращения к заговорам. Так, Г.А. Барташевич подчеркивает, что заговоры «…здаўна прыцягвалі ўвагу вучоных розных школ і напрамкаў, якіх цікавілі вытокі мастацтва, светапоглядная аснова розных яго відаў, генезіс мастацкіх вобразаў» [7, с. 6]. На необходимость изучения заговоров указывают Т.А. Агапкина, А.Л. Топорков: «Изучение заговоров становится в последние годы одним из плодотворных направлений этнолингвистики. Это обусловлено как их хорошей сохранностью, так и особенностями формы, прагматики и семантики. Насыщенность заговорной топики и сюжетики мифологическими мотивами делает заговоры ценным источником для реконструкции древней славянской культуры – как системы представлений, так и конкретных текстов» [8, с. 67].

Восточнославянские заговоры, безусловно, являются источником этнолингвистических исследований. Следует отметить, что изучение языковой архаики заговорных текстов может вестись в нескольких направлениях:

1. Присущая заговорам архаика формы проявляется в специфических чертах разных структурных элементов их языка. Так, особого внимания заслуживает изучение разных групп лексики в текстах заговоров. Широко представлены в заговорных текстах устаревшие слова. Например, наименования болезней в заговорах русских, украинцев и белорусов представлены собственно лексическими архаизмами: русск. *призор*, *падвей*, укр. *підвій*, *призор*, бел. *пудвей*, *прызор* и др.

Достаточно большой пласт в текстах заговоров составляет церковнославянская лексика: русск. три *врана*, крест *златой*, сухие *древа*, стану *аз*, раб Божий и др.

2. Отдельного изучения в текстах заговоров требуют собственные имена, так как. по мнению многих исследователей «называние имен в заговоре само по себе есть живейшая и наиболее остро-интенсивная часть заговора, его идеальное ядро, обладающее максимумом творческих потенций, т. е. то заклинание, слово-дело, которое выступает как квинтэссенция всего заговора» [9, с. 100].

ИС гораздо более чем другие языковые знаки, будучи универсалиями языка и культуры, выполняют функцию хранения и трансляции национального самосознания, традиций, истории, культуры народа. Они являются сложными языковыми знаками. Эта мысль относится, в частности, и к ИС, функционирующим в мифологических текстах – заговорах.

Имя собственное в русских, белорусских и украинских заговорах является одним из ключевых элементов заговорных текстов, вокруг которых может формироваться весь заговор. Мифологический текст может быть организован на основании формально выраженного или скрытого приема этимологической магии.

Имена собственные русских, белорусских и украинских заговоров объединяются в несколько замкнутых кругов, которые ориентированы на различные объекты.

1) Первый круг составляют имена собственные, называющие святых мучеников и апокрифические имена (рус. *Илья-пророк, Иоанн Креститель, Соломония*, бел. *Кузьма-Дзям'ян*, *Георгі Пабеданосец* и др.).

2) Второй наиболее многочисленный и цельный круг имен составляют наименования лихорадок, включающие трансонимизированные (бел. *Яўгешка, Фяклушка, Кацька* и др.) и переходные отапеллятивные имена (рус. *Ногия, Тенная, Ревота* и др.).

3) Наименования змей в заговорах имеют трансонимизированный и нетрансонимизированный характер (бел. *Дамаха, Паляха, Ева, Сохва* и др.).

4) К мифолокативам относятся имена, называющие географические объекты и составляющие четвертый круг заговорных ИС (рус. *Океан, Буян, Иордан,* бел. *Кіян, Сіян, Ярдань* и др.).

3. Своеобразием отличается употребление в заговорах нумеративов. Они используются здесь не только с целью определения количества предметов, а отражают древнейшие представления восточных славян о магии чисел: русск. «…выйду я, раб Божий, на *три розстани*

и помолюся я *трём братьям*-ветрам…», бел. «… у том гняздзе ляжаць *тры вужы*, *тры цары*…», укр. «ішло *три калікі* через *три ріки*..».

4. При всём многообразии заговорных текстов по размеру и строению выделяется несколько композиционных типов заговоров, в каждом из которых использованы свои приёмы и средства.

К таким средствам относится наличие так называемых заговорных формул (зачинов, отсылов, пожеланий, закрепок-концовок): русск. «…на *восточной стороне* стоит святая церковь…», бел. «*Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мамцы пакланюся*…», русск. «*На море-океане, на быстрой Бояне* – там есть гнездечко…», бел. «*На моры Буяні* там ёсць курган шырокі, высокі…». Из таких заговорных формул, как из кирпичиков, строится «здание» текста [см. 10].

Таким образом, восточнославянские заговоры, безусловно, являются источником этнолингвистических исследований. По глубине архаики тексты заговоров не имеют себе равных в восточнославянском фольклоре. Исследуя те или иные языковые особенности данного жанра фольклора, мы знакомимся с представлениями, верованиями восточных славян, постигаем их менталитет.

**Список использованных источников**


1. Буслаев, Ф.И. О влиянии христианства на славянский язык: Опыт словаря по Остромирову евангелию / Ф.И. Буслаев. – М., 1848. – 211 с.

2. Карский, Е.Ф. Белорусы. Т. 3: Очерки словесности белорусского племени. – Ч. 1: Народная поэзия / Е.Ф. Карский. – М., 1916. – С. 57–89.

3. Афанасьев, А.Н. Поэтические воззрения славян на природу. Опыт сравнительного изучения славянских преданий и верований в связи с мифическими сказаниями других родственных народов: В 3-ех ч. – Ч. 1. / А.Н. Афанасьев. – М., 1865. – 800 с.

4. Крушевский, Н. Заговоры как вид русской народной поэзии / Н. Крушевский. – Варшава, 1876. – 70 с.

5. Лукинова, Т.Б. Лексика славянского язычества / Т.Б. Лукинова // Этимология. 1984. – М.: Наука, 1986. – С. 119–124.

6. Коваль, У.І. Народныя замовы як крыніца ўтварэння этнафразем / У. І. Коваль // «Я блізка стаю да народа…»: Мат-лы навук. чытанняў, прысвеч. Еўдакіму Раманаву / Гом. дзярж. ун-т. – Гомель, 1993. – С. 37–41.

7. Барташэвіч, Г.А. Магічнае слова: Вопыт даследавання светапогляднай і мастацкай асновы замоў / Г.А. Барташэвіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – 128 с.

8. Агапкина, Т.А. К реконструкции праславянских заговоров / Т.А. Агапкина, А.Л. Топорков // Фольклор и этнография: Проблемы реконструкции фактов традиционной культуры: сб. научн. трудов. – Л.: Наука, 1990. – С. 67–75.

9. Топоров, В.Н. Об индоевропейской заговорной традиции (Избр. главы) / В.Н. Топоров // Исследования в области балто-славянской духовной культуры. Заговор. – М.: Наука, 1993. – С. 80–103.

10. Песков, В.М. Об устойчивых поэтических элементах русского заговора / В.М. Песков // Филология. Вып. 5. – М., 1977. – С. 26–39.

УДК 391-055.2 (477+476) (09) «1875/1925»

***Т. В. Луговик***

# УКРАЇНСЬКО-БІЛОРУСЬСКИЙ НАЦІОНАЛЬНИЙ ЖІНОЧИЙ КОСТЮМ КІНЦЯ XIX–ПОЧАТКУ XX ст.: ВЗАЄМОВПЛИВИ ТА ЕТНОКУЛЬТУРНА СПОРІДНЕНІСТЬ

В статті висвітлено особливості українського і білоруського національного жіночого костюма, з'ясовано спільні та відмінні риси народного одягу поліського пограниччя кін. XIX – поч. XX ст., узагальнено територіальні варіації назв ключових елементів жіночого костюма минулого та позаминулого століть.

Кожен народ неповторний у власній духовній і матеріальній культурі. Ця індивідуальність знаходить своє відображення, перш за все, в традиційному народному костюмі. Національний одяг виступає своєрідним лакмусовим папірцем розвитку рівня культури народу, втіленому у володінні різними технологіями виробництва матеріалів та оздоблення костюма. Крім того, одяг несе історичне та духовне значення, адже з глибокої давнини і протягом усього існування він задовольняв не лише матеріальні, а й духовні потреби людини, виконуючи різноманітні побутові, соціальні й обрядові функції. Мистецький рівень, емоційна насиченість вбрання відбивають естетичні уподобання, світогляд та психологію народу.

Одним з найбільш архаїчних регіонів, який до сьогодні зберіг свій неповторний етнографічно-культурний колорит, є Полісся. З-поміж збережених елементів народної культури поліський національний костюм є чи не найдавнішим і сягає корінням часів Київської Русі. Проте статусу національного символу костюм набуває лише у XVII–XIX ст. Саме тоді почали комплексно вивчати національний костюм як неповторне явище народного життя, відбулося його розмежування на натільний, поясний, нагрудний і верхній комплекс. Крім того, обов'язковим компонентом вбрання поліського регіону були пояси,

головні убори, взуття та прикраси, що сукупно створювали образ етнічного костюма. З-поміж інших регіонів Полісся вирізняє домінування двоколірної біло-червоної гами, відсутність купованих тканин і вибійчатого декоративного оздоблення вбрання. Біло-червоне кольорове поєднання підкреслює його архаїчність і символізує поєднання двох начал: духовно-божественного (білий) і плотсько-земного (червоний). Пограниччя цих світів поєднується поясом, своєрідною межею між буденно-освоєним і піднесено-незнаним. За іншою версією, пояс був місцем поєднання сакрального верху і матеріально-тілесного низу. Загалом, для поліського одягу типовим був приталений силует плечового одягу (безрукавок-шнуровиць, керсеток, свиток) та розширена донизу лінія поясного одягу (літники, спідниці з фабричного полотна, «спідниці з на груд-ником»). Для орнаменту вишивок і тканих узорних матеріалів домінуючими були геометричні мотиви, скомпоновані в горизонтальні смуги, та поєднання й невеликої кількості чорного або синього кольорів (на сорочках, спідницях, запасках, хустках і свитах). Ткані узори виступали у вертикальних або горизонтальних смугах і в клітинку.

Співставлення та аналіз артефактів другої половини XIX–початку XX ст. дозволяє виділити кілька пограничних комплексів жіночого вбрання, які складалися з таких основних компонентів: натільної сорочки, спідниці, запаски (фартуха), безрукавки, а також верхнього одягу (залежно від сезону – кожух чи свита). Основним компонентом жіночого одягового комплексу була сорочка (білоруська назва «кашула», «сарочка», «рубаха»; українські назви – «кошуля», «чехлик»), яку шили з домотканого полотна на всій території українсько-білоруського пограниччя. У досліджуваний час сорочки були індикатором етнічного, соціального та вікового стану, естетичного смаку та походження їх носіїв. Зональні особливості традиційних сорочок найвиразніше проявлялися у характері їх оздоблення. Для Західного Полісся типовими були ткані і вишиті геометричні орнаменти з домінуючим червоним кольором, а Східного і Прип'ятського Полісся – вишиті хрестиком рослинні орнаменти з переважаючим червоним кольором. До архаїчного типу натільного одягу слід віднести тунікоподібні сорочки без комірів. Найхарактернішими для пограничних областей Полісся були сорочки з плечовими вставками (українські назви – «вуставки», «віставки», «уставки», «підоплічники», «наплічники», «прирамки», «плечки»; білоруські – «устауки», «поліки»), що вишивалися для розширення об'єму станка сорочки та вирізу горловини. Цей тип сорочок був

домінуючим і в повсякденному житті, і в святковому вбранні. Стегновим вбранням були спідниці, пошиті з трьох, рідше – п'яти полотнищ вовняної домотканої тканини. Їх назви різнилися: «сукня», «домоткан», «портюх», «літник», «андарак», «саян», «бурка», проте були поширеними в однаковій мірі і в українців, і в білорусів. Як правило, поверх спідниці одягали домоткану запаску чи вишитий фартух. Домоткана вовняна запаска («затулка») була невід'ємною частиною спідниці з домотканої вовняної тканини у різнокольорову смужку чи клітинку («літник», «андарак», «бурка»). Такі вовняні червоні спідниці-літники-андараки в смужку характерні для районів Східного Полісся (калінкавіцкій, свєтлагорський, могильовський костюми) та в Україні (овруцький, народницький, малинський), а у клітинку – для районів Прип'ятського Полісся, що межують між собою (білоруський могильовський; український – овруцький, олевський, чорнобильський). Також для українсько-білоруського пограниччя був характерний стегновий комплекс з лляної спідниці, тканої поперечними смугами («бурка») та аналогічного за декором фартуха («фартушок», «фартувина», «пяреднік», «притулка», «затулка»), що побутував в районах Західного Полісся (дамачівський, кобринський, маларицький костюм в Білорусі; волинський, рівненський костюм в Україні).

Важливою складовою комплексу жіночого вбрання поліського пограниччя була безрукавка (українська – «керсетка», «камізелька», «горсет», «кабат», «нагруднічок», «жилєточка»; білоруська – «гарсет», «кітлік», «шнуровка», «кабат»), що з'явилася у поліському святковому костюмі лише наприкінці XIX ст. Достеменно невідомо, яким чином вона увійшла у вжиток поліщуків, проте шили її з фабричного полотна у трьох варіантах: приталена коротка камізелька, подовжена приталена безрукавка-керсетка (корсет) з тонкого фабричного полотна (Прип'ятський регіон) та однобортна безрукавка з тасьмою чи стрічкою на талії («кабат», «камізелька» – Східнополіський регіон). В східній частині українсько-білоруського пограниччя до початку XX ст. широко побутували «нагрудники» – жіноче вбрання на зразок безрукавки, з'єднаної зі спідницею.

Невід'ємною частиною народного костюму поліщуків був пояс. Ним підперізували нижнє та верхнє вбрання, а також закріплювали стегновий одяг. У жіночому костюмі використовували домоткану вовняну крайку («запоясок», «окрайка») та тонкий вовняний фабричний пояс («чиндокора», «чинкатора»). Ткані поліські пояси були різноманітні за розміром: від вузьких в 1 см – до широких у 15–20 см.

Жіночий пояс був довший за чоловічий, адже його кілька разів обгортали навколо талії. Цікаво, що в Білорусі було відомо сім способів плетіння й ткання поясів. На початку XX ст. пояси виготовляли двома техніками – на дощечках і на нитку. Ці способи широко побутували і в Україні. До верхнього одягу належали кожухи та свити з доморобного сукна (українські – «свита», «світа», «чимерка»; білоруська – «сермяга», «зіпун», «світа»). Поряд з традиційним довгополим одягом побутували короткі суконні «лєтнікі». Для українських і білоруських свит характерний білий чи сірий колір та розширені за рахунок вставних клинів («вусів») поли. Одним з найдавніших жіночих головних уборів у поліщуків були рушникоподібні намітки (українські – «намітка», «убрус»; білоруська – «наметка»). Крім наміток, носили домоткані хустки поверх очіпка (українські – «чіпець», «каптур», «капшучок», білоруський – «чепець»). У першій чверті XX ст. завершився процес витіснення домотканого одягу фабричним, що розпочався на рубежі XX ст. в промислово розвинених районах поліського регіону. Лише в глухих селах продовжували носити архаїчні типи одягу. Свідченням зміни моди серед жінок і дівчат чернігово-сіверського регіону Полісся були етнографічні записи відомої дослідниці народного мистецтва Є.Ю. Спаської: «С огорчением наблюдаю новую моду – многие девушки и молодицы покрасили свои нарядные суконные белые «юбки», отделанные черными бархатными ромбиками спереди и на рукавах, в синий и черный цвет...» [8, с. 158]. Можливо, ці кольори були практичними, але ніяк не красивими, особливо на молодих дівчатах. Все менше почали зустрічатися прості, «землеробські костюми», особливо серед жіночої статі: «И все реже попадаются полные «пахарские» костюмы – состоящие из:1) ватной верхней «юбки» (кофты) из темно-синего куба в мелких цветочках – с большим круглым оплечьем, обшитым черными бархатными зубчиками, 2) такого же куба плиссированной, обшитой внизу широкой полоской бархата «спідниці» и парчового или атласного передника. Много ниток коралов – с медными резными украшениями (пуговицами) и большой ниткой крупного янтаря... Толстые белые чулки вязаные и черевики с медными гвоздиками – завершали костюмы наших «пахарських дівчат» [8, с. 159]. Проте, як зазначала народознавиця, мода на теплі хустки серед молодих дівчат була незмінною. Повернулась довоєнна мода на «дукачі», які тепер прикрашались бантами, камінням різного розміру. «Я так пристально рассматривала одну старуху в белом строченом кожухе с высоким стоячим воротником (как «козырь» в боярских шубах» [8, с. 159].

Народний одяг – неповторне і самобутнє культурне явище, котре розвивалося й удосконалювалося впродовж століть. Зберігаючи ознаки різних епох, національний костюм являє собою невичерпне джерело до вивчення етнічної історії населення, його соціальної структури, естетичних поглядів та уявлень. Крім того, костюм – явище конкретно історичне, продукт розвитку певного етносу, нації, етнографічної або локальної групи. Тісні соціально-економічні зв’язки, спільна історична доля, подібні природно-географічні умови, етнічна та етнокультурна спорідненість українського і білоруського народів зумовили високий ступінь схожості, а інколи навіть спільності в традиційному одязі. Спільні риси в національних костюмах, які склалися ще в глибоку давнину, продовжують зберігатися і взаємодоповнюватися, створюючи неповторний образ поліського національного костюма.

**Список використаних джерел**


1. Бялявіна В., Ракава Л. Жаночи касцюм на Беларусі / В. Бялявіна, Л. Ракава. – Мінск: «Беларусь», 2007. – 351 с.
2. Грінбалт М. Білоруси: нариси походження та етнічної історії / М. Грінбалт. – Мінск: «Наука і техніка», 1968. – 288 с.
3. Кара-Васильєва Т. Історія української вишивки / Т. Кара-Васильєва. – К.: Мистецтво, 2008. – 464 с.; іл.
4. Кацаров М. Беларускі арнамент: ткацтво. Вишивка / М. Кацаров. – Мінск: «Беларуская Енциклапедия імя Петруся Броукі», 1996. – 208 с.
5. Маленко Л. Білоруський костюм XIX-XX ст. / Л. Маленко. – Мінськ: «Білоруська наука», 2005. – 142 с.
6. Маслова Г. Народний одяг росіян, українців, білорусів у XIX поч. XX ст. / Г. Маслова // Східно-слов'янський етнографічний збірник. – М., 1956.
7. Ніколаєва Т. Історія українського костюма / Т. Ніколаєва. – Київ: «Либідь», 1996. – С. 5-13.
8. Спаська Є. Подорожі по Чернігівщині; уривки з щоденників, рр. 1921–1926, головним чином про ганчарство чернігівське / Є. Спаська // Українське Гончарство: Національний культурологічний щорічник. За рік 1994. – Опішне: Українське Народознавство. – 1995. – Кн. 2. – С. 337–373.
9. Стамеров К. Нариси з історії костюмів. / К. Стамеров. – Київ: «Мистецтво», 2007. – С. 168–170.
10. Фадєєва О. Білоруська народна вишивка / О. Фадєєва. – Мінськ: «Наука і техніка», 1991. – 197 с.

УДК 398.332.47(=161.3)

***В. С. Новак***

# МАСЛЕНІЧНАЯ АБРАДНАСЦЬ БЕЛАРУСАЎ: АГУЛЬНАЭТНІЧНАЕ І РЭГІЯНАЛЬНА-ЛАКАЛЬНАЕ

У артыкуле на аснове багатага фактычнага матэрыялу, запісанага ў экспедыцыях на тэрыторыі Гомельскай вобласці і іншых рэгіёнаў Беларусі, характарызуецца масленічны абрадавы комплекс, высвятляецца семантыка яго асобных структурных кампанентаў, выяўляюцца агульнаэтнічныя і рэгіянальна-лакальныя асаблівасці традыцыі святкавання Масленіцы ў розных рэгіёнах Беларусі.

Масленіца як гадавое свята, адзначаюць даследчыкі, знаходзіцца на мяжы зімовага і веснавога цыклаў земляробчага календара, таму і можна аднесці масленічныя святкаванні да абрадаў пераходнага перыяду. Гэтае свята, у якім знайшлі адлюстраванне прыродна-касмічны культ і культ працягу роду, урачыста адзначалі ў розных рэгіёнах Беларусі. Напрыклад, у сістэме земляробчага календара Гомельшчыны таксама важнае месца адводзілася маленічным абрадам і звычаям, семантыка якіх была звязана з забеспячэннем ураджайнасці нівы і ўладкаванасцю сямейных адносін. На тэрыторыі Гомельскай вобласці, у прыватнасці, у в. Пірэвічы Жлобінскага раёна абавязковай была язда на конях: *“на Масленіцу ездзілі на конях, якіх украшалі лентамі, званочкамі”* (запісана ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.). Паводле ўспамінаў Рогавай Наталлі Ануфрыеўны, 1927 г.н., з в. Ніжняя Алба, *“у кожнай хаце конік ужо быў, ды коней запрагаюць і ездзяць адзін за адным па вуліцы”*. Пры гэтым выконвалі масленічныя песні, як напрыклад:

*Прыдзі ка мне, цёшча, на Масленіцу,*
*А я цябе ўпрашу.*
*Зяць пад ручкі цёшчу вадзіў,*
*А маладую жонку на руках насіў,*
*Бо жонку лучшэ берагчы,*
*А цёшчу і чорт не возьме.*

У в. Пірэвічы старанна рыхтаваліся да святкавання Масленіцы: “*Убіраюць дома, гатуюць смачную ежу, пякуць бліны, сыры робяць. Вечарам упрыгожвалі запрэжаных коней лентамі, званочкамі і ехалі катацца. Гулялі напераганкі. Катаюцца ўсю ноч да рання”* (запісана

ад Сасны Елізаветы Карпаўны, 1912 г.н.). Вядомы на Гомельшчыне абрад “цягаць калодку” атрымаў у мясцовай традыцыі в. Пірэвічы сваю адметную форму: у якасці “калодкі” выкарыстоўвалі не абрубак палена, а невялікую “трэсачку”, якую *“вешалі на пояс і заходзілі да каго-небудзь у госці, перавешвалі яе хазяіну, за гэта ён ставіў гарэлку”* (запісана ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.).

Як пацвердзілі жыхары в. Верхняя Алба, у іх мясцовасці *“ў панядзелак на масленічным тыдні збіраліся бабы з усяе вёскі, бралі нож і да аднаго канца прывязывалі невялікі, але тоўсты абрубак дрэва, а другі канец нажа прывязваюць да нагі халастога хлопца, які ім сустракаўся, як бы ў пакаранне за тое, што ён не жаніўся. Калі хлопец не пажадае насіць гэты цяжар за сабой увесь дзень, ён павінен адкупіцца і даць бабам на пранікі некалькі манет”* (запісана ад Канаваленка Наталлі Ануфрыеўны, 1933 г.н., Байдакова Сцяпана Васільевіча, 1929 г.н.). У названай вёсцы аналагічныя абрадавыя дзеянні выконваліся і ў дачыненні да дзяўчат, якія своечасова не выйшлі замуж.

Рытуальная трапеза за святочным сталом на Масленіцу ў в. Верхняя Алба пачыналася з частавання блінамі, стос якіх трэба было разрэзаць крыж-накрыж на чатыры часткі: *“затым кожны член сям’і бярэ чвэрць бліна, скручвае яго і акунае ў міску з тварагам і разагрэтым каровіным маслам”* (запісана ад Байдакова Сцяпана Васільевіча, 1929 г.н.).

Сярод абрадавых момантаў святкавання Масленіцы ў в. Саланое вылучаюцца такія, як катанне на санках з гары, абходы моладдзю хат аднавяскоўцаў, прывязванне гаспадару *“ленты з бубеньчыкамі, як хамут”*, адорванне падарункамі, спальванне лялькі, што сімвалізуе зіму, ваджэнне карагодаў, наладжванне розных гульняў. Адметным быў і той факт, што з апошнім днём Масленіцы былі звязаны абрадавыя дзеянні сустрэчы вясны (*“рабілі свістулькі ў выглядзе жывёлы, гэта не толькі для забавы рабілася, але і для заклiку вясны”*), песнямі-вяснянкамі гукалі на ўзгорку вясну, елі кашу, сыр, яйкі, хлеб (*“абавязкова пакідалі крошкі для птушак, каб яны, падкрапіўшыся, хутчэй вялі вясну”*).

Важным абрадавым атрыбутам масленічных святкаванняў на Жлобіншчыне, як і ў іншых рэгіёнах Беларусі, з’яўлялася спальванне саламянага пудзіла або лялькі, што сімвалізавала развітанне з зімой і сустрэчу з вясной. Паводле ўспамінаў Гайдакова Івана Мяфодзьевіча, 1924 г.н., з в. Марусенька, у іх вёсцы раней спальвалі зробленую з саломы ляльку: *“Мой прадзед расказваў мне, што рабілі ляльку*

*з саломы, адзявалі ёй старыя якія-небудзь вешчы, ставілі яе на вялікую такую палку дзеравянную і падпальвалі"*. З гэтым рытуалам была звязана варажба: *"Калі лялька доўга загаралася, ці плоха гарэла, дык гаварылі, што зіма яшчэ бушаваць будзе"*.

Зімовыя святы на тэрыторыі Чачэрскага раёна таксама заканчваліся святкаваннем Масленіцы: "Масленіцу ў нас святкавалі весела, развітваліся з зімою, а сустракаліся з вясною", – паведаміла Балыкова Марыя Ігнатаўна, 1909 г.н., з в. Нісімкавічы. Паводле яе звестак, менавіта на Масленіцу *"добры гаспадар аб'езджваў каня, лічылася, што тады конь будзе здаровы"*. У апошні дзень Масленіцы *"палілі пудзіла, а потым попел раскідвалі на полі, каб яно радзіла добры ўраджай"*. Лахцерава Таццяна Дзмітрыеўна, 1932 г.н., з в. Бабічы, пацвердзіла факт бытавання абраду "калодкі" на Чачэршчыне: *"Быў звычай хлопцам ці мужчынам у гадах, якія яшчэ не ажаніліся, вешаць на шыю калодку, і хлопец павінен быў хадзіць цэлы дзень з калодкай. Калодкай магло быць палена ці на шыю вешалі ключ на вяроўцы"*.

Масленічныя абрады і песні ў сістэме земляробчага календара Петрыкаўскага раёна захоўваюць агульнаэтнічную аснову і вылучаюцца адметнай мясцовай спецыфікай. З Масленіцай, паводле сведчанняў Марыі Сцяпанаўны Плікус, 1930 г.н., з в. Кацуры, былі звязаны такія рытуалы, як ушанаванне бабкі-павітухі, а затым частаванне бабкай-павітухай унукаў: *"На ўтары дзень бабку-павітуху сажалі на сані, запрагалі коні, а ў каго не было коней, самі цягалі бабку па сялу і крычалі: "Еслі ты, баба, яшчэ не ўгосціш, то мы цябе скінам у снег. Бабка-павітуха зноў частавала сваіх унукаў. Калі вазілі яе па сялу, то выконвалі песню:*

*Масліная, шчаслівая,*
*Працягніся да Вялікадня!*
*Масліная, шчаслівая, белая вутка,*
*Нясі сыру, масла да няхутка.*
*А хто сыру не дае,*
*Няхай таму сгніе"*.

У в. Дуброва выконвалі абрад спальвання саламянага пудзіла, што сімвалізавала развітанне з зімой: *"Збіраліся раненько ўся маладзёж ды ішла на Лысу гару ў нас там, у Дуброве. Неслі чучало з саломы. Ужэ быццам эта зіма. Ставілі яе ля Лысае гары, а зацем запальвалі яе. Это ўжэ значыло, што мы праганяем зіму"* (запісана ад Гошка Евы Пятроўны, 1929 г.н.). Адметная мясцовая дэталь у святкаванні Масленіцы ў гэтай вёсцы – "гойданне на варотах", што

мела аграрна-магічны сэнс: *“Гойдаліся на варотах только хлопцы і дзеўкі. Казалі старыя людзі, што гойдацца трэбо для таго, каб на той год рос лён доўгі і крэпкі”*. Жыхары в. Белін верылі, што для павышэння ўраджайнасці нівы трэба было раскідаць там попел пасля таго, як спалілі пудзіла Масленіцы: *“Пасля спальвання пудала бралі попел і выхадзілі ў поле, раскідалі яго, каб быў добры ўраджай”* (запісана ад Маславай Ніны Фёдараўны, 1920 г.н.). Звесткі пра абрад пад назвай “калодка” атрыманы надзвычай сціплыя. Паводле сведчанняў Равуцкай Элеаноры Ігнатаўны, 1930 г.н., з в. Колкі, у іх мясцовасці *“адкрывалі хлопцы дзверы і кідалі палена ў хату. Так хлопцы заляцаліся да местачковых дзевак, каб тыя не сядзелі ў хаце, а ішлі на вуліцу”*. Быў вядомы на Петрыкаўшчыне і масленічны рытуал *“аб’езду маладых коней, быкоў, валоў”* (запісана ў в. Пясочная Буда Гомельскага раёна ад ураджэнкі в. Дуброва Петрыкаўскага раёна Гошка Евы Пятроўны, 1929 г.н.). Этнаграфічныя апісанні абраду Масленіцы ў в. Дуброва Петрыкаўскага раёна сведчаць аб тым, што яго рытуалы блізкія да абраду гукання вясны. Гэта, напрыклад, выкананне песень на ўзвышанай мясцовасці (*“А тады які-небудзь хлопчык маладзенькі залазіў на етую гору і начынаў запяваць, а другіе ему памагалі і карагод вадзілі”*), падрыхтоўка абрадавага печыва ў выглядзе птушак (*“Гулялі, елі блінцы, разные выпячкі ў відзі голубаў, пцічак разных”*).

Масленічны абрадавы комплекс Хойнікшчыны, зыходзячы з успамінаў інфармантаў, меў адметную мясцовую спецыфіку. Выклікаюць цікавасць выказаныя жыхарамі меркаванні адносна абавязковага святкавання Масленіцы: *“Шчыталі, што не весяліцца на Масленіцу – значыць жыць у бядзе і закончыць жызнь пагана”* [1, с. 77]. Асноўныя структурныя кампаненты масленічнай абраднасці ў в. Вялікі Бор – гэта выпечка бліноў, падрыхтоўка пудзіла Масленіцы, катанне моладзі на санках з гары, *“вешанне хлопцам-перарosткам дзеравянных калодак”*, ушанаванне маладых пар, што ў гэтым годзе ўзялі шлюб, провады Масленіцы: *“Да цемнаты чучала Масленіцы насілі ці вазілі па дзярэўні з песнямі”, спальванне саламянага пудзіла Масленіцы і рассыпанне попелу з кастра на ніве, каб “разбудзіць зямлю і вярнуць ёй новую жызнь”* [1, с. 77].

Жыхары в. Вялікі Бор ашчадна захоўваюць спрадвечныя народныя вераванні сваіх продкаў, кіруюцца ў жыцці іх правіламі і прадпісаннямі, звязанымі з Масленіцай: у першую чаргу прытрымліваюцца забароны працаваць у масленічныя вечары (*“Вечары ў Масленіцу звалі “святымі”. Вечарам запрашчалася работаць, толькі хадзіць*

*адзін к аднаму ў госці можна”*) [1, с. 77], нельга было пасля вячэры прыбіраць са стала, каб *“у сям’е не было сварак”* [1, с. 77], нельга было ў дні святкавання Масленіцы піць гарэлку, бо *“шчыталася, хто ў еты дзень паследні п’е гарэлку, той першы памрэ”* [1, с. 77]. Гушканне на арэлях у мясцовай традыцыі в. Віць сімвалізавала *“ачышчэнне паветра”*, а таксама прагназавала добры ўраджай лёну (*“еслі катацца на арэлях, то ачышчаеш светлае паветра, што калі катаешся на арэлях, то на той год лён будзе расці доўгім і моцным”*) [1, с. 78].

Структуру масленічнай абраднасці Лоеўшчыны складаюць наступныя кампаненты: выпечка бліноў (*“На Масленіцу пяклі бліны, перамазвалі іх салам ілі мёдам*” – запісана ў п. Пабядзіцель ад Марозавай Вольгі Пятроўны, 1929 г.н.), абрад “цягання калодкі” (*“Сабяруцца ды ў дзесяць вечара і цягаюць тыя калодкі, песні паюць”* – запісана ў в. Вулкан Лоеўскага раёна ад Пратасава Арсенція Дзмітрыевіча, 1932 г.н.), распальванне вогнішча і скокі праз яго (*“Увечары палілі кастры маладзёж, прыгалі цераз іх”* – запісана ў в. Катловіца Брагінскага раёна ад Максімчык Алены Уладзіміраўны, 1932 г.н., раней пражывала ў в. Крупейкі Лоеўскага раёна), катанне на санках (*“На Масленіцу гулялі, санкі па вуліцы вазілі. Усе сядуць і санкі возяць. Санкі нічым не ўпрыгожвалі”* – запісана ў п. Пабядзіцель Лоеўскага раёна ад Таўкачэнка Аляксандраўны Ларывонаўны, 1918 г.н.), падрыхтоўка і спальванне пудзіла Масленіцы (*“На Масленіцу чучала спальвалі”* – запісана ў в. Ручаёўка Лоеўскага раёна ад Ціханенка Ганны Васільеўны, 1947 г.н.). У п. Пабядзіцель абрад “цягання калодкі” меў сваю адметную спецыфіку (прывязванне “калодкі” да рукі гаспадара): *“Такжа збіраліся некалькі чалавек і цягалі дзеравянную калоду, украшаную лентачкамі. Калі заходзілі ў хату, к руцэ хазяіна прывязвалі палку, украшаную лентамі ілі прыгожай бумагай, і не адпускалі, пака хазяін не пакорміць блінамі і шкваркамі”* (запісана ад Марозавай Вольгі Пятроўны, 1929 г.н.). У некаторых вёсках, як адзначылі жыхары, у выкананні абраду “калодка” ўдзельнічалі толькі хлопцы, як напрыклад, у в. Вулкан (*“Хлопцы калодкі цягалі, а дзеўкі ўжэ сароміліся”* – запісана ад Жураўскага Сяргея Адамавіча, 1910 г.н.), а ў в. Чаплін *“калодкі вязалі дзеўкам, хлопцам”* (запісана ад Маджары Васіля Фёдаравіча, 1935 г.н.). Адметным момантам у сістэме масленічных святкаванняў на тэрыторыі Лоеўшчыны з’яўлялася варажба на блінах: *“Еслі дзевушка ўстрэце на шляху мужчыну, то яна ў етым гаду замуж пойдзе, а калі не, то, значыць, замуж пойдзе не скора”* (запісана ў г.п. Лоеў ад Язікавай Зіновіі Калінікаўны, 1924 г.н.); *“А на Масленіцу было так:*

*спекли блины. Я первый блин схватила и побежала. Добежала аж до школы. І встретила по дороге Рыгора. Ну, думаю, значит, он моя судьба. И на самом деле. Мы с ним поженились"* (запісана ў в. Бывалькі Лоеўскага раёна ад Пікас Варвары Пятроўны, 1927 г.н.).

Сціплыя звесткі пра Масленіцу былі запісаны на тэрыторыі Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці. Называлі яе "бліннай", "Улассе". Асноўныя структурныя кампаненты масленічнай абраднасці – гэта выпяканне бліноў, развядзенне вогнішча і спальванне чучала, што сімвалізавала засцярогу ад звышнатуральнага ўздзеяння нячыстай сілы (*"прагнаць злога духа"* – в. Лань), катанне на конях, варажба "на першым бліне", а таксама бытаваў звычай прасіць прабачэння ў радні. Адметнай масленічнай з'явай у вёсках Нясвіжскага раёна з'яўлялася катанне на конях, якое звязвалі з магіяй ураджайнасці ільну: *"Каталіся на доўгі лён"* (в. Лань). Жыхары з в. Альхоўка таксама пацвердзілі, што ў іх вёсцы *"ездзілі на кані, каб лён доўгі рос"*. У в. Качановічы, паводле ўспамінаў жыхароў, на атрыманне добрага ўраджаю ільну ўплываў звычай хаджэння ў госці: *"Считалось: к каму в госці заходзіш, у таго лучшэ будзе лён"*. У в. Лань "катанне на конях" мела шлюбную сімволіку: *"Дзе дзяўчына была, заязжалі ў двор, жэлалі, каб замуж вышла, каб дома ўсё было"*. Адзначым, што агульнаславянскі звычай масленічнай калодкі на тэрыторыі Нясвіжскага раёна сустрэўся толькі ў адзінкавых запісах і з іншай семантыкай абрадавых дзеянняў. "Палена на вяроўцы", якое выступала ў якасці масленічнай калодкі, з'яўлялася своеасаблівым выкупам для незамужняй дзяўчыны: *"Калі ў хаце была дзяўчына незамужняя, калодку давалі як выкуп"* (г. Нясвіж).

Святкавалі Масленіцу і на тэрыторыі Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці, што пацвярджаецца экспедыцыйнымі матэрыяламі. Паводле сведчанняў жыхароў, абавязковай стравай падчас масленічных святкаванняў былі бліны. Абрад пад назвай "калодка" на Глыбоччыне ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі меў сваю адметную спецыфіку. Прывязаную да нагі хлопца і да нагі дзяўчыны "калодку", згодна з мясцовымі вераваннямі, нельга было згубіць, інакш ім не быць у пары: *"Дзеўкі і хлопцу прывязвалі калодачку. Если дзяржалася, тады яны пара, а калі ўпадзець – усё"* (в. Празарокі); *"Прывязвалі калодкі жанчыне і мужчыне, якія любілі адзін аднаго і пускалі іх па дзярэўні, калі калодка ў аднаго адарвецца, значыць не быць ім разам"* (в. Празарокі). У вёсках Паддуб'е і Шчарбы ў абрадзе "цягання калодкі" ўдзельнічалі толькі дзяўчаты: *"Цягалі калодкі, каб выйсці замуж. Усе разам дзяўчаты цягнуць да мяжы, каб выйсці замуж"* (в. Шчарбы). Паводле сведчанняў жыхароў в. Мнюта, у іх мясцовасці калодку

прывязвалі або да нагі нежанатага хлопца, або да нагі дзяўчыны, якая не была замужам: *“Той, каму прывязвалі, гаварыў: “Як буду жаніцца – у свадзьбу прыглашу”*. Сярод іншых структурных кампанентаў мясцовай масленічнай абраднасці можна назваць катанне на конях (*“У нас здесь озеро бальшое, оно ж замярзает, запрягалі лашадзей, каталісь маладзёж”* – в. Залессе), распальванне вогнішча і спальванне чучала (*“Прыезжалі 3–4 пары лашадзей, каталісь, агонь раскладывалі, чучала палілі”* – в. Залессе), ушанаванне бабкі-павітухі (*“Шанавалі бабулю-павітуху, у госці прыглашалі, падаркі куплялі, хоць хустачку ёй купяць”* – в. Мнюта).

Асноўныя структурныя кампаненты масленічнай абраднасці выяўляюць земляробчую скіраванасць і маюць выразны шлюбны характар. Захоўваючы агульнаэтнічную аснову, масленічныя абрады і песні беларусаў выяўляюць адметную мясцовую спецыфіку.

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Хойнікшчыны спеўная душа: народная духоўная культура Хойніцкага краю: фальклор. этнаграф. зб. / пад агул. рэд. В.С. Новак. – Мінск: Выд. цэнтр БД.

УДК 811.161.3:398.332.4(476.2-37Жыткавічы)

***А. М. Палуян***

## ТРАДЫЦЫІ ЗІМОВЫХ СВЯТАЎ І АБРАДАЎ (НА МАТЭРЫЯЛЕ ФАЛЬКЛОРУ ЖЫТКАВІЦКАГА РАЁНА)

У артыкуле на багатым фактычным матэрыяле разглядаюцца мясцовыя асаблівасці зімовых святаў і абрадаў Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці, аналізуюцца характэрныя для гэтага перыяду рытуалы, асаблівасці харчавання і паводзіны ўдзельнікаў. Прадстаўлены матэрыял дазваляе зрабіць вывад, што асаблівасці правядзення зімовых святаў адлюстроўваюць старажытнае светаўспрыманне жыццёвых рэалій, мастацкае асэнсаванне законаў прыроды і месца чалавека ў ёй.

У кожнага народа вёўся свой каляндар, у якім з пакалення ў пакаленне перадаваліся мудрасць, веды, вопыт жыццёвых назіранняў. Мелі такі каляндар і беларусы. Багацейшы духоўны свет нашых продкаў, іх надзвычайны талент, яскравая фантазія адбіліся ў абрадах

і звычаях, прыкметах і павер'ях, гульнях і песнях, звязаных з тым ці іншым днём календара.

У дадзеным артыкуле разглядаюцца мясцовыя асаблівасці зімовых святаў і абрадаў Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці.

***Пілiпаўка*** – перыяд земляробчага календара перад Калядамі, калі палявыя работы завершаны і галоўную ролю набываюць малацьба і жаночая хатняя праца [1, с. 295]: *"Пілiпаўка начынаецца 28 наябра. Пілiпаўка цягнецца не адзін дзень, а до 7 январа… Дак, вот раньшэ пілiпаўскімі вечарамі жэншчыны ткалі, пралі, адзежу шылі. А хто маладзейшыя, то збіраліса на вечоркі ў екой-небудзь адной хаці. Там і аставаліса начаваць. У народзі дажэ іе прымаўка: "Піліп дзяцей адзявае". Ткалі з льна. Маладыя пазбіраюцца і начынаюць: хто пяе, хто гадае."* (Купрацэвіч Я.М., 1956 г.н., в. Пухавічы Жыткавіцкага р-на). У час гадання выкарыстоўвалі традыцыйныя зерневыя культуры, напрыклад ***ячмень***: *"А каб узнаць, з кім свадзьбу згуляеце, у дзень светого Ануфрыя, чэрэз адну ноч, сыпалі пад падушку ячмень і гаварылі: "Святы Ануфрэю, я ячмень сею, дай жа ты мне знаць, з кім я буду жыць"* (Купрацэвіч Я.М., 1956 г.н., в. Пухавічы Жыткавіцкага р-на).

На гэты час прыпадае і Піліпаўскі, або Перадкалядны, пост, калі не елі скаромнае. У час Піліпаўкі варылі *саладуху*: *"жытнюю муку залівалі кіпятком, давалі трохі постаяць. За гэта ўрэмя яна трошкі падкісала, набывала салодзенькі ўкус. Потым яе варылі і её піталіся"* (Уласава М.П., 1928 г.н., в. Кольна Жыткавіцкага р-на). Другім традыцыйным посным блюдам на Жыткаўшчыне была *каліна*, якую *"збіралі, сушылі, а потым ужо варылі і елі"*; *"Да Каляд людзі посцяць, едзяць толькі рыбу. После Новага года ўжо елі бліны, сыр, масло – у мясаед"* (Уласава М.П., 1928 г.н., в. Кольна Жыткавіцкага р-на).

У сярэдзіне каляднага посту адзначаюцца тры прысвяткі, якія ідуць адзін за адным, – ***Варвара***, ***Сава*** і ***Мікола Зімовы***. На Варвару – пастухі збіралі "варваршчыну" – традыцыйную плату: *"На Варвары ходзілі пастухі, шо пасцвілі короў, по хатах ім давалі* ***варэнікі****… А на Саввы, увечары, куцця Мікольная, вячэра посная. На Міколу ідуць у цэркаў, а прыйдуць, то ў кого е хлопцы ўзрослыя, сабіраюцца по хатам у компаніі. Ім родныя даюць* ***пірог, сала кусок, бутылку****… Наймаюць мужыка, который можэ спяваць. Хлопец, которы дружыць з дзеўкаю, заказвае ей песню"* (Чыкіда В.С., 1934 г.н., в Запясочча Жыткавіцкага р-на).

***Каляды*** – цыкл святаў і абрадаў зімовага сонцавароту. Першапачаткова атаясамліваліся з адраджэннем бога Сонца і пачаткам новага жыцця, а ў хрысціянскай традыцыі – з праслаўленнем Хрыста-Збавіцеля

[1, с. 183–184]: *“Каляды празнуюць з 6 па 22 января. У етые дні не трэ було нічога рабіць, толькі што ладзіцца па хазяйству”* (Купрацэвіч Г.М., 1922 г.н., в. Дуброва Жыткавіцкага р-на); *“Калядныя дні працягваліся да 19 января”* (Уласава М.П., 1928 г.н., в. Кольна Жыткавіцкага р-на); *“Каляды атмячаліся ў нас 7 студзеня. Іх усе чакалі і стараліся сустрэць добра. Пяклі **бліны**, рабілі **халадзец**, хто мог, рабіў каўбасу. Абязацельна куццю варылі”* (Няшэвіч В.Д., 1937 г.н., в. Боркі Жыткавіцкага р-на); *“Начыналіся к сёмаму января. У гэты дзень ідом спяваць, калядаваць. Вечарам, сёмага часла, ідом пад вокнамі шчадраваць. Казу вадзілі 13–14 января. Акрамя таго, вадзілі яшчэ бусла, мядзведзя і сароку.*

*Васьмога часла насілі Варфаламееўскую звязду. Тут участваў і бацюшка, званы насілі. Званы цяжкія, но насілі іх здаровыя хлопцы. Насілі робленыя яселькі, украшаныя, дзе быў Хрыстос. Перадзявалі ў царкоўную адзежу. Звязду рабілі з картона, выразалі на восем рагоў, там наклейвалі з адной стараны мацер божу з младзенцам, з другой стараны свечку запальвалі і ікону гаспадара.*

*На Каляды звязду не насілі. На 9-га рабілі кірмаш. 13-га вечарам заходзіў шчадрэц. Строілі вячэру, рабілі куццю… Калядавалі ад 7 да 13 часла”* (Панчэня К.Л., 1924 г.н., в. Пагост Жыткавіцкага р-на).

У народнай культуры шырока выкарыстоўваецца найменне ***куцця*** ў якасці назвы ўрачыстай вячэры і абавязковай абрадавай стравы: *“Куцця – такі торжэственны вечор быў, своею семьёю куццю вечэралі”* (Лузая М.У., 1928 г.н., в. Вароніна Жыткавіцкага р-на); *“Куццю варылі перэд Міколаю – гэто перва куцця. Варылі хто з чого. Хто з пшаніны, а хто з ячменю. Вячэралі. Вячэра была посная. Колі садзіліса за стол, то звалі мороза: «Мороз, Мороз, ходзі куццю есці. Да не поморозь нашых цяляток, ягняток».*

*Другая куцця была перад Рожэством, тожэ вячэра посная. Называецца вячэра-сочэльнік. Шчэ на стол ставілі богато місак з едою. Таму гэта куцця называецца «вяліка куцця». Скоромного на столе нічого не було. Энно можна було полівацъ алеем. Вячэру пачыналі з малітвы, далей запальвалі на куці свечку і ждалі як ўзыйдзе перша зорка.*

*Трэцяя куцця була на шчодрэц, перэд Новым годам. Гэтая куцця была скаромная. Подаваласа з маслом. Шчэ на стол клалі мясо, коўбасы, сало. Зато куцця зовецца шчодрою. Дзеўкі гадалі ў той вечор. Бралі куццю, загортвалі ў мужчынскія штаны, клалі под падушку і ждалі, як сужаны прысніцца. За куццёю цягалі сеніну з-под скацерці і глядзелі, екі лён будзе. А шчэ шукалі ці зерне будзе похожэ на жыто, то будзе богаты ўрожай.*

*Чацвёрта куцця, яе называлі* ***«голодна куцця»*** *була перал Крэшчэннем. Тогды було і першэ водосвяцце і не елі нічого, покуль не нап'юцца. А ўжэ ўвечары ставілі на стол куццю і мало посное еды, а скоромною зусім не елі. Варылі куццю, коб буў добры ўроджай, шановалі хлебные зёрны"* (Чыкіда В.С., 1939 г.н., в. Запясочча Жыткавіцкага р-на).

Такім чынам, непасрэдна на Каляды адзначаюць тры куцці: напярэдадні Раства (***перадкалядная***), Новага года (***васільеўская, шчодрая***) і Вадохрышчаў (***вадзяная, галодная***) [1, с. 215]: *"Іе тры каляды ці тры куцці. Першая куцця була 6 января Увечары трэба усёй сям'і сесці каля стала. На ету куццю можна есці ўсё, кроме мяса і каўбасаў"*(Купрацэвіч Г.М., 1922 г.н., в. Дуброва Жыткавіцкага р-на); *"Першая куцця называлася беднай і варылася на вадзе. Другая куцця – багатая. Тады ўжо варылі яе на масле, елі мяса, сало. Трэцяя куцця – галодная"* (Уласава М.П., 1928 г.н., в. Кольна Жыткавіцкага р-на).

Другую куццю *"называлі яшчэ і стары Новы год. Празнавалі 14 января"*. У адрозненне ад першай, *"у еты раз яе запраўлялі малаком ці маслам. У еты вечар елі ўсё, што було і што хацелі. Трэ було абязацельна папробуваць куцці. Дзяўчаты гадалі, дзеці калядавалі па хатах, пелі песні – шчадравалі"* (Купрацэвіч Г.М., 1922 г.н., в. Дуброва Жыткавіцкага р-на); *"З 13 на 14-га то быў шчадрэц. Варылі ў гэты дзень багатую куццю, туды кідалі мяса і масла"* (Клімовіч М.С., 1936 г.н., в. Семурадцы Жыткавіцкага р-на); *"Наваготнюю куццю, па-другому называюць* ***Васілле****. Адзначаюць адзінакава, як і калядную. У гэты дзень вячэраюць з «куццёю». Яна называецца «другая куцця». Вечарам хлопцы ходзяць па дзярэўні з казою і «шчадруюць»"* (Мышкавец В.Я., 1912 г.н., в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на); *"І ўжо на шчадрэц обязацельно варылі "багатую" куццю. А чаго яна была багатая? А таму што масла туды кідалі, ужо м'ясо падкідалі, яна была ўжо не посная, яна была ўжо жырная, ужо можна было есці такую куццю. Пеклі бліны, бо трэба было дзеўкам гадаць на бліны. Ну, і на куццю гадала дзеўка. Як зварыцца куцця, да яна хоча пагадаць за каго замуж выйдзе, то яна цэлы вечар ні з кім не гаворыць. Бярэ яна штаны палатняныя бацькавыя ці братовыя. У штаны лажыла ложку кашы-куцці, лажыла пад падушку і лажыласа спаць, і чытала малітву "Отчэ наш", і прасіла ў Бога, каб прысніўса той, за каго яна пойдзе замуж"* (Клімовіч М.С., 1936 г.н., в. Сямурадцы Жыткавіцкага р-на); *"З 13 на 14 студзеня –* ***Багатая Куцця****. Вараць куццю, гатовяць розныя мясныя стравы. Снімаюць скацерць, ложаць сноп, ну чуць менш, жыта, паверх накрываюць скацерцю і малоцяць кулакамі – еслі находзяць зерне – будзе багаты ўраджай. Потым усе накладваюць*

*у міскі куццю і наліваюць малаком”* (Смоляр К.М., 1944 г.н., г. Жыткавічы, раней пражывала ў в. Бярозаўка Мазырскага р-на); *“Вечар варожб або **Васілева куцця**. У вечар 31 снежня збіралася ўся блізкая радня на сумесны банкет. На Васілеву куццю першай абрадавай стравай быў аўсяны кісель, густая куцця з макам”* (Кахновіч Ф.М., в. Загарбацце Жыткавіцкага р-на).

Напярэдадні Вадохрышча *“недзі 18 января спраўлялі **трэцюю галодную куццю**”*. Як і першую, *“яе елі нішчымнай, і ўсе стравы елі таксама нішчымнымі”*, бо верылі, што *“калі не з’ясі скаромнага, дык увесь год не будзе балець жывот. У еты вечар маладыя гулялі, спявалі песні. Хазяйка пасля паследняй куцці прыбірала сена, што ляжала дзве недзелі на стале і давала худобе, бо яна засцерагала яе ад хвароб”* (Купрацэвіч Г.М., 1922 г.н., в. Дуброва Жыткавіцкага р-на); *“Сена, што было на покуці і на стале, аддавалі жывёле: каб здаровай была і вялася”* (Уласава М.П., 1928 г.н., в. Кольна Жыткавіцкага р-на).

Усе тры куцці варылі абавязкова ў адным і тым гаршку: *“Каша на ўсе тры Куцці варылася ў адным і тым жа чыгуну і нельга было спрашваць да таго, як селі за стол”* (Няшэвіч В.Д., 1937 г.н., в. Боркі Жыткавіцкага р-на);

Галоўнай абрадавай стравай на Каляды была, канечне, ***куцця***, якую *“варылі з ячных круп”* (Купрацэвіч Г.М., 1922 г.н., в. Дуброва Жыткавіцкага р-на) і падсалождвалі мёдам або дадавалі мак: *“А тогды ж не було крупу, шоб купіць на куццю, трэба ж ечменю свою, опарвалі его і ў ступні тоўклі, это ўжэ з этэго ечменю варылі куццю. А ў нас з пшэніцы, але з ечменю смачней трохі”* (Лузая М.У., 1928 г.н., в. Вароніна Жыткавіцкага р-на); *“Маці варыла “багатую” куццю. Гэта каша з мёдам, арэхамі і сахарам”* (Купрыян Е.В., 1932 г.н., в. Пагост Жыткавіцкага р-на); *“Варылі куццю ў гаршочыку із перлоўкі”* (Нікіценка Я.В., 1935 г.н., в. Града Жыткавіцкага р-на); *“Варыла маці борщ з грыбамі. Куцья – это была глаўная. От з этой тоўчаной пшэніцы варылі куццю з сахаром ці з мёдом. Пекла маці пампушкі, мочалі ў мак, або ў каноплі”* (Лузая М.У., 1928 г.н., в. Вароніна Жыткавіцкага р-на). *“На вячэру падаюць нескалькі гатаванняў: борш з буракоў з грыбамі ілі з рыбай, аладкі грачаныя з алеем, булкі з пшанічнай мукі, крупнік пшонны і канешне ж куццю. Пілі много гарэлкі”* (Мышкавец В.Я., 1912 г.н., в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на).

А наогул на стале было *“12 страў, і кажную трэ папробуваць... Усё з’едаць не трэба, трэба пакідаць дзядам, бо іх душы прыходзілі на святу вячэру…”* (Купрацэвіч Г.М., 1922 г.н., в. Дуброва Жыткавіцкага р-на)*; “Куццю варылі з ячменя, пшаніцы – у каго што*

*была”* (Уласава М.П., 1928 г.н., в. Кольна Жыткавіцкага р-на); *“Абавязкова павінна было быць 13 страў. Стравы былі здобныя, іх галоўным было куцця… Куцця была посная, на алеі”* (Панчэня К.Л., 1924 г.н., в. Пагост Жыткавіцкага р-на).

Існавалі пэўныя патрабаванні да сервіроўкі: *“Абавязковы трэба было прыгатовіць двенаццаць блюд, бо ў Хрыста было двенаццаць апосталаў”* (Купрыян Е.В., 1932 г.н., в. Пагост Жыткавіцкага р-на); *“Каб у хаце було шчасце, хазяйка засыпала стол жытам, бо Ісус Хрыстос нарадзіўся ў яслях, і засцілала белай скацеркай”* (Купрацэвіч Г.М., 1922 г.н., в. Дуброва Жыткавіцкага р-на), *“гаршчок з кашай ставяць у вугал на сена”; “сцялілі пад скацерць салому”* (Папко Н.І., 1928 г.н., в. Пухавічы Жыткавіцкага р-на; раней пражывала ў в. Бялёў); *“Калі зварвалася куцця, то яе ставілі на покуць. Сюды ж клалі і варашок сена. Пакуль не звечарэе, куццю ніхто не трогаў. Калі паяўляліся на небе зоры, уся сям’я сабіралас разам. Потым ужо гаспадыня на стол сабірала. Перад гэтым на стол лажылі сена, а паверх – палатняную скацерць. Тады ўжо ставілі пасярод стала куццю, а за ёй – астатнія блюды”* (Гаўрыловіч С.Ц., 1919 г.н., в. Кольна Жыткавіцкага р-на, раней пражывала ў в. Навуць); *“Пад скацерць лажылі сена, а пад сена трэба было палажыць яшчэ грошы. Гэта для таго, каб грошы вяліся ўвесь год, каб не пазычаць, каб усё ў сям’і было добра”* (Няшэвіч В.Д., 1937 г.н., в. Боркі Жыткавіцкага р-на); *“От, у вечар перад Рождзеством на стол кладуць сено, яке ляжыць да самога шчадраўца. Разам з сенам кладуць і грошы, якія называюць колядою. А робіцца гэта для таго, шоб ніколі не пераводзіліся грошы і булі круглы год”* (Юнчыц М.Д., 1944 г.н., в. Чэрнічы Жыткавіцкага р-на); *“З 6 на 7 студзеня – Посная Куцця. У вугалок, пад ікону, ставяць у гаршчочку куццю на сено і кладуць булачку хлеба. Гэтым як бы аддаюць дань Ісусу Храсту”* (Смоляр К.М., 1944 г.н., г. Жыткавічы, раней пражывала ў в. Бярозаўка Мазырскага р-на); *“На покуці, як абычна, яе ставілі і снапочак збажыны”* (Панчэня К.Л., 1924 г.н., в. Пагост Жыткавіцкага р-на), а таксама да паводзін за сталом: *“Хазяін доўжан сесці на покуць, а каля яго жонка і дзеці. Ну ўжо маліліся за сябе, за тое, каб було ўсё дагледжана, каб жылі багата, потым елі”* (Купрацэвіч Г.М., 1922 г.н., в. Дуброва Жыткавіцкага р-на); *“Куцця дзялілася гаспадаром”* (Уласава М.П., 1928 г.н., в. Кольна Жыткавіцкага р-на); *“На куццю запрашалі мароз:”Мароз, мароз, ідзі куццю есці! Калі прыйдзеш вясною, То будзем жалезнымі пугамі біць!”* (Папко Н.І., 1928 г.н., в. Пухавічы Жыткавіцкага р-на; раней пражывала ў в. Бялёў); “*Калі варылі куццю, то звалі: “Мароз, Мароз, хадзі куццю есці”. Пры*

*гэтым зачэрпвалі ложкай куццю і стукалі ёй па сцяклу вакна…. А перад тым, як есці саму куццю, яе верх збіралі і аддавалі курам, каб вяліся"* (Уласава М.П., 1928 г.н., в. Кольна Жыткавіцкага р-на); *"Садзіліся вечарам, каб уся сям'я вячэрала, бо калі не ўся, то гэта плахая прымета… Потым ждуць, што прыйдзе каза ў хату. Не тушаць агню, пакуль каза не прыйдзе"* (Панчэня К.Л., 1924 г.н., в. Пагост Жыткавіцкага р-на); *"Уся сям'я сабірала на стол і прыгожа прыбяралася. На вугал стала ставілі свечку, клалі пад скацерць сена, каб багата жылося і ў дастатке ўвесь год. Маглі пасыпаць трохі зерня і ячменя, проса, аўса і інш., каб скаціну было чым карміць і ўраджай лепшым быў. На гэта ўсё ставілі "багатую" куццю з ложкаю. Свечку ставілі абязацельна ў якое-небудзь зерне і запальвалі. Калі свечка гарэла добра, то шчыталі, што і жызнь у гэты год будзе спакойная. Калі "красны" вугал быў гатоў, то накрывалі на стол усе астатнія дvenaццаць блюд. Чаму – не знаю, але ў нашай сям'е заўсёды елі ложкамі на Каляды, можэт, ад бабулі перайшло, ніхто не ведаў, але так было заведзено.*

*Сядалі есці. Маці чытала "Отчэ наш", патом дзякавала за пражыты год, за ўраджай, за скаціну, за здароўе дзяцей і парадак у хаце Бога і мы елі. Яшчэ бралі ложку, набіралі ў яе куцці і падыходзілі да вакна. Стукалі ложкай у вакно і гаварылі: "Мароз, мароз, хадзі да нас куццю есці!"*

*Так гаварылі тры разы, а потым кожны з'ядаў сам па ложцы куцці"* (Купрыян Е.В., 1932 г.н., в. Пагост Жыткавіцкага р-на).

*"Другі дзень (8 января) называлі* ***Бабін дзень****. У эты дзень пеклі ладзі, варылі кашу і хадзілі ў госці да бабы, екая бабіла дзецей пры хрысцінах"* (Купрацэвіч Я.М., 1925 г.н., в. Пухавічы Жыткавіцкага р-на).

Прадстаўлены матэрыял дазваляе зрабіць вывад, што асаблівасці правядзення зімовых святаў адлюстроўваюць старажытнае светаўспрыманне жыццёвых рэалій, мастацкае асэнсаванне законаў прыроды і месца чалавека ў ёй.

* Выкарыстаны матэрыял архіва кафедры беларускай культуры і фальклрыстыкі ўстановы адукацыі "Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны".

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Народная культура Беларусі: Энцыкл. даведн. / пад агульн. рэд. В.С. Цітова. – Мн.: БелЭн, 2002. – 432 с.

УДК 392.91:398.3(476+470)

*К. Л. Хазанава*

# АСОБЫ Ў АБРАДАВЫМ ФАЛЬКЛОРЫ БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКАГА ПАМЕЖЖА

Даследаванне лексікі абрадавых песень беларуска-расійскага памежжа, адзначаных на Гомельшчыне, выяўляе колькасную групу найменняў асоб з дастатковай лексіка-тэматычнай дыферэнцыяцыяй. Сярод асабовых намінацый выдзяляюцца назвы паводле роднасці, прафесіі, узросту, сямейнага стану, знешнасці. Уласцівасцю абрадавых твораў з'яўляюцца памяншальна-ласкальныя формы і спарадычнае выкарыстанне спалучэнняў імён і імён па бацьку. Паколькі творы абрадавага фальклору захаваліся са старажытных часоў, то ўжытыя ў іх асабовыя імёны даюць падставы меркаваць аб адметнасцях антрапанімікону мінулага.

У народнай культуры захаваліся паслядоўныя і грунтоўныя, са шматлікімі складнікамі, абрадавыя цырымоніі, а ў фальклоры ўтрымліваецца вялікая колькасць адпаведных абрадавых твораў. Пры даследаванні лексікі памежных гаворак яскрава выяўляецца ўзаемаўплыў суседніх блізкароднасных моў. Лакалізацыя Гомельскай вобласці на памежжы беларускіх, рускіх і ўкраінскіх тэрыторый абумовіла міжмоўнае кантактаванне, адлюстраванае ў абрадавым фальклоры Гомельска-Бранскага пагранічча. Абрадавы фальклор Гомельшчыны і Браншчыны выяўляе доўгатэрміновыя і трывалыя сувязі беларускай і рускай моў, абумоўленыя і падмацаваныя наяўным у штодзённым маўленні жыхароў рэгіёна беларуска-рускім білінгвізмам.

Сярод шматлікіх паэтычных абрадавых твораў колькасную перавагу маюць песні, якія традыцыйна выконваліся падчас значных для сямейнага і асабістага жыцця чалавека падзей, а таксама арыентаваліся на падзеі гаспадарчага жыцця чалавека, былі прымеркаваны да сезонных гаспадарчых работ і шчыльна звязаны з кліматычнымі ўмовамі рэгіёна.

Каляндарна-абрадавы фальклор Бранска-Гомельскага пагранічча адрозніваецца жанравай разгалінаванасцю і мае адметнае лексіка-тэматычнае напаўненне. Для многіх абрадавых твораў уласціва выкарыстанне абрадавага слоўніка, у якім значнае месца займаюць найменні асоб.

Ужо некалькі стагоддзяў абрадавы каляндар усходніх славян пачынаецца зімой з калядных святкаванняў. Адрасаванасць калядак

на ўхваленне гаспадароў абумовіла ў іх складзе наяўнасць найменняў асоб па сацыяльным стане, роднасці, узросце:

***Пане-гаспадару***,

*Ці спіш, ці ляжыш?* (в. Роўкавічы, Чачэрскі р-н) [1, с. 23];

*Два **царэвічы – королевічы*** (в. Казацкія Балсуны, Веткаўскі р-н) [1, с. 27];

*Маладая **дзевачка** пер'е збірала* (в. Роўкавічы, Чачэрскі р-н) [1, с. 29];

*Ой, як будзіш ты маладую **жонку** браць* (в. Насовічы, Добрушскі р-н) [1, с. 33].

Назвы асоб успамінаюцца ў песнях іншых каляндарных абрадаў:

- масленічных:

*А ў нас сёння масленіца ж, масленіца,*
*Ды прыляцела ластавіца, ластавіца,*
*Села ў **пана** на таку, на таку*
*А **пан** кажа: "Засяку, засяку!"* (в. Мядзведжае, Чачэрскі р-н) [1, с. 37];

- вяснянках:

***Пан** па рынку ходзе, **паню** пабуждае* (в. Казацкія Балсуны, Веткаўскі р-н) [1, с. 75];

*Я ж буду прасць мычку*
*Стараму **дзеду** на рукавічку,*
*А старэнькай **бабульцы***
*На новую спаднічку* (в. Залессе, Чачэрскі р-н) [1, с. 41];

*Ой, намуцілі, ох, я **малада** прыстоі... У!*
*Прыстоіла – покуль вадзіца сусті... У!*
*А сустоіцца – у **мачыхі** – серце одойдзе... У!* (в. Шалухоўка, Веткаўскі р-н) [1, с. 43];

- восеньскіх ярынных:

*Былі ў полі дзве дарожкі торных,*
*Хадзіў **казак** да **дзевачак** позна* (в. Залессе, Чачэрскі р-н) [3, с. 74];

*Як у том чаўночку **паранёк** сядзіць* (Гомельскі павет) [3, с. 79].

Намінацыя асоб у абрадавым фальклоры даволі пашыраная. Песні захоўваюць вялікі пласт абрадавай лексікі, якая называе чалавека з розных бакоў. У гэтай лексіка-тэматычнай групе колькасна выдзяляюцца назвы па роднасці:

***Мамачка** ж мая, ты, віша...* У! (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 46];

*Што б была **жонка** любімка...* У! (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 47].

Назвы асоб паводле роднасці і сваяцтва ў абрадавых песнях Гомельска-Бранскага пагранічча маюць фанетычную і словаўтваральную

варыянтнасць, абумоўленую спецыфікай мясцовага вымаўлення, асаблівасцямі рыфмоўкі і ўплывамі суседніх гаворак:

*Не бяры сабе **дочар** панскаю* (в. Беседзь, Веткаўскі р-н) [1, с. 60];

*А бяры сабе **доч** хазяйскаю* (в. Беседзь, Веткаўскі р-н) [1, с. 60];

*І **жонка** молада, клала горада* (в. Беседзь, Веткаўскі р-н) [1, с. 58];

*Дзе **жана** плача – там расы німа* (в. Беседзь, Веткаўскі р-н) [1, с. 58];

*Ой, дзе **маць** плача – там рака цячэ* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 68];

***Маці** старая, **сястра** малая,*
*Ох і я, люлі, **сястра** малая* (в. Беседзь, Веткаўскі р-н) [1, с. 58];

***Матка** староанька, **сястра** маленька, ..*
***Жана** молада, дзеткі дробныя* (в. Неглюбка, Веткаўскі р-н) [1, с. 68];

***Братка** ж перайшоў – **сестра** ўтонула,*
*Ох і вой, люлі, **сестра** ўтону.. У!* (в. Шалухоўка, Веткаўскі р-н) [1, с. 62];

*А **брат** пірайшоў, сястра ўтнула,..*
*Ай, не пі, **брацяц**, ў той рэчкі воды* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 70];

*Дзе **матка** плачэ – там рака цячэ* (в. Казацкія Балсуны, Веткаўскі р-н) [1, с. 63].

Часам варыянтнасць абумоўлена стылістычнымі адметнасцямі, і афіксальныя ўтварэнні перадаюць пяшчоту і ласкавасць да родных:

*Ой, пусці, **мамачка** ж, да ў садок гуляць* (в. Беседзь, Веткаўскі р-н) [1, с. 78];

*А прыду к **мамачцы**, да **матка** сварыцца* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 79];

*Не ‘ддавай мяне, мая **мамачка**,*
*Ох і ой, люлю, мая **мама*** (в. Казацкія Балсуны, Веткаўскі р-н) [1, с. 80];

*А ўжо ж твая **матуленька** даўно кліча* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 87];

*Падкідая,*
*Свайго **сыночка** навучая... У!* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 47];

*Каралёў **сын**,*
*Узяў Гануську за ручаньку... У!* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 49];

*Прыказала:*
- *Не едзь, **дачушачка**, паперад вой... У!* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 48];

*Пусці, **татачка**, ў зялён сад гуляць* (в. Шалухоўка, Веткаўскі р-н) [1, с. 61];

*Да й табе ў **таткі** не векаваці* (в. Нелюбка, Веткаўскі р-н) [1, с. 65];

*Дзе **сястрычанька** – там крынічанька* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 68];

*Ой, панясу ж **татку** да на парадачку,..*

*Ой, парай, **татачка**, да добру радачку* (в. Беседзь, Веткаўскі р-н) [1, с. 78];

*Штодзень жа б'е,*

***Свёкарка-тата**, жалей мя... У!* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 47];

*Што **свёкар** каная,*

***Свякроўка** ўмірая* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 76];

*Ай і **свякрушачка** да й знаругаецца,..*

*Ай, не ўмееш ты да **свёкра** шанаваць* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 79];

*Я ж цябу пускаю – прасіся ў **дзяверкі**,..*

***Дзевярочак**, родны братка, пусці пагуляці* (в. Неглюбка, Веткаўскі р-н) [1, с. 84].

Заканамернае ў народных песнях ужыванне абрадавых назваў асоб паводле сямейнага стану:

*Ў цябе, мамачка, **халастой** хаджу,*

*Ох і я, люлі, **халастой** хаджу.*

***Халастой** хаджу, **нежанаценькі*** (в. Беседзь, Веткаўскі р-н) [1, с. 58];

*Жыла **ўдава**,*

*У тыя **ўдавы дзяцей** ні... У!* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 48].

Вылучаюцца таксама найменні асоб па ўзроставых характарыстыках і адносінах адзін да аднаго:

*Танок вядзе,*

*Шчэ й з **маладымі малодка**... У!*

*З **малодкамі**,*

*А шчэ й з маімі **падружка**... У!* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 46];

*Ты убі, стряла, добра **молайца*** (в. Беседзь, Веткаўскі р-н) [1, с. 58];

*Па том **молайцу** некаму плакаці* (в. Неглюбка, Веткаўскі р-н) [1, с. 67];

*Па садочку ж бег **малойчык**, ў гуслі граяя* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [в, с. 87];

*Парай, татачка, як з **нялюбом** жыць* (в. Шалухоўка, Веткаўскі р-н) [1, с. 61];

*Калі **люб** табе – да й **нелюбенькі**,*

*Калі **міл** табе да не **міленькі*** (в. Шалухоўка, Веткаўскі р-н) [1, с. 61];

*Ох, там **нялюбы** мой да за сталом сядзіць* (в. Казацкія Балсуны) [1, с. 80].

Сярод назваў асоб у абрадавым фальклоры Гомельшчыны маюцца і найменні паводле дзейнасці і нават ступені якаснага яе выканання:

*За **парабка**,*

*Да й **парабачка-гультаёчка**...У!* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 46];

*Не табе жана і не нам **слуга*** (в. Беседзь, Веткаўскі р-н) [1, с. 60];

***Канюхі** свішчаць, трох каней ішчаць* (с. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 71];

*За таго **казачаньку**, за маладога* (в. Неглюбка, Веткаўскі р-н) [1. с. 5].

Фіксуюцца ў песнях назвы асоб паводле паходжання, якія па словаўтваральных рысах з'яўляюцца імёнамі па бацьку:

***Старцоўна** плача – страцаваць хоча,..*

***Папоўна** плача – папаваць хоча,..*

***Царэўна** плача – царстваваць хоча* (в. Казацкія Балсуны, Веткаўскі р-н) [1, с. 71].

Абрадавы фальклор Гомельска-Бранскага пагранічча характарызуе ўказанне на асоб паводле знешнасці:

*Ў доме міленькі, **чарнабрывенькі*** (в. Шалухоўка, Веткаўскі р-н) [1, с. 62];

*А мой міленькі, **чарнабрывенькай*** (в. Неглюбка, Веткаўскі р-н) [1, с. 67];

*Ой, а ці **белага** да ці **румянага**, ..*

*Ой, ці Ванюшачку ж да **кучаравага**, ..* (в. Беседзь, Веткаўскі р-н) [1, с. 78].

Старажытны ўсходнеславянскі анамастыкон таксама захаваўся ў абрадавых фальклорных творах:

*Ой, **Іван** едзя – царэўну вязе...*

*Ой, **Ляксей** едзя – папоўну вязе,..*

*Ой, **Раман** едзя – старцоўну вязе* (в. Казацкія Балсуны, Веткаўскі р-н) [1, с. 71].

Фактычны матэрыял сведчыць аб пераважным выкарыстанні ў функцыі абрадавых лексем онімаў-дэмінутываў, якія маюць у абрадавых творах стылістычную нагрузку, ствараючы надзвычайную эмацыянальнасць фальклорных элементаў і перадаючы замілаванасць аўтараў і выканаўцаў героямі песні:

*Красна **Ніначка** піравоз дзяржала* (в. Казацкія Балсуны, Веткаўскі р-н) [1, с. 27];

*На той кладачкі **Віцячка** стаіць* (в. Насовіч, Добрушскі р-н) [1, с. 33];

*Вясна, вясна, вясняначка,*
*Дзе твая дачка* ***Уляначка****?* (в. Залессе, Чачэрскі) [1, с. 41];
*Ці малому*
*Да й* ***Цімошку*** *маладо... У!* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 46];

*Ой, там* ***Сашанька*** *ручнічкі ткала* (в. Неглюка, Втекаўсік р-н) [1, с. 66];

*Ой, ці* ***Ванюшачку*** *ж да кучаравага, ..* (в. Беседзь, Веткаўскі р-н) [1, с. 78];

*За таго* ***Ляксеячку****, за халастога* (в. Неглюбка, Веткаўскі р-н) [1, с. 85];

*Там жа гуляў моладзец, малады* ***Пятруська*** (в. Свабода, Веткаўскі р-н) [1, с. 98].

Сустракаюцца варыянтныя асабовыя памяншальныя ўтварэнні:

*Дзяцей німа,*
*Адна дачушка* ***Ганушa****... У!*
***Ганушачка****,*
*І тая з войскам збіра... У!*
*Збіраецца,*
***Ганусе*** *мамка прыказва... У!* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 48];
*Да стаенкі,*
*А* ***Ганусячку*** *ў святлічаньку... У!* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 49].

Зрэдку ў абрадавых творах ужываюцца поўныя імёны асобы – імя разам з імем па бацьку:

***Ганна Паўлаўна*** *ручнікі ткала* (в. Стаўбун, Веткаўскі р-н) [1, с. 69].

Адметна, што абрадавы фальклор прапануе сваё ўспрыманне такіх імён:

***Воленька Іванаўна*** *ў варотах стаіць... У!..*
***Ляксейка Васіллявіч*** *на коні едзе... У!* (в. Неглюбка, Веткаўскі р-н) [1, с. 85].

Даследаванне лексікі абрадавых песень беларуска-расійскага памежжа, адзначаных на Гомельшчыне, выяўляе колькасную групу найменняў асоб з дастатковай лексіка-тэматычнай дыферэнцыяцыяй. Сярод асабовых намінацый выдзяляюцца назвы паводле роднасці, прафесіі, узросту, сямейнага стану, знешнасці. Уласцівасцю абрадавых твораў з’яўляюцца памяншальна-ласкальныя формы і спарадычнае выкарыстанне спалучэнняў імён і імён па бацьку. Паколькі творы абрадавага фальклору захаваліся са старажытных часоў, то ўжытыя ў іх асабовыя імёны даюць падставы меркаваць аб адметнасцях антрапанімікону мінулага.

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыцыйныя жанры Гомельскай вобласці / уклад. В. А. Захарава і інш.; уклад. муз. часткі У. І. Раговіч. – Мінск: Універсітэцкае, 1989. – 384 с.

УДК 811.163'373.2:392.51 (476.2)

***Е. И. Холявко***

# ОСОБЕННОСТИ ЭВФЕМИЗАЦИИ ЛЕКСИКИ СВАДЕБНОЙ ОБРЯДНОСТИ ВОСТОЧНЫХ РАЙОНОВ ГОМЕЛЬСКОЙ ОБЛАСТИ

Статья посвящена социолингвистическим аспектам проблемы регламентации традиционных любовно- брачных отношений; выявляются особенности эвфемизации лексики свадебной обрядности; исследуется фольклорный материал, репрезентирующий свадебную обрядность Ветковского, Гомельского и Добрушского районов Гомельской области.

Работа выполнена в рамках проекта БРФФИ-РГНФ «Традиционные и современные практики социальной регламентации поведения молодежи в сфере любовно-брачных отношений на территории Восточного Полесья: этнокультурный и лингвогендерный аспекты» (№ Г15Р-041 от 04.05.2015). В статье анализируется фольклорный материал, репрезентирующий свадебную обрядность Ветковского, Гомельского и Добрушского районов Гомельской области.

Под социальной регламентацией применительно к свадебной обрядности мы понимаем совокупность норм и процедур, определяющих формы ритуальной деятельности. Устойчивость свадебной обрядности поддерживается высокой семиотической значимостью ее элементов, придающих соответствующим номинациям широко известное символическое наполнение. Среди них *хлеб*, *каравай,* характеризующиеся прочной символической маркированностью жизни, счастья и благополучия [3, с. 429] (*Калі каравай удаваўся, то лічылася, што жыццё ў маладых будзе добрае і багатае* (д. Глыбовка, Ветковский р-н)) [2, с. 68]; *рушнік,* являющийся наименованием ритуального предмета, призванного обеспечить защиту переходного этапа, ровность и гладкость совместной дороги молодых, связать новых родственников (*А былі вянцы, ой, дарагія, харошыя былі. Парэнь дзержа дзевачку сваю. Рушнік кладуць пад ногі, пад чатыры ўглы*

*кладуць залатыя капейкі, старынныя былі такія капейкі, эта пад венец у цэркві. Дзевачку і хлопца звязвалі палаценцамі, і бацюшка водзя іх кругам там такога століка і даваў ім такое віно піць, а тады ўжо бацюшка пасвеціць этыя калечкі, а ўжо жаніх даўжон дзевачкі надзець калечка, а дзевачка даўжна жаніху надзець калечка* (п. Новая Жизнь, Гомельский р-н)) [6, с. 213], выявить «чэснасць» невесты (*Тады ўводзяць нявесту ў хату, раскладваюць рушнік і сыпяць на рушнік зерне. А бабы выглядвалі: еслі нявеста чэсная, то яна стане на зерне, а еслі нет, то становіцца так, толькі плаццем прыкроет зерно, штоб, не дай Бог, не пагрэшыць* (д. Новая Гута, Гомельский р-н)) [6, с. 210]; *парог*, символизирующий границу, временную и пространственную, двух миров – своего, освоенного и чужого, неизведанного (*Уступіла Манечка на парог, Махнула ручанькай на парог. Свайго дзіцяці на пасад заві* (д. Грабовка, Гомельский р-н)) [6, с. 185] и др.

На основе анализа фактического материала можно сделать вывод об особенностях эвфемизации слов и выражений свадебной обрядности. Как правило, наблюдается замена не столько грубых, вульгарных и бранных слов, сколько неподходящих, неуместных в соответствующей ситуации. Кроме того, такая замена может быть вызвана ритуальной табуизацией. Она очевидна, например, в ритуальных диалогах при сватовстве: сваты представляются купцами (*Заходзяць у хату са словамі: "Добры вечар! У вас – тавар, у нас – купец! Сабой наш хлопец – маладзец!"*), людьми, способными освободить залетевшую птицу (*Птушка заляцела к вам у двор, а мы здольны яе выпусціць*) (д. Корма, Добрушский р-н) [4, с. 205]. Невеста в таких диалогах чаще всего иносказательно именуется *цялушкай* или *вутачкай*: *Заходзячы ў хату, сваты не садзіліся адразу, а пыталіся пра цялушачку* (д. Роги, Гомельский р-н) [6, с. 220]; *Ідзець сват з жаніхом сваім і гавораць, што: "Ці заблудзілася наша цялушачка? Мы прыйшлі яе ўжэ звадь". А сваха: "Тут, тут, ё такая, зашла, пашла, жыла, тут яна такая" <…> У дзевачкі спрашываюць: "Ці любіш ты нашага хлопчыка?". А яна: "Ну, так ні так, а ўжэ так нада, ды ўжо ж так?". Яна ўжэ і выходзіць замуж, дзевачка, тое сагласіе дае* (п. Новая Жизнь, Гомельский р-н) [6, с. 213]; *Заходзяць у хату і гавораць: "Так, мы шлі па вашай дзярэўне, цёлку купіць хочам". – "У нас цёлкі няма", – адказваюць. "А што ў вас ё?" – "Да адны дзеўкі". – "А ў нас жаніх ё". – "Дык давайце сватацца"* (д. Тереховка, Добрушский р-н) [1, с. 168]; *Калі прыходзілі ў сваты, то спявалі: -- Ой, добры дзень, Добрыя людзі, Вось мы к вам. Ці не заляцела Наша вутачка к вам? – Ой, заляцела Да на шасток села. Мы рады вам* (д. Глыбоцкое, Гомельский р-н) [6, с. 180] и др.

Эвфемизация в свадебной обрядности характеризуется глубокой символичностью, образностью и прочной контекстуальной связью с традицией. Степень устойчивости этой связи обусловливает локальную или узуальную идиоматичность отдельных выражений. Приведем несколько примеров такой зависимости. Вне обрядового контекста затруднительно определить смысл выражений (*вести*) *з вішнёвым дзеравам*, свидетельствующего о целомудрии невесты: *Яшчэ на други дзень пасля бясед вяли нявесту к жаниху. Вяли з вишнёвым "дзеравам". Брали ветку вишни и навязвали на яе лентачки. Их рвали з простыни после першай ночы нявесты щ жаниха. "Дзерава" не всегда было, тольки тады, кали нявеста была чэсная* (д. Новая Гута, Гомельский р-н) [6, с. 216]; *цягаць палатно, палавік*, выражающего прием имитативной магии при венчании, имеющий целью ускорить замужество незамужних: *Бацюшка мяняе перстні, водзіць па цэркві. Сцеляць кусок палатна, маладая стараецца каблуком цягаць палатно, штоб з іхняга кагала дзеўкі быстра замуж ішлі* (д. Азделино, Гомельский р-н) [6, с. 179]; *Тады паехалі ў царкву <…> а там становяцца на палавік, на палатно, калісь жа палатно было, на вуглы грошы кладуць, а дзеўкі, што вянок дзяржаць, потым цягнуць палавік, каб замуж пайсці* (д. Марковичи, Гомельский р-н) [6, с. 206–207]. Символический смысл выражения *цягаць ступу, калодку* тот же, однако соответствующий обычай, направленный на преодоление безбрачия, имеет характер социального принуждения: *Калі на заручынах прысутнічае стары халасцяк, то яму прывязуюць ступу і прымушаюць у наказанне цягаць ступу за тое, што ён доўга не жэніцца* (д. Рудня-Маримонова, Гомельский р-н) [1, с. 161].

Только в обрядовом контексте можно восстановить исходный смысл эвфемистического выражения *драць курэй: А на трэці дзень ішлі да жаніха "драць курэй". Сабіраліся вечарам. Хто больш багаты, той прыносіў жывую курыцу. Ёй адсякалі галаву, шчыпалі і варылі* (д. Новая Гута, Гомельский р-н) [6, с. 216]. Закономерно эвфемизируется сексуальный и мифологический компоненты семантики. Курица в фольклоре имеет устойчивые ассоциации с молодой женой, в мифологии воплощает в себе продуцирующее женское начало. Блюда из курицы являются непременной принадлежностью свадебного стола. Ими заканчивалась традиционная свадьба. Названия заключительного этапа свадебного обряда в говорах Гомельщины подробно проанализированы А.А. Станкевич [5, с. 125–129].

Особенностью эвфемизации рассматриваемых слов и выражений можно считать их неразрывную связь с обрядовым действием.

Процесс эвфемизации отражает общественную оценку соответствующего явления, культурные предпочтения носителей языка и глубинную реакцию коллективного бессознательного на неустойчивость ситуации, изменение статуса субъекта. В этом отношении показательны широко распространенные фразеологизмы *звязаць рукі* ‘женить’, *чэсаць (часаць) касу, расплятаць касу, завіваць касу, прадаць, прапіць, прайграць касу* (*Усе жадаюць маладым шчасця. Патом бацька дае дачцэ ікону і праважае яе ў жыццёвы пуць. Дочка прося прашчэння, цалуе ікону, забірае яе. Сват, які быў перавязаны рушніком, снімае яго з сябе, абодвух маладых звязвае ім і выводзіць на вуліцу* (д. Передовец, Ветковский р-н) ) [1, с. 123]; *Наша Юлечка ў чацвер была вясёла, / К вянцу збіралася, касу часала* (д. Речки, Ветковский р-н) [1, с. 101]; *Як нявесту забіраюць, дык маладой касу расплятали. Брат касу прадае: “Ну, сват, плаці за касу!”. Касу нявесціну ці закруцяць, ці завяжуць. На галаву чапец надзенуць, а нявеста скідае тры разы і аб парог кідае* (г. Ветка) [1, с. 153]; *Калі ўсе бацькі ў яе ё, каса застаецца ўся заплеценай, калі бацькі няма, паўкасы заплецена. А калі маткі і бацькі, то ўсю касу расплятали. Адразу бачна было: дзеўка – сірата* (г.п. Тереховка, Добрушский р-н) [1, с. 169]; *Нявесту садзяць на пасад і хіхляць: хросная маці расплятае касу і робіць хіхлю. Не дай Божа, гэтай дзеўцы ўжо зараз на людзях паявіцца з касой* (г.п. Тереховка, Добрушский р-н) [1, с. 172]; *Калі выкупалі нявесту, гаварылі: / За русу касу – сто рублей, / За мяне, малайца, чырвонца, / Кладзі чырвонец, хоць і два, / Наша Дунечка не ўдава* (д. Шерстин, Ветковский р-н) [1, с. 136]), означавшие прощание с девичеством и символический переход в женскую социальную группу. Все идиомы сохраняют прочную связь с мотивирующим их обрядовым действием.

На наш взгляд, предмет исследования представляется перспективным, поскольку имеет ключевое значение не только для решения этнолингвистических задач, но и для изучения социальных аспектов развития человека, традиционных взаимоотношений разных полов и поколений, стабильности современного общества.

**Список использованных источников**

1. Вяселле на Гомельшчыне : фальклорна-этнаграфічны зборнік / Укладанне, сістэматызацыя, тэксталагічная праца і рэдагаванне І.Ф. Штэйнера, В.С. Новак. – ЛМФ “Нёман”, 2003. – 472 с.

2. Вясельная традыцыя Гомельшчыны : фальклорна-этнаграфічны зборнік / Укладанне В.С. Новак; Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны. – Мн.: Права і эканоміка, 2011. – 485 с.

3. Ізотава, В.В. Семіятычная сістэма традыцыйнага вясельнага абрадава-паэтычнага комплексу (на матэрыяле Гомельскага раёна) / В.В. Ізотава // Народная духоўная спадчына Гомельскага раёна / Укладанне, сістэматызацыя, тэксталагічная праца і рэдагаванне В.С. Новак. – Гомель: ААТ “Полеспечать”, 2007. – С. 429–433.

4. Новак, В.С. Рэгіянальна-лакальныя асаблівасці фалькларных традыцый Добрушчыны / В.С. Новак // Зямля чароўная дабра : Добрушскі край : гісторыя і сучаснасць / Пад агульнай рэдакцыяй А.А. Станкевіч. – Гомель: ААТ “Полеспечать”, 2008. – С. 161–259.

5. Станкевіч, А.А. Канец – справе вянец : назвы паслявясельнага этапу шлюбнай абраднасці ў гаворках Гомельшчыны / А.А. Станкевіч // Известия Гомельского государственного университета имени Ф. Скорины. – 2015. – № 1 (88). – С. 125–129.

6. Сямейная абраднасць і паэзія // Народная духоўная спадчына Гомельскага раёна / Укладанне, сістэматызацыя, тэксталагічная праца і рэдагаванне В.С. Новак. – Гомель: ААТ “Полеспечать”, 2007. – С. 170–252.

УДК 811.161.2/.3'42:398.8

***О. В. Яковлєва***

## СИМВОЛЬНА МОВА УКРАЇНСЬКИХ І БІЛОРУСЬКИХ НАРОДНИХ ПІСЕНЬ

У статті автор подає своє розуміння складним і неоднозначним поняттям у лінгвістиці, що пов’язані з феноменом символу; описує символічні значення окремих лексем, які є частотними в текстах українських і білоруських народних пісень, таких як *вода*, *вінок*, *калина* та інших. Обґрунтовується виділення самостійного міждисциплінарного напряму – лінгвістичної симвології, об’єктом якого став би феномен символу, а предметом – символічні значення синкретичних символів: вербальних, предметних і акціональних.

Феномен символу і символічні значення цікавили освічених людей з давніх-давен. Огляд окремих теорій символу, розмежування символу і знака, починаючи з ідей Арістотеля і Платона, зробив Ц. Тодоров [10]. Сучасні філософи, культурологи, фольклористи та лінгвісти продовжують різноаспектне студіювання символу (див. роботи М. Мамардашвілі, О. П’ятигорського, М. Савельєвої, М. Дмитренка, З. Василько, Н. Слухай, О. Яковлєвої та інших).

Символічні значення у слов'янській народній поезії у свій час блискуче описав О. Потебня [7]. Засновником символізму в Україні вважаємо Г. Сковороду [15, с. 150–154]. Актуальними і неоднозначними у сучасній лінгвістиці є поняття: *символьна мова*, *символічне значення*, що також стали об'єктом уваги нашої розвідки.

Поняття *символьна мова*, запропоноване у роботах Н. Слухай, застосовуємо в широкому значенні, згідно з чим обсяг цього поняття не обмежується лише лінгвальними маркерами, а містить увесь комплекс символічних репрезентацій – вербальних, акціональних, предметних синкретичних символів [16, с. 2].

Багатовимірне поняття символьної мови має певні характеристики: 1) символьна мова – це спосіб кодування і збереження прадавньої картини світу як результату міфологічного осмислення дійсності; 2) символьна мова наявна в сакральних текстах, які є джерелом знань про національні особливості світосприйняття і до яких належать, зокрема, народні пісні; 3) символьна мова віддзеркалює специфіку архаїчного світосприйняття, отже, виступає об'єктом вивчення і когнітивної лінгвістики, і лінгвокультурології.

Лінгвістичне тлумачення символу насамперед стосується лексем із символічним значенням, що називають предмети, явища, дії тощо за принципом «все в усьому», тобто мають полісемантичну природу. Акціональні та предметні символи у фольклорних текстах, зокрема й у текстах народних пісень, так само наділені символічним значенням, яке виражається мовними засобами при описанні тих чи інших подій, ситуацій тощо і яке кардинально відрізняється від лексикографічного значення своєю стереофонічністю, глибиною, багатоаспектністю. Складність феномену символічного значення, пріоритет у необхідності його лінгвістичної кваліфікації, ґрунтованої на синтезі знань із психології, культурології, етнології та ін. наук, на наше глибоке переконання, створює умови для виокремлення самостійного наукового напряму – *лінгвістичної симвології* (лінгвосимвології), що дасть підстави долучитися до створення загальної теорії символу з урахуванням значного матеріалу з інших галузей знань. Припускаємо, що лінгвістична символогія у майбутньому – це міждисциплінарний напрям, для якого символьна мова і феномен символу стали б основними об'єктами вивчення, а символічне значення – його предметом [16, с. 20–21].

Майже в усіх міфологіях світу наявна символіка вогню і води, але прадавнє значення цих стихій як чоловічого і жіночого начала не завжди прозоре. Вогонь і Вода стоять на початку світотворення, як чоловік і жінка при народженні людини. Саме шлюбові Води й Вогню

присвячено день Купала, де зустрічаємо і вогнища, і купання або обливання водою.

Дощ, що спадає на землю, – це вода, запліднена вогнем, світлом, і від нього все родить. Відгомін цих уявлень зберігається в піснях, баладах, повір'ях та обрядовості українців – робить висновок Л. Іваннікова [13, с. 33].

У народних віруваннях усіх слов'ян закріпилося уявлення, що навесні Ярило-Сонце відчиняє небо і випускає тепло, дощ та росу на землю. В результаті відбувається «запліднення» Землі-матері. У білоруській народній пісні збережено саме таке символічне значення: *Юрий, вставай рано, выпускай росу на теплое лето, на буйное жито, на ядреное, колосистое, людям на здоровье* [2, с. 117].

В українській веснянці з Волині співається: *Та Урай матку кличе: та подай, матко, ключа одімкнути небо, випустити росу, дівоцьку красу* [14, с. 148].

Академік Ю. Карпенко вважав, що найдавнішим періодом (або першим етапом протослов'янського язичництва) був водно-рослинний етап, коли обожнювана субстанція води і дерева сама по собі була *богом-подателем* без будь-якої антропоморфізації чи одухотворення. З розвитком культу вогню лексема *бог* набула сенсу *вогонь,* який залишився у похідних словах: *багаття*, *багатий*, *убогий*, *Дажбог* [4, с. 23].

Одне з найдавніших символічних значень *води* є значення *жіночого начала*, що яскраво представлено у народних текстах. Вірогідно, це символічне значення є давнішим за символічне значення вогню як чоловічої запліднюючої сили, бо пов'язане з епохою матріархату, яка змінилася патріархатом, і тоді вже чоловіче начало вважалося головним.

О. Потебня провів паралель між символічним значенням світла, води та дівочої краси. Блиск води асоціювався з веселощами і сміхом [7, с. 55]. Дівчата, як правило, зустрічалися з хлопцями біля води, де й зароджувалося кохання. Тексти білоруських і українських народних пісень підтверджують таке значення: *«Ой, реченька, реченька, что же ты не полная? Ой люли, люли, что же ты не полная? Что же ты не полная, с бережком не ровная? Ой люли, люли, с бережком не ровная?» «Ой, как же мне полной быть, с бережком вровень быть? Ой люли, люли, с бережком вровень быть? – Ясь коней своих поил, Дуня воду черпала, ой люли, люли, Дуня воду черпала!»* [2, с. 116]; *На річечці кладочка лежала, на кладочці панночка стояла, на всі боки заглядала, заглядала, звідки милий виїде, виїде* [14, с. 126]; *Там дівчина воду брала та й набрала, набрала, ще й козака соколоньком та й назвала, назвала* [1, с. 65].

Чиста вода із студеной криниці або з річки, мала символічне значення дівочої цноти: *Заручена Настя, заручена молодая. Подай, Настенько, водици із студеной криници, … моя водица дорога – дорожча меду і вина: по місяцу вичерпана, по ясній зорі несена, бо моя водица дорога – дорожча меду і вина* [12, с. 164].

Отже, подавати воду парубкові самому напитися чи напувати коня має таке символічне значення: *дівчина готова до кохання і віддається хлопцю*. У білоруській пісні річка «*не полная, с бережком не ровная*», тому що *Дуня воду черпала, а Ясь коней своїх поил.*

Наступний текст білоруської пісні у перекладі на російську ще яскравіше ілюструє таке символічне значення: *В поле под ветлой криница с водой. Приходила молодая девка за водой. Девка за водой, – хлопец над водой: «Напои мне вороного, под ветлой постой!» «Рада б постоять, коню воды дать – не обула белых ножек, холодно стоять!»* [2, с. 115]. У даному контексті дівчина відмовляє хлопцю, бо розуміє, на що він натякає, але вона береже свою цноту. Українська пісня: …*там дівчина воду брала, з козаченьком розмовляла. Козак коня наповав, з дівчиною розмовляв, дівчину підмовляв* [12, с. 76].

Коли *до криниці заросла стежина* чи *криницю засипало піском*, то такі акціональні символи означають нещасливе кохання; розставання парубка і дівчини. Проілюструємо це текстом української народної пісні у перекладі на російську мову: *Да не это ль та криница, где голубь купался? … Да не это ль та девица, с которой я знался? Да не это ль та криница, где я воду пил? … Да не это ль та девица, что я так любил? … И давно уж к той кринице тропы заросли… И давно уж к той девице сваты в дом пришли. Ой, уже из той криницы орлы воду пьют… Ой, уже мою девицу под венец ведут… Засыпало ту криницу, занесло песком… Повенчали ту девицу с другим козаком…* [2, с. 13–14].

Крім виділених символічних значень, у наведеному тексті символами є і птахи: *голуб* – символізує закоханого хлопця; *орли-хижаки* – чужинців-сватів, які забрали кохану дівчину. В усіх міфологіях і різних культурах світу голуб – це птах з полісемантичним символічним значенням. Символіка голубів з часів античності, біблійна символіка і символічне значення цього птаха у народних віруваннях описані у різних джерелах [8, с. 162–166; 3, с. 141–143]. У народних, так само, як і у весільних обрядових піснях, голуб символізує парубка, голубка –дівчину. *Слухати гудіння голубів* має символічне значення: *засвататися і покинути свій рід*; *два голуби* символізують любовно-шлюбні стосунки: фігурками голубів

оздоблюють весільний коровай. Два голуби нарізно символізують невірність. У піснях часто зустрічаються такі акціональні символи: голуби разом п’ють воду, а потім розлітаються – означає розлуку; голуби п’ють воду, цілуються і крильцями обіймаються – означає згоду між закоханими. Голуб без пари має символічне значення самотнього чи покинутого парубка [3, с. 142]. Останнє закріпилося у тексті білоруської народної пісні «Галя»: *Паселі, гэй, лубы па гарохаў’ю как усе й, как усе, гэй, лубы гарох клююць. Толькай адзін, толькай адзін, гэй, лубок, ня п’ець, ня есць, на сваюй, на сваю галубку паглядаіць. Што яго й, што яго й галубка замечана крылышкам. Праваяй крылышка, ох, да адсечана. Ай я-яй я-яй я-яй ай я-яй я-яй я-яй; ай я-яй я-яй я-яй ай я-яй я-яй я-яй. Паселі госцейкі па застолейку, как усе, как усе. Госцікі і п’юць-ядуць, толькій адзін, толькій адзін Сашачка ня п’ець, ня есць, на сваюй, на сваю Галечку паглядаіць, што яго, што Ягой Галечка замечына косанькай* [17].

М. Сумцов описав традицію вінкоплетіння у різних народів і наголосив, що у слов'ян вінки в'ють на весняні й літні свята, на весілля, навів легенду про походження вінка з пір'я пави [9, с. 68-75]. Символічні обрядові дії з рослинами навесні й літом мали суто практичне значення: надати сили та здоров'я ослабленій після зими людині, бути запорукою гарного врожаю. Завиваючи й заплітаючи довгі гілки верби й берези або виготовляючи вінки, люди вірили, що у такий спосіб можна зібрати докупи родючі сили землі, міць живої природи, яка весною оживала, перемагаючи смерть. Текст білоруської пісні ілюструє саме таке значення: *Пойдем, свет-девица, в луга-лужочки завивать веночки на годы добрые, на рожь на густую, на ячмень колосистый, на овес росистый, на гречку черную, не капусту белую!* [2, с. 117].

Купальські ворожіння в українців і білорусів з вінками мали свою символічну семантику: апотропеїчну або оберегову, продукуючу та цілющу; за допомогою купальських віночків дівчата прогнозували своє весілля і навіть смерть. Білоруська народна пісня «Купалінка» саме про це: *Купалінка-купалінка, цёмная ночка, цёмная ночка, а дзе ж твая дочка, цёмная ночка, а дзе ж твая дочка. Мая дочка у садочку ружу, ружу поліць, ружу, ружу поліць, белы ручкі коліць, ружу, ружу поліць, белы ручкі коліць. Кветачкі рвець, кветачкі рвець, вяночкі звівае, вяночкі звівае, слёзкі пралівае, вяночкі звівае, слёзкі пралівае* [17].

Тексти усної народної творчості донесли не тільки художньо відображену давню флору й фауну українських і білоруських земель,

а й зовсім інші взаємини людини з природою, що віддзеркалено, зокрема, на лексичному й граматичному рівнях обох слов’янських мов. Чітким було розмежування рослинної символіки стосовно чоловіка і жінки. Міфологізацію категорії роду стосовно «чоловічих» та «жіночих» дерев у віруваннях слов'ян частково описав М. Толстой [11, с. 333–340].

Так, калина, береза, верба, будь-яка квітка і т. д. – назви рослин у жіночому роді - виступали символами дівчини або жінки:

Мовні образи листя на деревах, його квітів і плодів, гілок, коріння - все в народній уяві набувало символічного значення: *Туман яром по долині, лист широкий на калині. Й а ще ширший на дубочку, кличе голуб голубочку: - Іди, серце, поцілую, хоч не свою, то чужую...* [6, с. 360]; - *Ой каліна, ти каліна, в рєчкє талая вода, розкажи ти, ти каліна, як попала ти сюда. - Как-то ранньою весною парень бравий прискакав, довго, довго любувався, а потом з собою взяв. Обещал мєня, каліну, посадіть в свойом саду, не довьоз до дома, бросів, думав, шо я пропаду. А я за землю вцепілась, корні бросіла свої, і навєки посєлілась в роще там, де солов'ї...* [ там само, с. 495].

З білоруських народних пісень «Калінка» і «Ружа кветка»: *Ні праўдзівая калінка (2 р.) казала цвісці ня буду. Як прыйшла вясна расцвіла, ажно ростачкі пусціла. Ніпраўда твая, Галечка (2 р.), казала замуж не пайду (2 р.), як прыехаў Сашачка дык пайшла, родную мамачку кінула. Ні праўдзівая калінка, ніпраўда твая Галечка...*; *Як вазьму я ружу кветку, ды пушчу на воду, плыві-плыві, ружа кветка, да самога броду. Плыла-плыла ружа кветка, ды стала круціцца. Выйшла маці воду браці, пачала дзівіцца. Ой, ты мая ружа кветка, чаму ж ты завяла. Пэўна доўга ты, дзіцятка, на вадзе ляжала. Ўзяла маці ружу кветку, палажыла ў хаце. Ды як гляне ўспамінае, аб сваім дзіцяці* [17].

Символ як феномен зароджувався на тлі живої природи. Все, що спостерігала людина в рослинному світі, ставало підґрунтям для появи у вже існуючих лексемах символічного значення: молоде листя дерев асоціювалося і з дівчиною, і з її одягом. Воно означало нове й надзвичайно красиве вбрання для дівчини, що було пов'язане з близьким весіллям. У результаті - зелене листя стало символом шлюбу, опадання листя - символ розлуки [Потебня, с. 64-65]: *Висока верба, тонка галузка зелений лист пускає; велика, люба, тяжка розлука серденько уриває. Ой, вербо, вербо, де ти росла, що твоє листячко вода знесла? Висока верба, висока верба широкий лист пускає, велика любов, тяжка розлука - серденько зниває* [5, с. 33; 37].

З часом символічне значення опадаючого листя розширилося до втрати дівчиною свого кохання: *Осиплеться жовтеє листя із липки додолу кругом, минають літа молодії, не верниш коханічко знов. До липки ще листячко верне, і липка не раз зацвіте, до мене кохання не верне, і так моя жизнь пропаде* [6, с. 455].

У білоруській пісні опадання листя є символом розлуки матері й дочки: *Под лесом, леском березка с листом всю осень шумела. – Листочек зелёненький мой, как же нам расставаться? – Березка моя, белая моя, легко нам расставаться: солнце пригреет, ветер повеет – упаду я на землю. В темной горенке дочка с матушкой всю ночь говорила. – Мамочка моя, родная моя, как же нам расставаться? – Дитятко моё, милое моё, легко нам расставаться: сваты приедут, тебя заберут, а я тут останусь!* [2, с. 139].

Антропоморфність рослин характерна і білоруським, і українським народним пісням: … *Что в моей стороночке три зеленых сада, – три зеленых сада да все три вишневые. Что в первом садочке явор густолистый, а в другом садочке яблонька кудрявая, а в третьем садочке груша да с отростками. Явор густолистый – батюшка мой старый, яблонька кудрявая – матушка родимая, груша да с отростками – жена моя с детками* [2, с. 144-145]; *Ой, да над яром, яром да три садочка рядом, да все три зеленеют, да все три расцветают. Что в том первом садочке соловейка щебечет, а во втором садочке кукушка куковала. А во втором садочке кукушка куковала, а и в третьем садочке мать с сыночком стояла: «А скажи, мой сыночек, кто из нас трех милее: женушка, или теща, иль родная матуся?»…* [2, с. 22].

Представлена розвідка у статті наочно демонструє, що духовність українського і білоруського народу, як безцінний дар, закарбована у світогляді наших пращурів, а сучасність ми зможемо осягнути через її тісний зв'язок з тими моментами в минулому, з якими вона має таємну спорідненість.

Плідними у майбутньому в межах запропонованого нами напряму *лінгвосимвології* вважаємо дослідження, що пов'язані з подальшою реконструкцію символічних значень на всіх мовних рівнях у проекції на широку жанрову дискурсивну перспективу текстів не тільки слов’ян, а й інших народів.

**Список використаних джерел**

1. Василечко Л. Таїна весільного обряду / Л. Василечко. – Івано-Франківськ : Тіповіт, 2006. – 127 с. 2. Глоба Андрей. Песни народов СССР.

– М.: Государственное издательство художественной литературы, 1947 г. – 816 с.

3. Жайворонок В. В. Знаки української етнокультури : словник-довідник / В. В. Жайворонок. – К.: Довіра, 2006. – 703 с.

4. Карпенко Ю. О. Слов'янська міфологія і український фольклор / Ю. О. Карпенко // Мова та стиль українського фольклору : зб. наук. пр. / відп. ред. Ю. О. Карпенко. – К., 1996. – С. 22–33.

5. Килимник С. Український рік у народних звичаях в історичному освітленні : [у 3 кн., 6 т.]. Кн. 2, т. 3 : Весняний цикл ; т. 4 : Літній цикл / С. Килимник. – Факс. вид. – К.: Обереги, 1994. – 528 с.

6. Народні пісні / записи Людмили Єфремової. – К. : Наукова думка, 2006. – 575 с.

7. Потебня А. А. Символ и миф в народной культуре / Сост., подг. текстов, статья, коммент. А. Л. Топоркова. – М.: Лабиринт, 2007. – 480 с.

8. Славянские древности. Т. 1, с. 516; Энциклопедический словарь символов / Авт.- сост. Н. А. Истомина. – М.: ООО «Издательство АСТ»: ООО «Издательство Астрель», 2003. – 1056 с.

9. Сумцов Н. Ф. Символика славянских обрядов : избранные труды / Н. Ф. Сумцов ; сост. и подготовка текста и коммент. А. К. Байбурин. – Москва: Восточная литература, 1996. – 296 с.

10. Тодоров Ц. Теории символа / Перевод с французского Б. Нарумова. – М.: Дом интеллектуальной книги, Русское феноменологическое общество, 1998. – 408 с.

11. Толстой Н. И. Язык и народная культура. Очерки по славянской мифологии и этнолингвистике / Н. И. Толстой. – Москва: Индрик, 1995. – 512 с.

12. Українські народні пісні в записах Зоріана Доленги-Ходаковського. – К.: Наукова думка, 1974. – 782 с.

13. Українські символи / [М. Дмитренко, Л. Іваннікова, Г. Лозко, Я. Музиченко, О. Шалак] ; за едакцією М. Дмитренка. – К.: Ред. часопису «Народознавство», 1994. – 140 с.

14. Цехміструк Ю. Народні пісні Волині : фонографічні записи 1936–1937 років / Ю. Цехміструк ; джерельні матеріали та видання Богдана Столярчука ; відчитання та заг. ред. Б. Луканюка. – Львів; Рівне, 2006. – 480 с.

15. Яковлєва О. В. Обрядовий дискурс у системі національної лінгвоментальності: монографія / О. В. Яковлєва. – Одеса: «Одеський національний університет імені І. І. Мечникова», 2014. – 396 с.

16. Яковлєва О. В. Символьна мова українського обрядового дискурсу в системі національної лінгвоментальності: автореф. дис. д-ра філол.. наук: 10.02.01 / О. В. Яковлєва. – Одеса, 2015. – 38 с.

17. Режим доступу: http://aphorisms.su/pesni/belorusskie_pesni/kalinka.html

# Гісторыя мовы. Дыялекталогія. Тапаніміка

УДК 811.161.3’373.211(476.2-37 Рэчыца)

***Н. А. Багамольнікава***

## МІКРАТАПАНІМІЯ ВЁСКІ ВЕДРЫЧ РЭЧЫЦКАГА РАЁНА І ЯЕ НАВАКОЛЛЯ

У артыкуле раскрываецца спецыфіка мікратапонімаў адной з вёсак Рэчыцкага раёна ў сувязі з іх узнікненнем і асаблівасцямі функцыянавання.

Пад тэрмінам *мікратапанімія* разумеецца сукупнасць уласных найменняў прыродных, радзей створаных чалавекам фізіка-геаграфічных аб’ектаў, якія маюць вузкую сферу ўжывання (ад гр. mikros ‘вельмі малы, дробны’, topos ‘мясцовасць’ і onyma ‘імя’). Да мікратапонімаў адносяцца назвы лясоў, палёў, урочышчаў, лугоў, малых па памеры балот, сенажацей, пашаў, ручаёў і інш. Такія назвы функцыянуюць у межах невялікіх тэрыторый, вядомы вузкаму колу людзей, што жывуць побач. У выніку ствараюцца нязручнасці і цяжкасці для збору фактычнага матэрыялу. Менавіта гэтым можна патлумачыць той факт, што яшчэ адна важная праблема – пытанні мікратапаніміі – на сёння распрацавана недастаткова. Мікратапанімія як асобная вобласць выдзелілася з тапаніміі і адрозніваецца ад апошняй тым, што ў ёй экстралінгвістычныя фактары праяўляюцца больш выразна.

Праведзены агляд навуковых прац па мікратапаніміі дазваляе канстатаваць, што ў яе даследаванні існуе лакуна: вывучаліся альбо толькі некаторыя рэгіёны: Слаўгарадчына (І.Я. Яшкін), Случчына (Я.М. Адамовіч), Стаўцоўбшчына (А.М. Прышчэпчык), наваколле Гомеля (А.Ф. Рогалеў), Мазырскае Палессе (Г.А. Іванова), Магілёўшчына (В.І. Рагаўцоў і С.Я. Кечык), альбо асобныя населеныя пункты: вёска Кудрычы Мсціслаўскага раёна (Г.Ф. Юрчанка), вёска Любонічы Кіраўскага раёна (І.М. Гайдукевіч), вёскі Красноўскага с/с Светлагорскага раёна (В.І. Рагаўцоў), вёска Смалегаў Нараўлянскага раёна (аўтарам гэтага артыкула) і інш. Між тым, прапрыяльная лексіка – таксама цікавы пласт, што захоўвае ўказанне на заняткі людзей у мінулым, іх гаспадарку, геаграфічнае асяроддзе, у якім жылі людзі, раслінны і жывёльны свет. Мікратапанімія з’яўляецца вельмі карысным

матэрыялам для вывучэння краязнаўства, дыялекталогіі, геаграфіі, гісторыі. Назвы выхоўваюць і прывіваюць любоў да роднага краю, “гэта россыпы народнай мудрасці, творчасць народнага генія, вынік тонкіх назіранняў чалавека над навакольнаю прыродаю” [1, с. 8].

У дадзеным артыкуле мы зробім спробу раскрыць спецыфіку мікратапонімаў в. Ведрыч у сувязі з іх узнікненнем і асаблівасцямі функцыянавання.

Населены пункт заснаваны ў 1920 г. на беразе правага прытока ракі Днепр Ведрыч (адсюль яго і найменне) жыхарамі в. Васілевічы, якую спалілі польскія войскі. 5 сямей вырашылі асвоіць за 6 км ад Васілевіч невялікую пясочную граду сярод балот. Асушэнне балот паспрыяла інтэнсіўнаму росту вёскі [2, с. 321]. Назва ж прытока матывуецца лексемай *вёдра* ‘ціхае, яснае, сонечнае і сухое надвор’е’) [ 3, с. 114]. У якасці неафіцыйнай назвы вёскі зафіксаваны яе варыянт *Лугас*, які суадносіцца, мяркуем, з апелятывам *луг*, што абазначае на Палессі ‘прырэчную сенажаць’, ‘забалочаны лес, парослы травой’.

Сярод жыхароў існуюць легенда і версія аб узнікненні наймення роднай вёскі, якія мы запісалі са студэнтамі філалагічнага факультэта ГДУ імя Ф. Скарыны падчас дыялекталагічнай экспедыцыі.

…Жыла ў нашых мясцінах дзяўчына-сірата па імені Ведрыца. Была яна прыгожая, працавітая, добрая і спагадлівая. Працавала Ведрыца на пана, жала жыта ў полі разам з іншымі сялянкамі. Тут яе і ўбачыў паніч. Спадабалася яму дзяўчына, і прымусіў ён яе насіць ваду з крыніцы да панскага стала. Крыніца – яе лічылі святой – выбівалася з-пад зямлі ля высокага пагорка, на якім стаяў белакаменны палац. Лёс Ведрыцы быў трагічны: паніч пазабавіўся з беззабароннай сіратой, а потым яна яму надакучыла. Не захацела Ведрыца вяртацца ў вёску, не мілы стаў ёй белы свет, страціла яна жаданне жыць, радавацца сонейку, усміхацца людзям. Пайшла небарака да крыніцы і кінулася ў бяздонне. Але здарылася нечаканае: з крыніцы раптам пацякла рэчка. Людзі назвалі яе Ведрыцай па імені загінуўшай сіраты. Вакол Рэчыцы ў мясцовых гаворках рачулку называюць як Ведрыччу, так і Ведрыцай. Ведрыца, якая стала рэчкай, пацякла ў бок Дняпра і на шляху да вялікай ракі сустрэла яшчэ адну, такую ж, як і сама, падманутую дзяўчыну-рэчку. Разам яны пацяклі да магутнага Дняпра і звярнуліся да яго са словамі: “Вазьмі нас, бацюхна, з сабой, дапамажы ў горы”. Днепр не толькі ўзяў дзяўчынак-рэчак з сабой у дарогу на поўдзень, але і паклікаў вецер і хмары з сіняга мора. Загудзела, затраслася зямля, успенілася дняпроўская вада, разваліўся панскі палац, патануў пышны паніч у водах Дняпра. А каля крыніцы на месцы палаца пасяліліся людзі.

Па словах вяскоўцаў, тут даўней і праўда былі непраходныя лясы, поўныя птушак і звяроў, дзікія рачулкі, у якіх кішэла рыба. Паўсюдна залягалі сонныя, дрымучыя балоты, у якіх вадзіліся чэрці. Толькі дужыя і смелыя людзі маглі тут пасяліцца.

Версія жыхароў вёскі звязвае назву Ведрыч-Ведрыца са старажытнай індаеўрапейскай каранёвай асновай са значэннем ‘вада’. У індаеўрапейскай міфалогіі, з якой генетычна звязана міфалогія славян, *вада* разумелася як жаночы пачатак (запісана ад Жукавай Юліі Рыгораўны, бібліятэкара Ведрыцкай сельскай бібліятэкі).

Нашымі інфарматарамі з’яўляюцца вучні мясцовай школы, бібліятэкар Жукава Юлія Рыгораўна, што палявым метадам сабралі і занатавалі мікратапанімічны матэрыял вёскі, які мы і прааналізуем на структурна-семантычным узроўні ў дадзеным артыкуле.

Мікратапанімія – гэта сукупнасць тых назваў, “дробных геаграфічных аб’ектаў”, якія дадзеным, замкнутым і абмежаваным “гаворачым калектывам” успрымаюцца як адзінкі, што валодаюць унутранай формай, г.зн. як частка паўсядзённага вопыту [4, с. 31]. Іншымі словамі, у аснову мікратапаніміі пакладзены асаблівасці ўспрыняцця з’яў дадзеным моўным калектывам. З характэрных уласцівасцей мікратапаніміі лінгвістамі адзначаюцца такія, як блізкасць да агульных імён, матываванасць і наяўнасць унутранай формы [4, с. 31]. Фактычны матэрыял выяўляе ў асноўным два тыпы матывацыі ў найменнях дробных аб’ектаў в. Ведрыч і яе наваколля: мікратапонімы, матывавальныя асновы якіх характарызуюць: а) асаблівасці навакольнага ландшафту і тапаграфіі; б) матэрыяльную культуру, занятак насельніцтва.

У першым тыпе шырокі дыяпазон мае група найменняў, прадстаўленая назвамі-арыенцірамі: *За б**а**зай* (тут і далей назвы падаюцца ў мясцовым маўленні) – назва поля за запраўкай, *За б**а**ней* – поле на трэцім участку за баняй, *За б**а**шней* – лес у канцы вёскі, *За в**о**зерам* – месца ў лесе Паляшын, *За кан**ю**шней* – назва поля, *За Мядз**е**дкай* – поле за канавай Мядзедка, *За Рабянк**о**м* – назва поля, *За ф**е**рмай* – назва поля, *Каля ф**е**рмы* – назва поля, *Ля д**у**ба* – месца ў парку, *Ля м**о**гілак* – назва поля, *Зар**э**цкі* – лес за ракой Ведрыч. Адзначаныя назвы ўказваюць на размяшчэнне аб’ектаў на мясцовасці і матывуюцца адказамі на пытанні: за чым? дзе? каля чаго? У якасці арыенціраў выступаюць прыкметы тапаграфіі і ландшафту мясцовасці, асобныя прадметы, пабудовы, зрэдку прозвішчы або мянушкі людзей, месцамі пасялення якіх заканчваліся вуліцы, вёскі.

Асаблівасці навакольнага ландшафту і тапаграфіі адлюстроўваюцца ў мікратапонімах *Астраўк**і***, *В**о**страў* – месцы ў лесе

(*востраў* ‘узвышанае месца’, ‘частка сушы, акружаная балотам ці вадой’), *Барок* – поле каля лесу Катосталь, *Бярэзнік* – назва месца ў лесе, у якім растуць адны бярозы, *Гарэльнік* – лес, які згарэў, *Горка* – узвышанае месца на адной з вуліц вёскі, *Дубовая рошча* – месца, дзе растуць дубы, *Казлоў лес* – назва лесу каля в. Рассвет, *Ляды* – назва поля і хутара, дзе пасяліліся першыя жыхары вёскі (*ляда* ‘месца, на якім быў высечаны лес’), *Растанцы* – назва перакрыжавання дарог (матывуецца дзеясловам *расставацца* або *расстацца)*, *Сасоннік* – назва лесу, у якім растуць сосны, *Тарфянік* – назва поля на тарфу, *Чырвоны вугал* – назва лесу (*вугал* ‘частка лесу, якая вуглом у нешта ўразаецца: у балоцістае месца, поле, сенажаць’. Кампанент *Чырвоны* можа сведчыць аб наяўнасці лісцёвага лесу, які восенню “гарыць” рознакаляровым лісцем).

Да адной з пашыраных груп семантычнага мікратапанімікону вёскі Ведрыч адносяцца найменні, асновы якіх звязаныя з жыццём і дзейнасцю чалавека: *Басейн* – назва копанкі на трэцім участку, *Буравая* – месца каля буравой вышкі, *Буртполе* – назва месца за фермай, дзе захоўваюць бульбу ў буртах, *Гарадзінка* – месца ў лесе на трэцім участку (адгароджаны для нейкіх мэт участак), *Гусятнік* – месца, дзе пасвіліся гусі, *Завод* – назва трэцяга ўчастка, на якім быў пабудаваны завод па вырабу кармавой мукі, *Зернаток* – месца знаходжання зерняскладаў, *Кар’ер* – копанка па дарозе на Васілевічы, *Катлаван* – пажарны вадаём, *Капаныш* – назва фермы (ад *капаць*), *Кашара* – назва агароджанага месца для выпасу кароў, *Копанка* – назва штучнага вадаёма, у якім купаюцца дзеці, *Кралятнік* – назва месца, дзе была ферма, на якой разводзілі трусоў (мясц. *кроль* ‘трус’), *Паздбішча* – назва поля, месца выпасу кароў (мясц. *паздбішча* ‘паша’), *Рабы мост* – мост на канаве, *Рубанікі* – месца за Васілевічамі (у ім адбылася высечка лесу або хмызняку), *Свінарнік* – месца знаходжання былой свінафермы, *Стройдвор* – назва месца, дзе размяшчаецца будаўнічая брыгада вёскі, *Фірма* – так называюць гараж, дзе стаіць машына, на якой возяць людзей на працу.

Адзінкавыя найменні фіксуюць тыпы пасяленняў: *Пасёлак* – асобная частка вёскі (*пасёлак* ‘невялікае пасяленне недалёка ад вёскі, горада’; ‘новая вуліца ў вёсцы, якая ўзнікла з жыхароў-высяленцаў’ [6, с. 200]), *Хутар* – ранейшае месца пасялення першых жыхароў вёскі (*хутар* ‘адасоблены зямельны ўчастак з адной сядзібай; двор’ [6, с. 200]), духоўную культуру: *Юбілей* – назва фермы.

Як сведчаць тлумачэнні, асушаныя месцы (цяпер палі) і лес вакол вёскі разбіты на ўчасткі, асобныя з якіх захоўваюць толькі

нумарацыю: *Трэці ўчастак*. Навакольная мясцовасць у выніку меліярацыйных работ перарэзана шматлікімі канавамі, што таксама пранумараваны: *Дваццаць першая канава*, *Дваццаць другая канава*.

У самой вёсцы некалькі вуліц маюць паралельныя неафіцыйныя найменні. Напрыклад, вул. *Юбілейная* знаходзіцца ў цэнтры населенага пункта, таму называецца і *Цэнтральнай*, *Прытачылаўка* – вуліца, што забудоўвалася значна пазней за асноўную (ад *прытачыць* ‘дадаць яшчэ частку, каб пабольшыць, нарасціць’). Адзінкавае найменне па сэнсавым змесце нясе адмоўную канатацыю: *Дурдом* – так жыхары вёскі называюць васьмікватэрны дом па вуліцы Школьнай.

Назвы дробных аб’ектаў разнастайныя па форме і могуць адлюстроўваць вялікі аб’ём паняццяў, выкарыстоўваючы мясцовую лексіку, аднак тым не менш свае сакрэты раскрываюць не заўсёды. Сярод іх зрэдку сустракаюцца тыя, што маюць няясную матывему, як, напрыклад, *Катосталь* (назва лесу за Кашарай). У такім выпадку мы можам выказаць толькі меркаванне. У структурных адносінах, думаем, найменне складаецца з дзвюх частак: *кат* і *сталь*, звязаных паміж сабою пры дапамозе злучальнай галоснай. Першая частка па сваёй унутранай форме сугучна з лексемай *кат*. Старажытны тэрмін *кат* мае шырокі арэал, прымае актыўны ўдзел у фарміраванні тапаніміі Еўраазіі і з’яўляецца шматзначным: ‘дом, хата’, ‘умацаванне’, ‘пасёлак’, ‘горад, абнесены сцяной і акружаны рвом’, ‘частка вёскі’, ‘воінскі стан’, у Беларусі – ‘турма’, ‘куратнік’ [3, с. 263–264]. Другая лексема *сталь* на Гомельшчыне вядома як ‘частка, столка’: *Маці ручнік, бувало, згорне у дзве сталі да і ўдарыць свого дзіцяці* [5, с. 94]. Лес вакол, відаць, быў тоўсты, прыгодны для будаўніцтва жылля, хат.

Па спосабе ўтварэння мікратапонімы в. Ведрыч падзяляюцца на тры групы:

1. Простыя, г.зн. тыя, што ўспрымаюцца як адна аснова. Яны ўтвораныя шляхам: а) анімізацыі, ці пераходам апелятываў у мікратапонім: *Астраўкі*, *Барок, Басейн, Бярэзнік, Востраў, Горка, Гусятнік, Завод, Катлаван, Кашара, Копанка, Кралятнік* (па аналогіі з *трусятнік), Ляды, Паздбішча, Пасёлак, Сасоннік, Свінарнік, Тарфянік, Фірма, Хутар, Юбілей.* Адзначаныя мікратапонімы блізкія да агульных імён. У сваёй большасці гэта метанімічныя ўтварэнні, у якіх назвы ландшафту, тапаграфіі, пабудоў, тыпаў пасялення перанесены без змен на геаграфічны аб’ект і ў аснове якіх ляжыць апелятыў (агульнае імя); б) марфемным спосабам, у прыватнасці суфіксацыі: *Гарадзінка, Гарэльнік, Капаныш, Прытачылаўка, Растанцы, Рубанікі*. Такія найменні ўтвораны ад дзеясловаў пры дапамозе топафармантаў *-інка*,

-*льнік* ці -*нік* (калі ад *гарэлы*), -*ыш*, -*аўка*, -*цы*, -*нікі*. Іх утварэнне можа суправаджацца марфаналагічнымі з’явамі накладання (Гарадзінка ад *гарадзіць*), нарашчэння асновы (Капаныш ад *капаць,* Прытачылаўка *ад прытачыць*), камбінацыяй з’яў: адначасовага накладання, нарашчэння і ўсячэння асновы (Растанцы ад *расстаца*). Конфіксныя ўтварэнні сустракаюцца зрэдку: *Зарэцкі (за ракой* + суфікс -*ск* са з’явамі чаргавання і накладання).

2. Складаныя, якія ўключаюць дзве асновы: *Буртполе, Дурдом, Стройдвор.* Элементы, што ўваходзяць у склад складаных мікратапонімаў, маюць таксама празрыстую структуру, у якой выразна выдзяляюцца дзве паўназначныя асновы (Буртполе – *бурт* і *поле*, Зернаток – *зерне* і *ток)*, аб’яднаныя без злучальнай галоснай і пры яе дапамозе, або першыя асновы з’яўляюцца ўсечанымі (Дурдом – *дурны дом*, Стройдвор – мясц. *страіцельны* ‘будаўнічы’ *двор*).

3. Састаўныя мікратапонімы (г.зн. тыя, што маюць два і болей слоў) утвораны сінтаксічным спосабам. У іх выяўляецца некалькі мадэлей, што адрозніваюцца характарам кампанентаў: а) назвы-арыенціры ў выглядзе прыназоўнікава-іменных канструкцый: прыназоўнік *за* + апелятыў-назоўнік у форме Тв. склону адз. ліку ўсіх трох родаў: *За базай*, *За баней*, *За башней*, *За возерам, За канюшней, За фермай.* Разнавіднасць мадэлі а) прыназоўнік *за* + онім у форме Тв. склону адз. ліку ўсіх трох родаў: *За Мядзедкай, За Рабянком*. Прыназоўнік *за* ў назвах-арыенцірах паказвае на месца мікратапоніма, што знаходзіцца далей, на другім баку якога-небудзь іншага аб’екта; б) прыназоўнік *каля/ ля* + назоўнік у форме Р. склону адз. або мн. ліку: *Каля фермы*, *Ля дуба*, *Ля могілак*. Канструкцыя ўказвае на месца мікратапоніма, які знаходзіцца паблізу іншага аб’екта; в) кваліфікацыйныя мікратапонімы – састаўныя па структуры найменні ў форме Н. склону: *Дубовая рошча*, *Казлоў лес*, *Рабы мост*, *Чырвоны вугал.* Першы кампанент у іх складзе з’яўляецца дэтэрмінуючым. У якасці дэтэрмінатара выступаюць прыметнікі ўсіх трох разрадаў: якасныя, адносныя, прыналежныя, другім словам – апелятывы, якія ўказваюць на навакольны раслінны свет ці асобныя прадметы, размяшчэнне ў прасторы; г) трохкампанентныя назвы ў форме Н. склону: *Дваццаць першая канава*, *Дваццаць другая канава*. Азначальныя кампаненты ў прадстаўленай мадэлі выражаны парадкавымі састаўнымі лічэбнікамі, у якасці азначаемага задзейнічаны ландшафны тэрмін.

Марфолага-сінтаксічны спосаб у мікратапаніміі вёскі Ведрыч не з’яўляецца тапанімічна прадуктыўным. Пры яго дапамозе ўтворана толькі адно найменне: *Буравая*. Аднак у іншых беларускіх рэгіёнах

сучасны стан мікратапаніміі ўтрымлівае субстантываваныя прыметнікі даволі часта [1, с. 71–75].

Такім чынам, мікратапанімія в. Ведрыч сведчыць, што асноўным заняткам яе жыхароў здаўна з’яўляюцца земляробства і жывёлагадоўля. Па гэтай прычыне семантычныя тыпы матывацыі абмежаваны асновамі, звязанымі з жыццём і дзейнасцю чалавека, што праходзілі пры яго непасрэдных зносінах з геаграфічным асяроддзем. Дакладны час заснавання населенага пункта дазваляе аднесці ўзнікненне назваў геаграфічных аб’ектаў вёскі да сінхранічнай мікратапаніміі, якая мае рэальную грамадска-гістарычную і геаграфічную аснову.

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Адамовіч, Я.М. Мікратапанімічныя назвы / Я. М. Адамовіч. – Мінск: Вышэйшая школа, 1971. – 112 с.

2. Гарады і вёскі Беларусі: давед. выданне / С. В. Марцэлеў // Гомельская вобласць. Т. 2. Кн. 2. – Мінск: Беларуская Энцыклапедыя. – 2005. – 518 с.

3. Мурзаев, Э. М. География в названиях / Э. М. Мурзаев. – М.: Наука, 1979. – 163 с.

4. Беленькая, В.Д. Топонимы в составе лексической системы языка / В.Д. Беленькая. – М.: МГУ, 1969.–166 с.

5. Тураўскі слоўнік: у 5 т. / АН БССР, Ін-т Мовазнаўства імя Я.Коласа. Т. 5. : С–Я / [склад. А.А. Крывіцкі, Г.А. Цыхун, І.Я. Яшкін і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1987. – 423 с.

6. Яшкін, І. Я. Беларускія геаграфічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія / І. Я. Яшкін; рэд. д. філ.н. М. В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1971. – 256 с.

УДК 811.161.3:392. 91 (476.2)

***У. А. Бобрык***

## МЯНУШКІ ВЕТКАЎСКАГА РАЁНА

Аб’ектам даследавання, вынікі якога прыведзены ў артыкуле, з’явіліся мянушкі Веткаўскага раёна. Прааналізаваны матэрыял сведчыць, што мянушкі складаюць значны пласт лексікі ў гаворцы. Рашаючымі фактарамі іх утварэння і ўжывання з’яўляюцца народны гумар і назіральнасць камунікантаў. Мянушкі могуць служыць гістарычнаму даследаванню жыцця народа не ў меншай ступені, чым іншыя помнікі

культуры і побыту, літаратуры і мовы. Калі па асобных мянушках цяжка акрэсліць іх каштоўнасць, то сабраныя ў вялікай колькасці, яны ілюструюць шмат рысаў побыту беларусаў.

Мянушкі як неафіцыйныя імёны шырока ўжываюцца ў паўсядзённым жыцці вяскоўцаў і ўяўляюць сабой аб'ёмны лексіка-семантычны пласт лексікі. Адметнасць вулічнай мянушкі ў тым, што яна, выконваючы намінатыўную функцыю, указвае на аднаго чалавека, на ўласцівыя яму спецыфічныя рысы і не толькі называе асобу, але і трапна характарызуе яе, таму большасць мянушак носяць эмацыянальна-ацэначны характар.

Даследчыкі называюць наступныя асноўныя прычыны ўзнікнення мянушак: недастатковую колькасць афіцыйных асабовых назваў у параўнанні з патрэбамі камунікантаў: "Ні адна мова (і беларуская не складае выключэння) не мае ў сваім звароце столькі асабовых імён, каб імі можна было без паўтарэння назваць усіх членаў таго ці іншага грамадскага калектыву" [1, с. 54], імкненне да дакладнай персаніфікацыі пэўнай асобы, выдзяленне яе па якой-небудзь прыкмеце з пэўнага калектыву, асяроддзя [2, с. 118].

У якасці мянушкі можа ўжывацца практычна любое слова, вядомае вяскоўцам. У асноўным гэта агульнаўжывальныя літаратурныя лексемы, хаця шырокаўжывальнымі з'яўляюцца і дыялектныя.

Сабраны намі ў час дыялекталагічных практык багаты фактычны матэрыял дазваляе вылучыць шматлікія лексіка-тэматычныя групы вясковых мянушак. Найбольш шматлікую групу складаюць найменні, што характарызуюць псіхічныя якасці асобы. У асноўнай сваёй масе яны нясуць адмоўную характарыстыку. У мянушках падкрэсліваюцца наступныя асаблівасці чалавека:

■ *вучоны, шмат вучыцца, усё ведае*: **Ачкарык*** (в. Рэчкі**);

■ *гаваркі*: **Лапатуха** (в. Радуга), **Ямеля** (в. Піралёўка), **Бараболіха** (в. Хальч);

■ *гняўлівы, сварлівы*: **Журка** (в. Пыхань), **Цігра** (в. Свяцілавічы);

■ *задзірысты, аматар пабіцца*: **Бадзюля** (в. Прысно), **Пятух** (в. Барчанкі);

■ *злы, злосны*: **Аўчарка** (г. Ветка), **Кобра** (в. Барчанкі), **Кіска** (в. Радуга);

■ *неахайны*: **Ахламон** (в. Хальч), **Абезьяна** (в. Піралёўка), **Фантамас** (в. Хальч), **Хіпі** (в. Пыхань), **Курыца** (в. Рэчкі**), **Юдзіха** (в. Навасёлкі);

■ *нелюдзімы, заўсёды адзін, не мае сяброў*: **Воўк** (в. Піралёўка);

■ *палахлівы, баязлівы*: **Заяц** (в. Барчанкі);

■ *пітушчы, пiток, злоўжывае спіртным*: **Кобза (**в. Радуга), **П'яной** (в. Барчанкі), **Вішанка** (в.Дзевятае Студзеня**), **Лакізон** (в. Рэпішча), **Сінюк** (в. Шарсцін), **Шкалік** (в. Неглюбка);

■ *пляткар*: **Матайка** (в. Прысно), **Сабачка** (в. Радуга);

■ *скупы, сквапны*: **Дзяркач** (в. Свяцілавічы), **Кулак** (в. Шарсцін), **Коршак** (в. Рэчкі**);

■ *упарты*: **Баран** (в. Пералёўка);

■ *усюды ўлазіць, умешваецца*: **Вінт** (в. Свяцілавічы), **Пекуза** (в. Радуга), **Шныр** (в. Жалезнікі);

■ *шкодлівы, шкоднік*: **Шчупак** (в. Прысно).

■ *едкі, уедлівы, колкі, востры на язык*: **Кактус** (в. Рэчкі**), **Мазоль** (в. Залаты Рог);

■ *пануры, сумны, маўклівы:* **Кіслае малако** (в. Прысно), **Кот** (в. Пералёўка);

■ *хітры, ліслівы:* **Ліса, Ліска, Лісіца** (в. Пералёўка);

■ *хуткі, спрытны, неўтаймаваны нораў*: **Кручаны** (в. Барчанкі), **Чорт** (в. Пералёўка);

■ *разумова абмежаваны*: **Баран** (в. Жалезнікі), **Лапаць** (в. Хальч), **Хамут** (в. Прысно).

Многія вясковыя мянушкі характарызуюць асобу паводле знешняга выгляду, фізічных асаблівасцей, паталагічных адхіленняў. Такімі вулічнымі найменнямі называюць чалавека, калі яго добра ведаюць:

■ *колер валасоў:* **Белы Іван** (в. Рэчкі**), **Белка** (в. Прысно), **Варона** (в. Радуга), **Манька чорная** (в. Навасёлкі);

■ *колер твару:* **Варэнік** (в. Хальч), **Карась** (в. Радуга), **Красны** (в. Пыхань), **Персік** (в. Навасёлкі);

■ *мажны*: **Бугай** (в. Барчанкі), **Мядзьведзь** (в. Залаты Рог);

■ *дужы, моцны:* **Дуб** (в. Пыхань), **Конь** (в. Прысно), **Крэпак** (в.Рэчкі**), **Лось** (в. Радуга);

■ *тоўсты і непаваротлівы*: **Бочка** (в. Пыхань), **Борман** (в. Свяцілавічы);

■ *глухі*: **Глушэц** (в. Рэчкі**);

■ *гарбаты*: **Гарбун** (в. Жалезнікі);

■ *кульгавы*: **Гуляй нага** (в. Прысно), **Кашалапка** (в. Пыхань), **Кундубас** (в. Неглюбка), **Храмянок** (в. Радуга), **Шуркін кастыль** (в. Рэчкі**);

■ *сляпы*: **Кот Базіліо** (в. Шарсцін);

■ *без нагі, вуха :* **Крук** (в. Пыхань), **Аднакрылы** (в. Барчанкі);

■ *з вялікай галавой:* **Гарбуз** (в.Рэчкі**) , **Качан** (в. Прысно);

Лексіка тэрытарыяльных гаворак, уяўляючы сабой шматразгалінаваны слоўнікавы пласт беларускай мовы, – тая крыніца, адкуль папаўняецца лексічны склад сучаснай літаратурнай мовы. У народнадыялектнай мове беларусаў адлюстраваны шматлікія моўныя гістарычныя з'явы і заканамернасці, прычым адны з іх не пакінулі слядоў ва ўнармаванай мове, другія атрымалі ў гаворках своеасаблівае развіццё. Гэтымі прычынамі абумоўлена карпатлівая праца вучоных-лінгвістаў над мясцовай лексікай розных рэгіёнаў нашай рэспублікі, markdown рознабаковае вывучэнне дыялектнага лексікона.

У побыце беларусаў палатняныя і скураныя рэчы як вырабы з натуральнай сыравіны спрадвеку займалі пачэснае месца. Вырабы, зробленыя з палатна, – гладкай льняной тканіны асобага перапляцення, – даволі разнастайныя: гэта прадметы адзення, абрусы, палотны, посцілкі, ручнікі і інш. Рэчаў са скуры жывёл таксама налічваецца вельмі шмат: ад абутку і адзення да розных прадметаў бытавога ўжытку.

Аб'ектам нашага даследавання з'явіліся найменні некаторых палатняных і скураных вырабаў для гаспадарчых патрэб, што ўжываюцца ў сучаснай беларускай літаратурнай і народна-дыялектнай мове Гомельшчыны, зафіксаваны ў пражскіх выданнях беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара Францыска Скарыны. Крыніцай даследавання з'явіліся "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" [6], дыялектныя слоўнікі Гомельскага рэгіёну [2, 7, 9], "Слоўнік мовы Скарыны" [4].

Палатняныя і скураныя вырабы выкарыстоўваліся для розных гаспадарчых патрэб, у тым ліку як 'прадметы дамашняга ўжытку для перавозкі, пераноскі або захоўвання чаго-небудзь' (гэта так званая *тáра* – тое, у чым захоўваецца ці перавозіцца тавар' [6, V/1, с. 476]).

***Мех*** – гэта 'прадмет дамашняга ўжытку для захоўвання і перавозкі сыпучых цел, дробных рэчаў і пад., зроблены з полкі, складзенай папалам і сшытай з дзвюх роўных полак, сшытых з трох бакоў' [6, III, с. 145]. На Тураўшчыне маюцца фанетычныя асаблівасці ўжывання літаратурных лексем *мех*, *мяшóк*, памяншальнай формы *мяшóчак* (Параўн.: *Прыв'ёз тры м е х í пшэніцы, несéце да кормéце куры*; *Санкамі прывезлі два м é х а рыбы*; *Просунуўса, як м е ш ó к, і не озваўса*; *Трэ і тобе мешэ́чок мукі узяць*; *Прыдзе з нішчымным м е ш э́ ч к о м* [7, III, с. 79]). У Петрыкаўскім раёне са значэннем 'мяшок' выкарыстоўваецца лексічны сінонім ***чувáл*** (***чувáла***): *Дастаў новы ч у в á л са скрыні*; *Картошку ў ч у в á л у сыпем* [2, X, с. 124].

У мове выданняў Францыска Скарыны "даволі шырока ўжываецца лексіка, звязаная з бытавой і гаспадарчай сферамі" [1, с. 173].

У тэкстах пражскіх выданняў беларускага асветніка зафіксавана лексема ***мехъ*** (*Іосифъ…отвязавъ единъ м е х ъ*) разам са словаўтваральнымі варыянтамі ***мешекъ*** (*Запечаталъ еси якобы въ м е ш е к у безакония моя*), ***мешецъ*** (*Милостыня мужева якобы м е ш е ц ъ его съ нимъ, и ласка человѢка яко зреницу око сохранить его*) і ***мещцехъ*** (*Мерило и вага судьбы господня суть, и дело рукъ его все камение въ м е ш ц е х ъ*) [4, I, с. 320–321].

***Тóрба*** згодна з Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы – гэта ‘невялікі мяшок (звычайна даматканай тканіны)’ [6, V/1, с. 498]. Нарматыўная адзінка *тóрба* ўжываецца ў гаворках Лоеўшчыны (*Рэптухаў нема цепер, е т ó р б ы*; *Ну і беруць субар еты у конскую т ó р б у*), з’яўляецца мнагазначнай і выкарыстоўваецца таксама са значэннямі ‘школьная сумка’ (*Ідзе у школу, а т ó р б а па зямле цягнецца*) і ‘жаночая сумка’ (*У нашай Тэклі чатыры т ó р б ы: і беленькая, і жаўценькая, і зялёная, і красная*) [9, с. 358].

***Кáйстра*** – гэта ‘дарожная торба, заплечны мяшок’ [6, II, с. 579]. Дадзеная намінацыя фіксуецца ў народна-дыялектнай мове беларусаў са значэннямі ‘торба з палатна’, ‘торба са скуры’. У гомельскіх гаворках ужываецца з ніжэйпералічанымі значэннямі: ‘1) торба’: *Цэлая к á й с т ра сахару стаіць загатоўлена* (Добр.); *К á й с т р а – торба для пастуха з хлебам* (Акц., Ветк., Гом., Калінк., Маз., Петр., Рэч., Светл.); 2) ‘мех’: *К á й с т р а напаўнялася пшаніцай* (Раг.); *Усып у к á й с т р у мукі* (Петр.); *Накапала я бульбы да абеду пяць к á й с т р*; *Сёння за дзень я сама набрала чатыры добрыя к á й с т р ы бульбы* (Маз.); 3) ‘кошык’: *Я табе палажыла ў к á й с т р у кусок хлеба з салам* (Светл.) [2, IV, с. 195]. У лоеўскіх гаворках, акрамя ўжывання са значэннем ‘торба’ (*Поўну к á й с т р у хлеба назбіралі старцы*), ужываецца са значэннем ‘школьная сумка’ (*У к á й с т р у кніжкі паклала*; *Онь Пілекава ідзе у школу: к á й с т р а цегаецца па зямле*). Памяншальнымі формамі тут з’яўляюцца лексемы ***кáйсцерка*** (*Пойдзеш кароў пайсці, складзі ета ў к á й с ц е р к у, а там з’ясі*) [2, IV, с. 195]; *Насыпала Сашы две к á й с ц е р к і проса*; *Калісь валы паслі, к á й с ц е р к і насілі, хлебец туды положым дай носім цэлы дзень*) і ***кáйстрачка*** (*Дай малую к á й с т р а ч к у*) [9, с. 147].

Са значэннямі ‘торба’, ‘кайстра’ ў мове пражскіх выданняў Францыска Скарыны зафіксавана найменне ***мошница***: *ПоспѢшиль Давыдъ и бежалъ противу ему, и выняль камень единъ зъ м о ш н и ц и и вложилъ до праще*; *Давыдъ…выбралъ собѢ пять каменковъ съ потока наилучнеишихъ, и вложилъ е въ м о ш н и ц у пастырскую* [4, I, с. 333].

Цікавым найменнем аброчнай торбы з'яўляецца дыялектызм ***зóпка***, які ўжываецца ў Мазырскім (*Ужэ паелі коні авёс з з ó п к і*) і Лельчыцкім (*Насыпала поўную з ó п к у сечкі каню і пайшла ў хлеў*) раёнах Гомельшчыны [2, IV, с. 183]. Па сведчанні П. У. Сцяцко, слова паходзіць ад усходнеславянскага *зобъ* – 'яда' і ўтворана з дапамогай суфікса *-к-а*; яго літаральнае значэнне – 'торба на яду' [5, с. 109]. Аднак паводле Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы найменне мае індаеўрапейскі корань **g'ebh-* 'дзюба, рот, есці' (прасл. *zobъ* 'корм,' *zobati* 'есці', ц.-слав. *зобь*' 'авёс', ст.-рус. *зобъ* 'корм' (XII ~XIV ст.), ст.-польск. і чэш. *zob* 'корм для птушак', славен. *zôb* 'цвёрды корм', сер.-харв. *зôб* 'гатунак жыта, авёс (на корм)', балг. *зоб* 'зерне для корму жывёлы'). Такім чынам, найменне *зóбка* (*зóпка*) мае наступную трансфармацыю: 'зерне (корм)' > 'месца для корму' > 'кош' > 'торба' [8, III, с. 343].

Паводле В. С. Цітова, ***шабéта*** – гэта "невялікая скураная сумка для дробных бытавых рэчаў: сцізорыкаў, крэсіва, люлькі, тытуню, манет, вабіка і інш. Насілі шабету справа на поясе або на рамяні (ці паяску), перакінутым праз плячо, яна мела дэкаратыўныя элементы ў выглядзе аплікацый, ціснення, махроў, кутасоў і т.п. Адпраўляючы ў дарогу (у лес, на сенакос, ворыва), селянін складваў неабходныя рэчы у больш умяшчальную палатняную сумку ці берасцяную вярэньку, якія выкарыстоўваліся замест шабеты ці разам з ёю" [3, с. 405]. У Тлумачальным слоўніку беларускай мовы намінацыя *шабéта* падаецца з паметай *абл.* (абласное слова), як 'сумка, якая носіцца на поясе' [6, V/II, с. 339]. Дадзеная лексема зафіксавана ў многіх раёнах Гомельшчыны: *Ш а б é т а добрая* (Хойн.); *З ш а б é т а й і на ахвоту хадзіў* (Браг., Рэч., Хойн.); *Ён прынёс у ш а б é ц і тры бутылкі малака*; *Он, ш а б é т у узяў і носіць*; *З ш а б é т а й пабегла разносіць пошту* (Лоеўск.). Намінацыя ўжываецца таксама са значэннямі 'скрынка' (*Падай тую ш а б é т у, пакладу пугаўкі* (Лоеўск.) [9, с. 416] і 'ранец' (*Бацька купіў ім ш а б é т у для кніжак* (Ветк., Рэч.) [2, X, с. 127]. На радзіме Івана Мележа – у вёсцы Глінішча Хойніцкага раёна – найменне ўжываецца таксама са значэннем 'кашалёк' (*Грошы толькі ў ш а б é т у кладзі*) і выступае ў пераносным значэнні як найменне для старой жанчыны (*От ш а б é т а старая, дома б сядзела ужэ*) [2, X, с. 127].

У розных раёнах Гомельшчыны дыялектнае найменне ***шáнька*** ўжываецца са значэннямі 'сумка', 'ранец': *Хоць ш á н ь к а і была вялікая, але яблыкі ўсе не ўлезлі* (Петр.); *Узяў абед у ш á н ь к у, закінуў за плечы і пайшоў пасвіць кароў* (Хойн.); *Як пойдзеш па*

*шчавель, вазьмі маю ш á н ь к у* (Ветк., Добр., Жлоб., Жытк., Калінк., Хойн.), а таксама са значэннем ‘кашэль’: *Добру ш á н ь к у за дзень чарніц прыносіць* (Жытк.) [2, X, с. 131]. У лоеўскіх гаворках гэтая ж намінацыя выкарыстоўваецца са значэннямі ‘сумка’, ‘торба’: *Ш á н ь к а, лісёнка, кайстра, сумка, торба – п’яць наіменаванняў аднаму*; *Кніжкі мы ў ш á н ь к а х насілі*) разам з памяншальнай формай ***ша́нечка*** (*Ты узела ш á н е ч к у?*; *Ш á н ь к а – бальшая кайстра, ш á н е ч к а – маленькая сумачка*) [9, с. 417]. (Між тым, у тураўскіх гаворках гэты дыялектызм разам з варыянтамі *ша́ня*, *ша́йня*, *шае́нька* (памянш.) ужываецца як найменне для кошыка прамавугольнай формы без накрыўкі: *Ш á н ь к а ў нас лозовая, дно вузкое, з вушыма вона*; *Вярэня з веком, а ш á н я без века* [7, V, с. 320].

Для невялікай палатнянай сумкі на Лоеўшчыне ўжываецца сінонім ***лісёнка*** (*Калі хадзілі у школу, то кніжкі у л і с ё н к у клалі*; *Л і с ё н к у шчаўю прынесла*) разам з памяншальнай формай ***лісёначка*** (*Мама, пашый мне л і с ё н а ч к у, бо тую парваў*) [9, с. 179], а для ‘торбы з лямкамі крыж-накрыж’ – складанае найменне ***су́мка-парахрэ́сніца*** (*Хоць с у́ м к у-п а р а х р э́ с н і ц у беры да іді*) [9, с. 346]. Ва ўнармаванай мове дадзеныя лексемы не зафіксаваны.

Для ‘вырабу са скуры, тканіны і пад., звычайна з ручкамі, прызначанага для нашэння чаго-небудзь’, – ***су́мкі*** [6, V/I, с. 376] – у мове Скарынавых выданняў ужываецца варыянт ***сума*** (*Живущие пакъ во граде …набрали съ собою стравы, и с у м ы старыи возложиша на ослы*) [4, II, с. 269], а таксама лексема ***калитá*** (*НѢ будете носити въ к а л и т а х ъ вашихъ розныхъ заважиевъ…иншихъ и тяжшихъ*) [4, I, с. 263], якая ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы падаецца з паметай *уст*. (устарэлае слова), як назва: 1) ‘сумкі для грошай, вялікага кашалька’; 2) ‘грошай, багацця’; 3) ‘паходнай торбы, сумкі’ [6, II, с. 589].

У беларускіх гаворках найменне ***калітá*** ўжываецца са значэннямі ‘мяшок, сумка’, ‘скураны мяшок на грошы’, ‘скураны мяшэчак’, ‘кішэня ў скураным поясе (мяшочак)’, ‘невялікая сумка на грошы’, ‘скураная сумка, якая носіцца беларусамі пры скураным поясе, у якой захоўваецца крэмень, сталёвыя пласцінкі і трут’, ‘самаробны скураны мяшок на грошы’ [8, IV, с. 169]. На Тураўшчыне фіксуецца са значэннем ‘сумка’: *К а л і т у́ з лося робілі леснікі і рапоткі на крышкі прышывалі*; *К а л і т у́ чэрэз плечо носілі*. Шырока прадстаўлена ў беларускай мове таксама памяншальная форма *калі́тка*, якая ў тураўскіх гаворках ужываецца са значэннем ‘скураная табакерка’ [7, II, с. 179].

Для вырабу (выціскання) сыру і воску сяляне выкарыстоўвалі палатняныя і скураныя мяшочкі. На Нараўляншчыне мяшочак для сыру мае найменне ***вóрак***: *Без в ó р о к а сыру не зробіш* [2, III, с. 218], на Лоеўшчыне – ***сы́рнік***: *Памажы мне творóг вувернуць у с ы́ р н і к* [9, с. 350]. Пры гэтым апошняя назва фіксуецца Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы, аднак з адзінкавым значэннем ‘ежа з тварагу, падобная па выгляду на аладку’ [6, V/I, с. 434].

У Веткаўскім раёне для наймення мяшка для воску выкарыстоўваецца дыялектызм ***васкаві́цель*** (*В а с к а в і ц е л ь – ета такі мяшок для воску*) [2, III, с. 210], у Ельскім, Рэчыцкім і Хойніцкім раёнах – ***васкаві́к***: *Вазьмі кусок палатна да й сшый клінком, ну да й в а с к а в і к палучаецца*; *Яшчэ многа ў в а с к а в і к у́ воску* [2, III, с. 210]. У Петрыкаўскім раёне ‘мяшочак для аціскання сыру’– гэта ***аскаві́к***: *А с к а в í к трэба новуй пашыць, а то нема ў чым сыр атціскаць* [2, III, с. 178], на Тураўшчыне з гэтым жа значэннем ужываюцца фанетычныя варыянты ***восковí́к*** (*Як оццэдзяць у в о с к о в í к у сыр, то его под камень ложаць*) і ***осковí́к*** (*У о с к о в í к заліваем кіслэе молоко, да онэ сцекае*) (Прычым апошняя назва ўжываецца ў пераносным значэнні ‘куток’: *От так і жывуць у том о с к о в і к у́* (пра жыхароў вескі Пагост, што пасяліліся ў кутку на месцы ўпадзення Сцвігі ў Прыпяць) [7, I, с. 144]. Тут з гэтым жа значэннем выкарыстоўваюцца словаўтваральныя варыянты – ***восковéнь*** (*Подзержы трохі в о с к о ў н я́, а ўволью гету сыроватку ў его*) і ***осковéнь*** (*Я ў свой о с к о в é н ь тры гладышкі молока вуліла, да будзе к недзелі смашнае мочанье*); складаныя назоўнікі ***оскодáў*** і ***воскодáў*** ужываюцца са значэннямі, як ‘мяшочка на сыр, клінка’ (*Гэто о с к о д á ў, шчо сыр откідаемо*), так і ‘клінка для выціскання воску з вашчыны’ (*В о с к о д á ў для пшона і аджымаць воск*) [7, I, с. 144].

Найменні *васкаві́цель*, *васкаві́к* (*восковí́к*), *аскаві́к* (*осковí́к*), *восковéнь* (*осковéнь*) з’яўляюцца матываванымі і ўтвораны суфіксальным спосабам ад асновы *воск*; складаныя намінацыі *воскодáў* (*оскодáў*) – шляхам асновоскладання ад назоўніка *воск* і дзеяслова *давіць*. Усе пададзеныя лексемы з’яўляюцца неўнармаванымі і не фіксуюцца ў тлумачальных слоўніках.

Як бачна з ілюстрацыйнага матэрыялу, сярод разглядаемых дыялектызмаў сустракаецца пэўная колькасць мнагазначных слоў: некалькі значэнняў маюць лексемы *кáйстра*, *калітá*, *тóрба*, *шабéта*, *шáнька*. Некаторыя адзінкі (*осковí́к*, *шабéта*) ужываюцца ў пераносным значэнні. Акрамя полісеміі, у вышэйпададзенай групе дыялектнай лексікі распаўсюджана з’ява аманіміі. Аманімічнымі

з’яўляюцца наступныя пары слоў, сярод якіх адна з назваў – найменне палатнянага ці скуранога вырабу: *аскаві́к*[1] ‘мяшочак для аціскання сыру’ – *аскаві́к*[3] ‘вяроўка’ (*Сцяпан, захваці з сабой а с к а в і́ к*) [2, III, с. 178]; *восковéнь* (*осковень*)[1] – ‘мяшочак на сыр, клінок’ – *восковéнь* (*осковень*)[2] ‘месца ў алейніцы, куды закладваецца мяшочак з семем ільну’ [7, I, с. 144]; *кáйстра*[1] ‘торба’ – *кáйстра*[2] ‘агонь, полымя’ (*Амаль да самага вечара была відаць за вёскай яркая к á й с т р а*) [2, IV, с. 195]; *мешóк*[1] ‘мяшок’ – *мешóк*[2] ‘пухліна на твары’ – *мешóк*[3] ‘кішэні ў сетцы’ [7, III, с. 79].

Некаторыя аналізуемыя словы ўваходзяць у склад народных прымавак і прыказак: *Развезаўса м е х не на смех! Як загінуў м е х, то й на бáцьку грэх* [7, III, с. 78]; *Над сіротою і бог с к а л і т о ю* [7, II, с. 179].

Такім чынам, для наймення палатняных і скураных вырабаў для гаспадарчых патрэб, што мелі на тэрыторыі Гомельшчыны часцей за ўсё адно прызначэнне, у розных раёнах нашай вобласці выкарыстоўваліся мясцовыя назвы, сярод якіх найбольш пашыраны лексічныя сінонімы, фанетычныя і словаўтваральныя варыянты ад літаратурных або дыялектных лексем.

**Спіс умоўных скарачэнняў раёнаў**

Акц. – Акцябрскі, Браг. – Брагінскі, Ветк. – Веткаўскі, Гом. – Гомельскі, Добр. – Добрушскі, Жлоб. – Жлобінскі, Жытк. – Жыткавіцкі, Калінк. – Калінкавіцкі, Лоеўск. – Лоеўскі, Маз. – Мазырскі, Петр. – Петрыкаўскі, Раг. – Рагачоўскі, Рэч. – Рэчыцкі, Светл. – Светлагорскі, Хойн. – Хойніцкі.

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Булыка, А. М. Мова выданняў Францыска Скарыны / А. М. Булыка, А. І. Жураўскі, У. М. Свяжынскі. – Мінск : Навука і тэхніка, 1990. – 253 с.
2. Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны. – У кн.: Беларуская мова і мовазнаўства. Міжвуз. зборнік. Беларуская мова. – Мінск : Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна. Вып. 3. А – Д. – 1975. – 264 с.; Вып. 4. Е – К. – 1976. – 276 с.; Вып. 10. Х – Я. – 1982. – 160 с.
3. Народная культура Беларусі : энцыкл. давед. / Пад агульн. рэд. В. С. Цітова. – Мінск : БелСЭ, 2002. – 432 с.
4. Слоўнік мовы Скарыны. У 3 т. / Склад. У. В. Анічэнка. – Мінск : Выш. школа. Т. 1. – 1977. – 476 с.; Т. 2. – 1984. – 362 с.
5. Сцяцко, П. У. Народная лексіка і словаўтварэнне / П. У. Сцяцко. – Мінск : Навука і тэхніка, 1972. – 288 с.

6. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы : у 5 т. / Пад агульн. рэд. К. К. Атраховіча (Кандрата Крапівы). – Мінск : Беларус. Сав. Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі. Т. 2. Г – К. – 1978. – 768 с.; Т. 3. Л – П. – 1979. – 672 с.; Т. 5. Кн. 1. С – У. – 1982. – 663 с.; Т. 5. Кн. 2. У – Я. – 1984. – 608 с.

7. Тураўскі слоўнік : у 5 т. / Склад. А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін [і інш.]. – Мінск : Навука і тэхніка, Т. 1. А–Г. – 1982. – 255 с.; Т. 2. Д–К. – 1982. – 271 с.; Т. 3 Л–О. – 1984. – 311 с.; Т. 5. С–Я. – 1987. – 423 с.

8. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. У 12 т. Т. 3. Г – І / [В. У. Мартынаў, А. Я. Супрун, Г. А. Цыхун і інш.; Рэд. В. У. Мартынаў]. – Мінск : Навука і тэхніка, 1985. – 408 с.; Т. 4. К – Каята / [В. Дз. Лабко, І. І. Лучыц-Федарэц, В. У. Мартынаў і інш.; Рэд. В. У. Мартынаў], 1988. – 327 с.

9. Янкова, Т. С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны / Т. С. Янкова. – Мінск : Навука і тэхніка, 1982. – 432 с.

# Лексікалогія. Фразеалогія. Граматыка

УДК 821.161.3Колас:3981:177.6

***Н. А. Богдан***

## КАХАННЕ ЯК ПАЧУЦЦЁВА-ЭМАЦЫЙНЫ СТАН ЧАЛАВЕКА Ў ФРАЗЕАЛОГІІ ЯКУБА КОЛАСА

У артыкуле ўпершыню праведзены лінгвакультуралагічны аналіз фразеалагічных адзінак, што рэпрэзентуюць каханне як пачуццёва-эмацыйны стан чалавека сярод фразеалагізмаў мовы твораў Якуба Коласа. Вызначаюцца духоўныя каштоўнасці і арыенціры продкаў беларусаў, адлюстроўваецца іх традыцыйнае мысленне, якое абумоўлена нацыянальна-культурным светабачаннем і ментальнымі асаблівасцямі беларускага народа, паказваюцца асаблівасці яго светаўспрымання.

Развіццё мовазнаўства апошніх дзесяцігоддзяў характарызуецца перамяшчэннем навуковых інтарэсаў многіх даследчыкаў у сферу лінгвакультуралагічнага аналізу моўных з’яў і катэгорый, звязаных з апісаннем нацыянальнай карціны свету таго ці іншага народа. Лінгвістыка на сучасным этапе характарызуецца зваротам да мовы ў тоеснай сувязі з мысленнем, а таму і да вывучэння моўнай карціны свету ўвогуле і да яе фрагментаў у прыватнасці. Працэс апісання моўнай карціны свету звязаны з рэканструкцыяй пэўнай падсістэмы ведаў носьбіта мовы, якая адлюстроўвае пазнанне чалавекам сябе і акаляючай рэчаіснасці. Адным з такіх фрагментаў у моўнай карціне свету беларусаў з’яўляецца пачуццёва-эмацыйны, і ў прыватнасці, каханне.

У розныя перыяды развіцця грамадства каханне як з’ява духоўнага, культурнага і сацыяльнага жыцця інтэрпрэтавалася па-рознаму. Каханне лічыцца рэлігійным пачуццём, псіхалагічным станам, глыбокім інтымным пачуццём, біялагічным (палавым) інстынктам, суб’ектыўным перажываннем, відам камунікацыі. Звязанае з адносінамі блізкасці, агульнасці паміж людзьмі, імкненнем да духоўнага і фізічнага аб’яднання, каханне мае даўнюю традыцыю аксіялагічнага апісання. Яно застаецца аб’ектам пільнай увагі з часоў Платона да нашых дзён і вывучаецца ў філасофіі, тэалогіі, псіхалогіі, фізіялогіі, культуралогіі, сацыялогіі і іншых навуках.

Пры вызначэнні сутнасці кахання даволі часта выкарыстоўваюцца дэфініцыі карытатыўнага характару, якія актуалізуюць такія семы, як бескарыслівасць, міласэрнасць, гатоўнасць даравацьі прыносіць радасць, нічога не патрабуючы ўзамен. Такое каханне кіруецца маральнымі прынцыпамі і прадугледжвае любіць чалавека такім, якім ён ёсць на самой справе. У яго аснове, як заўважае В.Д. Старычонак, – "гармонія паміж людзьмі, духоўны рост чалавека, магчымасць яго далейшага раскрыцця і ўдасканальвання" [6, с. 34].

Сучасная псіхалогія дае азначэнне каханню як інтымнаму пачуццю, якое накіравана на іншага чалавека. Каханне ўяўляе сабой павышаны пачуццёва-эмацыйны стан чалавечай псіхікі, які накіраваны на прадмет сваёй сімпатыі – асобу процілеглага полу. Паводле тлумачальнага слоўніка беларускай мовы, *каханне* – гэта "вялікае сардэчнае пачуццё да пэўнай асобы другога полу" [8, с. 667]. У дадзеным выпадку ўвага акцэнтуецца на шчырасці і сардэчнасці пачуцця. Адпаведна, кахаць можна дзяўчыну, жанчыну, жонку, маладзіцу, мужа, мужчыну, хлопца і г.д. Сінонімы да названай лексемы – словы *закаханасць*, *любоў*, *любасць*, *мілаванне*, *любошчы* (разм., мн.) [3, с. 217]. У этымалагічным слоўніку беларускай мовы да прапанаванага сінанімічнага рада далучаецца рэгіянальнае найменне *любоўства* [10, с. 94].

"Наіўнае" ўяўленне пра каханне як часткі наіўнай карціны свету беларусаў – гэта значыць сукупнасці іх рэальных уяўленняў пра свет і чалавека – найлепшым чынам адлюстравана ў фразеалагічных адзінках (далей – ФА). Слушна наконт гэтага зазначае Ю.С. Сцяпанаў, сцвярджаючы, што "ў мове да нас адлюстравана шматвекавое пазнанне свету" [7, с. 921].

У межах артыкула звернем увагу на ФА з мовы твораў Якуба Коласа, якія з'яўляюцца адным з асноўных спосабаў перадачы нацыянальных стэрэатыпаў – адносна ўстойлівых уяўленняў, якія склаліся гістарычна і семантызуюць каханне як пачуццёва-эмацыйны стан чалавека. Менавіта асоба чалавека, яго знешні і ўнутраны свет знаходзяцца ў цэнтры ўвагі мастака слова. А ФА дазваляюць вобразна, ёмка, сцісла не толькі і не столькі назваць, колькі ахарактарызаваць, даць ацэнку маўленчай дзейнасці чалавека. Праз аналіз фразеалагічных адзінак, як сцвярджае В.А. Ляшчынская, "выяўляюцца закадзіраваныя ў іх веды пра свет, эталоны і стэрэатыпы нацыянальнага бачання і разумення свету, назначэння чалавека ў ім і інш." [4, с. 52–53]. Дадзенае пытанне ў фразеалогіі яшчэ не атрымала шырокага вывучэння, што і абумовіла наш зварот менавіта да гэтай тэмы.

Мэта артыкула – лінгвакультуралагічны аналіз ФА, якія рэпрэзентуюць каханне як пачуццёва-эмацыйны стан чалавека ў фразеалогіі Якуба Коласа і даюць характарыстыку героям твораў мастака слова. Крыніцай збору ўстойлівых адзінак паслужыў “Фразеалагічны слоўнік мовы твораў Якуба Коласа” [9], дзе метадам суцэльнай выбаркі вылучаны ўстойлівыя адзінкі, якія характарызуюць пачуццёва-эмацыйны стан чалавека і аб’яднаны агульным значэннем ‘любоўныя пачуцці, пачуццё кахання’.

Каханню (любові) у фразеалогіі Якуба Коласа надаецца вялікае значэнне. Гэтае пачуццё ва ўяўленні беларусаў больш моцнае, чым усе астатнія, “яго можна параўнаць хіба толькі з ісцінай або праўдай” [5, с. 54].

Лакалізацыяй кахання ў беларусаў на фізічным плане выступае сэрца, на духоўным – душа. Беларусы любяць сэрцам, душой. Так, *сэрца* ў складзе саматычных фразеалагізмаў (далей – СФ) з мовы твораў Якуба Коласа: *аддаць сэрца* “аказаць пашану, стаць беззаветна адданым каму-н., аддаць перавагу каму-н. перад кім-н. іншым; кахаць каго-н.”, *раскрыць сэрца* “выказаць каму-н. свае самыя патаемныя думкі, пачуцці, прызнацца ў каханні”, *заваяваць сэрца* “выклікаць да сябе сімпатыю, прыхільнасць, любоў каго-н.”, *лашчыць сэрца* “выклікаць да сябе сімпатыю, прыхільнасць, любоў чым-н.”, *усім сэрцам (усім сэрцам і душою)* “бязмежна, шчыра, сардэчна кахаць, любіць каго-н.”, *пакінуць сваё сэрца* “захаваць прыхільнасць, сімпатыю, любоў да каго-, чаго-н.”, *паланіць сэрца* “дабіцца чыйго-н. кахання, прыхільнасці”, *заўладаць сэрцам* “прымусіць каго-н. пакахаць сябе”, *засесці ў сэрцы* “выклікаць пачуцці глыбокай прыхільнасці да каго-н., стаць глыбока любімым кім-н.”, *вырваць (выкінуць) з сэрца* “прымусіць сябе забыць каго-, што-н., перастаць кахаць каго-н.”, *не мець сэрца* “не любіць каго-, чаго-н., быць бессардэчным, жорсткім” выступае адным з найбольш істотных органаў цела, крыніцай фізічнай, духоўнай, эмацыйнай энергіі. Сэрца – цэнтр глыбокіх эмацыянальных перажыванняў.

У беларускай традыцыйнай культуры *сэрца* разумеецца пераважна як “канцэнтрант эмацыйных, пачуццёвых інтэнцый; у першую чаргу кахання” [1, с. 501]. Разнастайныя любоўныя эмоцыі першнаперш закранаюць сэрца, яно з’яўляецца пачатковым індыкатарам гэтых перажыванняў у чалавечым целе. Менавіта праз сэрца транслююцца разнастайныя інтымныя пачуцці закаханых: *Іван думаў аб ёй* [Аўдольцы] *увесь час і не траціў надзеі* ***заваяваць*** *яе* ***сэрца*** [9, с. 541]; *Ён з сябрамі закладаўся* ***Сэрца*** *Ганны* ***паланіць****, У два дні – Пахваляваўся – Ганна будзе дух раніць* [9, с. 543] і інш.

*Як* і сэрца, цэнтрам псіхічнага і эмацыйнага жыцця чалавека выступае душа. Гэта своеасаблівая матэрыя, надзвычай тонкая, здольная перадаць розныя эмоцыі і ў першую чаргу пачуццё кахання. А СФ з кампанентам *душа* не толькі абазначаюць пачуцці, перажыванні чалавека, але і найбольш глыбока адлюстроўваюць індывідуальнасць асобы, яе духоўнасць, а, перадаючы пачуццё каханне, называюць яшчэ і якасці асобы, з якіх найбольш для беларуса цэняцца шчырасць (*усім сэрцам і душою* "бязмежна, шчыра, сардэчна кахаць, любіць каго-н.") і даверлівасць, адкрытасць (*аддаваць душу* "цалкам прысвячаць сябе чаму-н., бязмежна любіць каго-, што-н.").

Непадкантрольнасць, немагчымасць схаваць свае пачуцці – універсальная "якасць" кахання. З прычыны таго, што каханне – моцнае пачуццё і цалкам запаўняе чалавека, усе яго думкі і памкненні закаханага поўняцца толькі гэтым пачуццём, ён перастае "цвяроза" думаць, развважаць. Каханне ўспрымаецца беларусамі як пачуццё, якое ўзнікае "стыхійна", а таму яно непадкантрольнае розуму. Лакалізацыяй кахання ў гэтым выпадку выступае галава. У сучасным уяўленні галава выступае цэнтрам збору і перапрацоўкі інфармацыі. У складзе СФ *закружыць галаву (закруціць галоўку)* "выклікаць у каго-н. пачуццё кахання, сімпатыі да сябе, прывабіць каго-н." кампанент *галава* асацыіруецца з розумам, які страчваюць падчас пачуцця кахання*: Калі яна* [Ліда] *выйшла з хаты, Антаніна Міхайлаўна, крыху памаўчаўшы, сказала: – **Закружылі** вы **галаву** маёй Лідзе* [9, с. 119]; *Адну захоўвай установку: Забраць нягодніка ў палон, Каб форсу збавіў ён, Ды **закруці** яму **галоўку*** [9, с. 126]).

Неабходныя атрыбуты кахання – пацалункі (*туліць губы к губам* "цалавацца, дакранацца вуснамі да каго-н.", *мёдам губ упіцца* "пацалаваць"), позіркі (*цэліцца вачамі* "кідаць какетлівыя погляды на каго-н.", *страляць вачыма (стрэльнуць вочкамі)* "кідаць заваблівыя позіркі на каго-н., какетліва паглядаць на каго-н.", *асыпаць іскрамі* "адарыць чароўным прываблівым позіркам"), заляцанні (*нібы хмель віцца* "заляцацца да каго-н."), што з'яўляюцца праяўленнем пяшчоты закаханых адзін да аднаго.

Так, пачуццё любові знаходзіць сваё праяўленне ў позірках закаханых адзін да аднаго. Вока ў народных уяўленнях успрымаецца як уваход у цела чалавека. Сімволіка вока цесна звязаная з асноўнымі пазіцыямі многіх кодаў мовы культуры. У складзе СФ *страляць вачыма (стрэльнуць вочкамі)* кампанент *вочы* сімвалізуе цэнтр для эмацыянальнага ўздзеяння і выяўляе адносіны чалавека да каго-небудзь: *К таму ж і стройна і прыгожа, А разам з тым і малада,*

*А **стрэльне вочкамі** – бяда* [9, с. 93]. Чарадзейная моц прыпісваецца позірку чалавека, у якога іскры з вачэй сыплюцца ад пачуцця любові, замілаванасці да каго-небудзь: *Знаёмячыся з Садовічам, яна* [Тамара Аляксееўна] *проста-такі **асыпала** яго **іскрамі** з “неба Італіі”, а верхняя губка яе, з невялічкаю ямінкаю пасярэдзіне, лёненька задрыжала пад павевам найпрыемнейшай у веце жаночай усмешкі* [9, с. 222]. Праяўленнем пяшчоты закаханых адзін да аднаго выступаюць пацалункі, сімвалам якіх з’яўляюцца губы. Дадзены атрыбут кахання выразна перадаюць СФ *туліць губы к губам* (*Мы шчыльна **тулім губы к губам*** [..]*Не год сябруем, не другі* [9, с. 146]), *мёдам губ іпіцца* (*Ды дзе ты, мілая Настуся? Цябе шукаю – ці знайду, Або спаткаю зноў бяду І **мёдам губ** тваіх не **ўп’юся** Ды сіратою застануся, каб жыць з табою не ў ладу* [9, с. 335]). Важным этапам кахання з’яўляюцца заляцанні, з якімі асацыіруецца вобраз хмеля ў ФА *нібы хмель віцца: А казакі **нібы хмель** той **Уюцца** ля Ганусі* [9, с. 592]).

Як відаць, пачуццё кахання, эмацыйныя адносіны чалавека выяўляюцца з дапамогай кадзіравання тактыльных (*губы*) і зрокавых (*вочы*) адчуванняў.

Каханне абавязкова ўключае ў сябе парыў і волю чалавека да сталасці, што афармляецца ў этычнае патрабаванне да вернасці і адданасці. Так, закаханыя гатовы на ўсё, нават трапіць у пекла, якое асацыіруецца з “месцам, дзе пасля смерці пакутуюць грэшнікі” [1, с. 37]: *хоць у пекла пайсці* – быць вельмі адданым каму-н., моцна кахаць каго-н.” (*У два тыдні – пахваляваўся – Ганна будзе дух раніць, Будзе з ім шукаць спаткання І паступіцца усім, І ўсе выпаўніць жаданні – **Хоць у пекла пойдзе** з ім* [9, с. 402]).

Вынік кахання і мэта закаханых – жаніцьба, стварэнне сям’і, што знайшло сваё адлюстраванне ў ФА *выйсці замуж* “стаць жонкай каго-н.”, *вылятаць у вырай* “пакідаць бацькоўскі дом; ісці ў сям’ю мужа”, *ісці пад вянец* “уступаць у шлюб, жаніцца”, *пусціць у грунт карэнне* “трывала абаснавацца, абзавесціся сям’ёй, гаспадаркай”, *даваць на запаведзь* “падаваць у царкву просьбу аб выкананні абраду вянчання”, *пайсці з кудзеляй* “выйсці замуж; пажаніўшыся, пераехаць у тую мясцовасць, дзе жыве жаніх”.

Замужжа ў сістэме жыццёвых каштоўнасцей беларусаў адыгрывае станоўчую ролю. Выйсці замуж асацыіруецца з тым, каб стаць чыёй-небудзь жонка і, пажаніўшыся, пераехаць у тую мясцовасць, дзе жыве жаніх. Гэты ж матыў назіраецца і ў ФА *вылятаць у вырай* і *пайсці з кудзеляй*. Жаніцьба і жыццё ў сям’і жаніха ў першай ФА асацыіруецца з выраем нездарма, паколькі ў беларускім міфалагічным уяўленні

вырай – гэта “старажытная назва раю і райскага Сусветнага дрэва” [1, с. 99]. Разам з гэтым паводле народнай традыцыі жонка, пераязджаючы ў сям’ю мужа, павінна браць з сабой кудзелю «валакно лёну, канапель, апрацаваная для прыгатавання пражы» [8, с. 749]. Важнае значэнне аддавалася абраду вянчання, дзе галоўнымі атрыбутамі з’яўляюцца *вянец* і *запаведзь*. Усё гэта знайшло сваё выразнае праяўленне ў ФА *ісці пад вянец* і *даваць на запаведзь*: *Да Насці гэта вестка прыйдзе, І будзе ўсё ў законным відзе – **Ідзі**, з кім любы, **пад вянец**!* [9, с. 109]; *Поп іх строга запытаў – Дзе сваты? Дзе дружкі? Сведкі? Хто **на запаведзь даваў**?* [9, с. 199].

Стварэнне сям’і спрадвеку лічылася адным з галоўных этапаў на жыццёвым шляху чалавека. Вось толькі пасля гэтай падзеі далейшае захаванне пачуцця кахання становіцца справай складанай. Ва ўяўленні беларусаў распаўсюджаным з’яўляецца матыў нявернасці мужа (*кот марцовы* «ахвотнік да любоўных прыгод; распуснік, блуднік», *пан марцовы* «аматар заляцацца да жанчын; залётнік, валацуга»). У моўнай свядомасці нашага народа ўвасобілася думка, што жанчына, як сцвярджае А.С. Дзядова, “больш адданая мужу, чым муж жонцы. Любоў да дзяцей і мужа, строгія прадпісанні народных традыцый і, урэшце, перажыткі патрыярхальнага ўкладу ў мінулыя часы – усё гэта стрымлівае яе ад шлюбнай здрады” [2, с. 45].

Такім чынам, праведзены лінгвакультуралагічны аналіз ФА семантычнага поля «каханне» дазваляе сцвярджаць, што каханне як пачуццёва-эмацыйны стан чалавека ў фразеалогіі Якуба Коласа вызначаецца станоўчай канатацыяй і лакалізуецца найперш у сэрцы (душы). У свядомасці чалавека каханне – гэта свайго роду “падмурак”, на якім павінна трымацца сям’я. Даследаванне лінгвакультуралагічнага феномена пачуцця кахання ў моўнай карціне свету беларусаў на матэрыяле ФА, ужытых у мове твораў Якуба Коласа, сведчыць пра тое, што разгледжаны і прааналізаваны моўны матэрыял прэзентуе духоўныя каштоўнасці і арыенціры нашых продкаў, адлюстроўвае іх традыцыйнае мысленне, якое абумоўлена нацыянальна-культурным светабачаннем і ментальнымі асаблівасцямі беларускага народа, паказвае асаблівасці яго светаўспрымання.

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Беларуская міфалогія: энцыклапед. слоўн. / С. Санько [і інш.]; склад. І. Клімковіч. – 2-ое выд., дап. – Мінск: Беларусь, 2006. – 599 с.

2. Дзядова, А. С. Чалавек у люстэрку беларускай фразеалогіі і парэміялогіі : манаграфія / А. С. Дзядова. – Віцебск : ВДУ імя П. М. Машэрава, 2013. – 162 с.

3. Клышка, М. К. Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў / М. К. Клышка. – Мінск: Беларус. навука, 2005. – 670 с.
4. Ляшчынская, В. А. Сучасная беларуская мова: фразеалогія: вучэб. дапам. / В. А. Ляшчынская. – Мінск: РІВШ, 2010. – 230 с.
5. Садоўская, А. Л. Каханне ў моўнай карціне свету беларусаў / А. Л. Садоўская // Роднае слова. – 2011. – № 5. – С. 53–56.
6. Старычонак, В. Д. Асацыятыўнае поле кахання ў беларускім паэтычным дыскурсе / В. Д. Старычонак // Текст. Язык. Человек: сборник научных трудов: в 2 ч. Ч.1. / редкол.: С. Б. Кураш (отв. ред.) [ и др.]. – Мозырь: МГПУ им. И. П. Шамякина, 2009. – С. 34–37.
7. Степанов, Ю. С. Константы. Словарь русской культуры / Ю. С. Степанов. – М: Академический Проект, 2001. – 990 с.
8. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т., 6 кн. – Мінск: Гал. рэд. Беларус. Сав. Энцыкл., 1978. – Т. 2: Г–К. – 768 с.
9. Фразеалагічны слоўнік мовы твораў Якуба Коласа: звыш 6000 слоўн. арт. / уклад. А. С. Аксамітаў [і інш.]; пад рэд. А. С. Аксамітава. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 655 с.
10. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 4: К – Каята / НАН Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; уклад. В. Л. Авілава [і інш.]; рэд. Г. А. Цыхун. – Мінск: Беларус. навука, 1988. – С. 265.

УДК 811.151.2’367.321

***О. В. Гурко***

## СТАТУС СПОЛУЧНИКІВ У ВИРАЖЕННІ СТВЕРДЖЕННЯ

З’ясовано роль та місце сполучників у передачі значення ствердження в структурі речення. Проаналізовано основні групи сурядних сполучників, які містять стверджувальний семантичний компонент. Встановлено, що в сучасній українській літературній мові ідентифікаторами непрямого ствердження є єднальні, градаційні, протиставні, зіставні, розділові та приєднувальні сполучники.

До непрямих засобів вираження ствердження в сучасній українській мові уналежнюємо сполучники. Питання сполучникової реалізації семантико-синтаксичних відношень є предметом зацікавлення багатьох мовознавців (Л.А. Булаховський [2], І.Р. Вихованець [4], К.Г. Городенська [7], А.П. Грищенко [8], А.П. Загнітко [10] та ін.). Однак окремих наукових розвідок, присвячених описові ролі сполучників у реалізації стверджувального значення, у сучасному

українському мовознавстві немає. Саме тому об'єктом нашого дослідження є сполучники української мови, що мають стверджувальний семантичний компонент. У пропонованій статті маємо на меті проаналізувати та виокремити різні семантичні групи сурядних сполучників, що експлікують ствердження. Матеріал для аналізу дібрано із джерел усної народної творчості, художніх творів та засобів масової інформації.

В енциклопедії «Українська мова» І.Р. Вихованець зазначає, що сполучник – це незмінне службове слово, яке виражає синтаксичні зв'язки речень або слів і семантико-синтаксичні відношення між ними [17, с. 633]. У нашій роботі ми погоджуємося з думкою К.Г. Городенської, яка розмежовує шість груп сурядних сполучників: єднальні, протиставні, зіставні, розділові, градаційні й приєднувальні [7, с. 10]. Саме тому в статті виділяємо ми аналогічні групи сурядних сполучників, які містять стверджувальний семантичний компонент.

Чимало сполучників української мови реалізують стверджувальне значення в реченнях, зокрема: *і, й, та, да* (зі значенням *і*), *і…і, й…й, та…та, а й, а ще, та ще й, а до того ж, та навіть, а крім того, більше того,а, але, чи…чи* та ін. Проте це не є достатньою підставою, щоб уважати, що ці сполучники експлікують ствердження. Зауважимо, що функційне навантаження зазначених службових слів полягає передусім не у вираженні граматичного ствердження, а у формуванні семантико-синтаксичних відношень між частинами речень.

До виразників стверджувального значення єднальних сполучників зараховуємо передусім *і, й, та, да* (зі значенням *і*). Варто зазначити, що за допомогою єднальних сполучників мовець передає семантико-синтаксичні відношення між однорідними членами в простому ускладненому реченні та між предикативними частинами в складносурядному реченні: «*У кутику на лавці сидів мужик **та** плакав*» [16, с. 21], «*Біда помучить **і** мудрості научить*» [14], «*Стоячи біля умивальниці **й** наповнюючи чайник, він зиркнув на редлівський будинок **і** побачив у верхніх вікнах мерехтливе світло*» [15, с. 11], «*Поки довідалися, що сталося, минуло півдня, **і** Сулима був уже далеко*» [20, с. 287]. Аналізовані сполучники вступають у двобічні відношення зі значенням послідовності, часової наступності, одночасності та ін.

Л.А. Булаховський до єднальних сполучників давньої мови уналежнює сполучник *да* [2, с. 499]. У сучасній українській мові сполучник *да* є діалектним і трапляється лише в українському фольклорі [7, с. 55]: «*Для милого дружка **да** сережки з вушка*» [14], «*Засвітить сонце **да** в наше віконце*» [14], «*За рідною землею **да***

*в небі скучно*» [14]. В аналізованому матеріалі сполучник *да* вказує на посилення виразності висловлення та поєднує частини простих стверджувальних речень.

Повторювані єднальні сполучники *і…і, й…й* зазвичай реалізують єднальні, перелічувальні відношення в стверджувальних контекстах, а також їх уживають для поєднання предикативних частин речення: «*А буде син,* ***і*** *буде мати,* ***і*** *будуть люди на землі* [21], «***І*** *будень,* ***і*** *неділя все лінивому безділля*» [14], «*А їй, звичайне діло,* ***й*** *віри своєї жалко,* ***й*** *родичів»* [13], «*В піснях* ***і*** *труд,* ***і*** *даль походу,* ***і*** *жаль,* ***і*** *усміх,* ***і*** *любов,* ***і*** *гнів великого народу,* ***і*** *за народ пролита кров*» [20, с. 321].

Отже, єднальні відношення не випливають зі значення єднального сполучника, а створюються семантикою сурядних частин [4, с. 83].

Градаційні сполучники *а ще, та ще й, а до того ж, та навіть, а крім того, більше того*, що експлікують семантичний компонент ствердження, вказують на більший вияв дії порівняно з очікуваним. Наприклад: «*Грицько одружився, але жив на квартирі, дружина – студентка,* ***більше того*** *чекають дитину*» [12], «*Після цієї звістки Ганна занедужала,* ***а ще*** *знайшлися, як і в кожному селі, такі люди, що підхопили цю чутку і наплели ще багато інших нісенітниць: і що ніби Грицько крадькома фотографував стару церкву, а хтось бачив, як його після цього забрали якісь люди у військовій формі»* [12], «*Суціль особняки в деревах фруктових, вулички чисті, акуратними плитами вимощені,* ***та ще й*** *липи вздовж тротуарів, мов на параді*» [20, с. 165]. З наведених прикладів видно, що другий компонент своїм лексичним значенням підсилює перший, є семантично виразнішим, значущішим та сприяє уточненню висловленої думки.

До виразників стверджувального значення невпевненості, ймовірності уналежнюють деякі розділові сполучники *або…або, чи…чи, то…то, чи то…чи то*. К.Г. Городенська зазначає, що розділові сполучники можуть указувати на реальний вияв однієї дії чи одного стану, передаючи значення «одна (один) із двох можливих, запропонованих» (*або, чи*), та на реальність кожної дії (кожного стану) із низки запропонованих, виражаючи значення «може бути і та (той), і та (той)» (*або…або, чи…чи, чи то… чи то* та ін.) [7, с. 64]. Наприклад: «***Чи*** *мені здається,* ***чи*** *справді свист тихшає*» [11], «***Або*** *пан,* ***або*** *пропав*» [14], «***Чи*** *просто везе мені, щастить,* ***чи****, може, само наше життя таке вже стало врожайне повноголосними видатними людьми*» [6], *«****Чи то*** *праця задавила молоду силу,* ***чи то*** *нудьга його з ніг звалила»* [21], «*...У кожного з нас є дома* ***або*** *дружина,* ***або*** *діти,* ***або*** *мати,* ***або*** *наречена. Вони дивляться на нас звідти, з-за Пруту*» [6], «***Чи то*** *буря,*

***чи то** грім, чи реве, хмаро, віл»* [20, с. 18]. Складні синтаксичні одиниці, утворені за допомогою таких сполучників, презентують імплікацію ймовірних стверджувальних суджень.

Розділовий сполучник *то…то* нерідко трапляється в мові художніх творів: «*Соловейки **то** ніжно дзюрчали, **то** в буйному захваті тьохкали, клацали кастаньєтами, перестрибували на сопілку...*» [3], «***То** проснеться над болотом чайка, **то** промайне бистрий чибіс*» [22], «*Стара верба **то** змовкне, **то** рипить*» [20]. У цьому разі повторюваний сполучник *то…то* вказує на вираження черговості дій, явищ у стверджувальних висловленнях.

До спеціалізованих засобів експлікації стверджувального компонента уналежнюємо приєднувальні сполучники *та й, а також*, які вказують на повноту та точність повідомлення: «*Прогуло прокляте лихо **та й** заснуло*» [21], «*Відтак Ужгородському міському центру первинної медично-санітарної допомоги передадуть на баланс 65 квадратних метрів колишньої аптеки на пр. Перемоги, **а також** передали на умовах оренди від Ужгородської міської поліклініки 155 кв. метрів підвалу на вул. Грибоєдова, 20 та приміщення поліклініки на вул. Паризької Комуни*» [9], «*Половину містечка закрила вже тінь від далекої, покритої лісом гори, **та й** другої половини було мало що видно*» [19].

Зіставні сполучники відбивають стосунок між двома ситуаціями, які співіснують і зіставляються за відповідною неконтрастною ознакою [4, с. 308]: «*Катерину чорнобриву в полі поховали, **а** славнії запорожці в степу побратались*» [21], «*Об підмурки все літо хлюпочеться вода, **а** на стінах будиночків, як ватер, лінії на корпусах суден, смугами тягнуться сліди весняної повені*» [6]. Аналізований матеріал є свідченням того, що йдеться про паралельний, незалежний перебіг дій чи процесів та перебування суб’єктів в певних станах.

Протиставні сполучники вказують на контрастний характер значень поєднуваних предикативних частин. Це сполучники на зразок **а, але**, які в поданому ілюстративному матеріалі спеціалізуються на протиставленні стверджувальних частин речення: «*Одна голова в печі гасне, **а** дві в полі горять*» [14], «*Брат мій, **а** хліб їж свій*» [14], «*Верба хоч і товста, **але** зсередини пуста*» [18], «*Бережено Бог береже, **а** козака шабля*» [14], «*Привчав мене бать-ко трудитись до поту, **а** мати – любити пісні*» [5].

Отже, наведені приклади засвідчують, що в сучасній українській літературній мові ідентифікаторами непрямого ствердження є єднальні, градаційні, протиставні, зіставні, розділові та приєднувальні

сполучники. Помічено, що сполучники української мови безпосередньо не виражають граматичного ствердження, проте містять семантичний компонент ствердження, який випливає з усієї структури речення. Перспективу подальших розвідок вбачаємо в дослідженні словотворчих ресурсів сучасної української мови в реалізації ствердживального змісту.

**Список використаних джерел**


1. Баган, М. П. Категорія заперечення в українській мові: функційно-семантичні та етнолінгвістичні вияви : [монографія] / М. П. Баган. – К.: Видавничий дім Дмитра Бураго, 2012. – 376 с.

2. Булаховський, Л. А. Сполучники і сполучні групи (речення) / Л. А. Булаховський // Вибрані праці: У 5 т. – К.: Наук. думка, 1977. – Т. ІІ. Українська мова. – С. 498–543.

3. Винниченко, В. Повні тексти творів [Електронний ресурс] / В. Винниченко. – Режим доступу: http://ukrlib.com.ua/books/book.php?id=123

4. Вихованець, І. Р. Теоретична морфологія української мови / І. Р. Вихованець, К. Г. Городенська. – К.: Унів. вид-во «Пульсари», 2004. – 398 с.

5. Воронько, П. Повінь / П. Воронько. – К.: Етнос, 1972. – 608 с.

6. Гончар, Олесь. Твори в двох томах / Олесь Гончар. – Т. 2. – К.: Видавництво художньої літератури «Дніпро», 1966. – 750 с.

7. Городенська, К. Г. Сполучники української літературної мови: монографія / К. Г. Городенська. – К., інститут української мови: Видавничий дім Бураго, 2010. – 208 с.

8. Грищенко, А. П. Зіставно-протиставні складносурядні речення / А. П. Грищенко // Синтаксична будова української мови. – К.: Наук. думка, 1968. – С. 17–26.

9. Депутати Ужгородської міськради займаються «кнопкодавством» [Електронний ресурс]. – Режим доступу: http://zakarpattyachko.com.ua/

10. Загнітко, А. П. Теоретична граматика української мови / А. П. Загнітко. – Донецьк: ДонНУ, 2001. – 662 с.

11. Коцюбинський, М. Вибрані твори / М. Коцюбинський. – К.: Вид-во «Ранок». – 336 с.

12. Мушкетик, Ю. Твори / Ю. Мушкетик [Електронний ресурс]. – Режим доступу: http://ukrlib.com.ua/books/book.php?id=123

13. Нечуй-Левицький, І. С. Твори в трьох томах / І. С. Нечуй-Левицький. – Т. 3. – К.: Видавництво художньої літератури «Дніпро», 1988. – 643 с.

14. Прислів’я та приказки [Електронний ресурс]. – Режим доступу: http://traditions.org.ua/

15. Роулінг, Дж. К. Гаррі Потер і келих вогню / Дж. К. Роулінг (перекл. В. Морозов та С. Андрухович). – К.: А-БА-БА-ГА-ЛА-МА-ГА, 2003. – 670 с.

16. Стефанник, В. Моє слово: Новели та оповідання / В. Стефанник. – К.: Веселка, 1991. – 190 с.

17. Українська мова. Енциклопедія / [редкол. В. М. Русанівський, О. О. Тараненко (співголови), М. П. Зяблюк та ін.]. – 3-є вид. зі змінами і доп. – К.: Вид-во «Укр. енцикл.» ім. М. П. Бажана, 2007. – 856 с.
18. Українські прислів'я та приказки [Електронний ресурс]. – Режим доступу: http://prikazka.pp.ua/
19. Франко, Іван. Поезія та драматичні твори / Іван Франко. – Львів: Видавництво «Каменяр», 1977. – 199 с.
20. Цимбалюк, В. І. Українська література / В. І. Цимбалюк. – К.: Освіта, 2000. – 496 с.
21. Шевченко, Тарас. Твори в двох томах / Т. Шевченко. – Т. 2. – К.: Видавництво художньої літератури «Дніпро», 1966. – 750 с.
22. Шиян, А. Твори в двох томах /А. Шиян. – Т. 2. – Київ: Дніпро, 1976. – 684 с.

УДК 811.161.2'373.2-112

***В. В. Денисюк***

# ХУДОЖНІЙ ДИСКУРС ЯК ВІДОБРАЖЕННЯ ДИНАМІЧНИХ ПРОЦЕСІВ У ФРАЗЕОЛОГІЇ (на матеріалі інтермедій XVII–XVIII ст.)

У статті на матеріалі українських інтермедій XVII–XVIII ст. проаналізовано динамічні процеси у групі фразеологізмів із семантикою «побити». Такі стійкі словосполучення утворені переважно за моделлю «іменник + дієслово», можуть містити у своїй структурі факультативний компонент.

Українські інтермедії XVII–XVIII ст., що належать до писемних шедеврів, «народна основа яких засвідчила безперервність мовно-літературних традицій» [9, с. 286], посідають вагоме місце у формуванні української літературної мови на народній основі. Коментуючи значення і причини шаленого успіху інтермедій, І. Франко зазначав: «На се складалися головно дві причини: інтермедія написана була мовою близькою до народної, а не раз і чисто народною і зміст свій, колорит, спосіб вислову черпала з окружаючого життя народного» [11, с. 218].

Вийшовши з народної стихії, увібравши в себе колоритний народний гумор, інтермедії почали разюче відрізнятися від звичних для тогочасного театру драм, оскільки були написані не за правилами класичних поетик. Звісно, продовжували ще домінувати серйозні

драми, проте на відміну від них, як зазначає Л. Софронова, інтермедії «почували себе в більш широкому культурному просторі. Вони наполягали на своєму зв'язку зі стихією фольклору, з народною культурою. Таким чином, у межах українського театру зійшлися дві сфери культури, сакральна і світська, і почали своє співіснування, не завжди мирне, бо серйозні частини драми інколи поглинали комічні сценки, позбавляли їх істинного сміхового начала, підмінюючи дидактичним, а інколи і виштовхували їх, що пішло останнім тільки на користь» [8, с. 50]. М. Сулима в боротьбі сакрального і світського вбачає тільки «один із барокових принципів – принцип контрасту: високе більше вражало на тлі низького» [10, с. 178].

Звичайно, більшість досліджень інтермедій носять літературознавчий характер. І хоч основна увага в таких розвідках зверталася на систему образів, художні засоби їх створення, сюжетні лінії тощо, зрідка натрапляємо і на короткий коментар мови інтермедій. Так, М. Гудзій писав, що мовне оформлення інтермедій суттєво відрізняється від тогочасних драматичних творів, що спричинено введенням у дійові особи представників суспільних низів: «Дійовими особами інтермедій були, як правило, персонажі з простолюду, що розмовляли кожний своєю народною мовою: українець – українською, росіянин – російською, білорус – білоруською, в той час як основні, серйозні п'єси писалися своєрідною книжною мовою» [2, с. 5]. Саме тому інтермедії, на думку М. Гудзія, насичені «яскравими українськими фразеологізмами, приказками і прислів'ями, а ряд віршів написано так дотепно і афористично, що вони самі схожі на приказки» [2, с. 29].

Однак незважаючи на визнання вагомості і значення інтермедій для розвитку української літературної мови, мовна тканина цих творів досліджена вкрай недостатньо: маємо кілька фрагментарних розвідок, у яких проаналізовано переважно фонетико-морфологічні особливості пам'яток [3; 9]. Ґрунтовне дослідження мови інтермедій, включаючи й аналіз стилістичних особливостей, здійснив Є. Марковський [5]. Проте й це не вирішує проблеми функціонування народнорозмовної мови в писемних пам'ятках XVII–XVIII ст., бо, як відомо, саме інтермедії є найяскравішим прикладом цього (за винятком моментів, коли автори намагалися копіювати мовлення людей літнього віку чи іншої національності, на фонетичному рівні замінюючи звуки) і заслуговують на спеціальне монографічне дослідження.

Повторимося, що мові інтермедій лінгвісти присвятили надзвичайно мало уваги, не кажучи вже про дослідження їх лексико-фразеологічних особливостей. Про фразеологію інтермедій знаходимо

славянскіх і неславянскіх мовах. Вызначаецца паходжанне фразеалагізма з улікам этнакультурнай сімволікі дзён тыдня. Абгрунтоўваецца эўфемістычная прырода названага фразеалагізма і яго выкарыстанне ў інтэрфемінных зносінах.

*Артыкул падрыхтаваны ў рамках выканання праекта БРФФД – РГНФ № Г15Р-041 ад 04.05.2015 г. "Традыцыйныя і сучасныя практыкі сацыяльнай рэгламентацыі паводзінаў моладзі ў сферы любоўна-шлюбных адносін на тэрыторыі Усходняга Палесся: этнакультурны і лінгвагендэрны аспекты".*

Пытанне аб магчымасці існавання нейкай спецыфічнай "жаночай" мовы – ізаляванай сістэме камунікатыўных сродкаў, якая б магла быць зразумелай толькі жанчынам, – час ад часу ставіцца ў навуковых і навукова-папулярных выданнях. Здаецца, перадумовы такога феномена відавочныя: у зносінах паміж жанчынамі даволі часта ўзнікаюць сітуацыі, пры якіх (звычайна, па прычыне прысутнасці побач мужчын) неабходна алегарычна і разам з тым дакладна, на зразумелай жанчынам "мове" сфармуляваць нейкую думку або выказаць тое ці іншае меркаванне, на якое мужчыны не будуць рэагаваць з-за таго, што яны яго не зразумеюць. Зразумела, што калі пад тэрмінам *мова* мець на ўвазе пэўную камунікатыўную сістэму з уласцівымі ёй адзінкамі ўсіх узроўняў, то прыдзецца пагадзіцца, што спецыфічна "жаночай" мовы проста не існуе. Іншая справа, што ў паўсядзённым маўленні як жанчын, так і мужчын выяўляюцца канкрэтныя асаблівасці, якія адлюстроўваюць спецыфіку іх унутранай культуры, светапогляду і маўленчых стэрэатыпаў. Менавіта таму адным з пастулатаў гендэрнай лінгвістыкі з'яўляецца наступнае меркаванне: "Хаця маўленне мужчын і жанчын адрозньваецца, не існуе формаў, звязаных толькі з адным полам, а ёсць тэндэнцыі да перавагі выкарыстання пэўных формаў мужчынамі і жанчынамі" [4, с. 80].

Важнай асаблівасцю фемінной камунікацыі лічыцца шырокае выкарыстанне жанчынамі эўфемізмаў, да ліку якіх адносяцца "эмацыянальна нейтральныя словы або словазлучэнні, якія ўжываюцца замест сінанімічных ім адзінак, што ўяўляюцца гаворачаму непрыстойнымі, грубымі ці нетактоўнымі" (ЛЭС, с. 590). Яркім прыкладам праяўлення такога – "уласна жаночага" – тыпу маўлення з'яўляецца беларускае ўстойлівае прэдыкатыўнае спалучэнне *серада з-пад пятніцы відаць* (БФ, с. 344-345), *серада з-пад пятніцы вылазіць* (СФ 2, с. 388), *выглядае субота з-пад нядзелі* (ПП 2, с. 349), *серада (субота) з-пад нядзелі* (Юрч., с. 56) 'ніжняя вопратка (бялізна) выглядае з-пад верхняга адзення' і яго іншамоўныя паралелі: рус. *завалилась суббота за пятницу, середа ниже пятницы* (Даль 3, с. 554), *суббота дольше воскресенья, пятница дольше*

*субботы* (ППРН, 430), *из-под пятницы субботу видно* (ФСРГС, с. 27), *середа доле пятницы* (ФСРГС, с. 176), *из-под пятницы суббота* (ФСРГС, с. 192), *из-под пятницы суббота торчит* [10, с. 73], *из-под пятницы четверг виден, из-под вторника среда видна* (СФСРЯ, с. 155), *из-под пятницы суббота (четверг) видна (торчит)* (БСРП, с. 550); пол. *dlużczy piątek od suboty* (NKPP 2, s. 848), *dłużcza sobota niż niedziela* (NKPP 3, s. 246); чеш. *kouká ji pátek přez sobotu* (Zaor., s. 283), *leze ji sobota, leze sobota přez neděli* (Zaor., s. 362); параўн. таксама: літ. *per penktãdienį matýti ketvirtãdienis* (= через пятницу видеть четверг) (LKFŽ, p. 208), *petničia pratenka pro subatą* (= пятница протянута через субботу) (LKFŽ, p. 209).

Першапачаткова, як можна меркаваць, гэты фразеалагізм ужываўся толькі для характарыстыкі неакуратна апранутай жанчыны, пра што сведчаць прыклады яго ўжывання ў беларускай мове: *Ото прыбралася! У цябе, Тэкля, серада з-пад пятніцы відаць* (БФ, с. 345); *У нашай акуратніцы відаць серада з-пад пятніцы* (ПП 2, с. 349); *Акурацістка, што серада з-пад пятніцы відаць* (Высл., с. 32); *Суседка наша, Карабуціха, да вайны бязладная жанчына, у якой заусёды серада з-пад пятніцы вылазіла, аказалася практычнай кабетай* (Л. Арабей. Камандзіроўка за мяжу) (ЭСФ, с. 438).

Вобраз, пакладзены ў аснову семантыкі прыведзеных фразем, першапачаткова ўяўляецца даволі зразумелым: выгляданне ніжняй вопраткі з-пад верхняй – такое ж відавочнае «адхіленне ад нормы», як і вяртанне папярэдняга дня. Разам з тым, нельга не ўлічваць той факт, што ў сістэме этнакультурных уяўленняў дні тыдня надзяляліся багатай і складанай сімволікай, а з арыентацыяй на іх звязаны многія абрады, звычаі, павер'і і прыкметы.

Для разумення ўнутранай формы разглядаемых фразеалагізмаў мэтазгодна звярнуць увагу на звесткі аб паходжанні беларускай фраземы як *як серада на пятніцу (крывіцца, касіцца)* 'з вялікім незадавальненнем': проціпастаўленне дзён тыдня ў гэтым абароце звязана з тым, што ў адпаведнасці з царкоўнай традыцыяй серада і пятніца амаль кожнага тыдня лічыліся нішчымнымі, поснымі днямі, на працягу якіх забаранялася ўжываць мясную і малочную ежу; пры гэтым у пятніцу пост выконваўся больш строга, чым у сераду, з-за чаго "серада мела падставы крыўдзіцца, "крывіцца" на пятніцу" (ЭСФ, с. 439); параўн. таксама: укр. *кривиться як середа на п'ятницю, кривиться як серада на четверг* 'беспадстаўна злуецца' (ССНП, с. 135). Да ўяўленняў пра пятніцу як пра дзень асабліва строгага паста маюць адносіны і іншыя беларускія ўстойлівыя параўнанні: *гарыць як*

*у пятніцу* ‘пра сырыя дровы, якія дрэнна гараць’ (параўнанне з пятніцай абумоўлена тым, што пятніца з’яўляецца нішчымным днём, калі печ тапілі не ў поўную сілу) (Высл., с. 304); *выскаліў зубы як сабака на пятніцу* ‘пра злоснага, злога чалавека’ (у параўнальным звароце ўтрымліваецца намёк на “незадаволенасць” сабакі пятніцай – нішчымным днём, калі яму не даюць мясную ежу) (Высл., с. 298). Негатыўныя ўяўленні пра пятніцу адлюстроўвае і македонскі фразеалагізм *црн петок* (= чорная пятніца) ‘дрэнны дзень, які прыносіць няшчасце’ [1, с. 268].

Прыведзеныя звесткі суадносяцца з агульнапашыранымі народнымі павер’ямі пра “лёгкія” і “цяжкія” дні тыдня, якія звязаны з уяўленнямі пра шчасце і ўдачу. Пры гэтым “выбар правільнага, добрага, спрыяльнага дня лічыцца найважнейшай умовай поспеху ў любой справе і, наадварот, бе́ды, няўдачы, хваробы і інш. часта тлумачацца няправільна абраным або няшчаслівым днём” (СД 2, с. 94). Так, па беларускіх павер’ях, людзі, якія нарадзіліся ў розныя дні тыдня, набываюць у далешым розныя якасці і рысы характару, таму іх лёс складаецца па-рознаму: “Панядзелак лічыцца нешчаслівым, нехарошым днем. Хто радзіўся ў гэты дзень, будзе гультаяваты, хоць скупы, але бедны. Аўторак – шчаслівы дзень. Хто родзіцца ў гэты дзень, будзе працавіты, старанны, пражыве да вялікае старасці. Хто родзіцца ў сераду, той будзе ва ўсім не узад, ні ўперад, а так сабе, сярэдні чалавек. Чацвер – добры дзень. Хто ў гэты дзень родзіцца, пражыве вельмі доўга. Пятніца – нехарошы дзень. Хто ў гэты дзень родзіцца, то будзе п’яніца, гультай ці злодзей, ён дома не памрэ. Хто родзіцца ў суботу, той будзе вельмі вясёлы і прыемны у бяседзе, яго ўсе будуць кахаць. Хто родзіцца ў нядзелю, той будзе самы шчаслівы, бо яму ўсё будзе ўдавацца” [12, с. 147]. Залежнасць чалавечага лёсу ад дня нараджэння адлюстраваная ў шэрагу балгарскіх этнафразем: *роден в черен вторник, роден на черен петък, роден на черната събота* ‘вельмі нешчаслівы; той, каму не шанцуе’ (ФРБЕ 2, с. 256); *родил съм се на бял Покров* ‘пра таго, у каго лёгкаве жыццё’, *родил съм се на Великден* ‘вельмі шчаслівы; той, каму шанцуе’ (ФРБЕ 2, с. 257).

Цалкам заканамерна, што падзел дзён тыдня на “лёгкія” (аўторак, чацвер, субота) і “цяжкія” (панядзелак, серада, пятніца) распаўсюджваецца на розныя сферы чалавечага жыцця, адлюстроўваючыся ў многіх павер’ях і абрадах. Так, нявест адпраўляліся сватаць толькі ў аўторак, чацвер або суботу [11, с. 212]; у гэтыя ж дні вясною пачыналі сяўбу [4, с. 24] і наогул імкнуліся пачынаць любую важную справу [2, с. 117]. Яйкі, якія былі знесены курыцай ў гэтыя дні, адкладвалі асобна: на іх у далейшым саджалі квактуху; у той жа час з яек, знесеных у

пятніцу, з'яўляюцца, як лічылася, толькі пеўні [13, с. 231]. Шырока распаўсюджаныя павер'і аб гаючай сіле солі, прыгатаванай асаблівым чынам у чацвер на Велікодным тыдні [6, с. 458]. Наадварот, у цяжкія дні (асабліва ў панядзелак і ў пятніцу) пазбягалі пачынаць любыя справы [3, с. 192]; у посныя дні (у сераду і пятніцу) не ладзілі вяселляў [8, с. 146]. Апошняе пацвярджаецца беларускай фраземай *(жаніць) аддаваць замуж хоць у пятніцу* 'ў любы момант, у самы блізкі час'; (СФ 2, с. 288). Параўн. таксама: "Як карова ацеліцца ў пятніцу, то хоць яе прадавай, бо мала будзе даваць малака і не будзе з яе ніякай карысці" [12, с. 49].

Найбольшай сакральнай вагой сярод усіх дзён тыдня надзялялася пятніца, якая (як і серада) у язычніцкай традыцыі лічылася "жаночым" днём, прысвечаным багіні Макошы. Астатнія дні тыдня былі прысвечаны іншым язычніцкім багам: панядзелак – Хорсу, аўторак – Стрыбогу, чацвер – Пяруну, субота – Сямарглу, нядзеля – Дажбогу [9, с. 161–163]. Уласцівая старажытнаму светапогляду персаніфікацыя дзён тыдня і іх сувязь з паганскімі боствамі ў найбольшай ступені выявіліся ў абрадах і павер'ях, якія адносяцца да пятніцы. З комплексам "пятнічных" уяўленняў непарыўна звязаны культ Пятніцы – антрапаморфнай істоты, якая лічыцца хрысціянскім працягам галоўнага жаночага бажаства славянскага язычніцкага пантэона – Мокашы (МНМ 2, с. 357). Характарызуючы этнакультурны змест пятніцы ў народным календары, С.М. Талстая падкрэслівае: "Практычна кожная пятніца лічылася значным і небяспечным днём, асабліва старанна выконваліся забароны і прадпісанні ў пятніцы перад святамі, а таксама ў спецыяльна выдзеленыя Велікодную пятніцу, Девятуху, Десятуху, памінальныя пятніцы і г. д." [15, с. 202]. Важная функцыя Пятніцы – пакаранне жанчын, якія не выконваюць забароны на жаночую працу ў гэты дзень тыдня. Асабліва шырока былі распаўсюджаны забароны на прадзенне ў пятніцу [11, с. 71]. У беларускай былічцы Пятніца пагражае жанчыне, якую Пятніца застала за прадзеннем і якая ўсё ж абхітрыла яе: *"Разумная ты, маладзіца, што так здзелаць дагадалася; не здзелай ты гэтага, а аддай мне голыя верацёны, я б цябе самую як голае верацяно скруціла да ссушила. Я святая Пятніца. Глядзі, барані цябе Божа, ні разу ў пятніцу не прадзі"* [7, с. 138]. Рускія ведаюць павер'е аб тым, што святая Пятніца ходзіць па зямлі ў выглядзе маладой жанчыны і заўважае, хто як жыве і як выконвае старажытныя звычаі і абрады; адных яна карае, іншых ўзнагароджвае [6, с. 382]. Ва ўкраінскіх казках Пятніца разам з Панядзелкам і Серадою выступае ў ролі, аналагічнай той, якую выконваюць дочкі Бабы-ягі (МНМ 2,

с. 357). Відавочна, на стаўленне да пятніцы як да дня строгіх забаронаў немалы ўплыў аказала і хрысціянства: паводле Евангелля, распяцце Ісуса Хрыста адбылося менавіта ў пятніцу (Лука 23: 53–54), у сувязі з чым пятніца (Вялікая пятніца) лічыцца кульмінацыйным днём Велікоднага тydня, калі асабліва строга прытрымліваюцца посту.

Прыведзеныя звесткі сведчаць пра тое, што “дням тыдня прыпісваюцца некаторыя семантычныя прыкметы, якімі вызначаецца прагматыка народнага календара” [14, с. 164]. Усе дні тыдня, такім чынам, надзяляліся спецыфічнымі характарыстыкамі, якія дазваляюць іх супрацьпаставіць. Названыя прадстаўленні не маглі не адлюстравацца ў структуры і семантыцы фраземы *серада з-пад пятніцы відаць*. Відавочна, што серада ў народных уяўленнях усвядамлялася як дзень тыдня, “падначалены” пятніцы; як дзень, менш значны па “ступені сакральнасці”, чым пятніца – “найбольш семантычна нагружаны дзень” [14, с. 163]. Да пятніцы прымеркаваны не толькі строгі пост, розныя звычаі, вераванні і табу, але і павер’і аб міфічнай істоце – Пятніцы, якая асабліва небяспечная для жанчын. У беларускай былічцы міфалагічныя персанажы – Серада і Пятніца – пытаюць у сустрэтага ім чалавека, які дзень тыдня ён ушаноўвае ў большай ступені – сераду або пятніцу? Перавага пры адказе аддаецца пятніцы: *“Мабыць жа, пятніцу, бо ў сераду ляхі саўсім не посцяць <...> У серадную ўсё ядуць, а ў пятніцу ні прадуць, ні аруць”* [7, с. 135–136].

Такім чынам, ёсць падставы лічыць, што вобразнай асновай для ўзнікнення фразем разгляданага тыпу з’явілася лагічная схема, у рамках якой супрацьпастаўляюцца найбольш сакралізаваная дні тыдня – серада і пятніца. Заканамерна, што ўстойлівыя словазлучэнні, якія маюць дачыненне да характарыстыкі знешняга выгляду (больш канкрэтна – менавіта да «жаночай сферы»), утрымліваюць словы-кампаненты, якія называюць “жаночыя” дні і (адначасова) суадносяцца з назвай жаночага персанажа – святой Пятніцы. У гэтых эўфемістычных па сваім характары зваротах «закадзіраваліся» складаныя, але, несумненна, добра вядомыя жанчынам у мінулым уяўленні пра пятніцу як дзень многіх забаронаў і пра Пятніцу – антрапаморфную міфічную істоту, якая строга “кантралюе” паводзіны жанчын. Актуальнасць і жывучасць гэтых уяўленняў садзейнічалі дакладнаму разуменню далікатнай сітуацыі, пры якой ніжняе жаночае адзенне (бялізна) была бачная з-пад верхняга адзення. З аналагічным значэннем –‘ніжняя адзенне, бачнае з-пад верхняга’ – і адпаведнай «унутранай логікай» (вялікі, важны горад ↔ маленькі, другарадны горад) у нямецкай мове адзначаны фразеалагізм *у яго з-за Гамбурга бачны Любек* [10, с. 73].

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Велковска, С. Македонска фразеологија Са мал фразеолошки речник / С. Велковска. – Скопје, 2008. – 376 с.

2. Завойко, Г. К. Верования, обряды и обычаи великороссов Владимирской губернии / Г. К. Завойко // Этнографическое обозрение. – 1914. – № 3–4. – С. 81–170.

3. Земляробчы каляндар: Абрады і звычаі / Уклад., класіф., сістэм. мат-лаў і камент. А. І. Гурскага; Уступ. арт. А. І. Гурскага, А. С. Ліса; Рэдкал.: А. С. Фядосік (гал. рэд.) і інш. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – 405 с.

4. Зернова, А. Б. Материалы по сельскохозяйственной магии в Дмитровском крае / А. Б. Зернова // Советская этнография. – 1932. – № 3. – С. 15–32.

5. Коатс, Дж. Женщины, мужчины и язык / Дж. Коатс //Гендер и язык / Московский гос. лингвистический ун-т; Лаборатория гендерных исследований. – М.: Языки славянской культуры, 2005. – С. 34–231.

6. Круглый год: Русский земледельческий календарь / Сост., вступ. ст. и прим. А. Ф. Некрыловой. Ил. Е. М. Белоусовой. – М.: Правда, 1989. – 496 с.

7. Легенды і паданні // Склад. М. Я. Грынблат і А. І. Гурскі ; рэд. тома А. С. Фядосік. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 544 с.

8. Макашина, Т. С. Свадебный обряд русского населения Латтгалии / Т. С. Макашина // Русский народный свадебный обряд: Исследования и материалы / под ред. К. В. Чистова и Т. А. Бернштам. – Л.: Наука. Ленингр. отд-ние, 1978. – С. 138–158.

9. Мокиенко, В. М. Образы русской речи: историко-этимологические очерки фразеологии / В. М. Мокиенко. – 2-е изд., испр. – М.: Флинта: Наука, 2007. – 464 с.

10. Подюков, И. А. Народная фразеология в зеркале народной культуры : учеб. пособие / И. А. Подюков. – Пермь: ПГПИ, 1991. – 124 с.

11. Романов, Е. Р. Материалы по этнографии Гродненской губернии. Вып. I / Е. Р. Романов. – Вильна, 1911. – 239 с.

12. Сержпутоўскі, А. К. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў: Беларуская этнаграфія ў доследах і матэрыялах. Кн. VII / А. К. Сержпутоўскі. – Менск: Бел. АН, 1930. – 383 с.

13. Степанов, В. И. Сведения о родильных и крестильных обрядах в Клинском уезде Минской губернии / В. И. Степанов // Этнографическое обозрение. – 1906. – № 3–4. – С. 221–234.

14. Толстая, С. М. К соотношению христианского и народного календаря славян: счет и оценка дней недели / С. М. Толстая // Языки культуры и проблемы переводимости / отв. ред. Б. А .Успенский. – М.: Наука, 1987. – С. 154–168.

15. Толстая, С. М. Полесский народный календарь / С. М. Толстая. – М.: Индрик, 2005. – 600 с.

**Умоўныя скарачэнні**

БСРП – Мокиенко В. М., Никитина Т. Г. Большой словарь русских

поговорок. – М.: ЗАО «ОЛМА Медиа Групп», 2007. – 784 с.
БФ – Янкоўскі Ф. М. Беларуская фразеалогія: Фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне. – Мінск: Выш. школа, 1968. – 451 с.
Высл. – Выслоўі / [Склад., сістэм тэкстаў, уступ. арт. і камент. М. Я. Грынблата. Рэд. тома А. С. Фядосік]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979. – 520 с.
Даль – Даль Владимир. Толковый словарь живого и великорусского языка: Т. 1–4. – М.: Рус. яз., 1978–1980.
ЛЭС – Лингвистический энциклопедический словарь / Гл. ред. В.Н. Ярцева. – М.: Сов. энциклопедия, 1990. – 685 с.
МНМ – Мифы народов мира: Энциклопедия (В 2 томах). Гл. ред. А. С. Токарев. – М.: Сов. энциклопедия, 1987–1988.
ПП – Прыказкі і прымаўкі ў дзвюх кнігах: Рэд. А. С. Фядосік. – Мінск: Навука і тэхніка. – Кн. 1. – 1976. – 560 с.; Кн. 2. – 1976. – 616 с.
ППРН – Пословицы и поговорки русского народа: Из сборника В. И. Даля / под общ. ред. Б. П. Кирдана; Вступ. слово М. А. Шолохова; Послесл. В. П. Аникина. – М.: Правда, 1987. – 656 с.
СД – Славянские древности: Этнолингвистический словарь в 5-ти томах / Под ред. Н. И. Толстого. Т. 1. – М.: Междунар. отн., 1995. – 584 с.; т. 2. – М.: Междунар. отн., 1999. – 584 с.
ССНП – Юрченко О. С., Івченко А. О. Словник стійких народних порівнянь. – Харьків: Основа, 1993. – 176 с.
СФ – Лепешаў, І. Я. Слоўнік фразеалагізмаў. У 2 т. Т. 1: А–Л. – 679 с.; Т. 2: М–Я. – 704 с. / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Беларус. Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2008.
СФСРЯ – Бирих А. К., Мокиенко В. М., Степанова Л. И. Словарь фразеологических синонимов русского языка / под ред. В. М. Мокиенко. – Ростов-на-Дону: Феникс. – 1996. – 352 с.
ФРБЕ – Ничева К., Спасова-Михаилова С., Чолакова Кр. Фразеологичен речник на българския език. – София: Изд-во на Българската академия на науките. – Том 1: А–Н. – 1974. – 759 с.; Том 2: О–Я. – 1974. – 779 с.
ФСРГС – Фразеологический словарь русских говоров Сибири / отв. ред. А. И. Федоров. – Новосибирск: Наука, 1973. – 232 с.
ЭСФ – Лепешаў, І.Я. Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў / І.Я. Лепешаў. – Мінск: БелЭн, 2004. – 448 с.
Юрч.-2 – Юрчанка Г. Ф. Слова за слова: Устойлівыя словазлучэнні ў гаворках Мсціслаўшчыны. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – 272 с.
LKFŽ – Paulauskas J. Lietuvių kalbos frazeologijos žodynas. – Kaunas: Sviesa, 1977. – 320 p.
NKPP – Nowa księga przysłów i wyrażeń przysłowiowych polskich. T. 1–3. – Warszawa: Panst. Inst. Wydawniczy, 1969–1972.
Zaor. – Zaoralek J. Lidová rčení. – Praha: Nakladatelství Československé akadamie Věd, 1963. – 779 s.

УДК 811.161.3'373.4:398.92:726

*В. А. Ляшчынская*

# ДЗВЕРЫ – СІМВАЛЬНЫ КАМПАНЕНТ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ АРХІТЭКТУРНА-ДОМАЎЛАДКАВАЛЬНАГА КОДА КУЛЬТУРЫ

У артыкуле на матэрыяле фразеалагізмаў апісваецца фрагмент карціны свету, звязаны з уяўленнямі пра жыллё, дакладней, пра яго частку – дзверы, праводзіцца аналіз фразеалагізмаў з кампанентам *дзверы* з пазіцый лінгвакультуралагічнага падыходу. Устаноўлена, што выдзеленыя фразеалагізмы адлюстроўваюць і рэпрэзентуюць практычны і духоўны светапогляд носьбітаў мовы пра катэгорыю прасторы і паняцце «дзверы» як складанае ментальнае ўтварэнне, якое вызначаюць паняційны, вобразны і каштоўнасны складнікі.

Паняцце «хата» («дом») з'яўляецца адным з важнейшых у характарыстыцы чалавека, яго жыцця і яго карціны свету. Хата, дом – гэта найперш асвоеная прастора, свая тэрыторыя. Але хата, дом, як і іх часткі, паводле заўваг даследчыкаў сімвалічных аспектаў жылля на матэрыяле абрадаў, вераванняў, фальклорных і міфалагічных тэкстаў, у прыватнасці, паводле выказвання А.К. Байбурына, – «гэта не толькі матэрыяльны аб'ект. У традыцыйным грамадстве жыллё – адзін з ключавых сімвалаў культуры» [1, с. 3]. Вызначальным паказчыкам асвоенай і неасвоенай чалавекам прасторы і наогул важнай часткай дома з'яўляюцца дзверы, якія надзелены пэўнай сімволікай культуры і якія сталі кампанентамі фразеалагічных адзінак (ФА), што і абраны аб'ектам вывучэння.

Эмпірычную базу даследавання складаюць 19 ФА з кампанентам *дзверы*, выдзеленых метадам суцэльнай выбаркі са «Слоўніка фразеалагізмаў» І. Я. Лепешава [4] як адной з найбольш поўных крыніц фразеалагізмаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы, 4 ФА і 1 варыянт, зафіксаваныя ў слоўніках беларускай дыялектнай фразеалогіі [5; 6; 7; 10]. Асноўная мэта вывучэння ўсіх выдзеленых ФА з кампанентам *дзверы* – даць лінгвакультуралагічную інтэрпрэтацыю праз вызначаны кампанент, тыя вобразы, што сталі асновай утварэння другасных адзінак, і даследаваць сімвальнасць абраных фразеалагізмаў, зыходзячы з таго, што, «асобныя словы-кампаненты як складнікі фразеалагізмаў з'яўляюцца сімваламі, якія пазначаны мовай, паколькі з'яўляюцца імёнамі сімвалаў – рэалій, узнагароджаных асобным, сімвальным,

зместам у культуры», і кожны фразеалагізм «не толькі вобразна апісвае тое, што адбываецца ў свеце, але і перадае апісанню той сімвалічны, каштоўны, змест, які ўключаны ў яго семантыку» [3, с. 230].

Усе зафіксаваныя ФА на аснове агульнага кампанента *дзверы* ўваходзяць у склад адзінак архітэктурна-домаўладкавальнага кода як культурнай прасторы для інтэрпрэтацыі фразеалагізмаў з сімвальным значэннем. А тое, што кампанент *дзверы* ў складзе выдзеленых ФА і самі ФА з гэтым кампанентам выступаюць у ролі сімвалаў, эталонаў, стэрэатыпаў і нясуць культурную, сімвалічную, семантыку, несумненна, таму што звесткі пра сімвальнае значэнне самой рэаліі – дзвярэй падмацавана фактамі культуры, тымі звесткамі пра сімвалічнае значэнне гэтай рэаліі як культурнага знака.

Дзверы як элемент збудавання, найперш для беларусаў хаты як ‘жылой сялянскай пабудовы, зрубленай з бярвення’ [8, с. 183], у адрозненне ад першаснага назначэння дома ў беларускай мове як наймення ‘будынка для жылля, размяшчэння ўстаноў і прадпрыемстваў’ [9, с. 189], надзелены ў народнай свядомасці сімволікай мяжы паміж «сваёй» і «чужой» тэрыторыямі, абжытай і неабжытай прасторы. Вобразы ўсіх выдзеленых ФА ўзыходзяць да архетыпічнага пласта культуры (да старажытных формаў калектыўнай свядомасці), адной з базавых апазіцый якога з’яўляецца супрацьпастаўленне «свой» – «чужы», «свая» – «чужая» прастора. І ў аснове ўсіх ФА з кампанентам *дзверы* ляжыць архітэктурна-домаўладкавальны код культуры, у якім тыя ці іншыя часткі, складнікі жылля, інтэр’еру, у нашым выпадку гэта дзверы, набываюць значныя для культуры функцыянальныя сэнсы. Дзверы, прытым зачыненыя, – гэта своеасаблівая граніца, мяжа, якая вызначае і надае афармленасць сваёй прасторы і аддзялення яе ад чужой, свой свет ад чужога свету. Менавіта гэта і надае дзвярам сакральны сэнс. Да месца тут узгадаць адно з павер’яў, якое дайшло да нашага часу і паводле якога забараняецца перадаваць што-небудзь праз парог ці вітацца за руку людзям, што знаходзяцца па розных баках адкрытых дзвярэй ці з розных бакоў парога як сакральнай мяжы. Думаецца, што гэта сімволіка дзвярэй і стала, па-першае, «прычынай» уключэння, выкарыстання наймення гэтай часткі жылля чалавека ў вобразах ФА і, па-другое, была перададзена ФА з гэтым кампанентам як другасным адзінкам мовы сімвалічнага, каштоўнаснага, складніка іх значэння. У выніку ФА з кампанентам *дзверы* са сваім складаным зместам служаць для абазначэння новых рэалій, для выражэння найперш рознага тыпу ўзаемаадносін людзей паміж сабой і, галоўнае, для ацэнкі гэтых адносін – станоўчай ці адмоўнай, для абазначвання,

захавання і перадачы ў часе і прасторы выпрацаваных установак міжасобасных сувязей у жыцці беларусаў.

У залежнасці ад таго, вобраз якіх дзвярэй – адчыненых ці зачыненых (дзверы рэгламентуюць уваход ці выхад, мяжу паміж жылой прасторай і наваколлем) скарыстаны ў большасці выдзеленых ФА, іх умоўна можна падзяліць на дзве групы. Звернем увагу і яшчэ на адзін факт адносна дзвярэй: як адчыняюцца дзверы, у які бок – з хаты надвор ці ўнутр хаты і адпаведна, хто пры гэтым з'яўляецца ініцыятарам дзеяння, што дазваляе паказаць адносіны паміж асобамі, якія выступаюць ці прадстаўлены з супрацьлеглых тэрыторый.

Так, у вобразе ФА *дзверы адчынены /расчынены /парасчынены* 'хто-н. мае свабодны доступ куды-н., для каго-н. створаны спрыяльныя ўмовы' ляжыць метафара, якая прыпадабняе абстрактнае паняцце (доступ, сувязь, кантакт, дружба) канкрэтнаму факту – адчыненым дзвярам, якія сімвалізуюць магчымасць аднаму чалавеку ці многім што-небудзь спазнаць, пра нешта новае даведацца, атрымаць магчымасць, мець спрыяльныя ўмовы для выканання новага дзеяння, ажыццяўлення ўзаемаадносін і пад. у выніку пранікнення знадворку ўнутр. Фразеалагізм канстатуе факт магчымасці ўбачыць, пазнаць, наладзіць і пад. дзякуючы адчыненым дзвярам.

Блізкай паводле вобраза, але далёка не тоеснай да папярэдняй выступае дзеяслоўная ФА *адчыняць /адкрываць дзверы* 'даваць свабодны доступ, ствараць спрыяльныя ўмовы'. Тут маецца на ўвазе, што асоба ці група асоб сама ідзе на ўстанаўленне кантакту, выражае жаданне даць магчымасць другой асобе ці групе асоб перайсці са сваёй у «чужую» прастору, для чаго адчыняе дзверы, тым самым ствараючы другому ці другім спрыяльныя ўмовы. Вобраз ФА выяўляе метафару, якая прыпадабняе найбольш міжасобасныя, а не толькі прасторавыя адносіны. Фразеалагізм выступае ў ролі стэрэатыпу стварэння каму-небудзь умоў, магчыма, дапамогі і пад.

Да папярэдняй ФА далучаем дыялектную ФА *прочыніць дзверы (хату)* 'наведацца', што зафіксаваны на Брэстчыне [7 с. 62], дзе праз вобраз прыадчыненых дзвярэй даводзіцца пра прасторавыя і міжасобасныя адносіны. Маецца на ўвазе, што адна асоба ці некалькі асоб наведваюць другую асобу ці групу асоб. Тут нічога не паведамляецца пра тых, да каго наведваюцца, а таму ФА набывае ролю стэрэатыпнага ўяўлення пра наведванне як неабходнасць адчыніць дзверы.

Несумненна, што сімволіка адчыненых дзвярэй скарыстана і ва ўтворанай параўнальна нядаўна ФА дзень /дні *адкрытых дзвярэй* '(дзень, дні) вольнага доступу ў навучальную ўстанову ці на

прадпрыемства (каб азнаёміцца з іх профілем)’. Маецца на ўвазе, што тыя (часцей абітурыенты, іх бацькі ці маладыя спецыялісты), хто хоча пазнаёміцца з інфармацыяй пра абраную для сябе навучальную ўстанову, пэўнае прадпрыемства, могуць у вызначаныя дні свабодна наведаць яе, для іх створаны ўсе ўмовы з боку навучальнай установы, прадпрыемства, іх чакаюць, ім рады. Інтарэсы асоб прадстаўлены і супадаюць з двух бакоў праз адчыненыя дзверы. ФА выступае ў ролі яшчэ аднаго стэрэатыпа наладжвання сувязей, магчымасці, з аднаго боку, папярэдняга знаёмства з невядомым, новым, з другога – зацікавіць, заахвоціць і пад. для будучай вучобы, працы.

Зусім па-іншаму «прачытваецца» ФА *адчыняць ілбом дзверы* ‘быць выгнанаму, часцей як пагроза’. Тут маецца на ўвазе, што пэўная асоба ці група асоб у рэзкай форме разрывае адносіны з другой асобай альбо з групай асоб і дэманструе нежаданне бачыць яе ці іх побач з сабой, займацца з імі сумеснай дзейнасцю ці мець з імі штосьці агульнае на сваёй тэрыторыі. Лоб у вобразе ФА метанімічна, калі частка (саматызм) замяняе цэлае (асоба), прадстаўляе, з аднаго боку, чалавека, які быў выгнаны, з другога – «сродак» выканання такога дзеяння, як адкрыванне дзвярэй. І такім ганебным, нават грубым спосабам выканання дзеяння даводзіцца пра разрыў адносін і негатыўнае стаўленне да асобы ці групы асоб, якіх не хочуць бачыць, з якімі парываюць сувязі. Паводле свайго кампанентнага складу ФА суадносіцца з архітэктурна-домаўладкавальным кодам, саматычным (*ілбом*) і акцыянальным (*адчыняць*). ФА выступае ў ролі стэрэатыпу рэзкага разрыву адносін, нежадання бачыць, ажыццяўляць сумесную дзейнасць з кім-небудзь, тым больш на сваёй тэрыторыі.

У адрозненне ад папярэдняй, у ФА *нагой адчыняць дзверы* ці яго варыянце *нагой дзверы адчыняе* – ‘свабодна, беспераашкодна заходзіць куды-н., да каго-н.’ [5, с. 29] дзеянне выконваецца, па-першае, з надворку ўнутр, ці ў адваротным напрамку, пазначаным у ФА *адчыняць ілбом дзверы*, і зыходзіць ад асобы з супрацьлеглай тэрыторыі; па-другое, зноў не традыцыйным, але зусім іншым «сродкам» – нагой. Маецца на ўвазе, што адна ці некалькі асоб дэманструюць свае, з іх боку разумення, сяброўскія, блізкія, нават панібрацкія сувязі, адносіны, дружбу і пад. з другой асобай ці некалькімі, а таму могуць свабодна, без запрашэння, дазволу і ў любы час заходзіць на іх тэрыторыю, такім чынам выстаўляючы гэта напаказ, нярэдка выдаючы жаданае за сапраўднае, у той час як для іншых асоб прыход на «чужую» тэрыторыю немагчымы без дазволу, запрашэння ці папярэджання. Фразеалагізм выступае ў ролі стэрэатыпу

паказных для іншых добрых сувязей, дружбы, як правіла, з уплывовай асобай, кіраўніком, начальнікам і пад. і нясе негатыўную ацэнку.

ФА *ламацца ў адчыненыя дзверы* ‘настойліва сцвярджаць, даказваць тое, што даўно ўсім вядома і не выклікае пярэчання’ матывавана алагічным словазлучэннем-прататыпам. Кампанент ФА *ламацца* суадносіцца з антропным кодам культуры, і вобраз ФА створаны метафарай, якая прыпадабняе псеўдадзеянне сапраўднаму дзеянню. Заўважым, што ў рускай мове маецца аманімічная ФА *ломиться в открытую дверь* са значэннем ‘создавать для себя излишние, совершенно ненужные препятствия’, якую адны лічаць запазычанай з французскай мовы, другія адстойваюць яе ўласнае ўтварэнне [2, с. 175].

Блізкай паводле прыёму ўтварэння і з абсалютна тоесным значэннем да папярэдняй выступае ФА *адмыкаць адамкнёныя дзверы* ‘настойліва даказваць, сцвярджаць тое, што даўно ўсім вядома і не выклікае пярэчання’, якая, відавочна, утворана паводле ўзору папярэдняй і адрозніваецца толькі стылёвай характарыстыкай.

Дзеяслоўная ФА *ў дзверы не ўлазіць* ‘растаўсцець, распаўнець, папраўіцца [6, с. 268], паводле свайго вобраза таксама ў пэўнай ступені звязаны з вобразам адчыненых дзвярэй. Маецца на ўвазе, што пэўная асоба праз нейкі час настолькі папраўілася, павялічыла свой аб’ём, што не можа прайці ў адчыненыя дзверы. Вобраз ФА пабудаваны на аснове гіпербалічнага прыёму, і ў аснове яго ляжыць метафара, якая прыпадабняе памеры чалавека шырыні дзвярнога праёму, які лічыцца вялікім. Такія габарыты чалавека «ўступаюць у супярэчнасць» з агульнапрынятымі нормамі культуры пра памеры чалавека, асабліва шырыні. Зразумела, што гэта не ўхваляецца і падпадае пад асуджэнне, што і стала асновай утварэння ФА, якая нярэдка выкарыстоўваецца для выражэння іроніі і нават насмешкі пад уплывам культурных установак. Фразеалагізм выступае ў ролі стэрэатыпу парушэння нормы памераў чалавек.

Меншая колькасць ФА прадстаўлена з вобразам зачыненых дзвярэй, якія пазначалі замкнёнасць і абароненасць «свайго», унутранага. І адным з іх з’яўляецца ФА *дзверы зачынены /зачыніліся* ‘хто-н. не мае свабоднага доступу куды-н., пазбаўлены якіх-н. магчымасцей’, якая выступае супрацьлеглай паводле значэння да вышэй узгаданай ФА *дзверы адчынены /расчынены /парасчынены* і вобраз якой таксама заснаваны на метафары, што прыпадабняе прасторавыя і міжасобасныя адносіны. Тут зачыненыя дзверы сімвалізуюць немагчымасць уваходу ў «чужую» прастору і адсутнасць умоў для ажыццяўлення новага дзеяння, для наладжвання добрых сувязей з іншымі людзьмі і інш.

Кампанентны склад размоўнай ФА *як у бога за дзвярыма* ‘спакойна і ў поўнай бяспецы (быць, знаходзіцца, сядзець і пад.’ ілюструе суаднесенасць з архітэктурна-домаўладкавальным (*дзвярыма*), рэлігійным (*бога*), а ў спалучэнні з прыназоўнікамі *у* і *за* з прасторавым кодамі культуры. Маецца на ўвазе, што больш спакойнага месца для жыцця, знаходжання і пад. для чалавека няма, як на тэрыторыі, якую ахоўвае Бог. Тут зачыненыя дзверы выступаюць мяжой паміж тэрыторыяй, якая належыць, знаходзіцца пад уладай Бога, і «чужой» тэрыторыяй, якая падпарадкавана ці належыць супрацьлеглай негатыўнай сіле. Фразеалагізм звязваецца са стэрэатыпным уяўленнем пра спакой і бяспеку жыцця.

Функцыянальна не замацаваная ў беларускай мове ФА *пры зачыненых дзвярах* ‘у прысутнасці толькі зацікаўленых асоб, тайна ад іншых’ у аснове сваёй утрымлівае метафару, якая заснаванана на сімвальнай функцыі дзвярэй і на стэрэатыпным уяўленні пра немагчымасць убачыць, пачуць, даведацца пра што-небудзь, калі ў памяшканні зачынены дзверы. У метафарычна вобразным змесце ФА тайна, скрытнасць прыпадабняецца да зачыненых дзвярэй, г. зн. недаступнай для іншых, чужых асоб, прасторы.

Зусім іншы вобраз, стылістычная афарбоўка і семантыка вызначаюць ФА *зачыніць дзверы з таго боку* – ‘пакінуць памяшканне. Як патрабаванне, каб хто-н. зараз жа выйшаў адкуль-н.’, які ўзыходзіць да старажытнай формы ўсведамлення свету і адлюстроўвае старажытныя ўяўленні пра дзверы як мяжу, якая мае два бакі – свой і чужы, гэты і той. Паводле паходжання ФА абавязана эўфімістычнаму выразу замест рэзкага і грубага па форме загаду выйсці вон (*эўфімізм* ад грэч. *euphemismos* (*eu* – ‘добра’, *phemi* – ‘гавару’, *euphëemia* – ‘мілагучнасць, добрая мова; устрыманне ад непрыстойных слоў’).

У дадатак да папярэдняй адзінкі адзначым яшчэ дзве ФА з блізкім значэннем, адна з якіх (*паказваць на дзверы* ‘прапаноўваць каму-н. выйсці; выганяць каго-н.’) зафіксавана як літаратурная, а другая (*выставіць за дзверы* ‘выправадзіць, выгнаць з хаты, адправіць ні з чым’) як дыялектная [6, с. 47].

Аднак ФА літаратурнай мовы больш набліжаецца да эўфімістычнага выразу, дзе пэўны жэст (*паказваць* можна вачамі, рукой ці пальцам рукі) у накірунку да дзвярэй адной асобай з’яўляецца для ўспрымання другой асобай паказчыкам нежадання бачыць гэту другую асобу на сваёй тэрыторыі, мець з ёю штосьці агульнае. Дыялектная ФА *выставіць за дзверы*, па-першае, не мае падстаў для аднясення яго да эўфімістычных вытокаў утварэння, па-другое, выражае большую

ступень праяўлення адмоўнага стаўлення, негатыву да асобы, на якую накіраваны гэты выраз, што дасягаецца выкарыстаннем дзеяслова *выставіць*, які не да канца страціў сваё значэнне ‘перамясціць што-н. за межы чаго-н.’ Мяжой выступаюць дзверы, а спалучэнне кампанента *дзверы* з прыназоўнікам *за* якраз і вызначае адваротны бок – чужую тэрыторыю, куды і выстаўляецца адной асобай другая ці другія як непажаданыя, сувязі з якімі разрываюцца.

Абедзве ФА, але па-рознаму (*паказваць на* і *выставіць за*) і з рознай ступенню інтэнсіўнасці праяўлення эмоцый адлюстроўваюць стэрэатыпнае ўяўленне пра разрыў міжасобасных адносін, нежаданне бачыць, быць з кім-небудзь.

Яшчэ адзначаны 4 ФА, вобразы якіх заснаваныя на «гукавых» дзеяннях і якія адносім да групы ФА з зачыненымі дзвярамі, паколькі бразгаць, стукаць, стукацца можна толькі ў зачыненыя дзверы. Аднак назначэнне гэтых ФА зусім другое.

Так, вобразы ФА *стукаць у < ва ўсе > дзверы, стукацца ў дзверы* ‘часта звяртацца з просьбамі да каго-н.’ і *застукаць ва ўсе дзверы* ‘пачаць часта, настойліва звяртацца з просьбамі да каго-н.’ заснаваны на метафары, якая прыпадабняе зварот, просьбу адной ці многіх асоб да другой ці некалькіх асоб стуку ў дзверы. Зачыненыя дзверы абазначаюць замкнёнасць «чужой» тэрыторыі, прасторы, якая можа быць карыснай, можа дапамагчы зрабіць што-небудзь для тых, хто звяртаецца, стукае, у дзверы. Акрамя таго, ФА *стукаць у < ва ўсе > дзверы, стукацца ў дзверы* набылі яшчэ адно значэнне – ‘няўхільна наступаць, набліжацца, даючы знаць аб сваім з’яўленні’. Тут фразеалагізмы ўтрымліваюць метафару, у якой стук у дзверы прыпадабняецца надыходу, набліжэнню чаго-небудзь, як чалавек можа з’явіцца ў хаце, кватэры пасля стуку ў дзверы як паведамленне пра сябе. Вобраз ФА выступае ў ролі стэрэатыпнага ўяўлення пра немінучасць наступлення, надыходу чаго-небудзь.

Зусім па-іншаму «гукавы» вобраз прадстаўлены ў ФА *бразгаць дзвярамі* ‘выяўляць рэзкі пратэст, не дабіўшыся свайго, жаданага’. Маецца на ўвазе, што пэўная асоба, якая была на тэрыторыі другой асобы ці групы асоб і хацела штосьці атрымаць, мець пэўны вынік, але яго не атрымала. І тады пры выхадзе з «чужой» тэрыторыі моцна стукае, бразгае дзвярамі, выражаючы свой эмацыянальны стан незадавальнення, раздражнення ці злосці.

І толькі дзве ФА з усіх 24 не звязаны з вобразам адчыненых ці зачыненых дзвярэй. Першая з іх дыялектная ФА *дзверы ў дзверы* ‘вельмі блізка, насупраць (жыць)’ [10, с. 184], вобраз якой заснаваны

на метафары, якая прыпадабняе найперш прасторавыя адносіны, і метаніміі, дзе частка замяняе цэлае – дзверы хату. Тут прадстаўлены дзве асобныя і асвоеныя, свае, тэрыторыі, г. зн. дзве хаты ці дзве кватэры, часткай і мяжой паміж якімі выступаюць дзверы. Маецца на ўвазе, што адна асоба жыве побач з другой, дзверы адной хаты, кватэры размешчаны блізка, насупраць дзвярэй другой. ФА выконвае ролю эталона блізкасці, пражывання побач.

І другая ФА, прадстаўленая ў варыянтах хадзіць, насіцца, цягацца і пад. *як дурань са ступай /дзвярамі* і *як дурань ступу /дзверы* цягаць, насіць 'бяссэнсава, недарэчна', утворана шляхам фразеалагізацыі параўнання. Праз кампанент *дурань* ФА суадносіцца з антропным кодам культуры і нясе негатыўную ацэнку, якая ўзмацняецца праз вобраз неразумнага дзеяння. Фразеалагізм выконвае ролю эталона, г. зн. ацэнкі недарэчнасці, неразумнасці ўчынкаў, дзеянняў і пад.

Такім чынам, фразеалагізмы з кампанентам *дзверы* адлюстроўваюць нацыянальна-культурнае ўспрыманне і разуменне беларусаў пра дзверы як частку жылля, якія надзелены сімвалічнай роляй мяжы, раздзялення «сваёй» і «чужой» прасторы, служаць для вызначэння прасторавых і міжасобасных адносін, выражаючы каштоўнасныя арыенціры ў жыцці.

**Спіс выкарыстаных крыніц**


1 Байбурин, А.К. Жилище в обрядах и представлениях восточных славян / А.К. Байбурин. – Л.: Наука, 1983. – 188 с.

2 Бирих, А.К. Русская фразеология. Историко-этимологический словарь: ок. 6000 фразеологизмов / СПбГУ; Межкаф. словарный каб. им. Б.А. Ларина; А.К. Бирих, В.М. Мокиенко, Л.И. Степанова ; под ред. В.М. Мокиенко. – 3-е изд., испр. и доп. – М.: Астрель: АСТ: Хранитель, 2007. – 926 с.

3 Ковшова, М.Л. Лингвокультурологическиий метод фразеологии: Коды культуры / М.Л. Ковшова. – М.: Книжный дом «ЛИБРОКОМ», 2013. – 456 с.

4 Лепешаў І. Я. Слоўнік фразеалагізмаў : у 2 т. / И.Я. Лепешаў. – Т. 1: А–Л. – 672 с.; т. 2: М–Я. – 704 с. – Мінск: Беларус. Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2008.

5 Лепешаў, І.Я. Фразеалагизмы // У слоўнікавую скарбонку : навуч. дапам. / І.Я. Лепешаў. – Гродна: ГрДУ, 1999. – С. 20–43.

6 Мяцельская, Е.С. Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі / Е.С. Мяцельская, Я.М. Камароўскі. – Мінск: БДУ імя У.І. Леніна, 1972. – 320 с.

7 Пашкевіч, М.І. Рубельскі лексіка-фразеалагічны слоўнік / М.І. Пашкевіч. – Брэст: БДУ імя А.С. Пушкіна, 2008. – С. 53–66.

8 Тлумачальны слоўнік беларускай мовы : у 5-ці т. Т. 5. Кн. 2: У–Я / [Рэд. тома М.Р. Суднік]. – Мінск: Беларус. Сав. Энцыклапедыя, 1984. – 608 с.
9 Тлумачальны слоўнік беларускай мовы : у 5-ці т. Т. 2: Г–К / [Рэд. тома А.Я. Баханькоў]. – Мінск: Гал. рэд. Беларус. Сав. Энцыклапедыя, 1978. – 708 с.
10 Юрчанка, Г.Ф. І коціца і валіцца / Г.Ф. Юрчанка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978. – 288 с.
11 Міфалогія беларусаў: Энцыклапедычны слоўнік / склад. І. Клімковіч, В. Аўтушка; навук. рэд. Т. Валодзіна, С. Санько. – Мінск: Беларусь, 2011. – 607 с.

УДК 811.161.3'37

*Л. М. Мінакова*

# СЕМАНТЫЧНЫЯ ЗРУХІ Ў СЭНСАВАЙ СТРУКТУРЫ СЛОВА (НА МАТЭРЫЯЛЕ ТЭРМІНАЛАГІЗАЦЫІ І ДЭТЭРМІНАЛАГІЗАЦЫІ)

Артыкул прысвечаны вывучэнню семантычных зрухаў у сэнсавай структуры слова, што адбываюцца пры тэрміналагізацыі агульнаўжывальных слоў і дэтэрміналагізацыі спецыяльных найменняў. Спыняецца ўвага на кампанентным аналізе значэнняў полісемантаў, які дапамагае выявіць сэнсавую сувязь паміж лексіка-семантычнымі варыянтамі слова, заснаваную на агульнасці іх ядзерных або/і дыферэнцыяльных сем.

Утварэнне намінацый у выніку семантычных зрухаў у сэнсавай структуры слова не застаецца без увагі вучоных-лінгвістаў. Праблема лексіка-семантычнага словаўтварэння ў айчынным мовазнаўстве была ўзнята В.У. Вінаградавым, пасля знайшла адлюстраванне ў працах Н.Д. Аруцюнавай, Р.А. Будагава, А.А. Уфімцавай, М.М. Шанскага, Дз.М. Шмялёва і інш.

Да з'явы семантычнай дэрывацыі адносіцца шырокае кола семантычных пераўтварэнняў (метафарычных, метанімічных), змена семантычнага аб'ёму слоў (пашырэнне і звужэнне, спецыялізацыя значэнняў). Лексіка-семантычны спосаб адносіцца да так званай другаснай намінацыі, калі для ўтварэння лексем выкарыстоўваюцца найменні, даўно вядомыя мове. Якасныя пераўтварэнні ў паняційнай структуры слова падвяргаліся класіфікацыі з улікам логіка-псіхалагічных асацыяцый (М. Брэаль, В. Вунт, Г. Пауль), эмацыянальных

і функцыянальных момантаў (Г. Шпербер, Э. Веландэр, М.М. Пакроўскі). У сучасных працах вучоных адзначаецца сувязь полісеміі з пераносам наймення, заснаваным на асацыятыўным характары мыслення; з дапамогай яго ў слове ўзнікае семантычная двухпланавасць.

Семантычная дэрывацыя ў тэрміналогіі ў параўнанні з літаратурнай мовай мае свае адметнасці, сярод якіх можна назваць наступныя: 1) высокая ступень прадуктыўнасці адзначанага спосабу ў тэрмінаўтварэнні; 2) у спецыяльнай лексіцы лексіка-семантычны спосаб утварэння – спосаб прыстасавання агульнаўжывальных лексем, у літаратурнай мове – вынік працяглай у часе семантычнай эвалюцыі найменняў; 3) у тэрміналогіі часцей, чым у агульнаўжывальнай лексіцы, пад семантычнае пераасэнсаванне падпадаюць словы з адцягненай семантыкай.

Пры лексіка-семантычным спосабе ўтварэння спецыяльных найменняў адбываецца тэрміналагізацыя агульнаўжывальных лексем, якая заключаецца ў наданні ім новага, спецыяльнага значэння. Вучоныя адзначаюць, што дадзены спосаб быў адным з першых словаўтваральных прыёмаў стварэння тэрміналагічных адзінак і канстатуюць выкарыстанне яго ў перыяд, што папярэднічаў часу фарміравання мовы навукі на айчыннай глебе. Гэта звязана, мабыць, не ў апошнюю чаргу з тымі характэрнымі рысамі, якімі валодаюць утвораныя з дапамогай гэтага спосабу адзінкі намінацыі. Да іх ліку можна аднесці сцісласць тэрміна, цесную сувязь яго з роднай мовай, празрыстасць матывацыі, лёгкасць запамінання. Сярод прац, прысвечаных вывучэнню лексіка-семантычнага спосабу тэрмінаўтварэння, можна адзначыць даследаванні М.Э.Бяловай, Б.М.Галавіна, В.П.Даніленка, Р.Ю. Кобрына, Т.Р. Мішынай, В.М. Прохаравай, В.В. Пятрова, А.В. Супяранскай, у беларускім мовазнаўстве – Л.А. Антанюк, Т.В. Капейко, В.П. Краснея, А.А. Станкевіч, Л.М. Шакуна і інш.

У выніку семантычнай дэрывацыі на базе першапачатковага (агульнаўжывальнага або спецыяльнага) значэння ўзнікаюць вытворныя тэрміналагічныя значэнні. У лексіка-семантычнай структуры значэнняў полісемантаў вылучаецца ядзерная сема (асноўны кампанент значэння – АК), якой падпарадкоўваюцца перыферыйныя семы (дыферэнцыяльныя кампаненты – ДК). Сутнасць і ўнутраны механізм працэсу семантычнага пераўтварэння пры тэрміналагізацыі дастаткова поўна дазваляе выявіць кампанентны аналіз значэнняў слова, які ставіць на мэце раскладанне значэння на мінімальныя семантычныя складнікі. Ён заснаваны на гіпотэзе аб тым, што значэнне кожнай назвы складаецца з семантычных кампанентаў (сем) і што слоўнікавы склад мовы можа

быць апісаны з дапамогай абмежаванай і параўнальна невялікай колькасці семантычных прымет. Паміж лексіка-семантычнымі варыянтамі (ЛСВ) мнагазначнага слова захоўваецца цесная сэнсавая сувязь: другасная намінацыя можа змяшчаць у сабе ядзерныя або/і дыферэнцыяльныя семы першапачатковай і адначасова набываць новыя, што істотна ўплывае на змену семантыкі слова [5, с. 188–192].

Дадзены аналіз дазваляе гаварыць пра існаванне некалькіх тыпаў структурна-семантычных зрухаў пры ўтварэнні тэхнічных тэрмінаў. У працэсе іх асноўны кампанент зыходнага значэння слова можа захоўвацца і набываць новыя дыферэнцыяльныя кампаненты або пераўтварацца ў ДК. Адзін з дыферэнцыяльных кампанентаў можа пераўтварацца ў асноўны або застацца ДК.

Адным з найбольш актыўных спосабаў тэрміналагізацыі намінатыўных адзінак з'яўляецца іх метафарызацыя. Вывучэнне рознабаковых поглядаў вучоных дазваляе ўявіць гэту з'яву як асобы тып вытворна-намінатыўнага значэння, што мае двухпланавы характар, заснаваны на псіхалагічных асацыяцыях па падабенстве прымет, у выніку чаго два прадметы, розныя па сваім паходжанні і прызначэнні, збліжаюцца на аснове якой-небудзь характэрнай рысы (вонкавай формы, знешняга выгляду, размяшчэння, прызначэння або функцыі, дзеяння, а таксама адначасова вонкавай формы і размяшчэння, функцыі і размяшчэння, функцыі і вонкавай формы, размяшчэння, формы і функцыі). "Метафарызацыя ўключае і параўнанне, і аналогію, але, у адрозненне ад аналогіі, яе канчатковы вынік – утварэнне новых паняццяў" [4, с. 78].

Рэалізацыя гэтага працэсу адбываецца на міжсістэмным узроўні: тэрміналагічныя адзінкі ўтвараюцца на аснове пераносу значэння агульнаўжывальнага слова. "Але ўнутры спецыяльнай сферы зносін, у межах мовы навукі, у саміх тэрмінах метафарычная мнагазначнасць не развіваецца" [2, с. 67].

Найбольш прадуктыўны тып семантычнага пераўтварэння пры метафарызацыі аб'ядноўвае ЛСВ на падставе агульнасці дыферэнцыяльных прымет (структурна-семантычная мадэль – **ДКа→ДКт**): *барабан* 'ударны /ДКа/ музычны інструмент /АКа/ у выглядзе цыліндра /ДКа/ або рамы /ДКа/' > 'у машынах /ДКт/ і механізмах /ДКт/ – рухомая /ДКт/ дэталь /АКт/, якая мае форму цыліндра /ДКт/'; *кальцо* 'металічны прадмет /АКт/, які мае форму вобада /ДКа/, абруча /ДКа/, акружнасці /ДКа/ > 'канцавы /ДКт/ пункт аўтобуснага маршрута /АКт/, дзе робіцца паварот /ДКт/ для прадаўжэння шляху /ДКт/ у зваротным напрамку /ДКт/; *касынка* 'трохвугольнай формы

/ДКа/ хусцінка /АКа/, якую нояць /ДКа/ на галаве /ДКа/ або шыі /ДКа/’ > ‘металічны ліст /АКт/ трохвугольнай формы /ДКт/ для павялічэння трываласці /ДКт/ у дэталях /ДКт/ або зборачных адзінках /ДКт/; *талерка* ‘сталовы посуд /АКа/ круглай формы /ДКт/ з шырокім дном /ДКт/ і прыўзнятымі краямі /ДКт/ > ‘дэталь машыны /АКт/, якая мае форму дыска /ДКт/’; *укладыш* ‘ дабавачны /ДКа/ ліст /АКа/, уложаны /ДКа/ у кнігу /ДКа/, газету /ДКа/, сшытак /ДКа/’ > ‘устаўная /ДКт/ частка, дэталь /АКт/ у машыне /ДКт/’ і інш.

Другі прадуктыўны тып (структурна-семантычная мадэль – **АКа→ДКт**) адлюстроўвае працэс пераўтварэння асноўнага кампанента значэння агульнаўжывальнага слова ў дыферэнцыяльны кампанент спецыяльнай назвы: *шарык* ‘невялікі /ДКа/ шар /АКа/’ > ‘шарападобная /ДКт/ дэталь падшыпніка /АКт/, якая знаходзіцца паміж знешняй /ДКт/ і ўнутранай /ДКт/ абоймамі; *вушка* ‘маленькае /ДКа/ вуха /АКа/ > ‘прыстасаванне /АКт/ у дэталях /ДКт/, механізмах машын /ДКт/ дугападобнай формы /ДКт/ з адтулінай /ДКт/ для больш зручнага карыстання /ДКт/’; *каромысел* ‘драўляная /ДКа/ дуга /АКа/ з выемкамі /ДКа/ або кручкамі /ДКа/ на канцах /ДКа/ для пераносу на плячах /ДКа/ вёдзер /ДКа/ і інш. грузаў /ДКа/’ > ‘рычаг /АКт/ у некаторых механізмах /ДКт/ дугападобнай формы /ДКт/’; *санкі* ‘невялікая /ДКа/ зімовая /ДКа/ павозка на палазах /АКа/’ > ‘рухомая /ДКт/ дэталь /АКт/ некаторых машын /ДКт/ і апаратаў /ДКт/, якая па знешнім выглядзе /ДКт/ нагадвае невялікія /ДКт/ санкі /ДКт/’ і інш.

Да трэцяга (непрадуктыўнага) тыпу семантычнага пераўтварэння пры метафарызацыі можна аднесці словы, што захавалі асноўны і, у пэўнай ступені, дыферэнцыяльныя кампаненты структурна-семантычнай арганізацыі агульнаўжывальнага слова (структурна-семантычная мадэль – **АКа→АКт**): *канаўка* ‘невялікая /ДКа/ канава /АКа/ > ‘невялікае /ДКт/ прадаўгаватае /ДКт/ паглыбленне /АКт/ у дэталях машын /ДКт/’; *лента* ‘палоска /АКа/ каляровай /ДКа/ тканіны /ДКа/, якая выкарыстоўваецца для ўпрыгожання /ДКа/, аблямоўкі /ДКа/ і іншых мэт /ДКа/ > ‘доўгая /ДКт/ вузкая /ДКт/ палоска /АКт/ з якога-н. матэрыялу /ДКт/, якая служыць для тэхнічных патрэб /ДКт/’; *цеста* ‘вязкая /ДКа/ маса /АКа/ рознай кансістэнцыі > усякая /ДКт/ густая /ДКт/ маса /АКт/, якая атрымліваецца пры змешванні /ДКт/ цвёрдага /ДКт/, сыпкага /ДКт/ рэчыва /ДКт/ з вадкасцю /ДКт/’ і інш.

Чацвёрты (непрадуктыўны) тып (структурна-семантычная мадэль – **ДКа→АКт**) аб’ядноўвае таксама невялікую колькасць ЛСВ: *клык* ‘зуб /АКа/ вялікіх памераў /ДКа/, які выступае з рота /ДКа/’ > ‘выступ /АКт/ на буферы /ДКт/ легкавога аўтамабіля /ДКт/’ і інш.

Удзел у працэсе метафарызацыі пры ўтварэнні тэхнічных тэрмінаў прымаюць таксама словы з абстрактна-адцягненай семантыкай. Другасныя значэнні гэтым вынікаюць з асацыятыўных сувязей, што ўзнікаюць пры намінацыі адной моўнай адзінкай высокай ступені ўласцівасці і тэхнічнага параметра: *вынослівасць* ‘уласцівасць /АКа/ вынослівага /ДКа/’ > ‘здольнасць матэрыялаў і канструкцый /АКт/ супраціўляцца ўздзеянню /ДКт/ цыклічных /ДКт/ нагрузак /ДКт/’; *дынамічнасць* ‘уласцівасць /АКа/ дынамічнага /ДКа/’ > ‘здольнасць тэхнічнага сродка /АКт/ імкліва павялічваць /ДКт/ хуткасць руху /ДКт/’; *даўгавечнасць* ‘уласцівасць /АКа/ даўгавечнага /ДКа/’ > ‘уласцівасць аб'екта /АКт/ захоўваць працаздольнасць /ДКт/ да наступлення гранічнага стану /ДКт/ пры ўстаноўленай сістэме тэхнічнага абслугоўвання /ДКт/ і рамонту /ДКт/’; *надзейнасць* ‘уласцівасць /АКа/, якасць /АКа/ надзейнага /ДКа/’ > ‘уласцівасць аб’екта /АКт/ захоўваць у часе /ДКт/ ва ўстаноўленых межах значэння /ДКт/ усе параметры /ДКт/, якія характарызуюць здольнасць /ДКт/ выконваць усе функцыі /ДКт/ у зададзеным рэжыме /ДКт/ і ўмовах прымянення /ДКт/’ і інш. Зыходнае і вытворнае значэнні полісеманта аб’яднаны структурна-семантычнай мадэллю **ДКа→ДКт**.

У адрозненне ад метафары, метаніміі ўласціва здольнасць да ахопу сумежных сувязей паміж прадметамі і з’явамі. Пры метанімічным пераносе другасныя значэнні ў тэрміналогіі вынікаюць з асацыятыўных сувязей, што ўзнікаюць пры намінацыі адной моўнай адзінкай: а) дзеяння і месца дзеяння; б) дзеяння і прадметаў або іх частак, што ажыццяўляюць гэта дзеянне; в) дзеяння і яго выніку; г) тэхнічнай установы або прадпрыемства і калектыву, які працуе ў ім; д) прадмета і дзеяння, якое ўтварае гэты прадмет; е) асобы, што выконвае дзеянне, і прыстасавання, пры дапамозе якога гэта дзеянне выконваецца; ж) заводаў і марак машын, што выпускаюцца на гэтых заводах; з) сродкаў перамяшчэння і іх месцазнаходжання.

З назіранняў бачна, што асноўную частку найменняў з метанімічнымі зрухамі складаюць абстрактныя намінацыі. Прадуктыўнасць абстрактных назоўнікаў абумоўлена значнай колькасцю аддзеяслоўных і адпрыметнікавых утварэнняў. Метанімізацыя можа суправаджацца і чаргаваннем катэгарыяльных прымет: назіраецца змена прыметы ‘абстрактнасць’ на ‘канкрэтнасць’.

У семасіялагічным аспекце пры метанімічным пераносе адбываецца з’яўленне ў слове новай архісемы, што змяшчае асноўны кампанент значэння. Папярэдняя архісема ў большасці выпадкаў ператвараецца ў дыферэнцыяльны кампанент значэння: *аўтапрадпрыемства*

*каза да ваза́, папросіць сена, а мы ёй пугі дамо* [1, с. 330] (ускладнена першая прэдыкатыўная частка); *Свой сячыся, рубайся, а чужы не мяшайся* [1, с. 142] (ускладнена першая прэдыкатыўная частка); *Не частуй мяне ні піўцом, ні вінцом, а прывітай мяне шчыранькім слаўцом* [1, с. 161] (ускладнена першая прэдыкатыўная частка);

– адасобленыя члены: *Не глядзі на мяне, на фэст ідучы, а глядзі на мяне, лён тручы* [1, с. 137] (часткі ўскладнены адасобленымі акалічнасцямі *на фэст ідучы*, *лён тручы*);

– параўнальныя канструкцыі: *Апрануты, як пава, але брыдкая слава* [1, с. 137] (ускладнена першая прэдыкатыўная частка);

– прыдаткі: *Пісаў пісака – і сам не прачытае, небарака* [1, с. 274] (ускладнена другая прэдыкатыўная частка);

– звароткі: *Божа, дапамажы, а ты, нябожа, не ляжы!* [1, с. 98] (ускладнены дзве прэдыкатыўныя часткі).

Пунктуацыйнае афармленне складаназлучаных парэмій, як правіла, адпавядае правілам сучаснай беларускай мовы: *Бацька ў салдатах, а ў дзяцей кашуля ў латах* [1, с. 78]; *Жонка як жонка, але мілей родная старонка* [1, с. 81]; *На чужой старане і жук – мяса, і старую бабу маладзіцаю назавеш* [1, с. 82]; *Ад парады язык не адваліцца і зубы не высыплюцца* [1, с. 88]*; Недаясі – і калёсы прадасі* [1, с. 170]; *Няма мяса – жаба не прыкра́са* [1, с. 228]; *Злая іскра ўсё спаліць і сама загіне* [1, с. 281]. Аднак сустракаюцца прыказкі і прымаўкі з няправільнай расстаноўкай знакаў прыпынку. Часцей за ўсё гэта адсутнасць коскі паміж прэдыкатыўнымі часткамі: *Радасць не ў дастатку і шчасце не ў багацці* [1, с. 232]; *І воўк сыты і козы цэлыя* [1, с. 207]; *І санлівага дабудзішся і лянівага дашлешся* [1, с. 208]; *І не дай і не лай* [1, с. 282]; *І бога маліць (і богу маліцца) і чорта не гнявіць* [1, с. 311]. Неабходна заўважыць, што побач сустракаюцца аналагічныя па структуры парэміі, дзе коска стаіць паміж прэдыкатыўнымі часткамі: *І ракаў не хачу, і ног не прамачу* [1, с. 208]; *І піць не хачу, і грошай не плачу́* [1, с. 208]. Нярэдка ў парэмічных тэкстах сустракаецца аўтарская пастаноўка працяжніка, часам зусім неапраўданая: *Грамада́ за аднаго – і адзін за грамаду* [1, с. 86]*; Згодаю двор збудуеш, а нязгодаю – гатовае разгубіш* [1, с. 86]*; Канчай – і прабачай* [1, с. 91]*; Пяць пальцаў на руцэ – і ўсіх шкода* [1, с. 140]*; Старасць – не радасць, а смерць – не пацеха* [1, с. 151]*; Пушны хлеб – не голад, а зрэбная кашуля – не галізна* [1, с. 172]*; У акне добра, а за акном – лепей* [1, с. 239]*; У ладным адзенні, а бруд – аж блішчыць* [1, с. 275]*; Гутар, гутар – а валы ў жыта!* [1, с. 296]*; Пазычыў на час, дый – у добры час* [1, с. 314]*; Даваць давалі, – але з рук не пускалі* [1, с. 310];

*Пісаў пісака – і сам не прачытае, небарака* [1, с. 274] (параўн. *Злая іскра ўсё спаліць і сама загіне* [1, с. 281]). Такім чынам, сустракаюцца аднатыповыя сінтаксічныя канструкцыі з розным пунктуацыйным афармленнем. Параўнайце наяўнасць працяжніка паміж часткамі ў першым сказе і яго адсутнасць у другім (акрамя таго, у другім сказе паміж дзейнікам і выказнікам стаіць працяжнік, а па правілах беларускай пунктуацыі ён не патрэбны): *На ўсё сяло адзін вол – і той гол* [1, с. 67] і *Адзін сынок Юзік і той – як арбузік* [1, с. 126]. Ёсць прыказка, дзе паміж часткамі ўвогуле адсутнічаюць знакі прыпынку: *Адна капейка і тая рабром* [1, с. 264].

Такім чынам, парэміі беларускай мовы, з'яўляючыся люстэркам нацыянальнай культуры, змяшчаюць у сабе вялікі аб'ём інфармацыі пра побыт і звычкі нашага народа і маюць багацейшы матэрыял для далейшых лінгвістычных даследаванняў.

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы / склад. Ф. Янкоўскі. – Мінск: Бел. навука, 2004. – 494 с.

УДК 811.161.3'373 : 398.92 : 81.161.3'373.421

***Н. И. Шабулдаева***

## СОЧЕТАНИЕ *СПРАВЫ СПРАЎЛЯЦЬ* И ЕГО СИНОНИМЫ В БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКЕ

В данной статье рассмотрены белорусские тавтологические сочетания с семантикой 'делать, работать', представляющие собой сочетание пере-ходного глагола с прямым дополнением, выраженным однокоренным существительным в форме винительного падежа. Установлено, какие глаголы с указанной семантикой и однокоренные им существительные способны вступать в синтагматические отношения друг с другом.

Белорусский язык, наряду с другими восточнославянскими языками, из значительно более древних своих состояний унаследовал такую синтаксическую конструкцию, как парегменон. Она характеризуется тем, что объединяет два однокоренных слова, обычно это глагол и зависимое от него существительное, в одно словосочетание, так

называемый собственно лексический парегменон (*работу рабіць*). Возможно также объединение и синонимов (*справы чыніць*) – лексико-семантический парегменон* [1]. Автором описаны типы парегменона в русском языке [2]. Типы тавтологических сочетаний в белорусском языке ещё нуждаются в подробном описании. Однако уже сейчас можно сказать, что некоторые конструкции совпадают в белорусском, русском, а также и в украинском языке.

В данной статье рассмотрены белорусские тавтологические сочетания с семантикой ‘делать, работать’, представляющие собой сочетание переходного глагола с прямым дополнением, выраженным однокоренным существительным в форме винительного падежа. Мы ставим перед собой цель установить, какие глаголы с указанной семантикой и однокоренные им существительные способны вступать в синтагматические отношения друг с другом.

Синонимичными глаголами со значением ‘делать, работать’ являются: *рабіць, спраўляць, тварыць, чыніць*. К синонимичным существительным относятся: *дзела, работа, справа, творы*.

Обнаружены сочетания *работать на работах* (*…на пэнсію з быткамбінату, дзе <u>рабіў на розных работах</u>*) и *працаваць на працах* (*На Салаўках працаваў на цяжкіх фізічных працах, трымаўся самастойна*), образующие другой тип тавтологического сочетания.

Приведём значения рассматриваемых глаголов: *рабіць* ‘займацца чым-н., праяўляць якую-н. дзейнасць, паступаць якім-н. чынам’; ‘працуючы, вырабляць, майстраваць’; ‘працаваць дзе-н., кім-н.’ и др. [3 IV, 548]; *спраўляць – справіць* ‘зрабіць, выканаць’ [3 V (1), 273]; *тварыць* ‘ствараць у працэсе творчай дзейнасці’; ‘рабіць, здзяйсняць’ [3 V (1), 488]; *чыніць* ‘рабіць, учыняць, тварыць’ [3 V (2), 327].

Существительные употребляются со следующими значениями: *дзела* разговорное ‘тое што і справа’ [3 II, 166]; *работа* ‘кола заняткаў, справа, дзейнасць’, ‘служба, праца ў якой-н. установе’ и др. [3 IV, 548]; *справа* ‘работа, занятак’ [3 V (1), 271]; *твор* ‘прадукт творчай працы’ [3 V (1), 489].

Материалы Белорусского национального корпуса позволили выявить следующие возможные сочетания этих глаголов и существительных друг с другом: *рабіць дзела, работу, справы; тварыць дзела, работу, справы, творы; спраўляць работу, справы; чыніць дзела, справы.*

Собственно лексический парегменон *рабіць работу* очень

* Термины предложены автором [2].

популярен. Белорусский национальный корпус представил более ста примеров употребления данного сочетания. Тексты относятся по большей части к художественному стилю: *Ды якія могуць быць просьбы? Работу не рабіць бы пустую*…(Анатоль Бароўскі. Прадчуванне Айвы. Апавяданне-быль); *Кожную раніцу мама пачынала рабіць адну і тую ж работу – тапіла ў сажалцы тарканы*.(Сяргей Давідовіч. Замалёўкі) [4].

Обнаружены также примеры употребления данного выражения и в публицистическом стиле: *Мне здаецца, што наш семінар у пэўнай ступені садзейнічаў і гэтай мэце. Ён зрабіў свой унёсак у развіццё палітычнага жыцця ў Беларусі, вашай эканомікі, а таксама ў мір і бяспеку. Гэта значыць, што мы працягваем рабіць нашу работу* (БелаПАН. Кіраўнік ПА АБСЕ Жаао Саарэш: Беларусі неабходна мяняць імідж); *Калі я сустрэў выдатную кнігу, альбо прачытаў апавяданне, якое мне вельмі спадабалася, то сто працэнтаў, што на наступны дзень, калі я сяду рабіць сваю чорную работу, мне будзе значна лягчэй* (Звязда. Інтэрв'ю з "літаратурным неграм") [4].

Приблизительно половина обнаруженных нами примеров, помещённых в корпусе, относится к белорусскому переводу Священного Писания: *,,Шэсьць дзён рабіце работу, а сёмага дня мае быць у вас сьвята, сыбота супачынку СПАДАРУ; кажны, хто будзе рабіць у яе работу, памрэць"* (Сьвятая Біблія: Кнігі Старога і Новага Закону) [4].

Расположение компонентов в данном сочетании свободное, однако чаще встречается конструкция, где в препозиции стоит глагол. Существительное почти всегда при себе имеет определяющее слово, которое характеризуется самыми разными в семантическом отношении словами и выражено словами разных частей речи.

Слово *работа* сочетается с местоимениями разных разрядов: притяжательными: *сядзець з машынкай ці мальбертам і рабіць сваю галоўную ў жыцці работу; слухалі старога бацьку, і кажны рабіў сваю работу; Гэта значыць, што мы працягваем рабіць нашу работу; За работу ягоную, каторую ён рабіў супроці*; указательными: *Калі хто пачынае рабіць гэтую самую работу больш лёгкім спосабам*; неопределёнными: *працягваю хадзіць, размаўляць і нават рабіць нейкую работу*; относительными: *Я хадзіў лёгка і рабіў кожную работу з захапленнем; Ён напоўніў іх мудрасьцю сэрца, рабіць усялякую работу ґравэра*; отрицательными: *Нельга ў той дзень рабіць ніякай работы*.

Прилагательные, употребляющиеся в роли определения, очень разнообразны и характеризуют слово *работа* со следующих точек зрения:

а) различного рода деятельность: *Бацька раніцамі малаціў, а я шавецкую работу рабіў*; *ціха адказаў Антось, – як рабіць паліцыйную работу.; Пасля ён рабіў звычайныя слясарныя работы, выконваў; ніякае рамеснае работы не рабіце; калі б ён рабіў партыйную работу і менш умешваўся; робім вялікую прапагандную беларускую работу; ня сіль яго рабіць работы нявольніцкія*;

б) модальная оценка: 1) положительная: *сядзець з машынкай ці мальбертам і рабіць сваю галоўную ў жыцці работу; …спрактыкавана і доўга – нібыта рабілі не надта прыемную, аднак абавязковую работу*; 2) отрицательная: *Тое, што робім марную работу, разумелі ўсе; Я вашай хамскай работы ніколі не рабіла; Работу не рабіць бы пустую …; ведалі, што за нялюдскую работу робіць ён у сваім пастарунку; нечаканае ўзбягае на яе думкі, робіць нецікавую работу; Радаўніцы, едзем на могілкі, робім самую чарнавую работу; ён проста настырнічаў, вымушаў іх рабіць дурную і недарэчную работу; Каб брудную работу іншыя рабілі; якую б чорную работу ні рабіў чалавек; Што ты там сярод нашых суайчыньнікаў робіш падрыўную варожую работу супраць нашай радзімы; дзе і рабілі сваю брудную здрадніцкую работу*; 3) нейтральная: *…яго і жэст, а рукі рабілі звыклую работу; Прыглядаўся гэтак, быццам рабіў няцікавую, але патрэбную для яго*.

в) гендерная: *бабскую работу рабіла раней Аксеня; Усю работу, і мужчынскую, і бабскую...*

г) физическая возможность: *ад капання зямлі і іншых непасільных работ, якія рабіла яна дзевятнаццаць гадоў; сядзеў у хаце, бо цяжкай работы рабіць не мог, хварэючы ледзь; Яго жонка рабіла работу болей лёгкую і болей далікатную*.

д) её разнообразие: *…там многа людзей, якія робяць усялякую работу; Кожную раніцу мама пачынала рабіць адну і тую ж работу*.

Выявлен пример несогласованного определения к слову *работа*, выраженного существительным: *цярпі патугі, рабі работу евангелістага* [4].

В белорусском переводе Священного Писания находим пример, когда два синонимичных глагола стоят рядом: *Шэсьць дзён працуй і рабі ўсі работы свае.* В русском переводе в данном случае используются так же два глагола: *Шесть дней работай и делай все дела твои*. Мы видим, что белорусскому *працуй* соответствует русское *работай*, а белорусскому *рабі – делай*, не употребляющемуся в белорусском языке.

В немногочисленных примерах параллельного русско-

белорусского подкорпуса Национального корпуса русского языка находим перевод крайне популярного в русском языке сочетания *делать дело* белорусским сочетанием *рабіць работу*: А *Двое из сумы свое дело делают: бьют, колотят, только дубины посвистывают.* (народная сказка. Скатерть-самобранка, кошелек-самотряс и двое из сумы) – *А Двое з торбы сваю работу робяць: б'юць, малоцяць, толькі дубінкі пасвістваюць.* (Абрус-самабор, кашалёк-саматрас і двое з торбы); *Едигей как мужчина с виду вроде здоровый подряжался на разгрузку и погрузку разную, а Укубала дело делала*. (Чингиз Айтматов. И дольше века длится день (Буранный полустанок) (1980–1984)) – *Едыгей, як мужчына нібы цягавіты, дамаўляўся на работу, а Укубала тую работу рабіла*. (Чынгіз Айтматаў. Буранны паўстанак (І вякуе дзень даўжэй за век)) [5].

В произведении В. Быкова найден один пример, в котором использовано сочетание *дзела дзелаць*, представляющее собой явный русизм: *Трэба дзела дзелаць, а ён пачне рассуждаць: так ці не так, правільна – няправільна* (В. Быкаў. Круглянскі мост).

Тавтологическое сочетание *рабіць справу* употребляется значительно чаще (по данным Белорусского корпуса), чем вышерассмотренное *рабіць работу* (164 и 103). Строение этих сочетаний не отличается друг от друга, компоненты располагаются свободно: *наагул, досыць гуляць, пара рабіць справу – быць каля тураў і ягоную царову справу рабіць* [4].

Стилистическая характеристика данного парегменона также разнообразна: художественный стиль: *Дый наагул, досыць гуляць, пара рабіць справу…*(Антон Адамовіч. Каханы горад); *Раскажу, як жыў мужыцкі Хрыстос далей, якія рабіў справы, як знайшоў з Анеяй свой шлях і сваю зорку, як прыдбаў сабе і сябрам разуменне, вечную славу і вечную маладосць, але цяпер досыць аб гэтым* (Уладзімір Караткевіч. Хрыстос прызямліўся ў Гародні); – *А што, за сталом хіба не робяць справы? – адгукнуўся адразу той, у пінжаку* (Іван Мележ. Завеі, снежань).

Имеются также примеры употребления выражения *рабіць справу* в публицистическом стиле: *Гэтая навала робіць справу змагання з беларускаю культураю і яе льга выкараніць толькі тады, калі нашы літаратары стануць тут свядомымі і дзейнымі, калі яны адчуюць усю сваю адказнасць* (Кузьма Чорны. Небеларуская мова ў беларускай літаратуры).

Данное сочетание используется и в белорусском переводе Священного Писания: *Бязбожны робіць справу ненадзейную, а таму, хто сее праўду – узнагарода пэўная* (Біблія); *Шэсьць дзён рабі справы*

*твае, а ў сёмы дзень супакойся, каб адпачыў вол твой і асёл твой, і супакоіўся сын рабыні тваёй і прыхадзень* (Біблія).

Материал показывает, что определения к слову *справа* самые разнообразные в семантическом отношении. Как и в случае с собственно лексическим парегменоном *рабіць работу*, тут мы имеем огромное количество примеров, в которых определяющим словом выступает притяжательное местоимение *свой*: *Так, ягоная агітацыя рабіла сваю справу, частка гарадоў здалася; …таму Стайнік робіць свае справы беспакарана; Ген рабіў сваю разбуральную справу*.

Корпус белорусского языка располагает примерами, в которых, кроме определения *свой*, имеются и другие определения. Важность происходящего события передаётся определениями *Божы, святы* и др.: *узяўшы ўладу ў свае рукі, рабіць Божыя справы; Першым – таму, што яны рабілі мілую Богу справу; Пракляты, хто справу Гасподнюю робіць абы як; упэўненыя, што робяць святую справу; быць каля тураў і ягоную царову справу рабіць;ён будзе рабіць вялікую справу, патрэбную для ўсіх; што, даглядаючы Ільіча, робіць вельмі важную справу*.

При положительной оценке дела используется прилагательное *добрая*: *нават пахваліў, што добрую справу ўзяліся рабіць*. Для характеристики отрицательного дела (события) выявлен несравненно более обширный инвентарь лексем: *адчуў, не зразумеў, што раблю агідную справу; Ген рабіў сваю разбуральную справу; Гэтую грэшную і далікатную справу колішняя блудніца рабіла; Сваю цяжкую і не зусім пашаноўную справу калгасныя будаўнікі рабілі моўчкі; – Нікіфар, можа, мы робім нядобрую справу; з самага пачатку не рабілі ў Гародні больш чорнай справы; знішчыць, каб не замінаў рабіць брудную справу; Заруба рабіў сваю крывавую справу і аставаўся беспакараным*; *нейкім унутраным чуццём зразумелі, што робяць адну вельмі небяспечную справу; Бязбожны робіць справу ненадзейную; Бязбожны робіць памылковую справу*.

С гендерной точки зрения слово *справа* характеризуется прилагательным *жаночая* (*застаўся з двума малымі, жаночую справу па гаспадарцы рабіў усю сам*), в противовес слову *работа – бабская*.

Ежедневная работа также определяется синонимическим рядом: *не зважаючы на зборы, рабіў сваю паўсядзённую справу; без усялякага ўнутранага хвалявання, нібы рабіў самую звычайную справу; робячы будзённую справу*.

В меньшей степени, чем в сочетании *работу рабіць*, слово *справа* сочетается со словами, характеризующими его с точки зрения рода

деятельности: *ён бацькаў сын і будзе рабіць бацькаву справу; задзіралі носа ад славы і паціхеньку рабілі свае справы – артыстычныя і баявыя; я сказаў ігнараваць гэтага чалавека ды рабіць сваю нацыянальную справу.*

Описание совместного дела также нашло своё отражение: *Адну справу робім, і я разлічваю на вас; уважаючы, што такім чынам робяць супольную справу ў барацьбе з расейскім…*

Лексема *справа* в исследуемом выражении имеет ещё целый ряд определений: *толькі гэта рабіла лягчэйшай справу; Папоў, як і заўжды, робіць у нас самую тонкую справу; Андрэй рабіў выгадную справу; не павінен маўчаць, а павінен рабіць новую справу; Рыбнік стаяў у гэтым натоўпе і рабіў дзіўную справу; развважаць на гістарычныя тэмы, але рабіць канкрэтную справу; пакуль ёсць магчымасць, рабіць нейкую справу*.

Белорусско-русский подкорпус Национального корпуса русского языка приводит пример перевода белорусского выражения *рабіць справу* также парегменоном *дело делать*, как и в предыдущем случае: *I не ведалі, што адну справу робім*. (Іван Шамякін. Сэрца на далоні (1960-1963)) – *И не знали, что одно дело делаем*. (Иван Шамякин. Сердце на ладони).

Лексико-семантический парегменон *рабіць дзела* используется в небольшом количестве примеров. Его употребили некоторые основоположники белорусской литературы: *Сваё дзела як трэба рабіў* (Францішак Багушэвіч. Ахвяра); *Хацелася яму самому не стаяць каля свае будкі ціха і спакойна, а рабіць якое-небудзь дзела, якое магло б быць відавочным і карысным для ўсіх. Вялікае дзела робяць яны* (Кузьма Чорны. На беразе); *Рабіў сваё дзела нядбала, няўважна* (*Міхась Зарэцкі. Ворагі*). Трижды это выражение приводится в переводе Нового Завета 1931 года: *Мне трэба рабіць дзе́ла Таго, што паслаў Мяне́, пакуль дзе́нь; надыходзе ноч, калі ніхто ня можа рабіць. Але ты будзь чуйны ў-ва ўсім, цярпі і гора, рабі дзе́ла дабраве́шчаньня, служэньне твае́ выпаўняй. Калі- ж прыдзе да вас Цімахве́й, глядзе́це, каб быў у вас бясьпе́чны; бо дзе́ла Госпада робіць, як і я* (Новы Запавет).

Собственно лексический парегменон *спраўляць справы* значительно менее употребителен (5 примеров). Один пример относится к художественному стилю: *кошка любіла спраўляць свае вялікія і малыя каціныя справы ў родным пад'ездзе* (Маргарыта Прохар. Сіняя птушка, альбо Спроба несур'ёзнага дэтэктыва). Четыре примера использования этого выражения обнаружено в белорусском

переводе Священного Писания: „*Я ж маю сьветчаньне большае за Яанава, бо справы, што даў мне Ацец скончыць, самыя тыя справы, каторыя Я спраўляю, сьветчаць празь Мяне, што Ацец паслаў Мяне; Ты накануеш супакой нам, бо нават усі справы нашыя Ты спраўляеш нам; Дык сказалі Яму: „Што нам рабіць, каб спраўляць справы Божыя ?; Я маю спраўляць справы Таго, хто паслаў Мяне, пакуль ё дзень; надыходзе ноч, калі ніхто ня будзе спраўляць* (Сьвятая Бібля: Кнігі Старога і Новага Закону). Можно видеть, что во всех этих случаях идёт речь о Творце.

Лексико-семантический парегменон *спраўляць работу* зафиксирован только в четырёх примерах, относящихся к художественному стилю: *І як жа не злавацца: каровы галодныя рыкаюць, авечкі бляюць, свінні скігочуць, – ну не дай Божа яшчэ і бабскую работу спраўляць* (Максім Гарэцкі. У чым яго крыўда?); *Сэрца сэрцам, а трэба было спраўляць работу і па хаце, па гаспадарцы; Старшыня з'явіўся на дарозе дзесьці гадзіны праз дзве, калі сама толькі ўвайшлі ў ахвотку мужыкі, возячы пясок, узбіліся на ўспамін, як спраўлялі яны работу ў маладыя свае гады, сам чорт не братам быў ім, гарэла ў руках работа* (Віктар Казько. Хроніка дзетдомаўскага саду); *Дый ня толькі касіць, а й усякую іншую работу спраўляць* (Масей Сяднёў. І той дзень надыйшоў).

В связи с малым количеством примеров, обнаруженных в БНК, трудно сделать какой-то вывод о синтагматике слова *работа* внутри данного сочетания. Но и здесь при гендерной характеристике налицо сочетание с прилагательным *бабская*, как и в выражении *работу рабіць*.

Глагол *тварыць* обладает способностью вступать в синтагматические связи со всеми рассматриваемыми существительными: *дзела, справа, работа, творы*.

Собственно лексический парегменон *творы тварыць* в материалах Белорусского национального корпуса представлен двумя примерами: *Беларускі пісьменнік, што адгарадзіўся ад усяго свету і зашыўся сюды, каб тварыць свае геніяльныя творы*? (Пякельны рай. Кніга трэцяя, якую за мяне нехта напісаў); *Тут свае ён творы слаўныя тварыў* (Канстанцыя Буйло. Таполя). Коннотация определений в обоих случаях положительная (*геніяльныя, слаўныя*), расположение компонентов – свободное.

Сочетания *тварыць дзела* и *чыніць (учыніць) дзела* зафиксированы один раз в одном предложении одновременно только в тексте Священного Писания: *І дакончыў Бог сёмага дня дзела Свае, каторае Ён чыніў, і перастаў тварыць сёмага дня ўсе дзела свае, каторае ўчыніў* (Сьвятая Бібля: Кнігі Старога і Новага Закону).

Выражение *тварыць справу* приводится трижды в художественных и публицистических текстах: *Бывае, што словы, сказаныя ў няўрочны час, нібы ажываюць і творaць сваю справу, вяртаючыся да ўладальніка* (Вольга Іпатава. Залатая жрыца Ашвінаў); *Нам належыць перамагчы сваё сэрца і, спадзеючыся на волю Божую, тварыць далей справу ягоную* (Уладзімір Караткевіч. Хрыстос прызямліўся ў Гародні); *Не расіяне і не Захад тут тварылі справы* (БелаПАН. Лукашэнка пра Саннікава і Статкевіча: Яны хочуць быць героямі, ну і няхай).

Тавтологическое сочетание *тварыць работу* только один раз представлено в корпусе: *Ішло і да яе новае, ішло неадольна, і трэба было альбо станавіцца на яго шляху, ажно да самай пагібелі, альбо прымаць яго як непазбежнасць і, адасобіўшыся, спакойна і неадольна тварыць сваю паўсядзённую работу, бо каму, як не багам, ведаць, чым усё абернецца праз гады і нават стагоддзі*? (Вольга Іпатава. Залатая жрыца Ашвінаў).

Выражение *чыніць справы* употреблено в Священном Писании: *сказалі яму: Што мы маем рабіць, каб чыніць справы Божыя* (Сьвятая Бібля: Кнігі Старога і Новага Закону). Это предложение интересно тем, что в нём используются два синонимичных глагола *рабіць* и *чыніць*.

В результате исследования можно сделать вывод, что в белорусском языке имеется одиннадцать сочетаний глаголов и существительных, которые объединены в таблицу, отражающую количественные данные употреблений, извлечённых из Белорусского национального корпуса.

| | *дзела* | *справа* | *работа* | *творы* |
|---|---|---|---|---|
| *рабіць* | 7 | 164 | 103 | – |
| *тварыць* | 1 | 3 | 1 | 2 |
| *спраўляць* | – | 5 | 4 | – |
| *чыніць* | 1 | 1 | – | – |

Несмотря на то, что БНК ещё находится в стадии становления и не располагает достаточно большим количеством текстов, всё-таки приведённые данные показывают на приоритетное использование одних выражений в сравнении с другими. Некоторые же сочетания так и остались не реализованными, вероятнее всего из-за слишком большой разницы в семантике глагола и существительного.

Рассмотренные сочетания по-разному используются авторами текстов. Один и тот же автор в одном и том же произведении может использовать разные сочетания: *тварыць справу – тварыць работу*

(Вольга Іпатава. Залатая жрыца Ашвінаў), *тварыць справу – рабіць справы* (Уладзімір Караткевіч. Хрыстос прызямліўся ў Гародні). Переводчики Книг Священного Писания использовали семь из одиннадцати существующих сочетаний: *рабіць работу – справы – дзела; спраўляць справы; тварыць дзела; чыніць дзела – справы*. Из существительных в данном случае ни разу не использовано слово *творы*.

К собственно лексическому парегменону относятся: *работу рабіць, справы спраўляць, творы тварыць*. Остальные сочетания представляют собой лексико-семантический парегменон.

**Список использованных источников**

1. Шабулдаева, Н.И. Тавтологические сочетания с семантикой ‘делать, работать’ в русском языке / Н.И. Шабулдаева // Славянские народы и их культуры: традиция и современность : сб. науч. статей / редкол.: В. И. Коваль (отв. ред.) [и др.] ; М-во образования РБ, Гомельский гос. ун-т им. Ф. Скорины. – Гомель: ГГУ им. Ф. Скорины, 2013. – С. 236–239.

2. Шабулдаева, Н.И. Типы парегменона в русском языке / Н.И. Шабулдаева // Славянская фразеология в синхронии и диахронии: сб. науч. статей / М-во образования РБ, Гомельский гос. ун-т им. Ф. Скорины / редкол.: В. И. Коваль (отв. ред.) [и др.]. – Гомель: ГГУ им. Ф. Скорины, 2011. – С. 319–322.

3. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: У 5 т. / Ін-т мовазнаўства АН БССР. – Мн.: Гал. рэд. Бел.СЭ, 1977–1984. – Т. I–V.

4. Беларускі-N корпус. – Режим доступа : http://bnkorpus.info/#w0.word. – Дата доступа 13.10.2013

УДК 811.161.3'373.2:398.9

***З. У. Шведава, М. У. Буракова***

## ЧАСТОТНАСЦЬ КАМПАНЕНТА *ГАЛАВА* Ў БЕЛАРУСКАЙ ФРАЗЕАЛОГІІ

У артыкуле на матэрыяле фразеалагізмаў з кампанентам *галава*, якія выдзелены сярод усіх фразеалагізмаў беларускай літаратурнай мовы, вызначаюцца прычыны высокай прадуктыўнасці саматычнага кампанента ў іх складзе. Даводзіцца, што важнейшымі прычынамі з’яўляюцца дзве, якія ўзаемазвязаныя паміж сабой: па прычыне таго, што ўласнае цела ўвогуле і галава чалавека ў прыватнасці з’яўляюцца прататыпам усіх існуючых формаў і зыходзячы з сімвалічнай

матываванасці саматызма галава, ці фразалагізацыя выразаў абумоўлена сімвальным значэннем кампанента і выдзяленнем сімвалаў метафар.

Амаль усе фразеалагізмы кожнай мовы звязаны з чалавекам, яго жыццём ва ўсіх сферах праяўлення, адрасаваны і характарызуюць чалавека. Сярод усіх фразалагізмаў, па падліках вучоных, трэцюю часту ўсяго фразеалагічнага фонду складаюць саматычныя фразеалагізмы, якія выяўляюць пазнанне чалавекам сябе праз самога сябе і атаясамліванне акаляючага свету са сваім фізічным целам.

Даследчыкі адзначаюць: «Цялесны вопыт з’яўляецца неабходным складнікам чалавечага існавання, умовай яго паўнаты і цэльнасці» [1, с. 54]. Саматычную фразеалогію складаюць фразеалагічныя адзінкі, адзін з кампанентаў каторых – назва часткі цела чалавека, ці саматызм (ад грэч. *soma* (родны склон *somatos*) – цела). Чаму ж назвы частак цела так прадуктыўна выкарыстоўваюцца ў якасці метафарычных універсалій? Справа ў тым, што пры называнні новага аб’екта ў чалавека ўзнікае асацыяцыя ў першую чаргу з тым, што яму добра вядома, што ўвесь час знаходзіцца пры ім. У першую чаргу чалавек параўноўвае, асацыіруе з сабой, з часткамі свайго цела.

Аднак аналіз саматычных фразеалагізмаў паказвае, што назвы частак цела па-рознаму, не ў аднолькавай колькасці праяўляюць сваю прадуктыўнасць у якасці кампанентаў фразеалагізмаў: адны выкарыстоўваюцца рэдка, напрыклад, плячо, паха, другія, наадварот, вельмі часта, як, напрыклад, вока, рука, нага.

Адну з найбольш колькасных груп фразеалагізмаў беларускай літаратурнай мовы складаюць тыя, кампанентам якіх выступае *галава*, што было ўстаноўлена ў выніку выдзялення такіх адзінак з дапамогай метада суцэльнай выбаркі са “Слоўніка фразеалагізмаў” І.Я. Лепешава і часткова іх падлікаў [2; 3]. Групаванне фразеалагізмаў на аснове агульнасці кампанента, паводле заўваг даследчыкаў фразеалогіі, з’яўляецца адным з апошніх напрамкаў вывучэння і даследавання фразеалагізмаў розных моў  [4, с. 50]. У нашым выпадку менавіта такі падыход да выбару аб’екта вывучэння  ў фразалогіі дае магчымаць вызначыць ступень частотнасці пэўных кампанентаў у фразеалогіі. А тое, што кампанент *галава* з’яўляецца адным з самых частотных сярод кампанентаў-саматызмаў, сведчаць колькасныя дадзеныя: выдзелена каля 170 фразеалагічных адзінак толькі на матэрыяле фразеалагічнага складу беларускай літаратурнай мовы. Але пры гэтым заканамерна ўзнікае пытанне, чым тлумачыцца такая частотнасць кампанента *галава*, што і з’яўляецца асноўнай мэтай прапанаванага артыкула.

Першай падставай для частотнасці ўжывання лексемы галава ў якасці кампанента фразеалагізмаў, на нашу думку, з’яўляецца тое, што найбольш прадуктыўнымі аказваюцца тыя лексемы-саматызмы, якія для чалавека лічацца, з аднаго боку, найбольш функцыянальна важнымі, як, напрыклад, вока, з дапамогай якога чалавек атрымлівае найбольшую колькасць інфармацыі, ці рука/рукі, калі ўлічыць, што ў мінулым амаль уся работа, усе віды працы былі ручнымі; з другога боку, такія саматызмы надзелены пэўнай сімволікай паводле розных павер’яў, прымхаў, рытуалаў, жэстаў, мімікі і пад. І менавіта гэта адметнасць саматычных лексем, як і многіх іншых, абумоўлівае іх задзейнічанне ў фразеалогіі. Для аргументацыі палажэння праанализуем фразеалагізмы з кампанентам *галава*.

Як вядома, галава як верхняя частка чалавека, паводле свайго размяшчэння і суаднесенасці з уяўленнямі пра будову свету, пра супастаўленне неба і зямлі, суадносіцца з верхам, небам, дзе знаходзяцца зоркі, месяц, сонца, дзе, паводле Біблii, на сёмым небе жывуць ангелы і знаходзіцца рай і якое, паводле хрысціянскага ўяўлення, лічыцца ідэалам маральнай чысціні. Галава прызнаецца галоўнай для чалавека і ўсяго, што такім прадстаўляецца (параўн. фразеалагізм *усяму галава* – ‘самае галоўнае, найбольш важнае сярод іншага’). На аснове гэтага галава са старажытных часоў суадносіцца з жыццём, розумам, а на аснове метаніміі, калі частка замяняе цэлае, галава суадносіцца з чалавекам, які ў фразеалогіі прадстаўлены *з (ад) галавы да ног (да пят)* ці *з ног да галавы*, што мае адно са значэнняў ‘з усіх бакоў; поўнасцю, цалкам’.

У пэўнай адпаведнасці з гэтым саматызм *галава* выяўляе некалькі сімвалаў метафары: «галава – розум», «галава – жыццё», «галава – чалавек і яго эмоцыі» і інш.

У аснове вобразаў найбольшай колькасці фразеалагізмаў з кампанентам *галава* ляжыць метафара «галава – розум». І гэта зразумела, паколькі мноству культур свету ўласціва ўспрыманне галавы як галоўнай і жыццёва неабходнай часткі цела чалавека, якая надзелена розумам. Тое, што з галавой асацыятыўна звязваецца ўяўленне аб галаўным мозгу, адной з асноўных функцый якога з’яўляецца функцыя мыслення, у значнай ступені абумоўлена лексіка-семантычным патэнцыялам гэтага слова як апорнага кампанента фразеалагізмаў.

У групе фразеалагізмаў (усяго 70), якія называюць, характарызуюць і станоўча ці адмоўна ацэньваюць разумовую дзейнасць чалавека, можна выдзеліць тры фразеасемантычныя падгрупы фразеалагізмаў: 1) станоўчая разумовая дзейнасць, 2) адмоўная разумовая дзейнасць, 3) неадэкватная разумовая дзейнасць.

У супрацьлегласць найбольшаму існаванню ў фразеалагіі адмоўнага полюса ацэнкі, найбольшая колькасць фразеалагізмаў (30) нясе станоўчую ацэнку разумовай дзейнасці чалавека, напрыклад: *на галаву вышэй* ‘разумны, значна больш вопытны (у параўнанні з кім-н.)’; *галава варыць* ‘хто-н. разумны, кемлівы, знаходлівы’ і ‘хто-н. дадумваецца да чаго-н., прыходзіць да якога-н. выведу’; *галава не на вошы* ‘хто-н. разумны, кемлівы, знаходлівы’ і інш. Іншыя вобразы, але блізкая сема ‘розум’ ілюструюць фразееалагізмы, дзе галава як саматычны кампанент суадносіцца са святлом, сонцам, бажаством, уладай (*з галавой* ‘вельмі разумны, здольны, здатны’, *светлая галава* ‘вельмі разумны чалавек’; *з царом у галаве* ‘вельмі разумны, кемлівы’; *мець <сваю> галаву на плячах* ‘быць дастаткова разумным, кемлівым’), з’яўляецца ёмішчам розуму (*пайсці ў галаву па розум* ‘прыдумаць што-н., дадумацца да чаго-н.’; *у галаве* ‘цікавіць каго-н., з’яўляцца прадметам чыіх-н. клопатаў, думак і пад.’), сімвалізуе інструмент вымярэння ўзроўню розуму (*на галаву вышэй* ‘намнога разумнейшы, значна больш вопытны (у параўнанні з кім-н.)’) і інш. Здольнасць думаць, вырашаць цяжкія задачы вобразна выяўляецца праз дзеянні з галавой (*ламанне галавы* ‘напружаная спроба вырашыць, зразумець, разгадаць што-н.’; *паламаць галаву* ‘моцна прызадумацца, стараючыся зразумець, разгадаць штосьці, знайсці выйсце з пэўнага становішча’). Галава выступае інструментам пазнання: *галаву не прыкладу* ‘не магу зразумець, уцяміць што-н.’.

Менш фразеалагізмаў (толькі 20), якія адмоўна ацэньваюць недахопы інтэлектуальнага развіцця чалавека ад поўнай адсутнасці розуму, тупасці да рознай ступені абмежаванасці ўзроўню разумовых здольнасцей чалавека. У прыватнасці, быць неразумным паказваецца праз адсутнасць галавы як асноўнага разумовага органа (*без галавы* ‘неразумны, тупаваты ці няўважлівы, рассеяны’), быць бесталковым – галава з дрэвам (*дубовая галава* ‘тупы, неразумны чалавек; тупіца’; *галава яловая* ‘бесталковы, дурны чалавек’), быць нездагадліаым – быць пустым посудам (*пустая галава* ‘нездагадлівы, прастакаваты чалавек’) альбо посудам, у які нічога не лезе (*не лезе ў галаву* ‘не становіцца прадметам асаблівай увагі, цікавасці, інтарэсу; не даецца’) ці ў якім штосьці ёсць, але не тое (*мякіна ў галаве* ‘хто-н. бесталковы, някемлівы’; *салома ў галаве* ‘хто-н. дурнаваты, бесталковы, някемлівы’). Іншыя вобразы, але тая ж негатыўная ацэнка фразеалагізмаў з выразнай матывацыяй, агульным кампанентам *галава*: *без цара ў галаве* ‘недалёкага, абмежаванага розуму’; *галава садовая* ‘нездагадлівы, няўважлівы, рассеяны чалавек’; *курыная галава* ‘нездагадлівы, прастакаваты чалавек’.

Падгрупу фразеалагізмаў, у якіх характарызуецца неадэкватнасць разумовай дзейнасці, складаюць 20 адзінак, у якіх адлюстроўваюцца змены фізічнага стану галавы для вызначэння зольнасці разважаць, думаць (*галава пухне / распухла* ‘хто-н. траціць здольнасць цвяроза разважаць ад мноства клопатаў, думак, шуму і пад.’; *галава / лоб трашчыць / расколваецца* ‘хто-н. траціць здольнасць цвяроза разважаць (ад мноства спраў, перажыванняў і пад.)’; *галава ходырам / ходам ходзіць* ‘хто-н. траціць здольнасць цвяроза разважаць (ад мноства спраў, перажыванняў і пад.)’; *галава закружылася* ‘хто-н. пачаў адчуваць галавакружэнне (ад стомленасці, перажыванняў і пад.)’; *галава ідзе (ходзіць, пайшла) кругам* ‘хто-н. адчувае галавакружэнне (ад стомленасці, паўнаты перажыванняў і пад.)’) ці для выражэння адчаю, безвыходнасці (*хоць галавой аб сцяну біся* ‘выказванне безнадзейнасці, немагчымасці зрабіць што-н., каб выйсці з крайне цяжкага становішча’; *хоць <ты> у вір (у пельку) галавой* ‘выказванне безнадзейнасці, немагчымасці што-н. зрабіць, каб выйсці з крайне цяжкага становішча’; *хоць галавой у пятлю* ‘выказванне безнадзейнасці, немагчымасці зрабіць што-н., каб выйсці з крайне цяжкага становішча’ і інш.).

Яшчэ адна сімволіка лексемы галава – і адпаведна новая група фразеалагізмаў (налічвае 12 адзінак) з кампанентам *галава*, якія сімвалізуюць жыццё чалавека на аснове метафары «галава – жыццё», бо пры адсутнасці, пазбаўленні галавы наступае смерць. Такія фразеалагізмы часцей за ўсё вызначаюцца агульным значэннем ‘страціць жыццё’, але ў залежнасці ад таго, як чалавек страчвае жыццё, заканчвае яго, у дадзенай групе можна выдзеліць дзве фразеасемантычныя падгрупы.

Першую фразеасемантычную падгрупу складаюць фразеалагізмы, вобразы якіх даводзяць пра ўздзеянне іншых асоб на чалавека, пра што сведчаць дзеяслоўныя кампаненты, якія поўнасцю не страцілі сваё значэнне, напрыклад: *адарваць (сарваць) галаву* ‘забіць, знішчыць каго-небудзь’; *адкруціць галаву* ‘забіць, знішчыць’; *звярнуць галаву (шыю)* ‘знішчыць каго-н.’; *знімаць (здымаць) галаву* ‘забіваць, знішчаць каго-н.’; *паскручваць галовы* ‘знішчыць, забіць каго-н. (пра многіх, усіх)’; *скручваць шыю (галаву)* ‘знішчаць, забіваць каго-н.’.

У другую падгрупу ўваходзяць фразеалагізмы, вобразы якіх ілюструюць неразумнасць паводзін, арганізацыі свайго жыцця самім чалавекам, у выніку чаго чалавек калечыцца, гіне (*зламаць <сабе> галаву (шыю)* ‘скалечыцца, загінуць’; *класці (складаць) галаву (галовы)* ‘гінуць у баі, ахвяроўваць сабой’; *навярнуць галавой*

‘загінуць’; *накладаць галавой* ‘гінуць, прападаць’; *скруціць <сабе> галаву (шыю)* ‘скалечыцца, загінуць’), рызыкуе жыццём (*падстаўляць <сваю>галаву (лоб)* ‘рызыкаваць жыццём; нарывацца на небяспеку’; *падстаўляць <сваю> галаву пад абух* ‘ставіць сябе пад нябяспеку, нарывацца на непрыемнасці’) ці, наадварот (*знасіць галаву* ‘застацца жывым, уцалець, мінуць пакаранне’).

Паводле яшчэ адной сімвалічнай ролі, якая замацавана за галавой як часткай цела чалавека, ці – «галава – чалавек і яго эмоцыі», што, з аднаго боку, набліжаецца да метафары «галава – розум», з другога боку, адрозніваецца ад яе, паколькі ў першым выпадку адлюстроўваюцца інтэлектуальныя здольнасці чалавека, а ў другім – эмацыянальныя адчуванні, можна выдзеліць групу фразеалагізмаў з кампанентам *галава*, якія вызначаюцца сімвалічнасцю значэння, што звязана з метафарай «галава – душа», але характарызуе разнастайныя эмоцыі, душэўныя хваляванні. У прыватнасці, моцнае хваляванне, разгубленасць, адчай выражаюцца найперш жэставымі фразеалагізмамі, ці тымі, у аснове якіх замацаваны жэсты з галавой, напрыклад: *вешаць (апускаць) галаву (галовы)* ‘даходзіць да моцнага адчаю, адчуваць душэўнае хваляванне, маркоціцца’; *губляць (траціць, страчваць) галаву (галовы)* ‘бянтэжыцца, пазбаўляцца развагі, не ведаць ад хвалявання, як паступіць, што рабіць’; *хапацца за галаву* ‘разгубіўшыся, не ведаць, што рабіць, прыходзіць у адчай’ і інш. Што датычыць жэстаў, то даследчыкі адзначаюць, што яны «не зводзяцца да ўяўлення пра цела як арганізм. Гэта яшчэ і свет сімвалаў, які асімілюецце ў целе» [1, с. 59].

Змены ў фізічным стане галавы (баліць, кружыцца і пад.) ці тэмпературным рэжыме яе (гарыць) скарыстаны для перадачы моцнай ступені хвалявання, турбот, клопату (*галава баліць (балела)* ‘хто-н. моцна турбуецца аб кім-, чым-н., перажывае, непакоіцца’; *галава закружылася (закруцілася)* ‘хто-н. пачаў адчуваць галавакружэнне (ад стомленасці, перажыванняў і пад.)’; *галава ідзе (ходзіць, пайшла) кругам* ‘хто-н. адчувае галавакружэнне (ад стомленасці, паўнаты перажыванняў і пад.)’; *галава кружыцца (круціцца)* ‘хто-н. адчувае галавакружэнне (ад стомленасці, паўнаты перажыванняў і пад)’; *галава ходырам (ходам) ходзіць* ‘хто-н. адчувае галавакружэнне (ад стомленасці, паўнаты перажыванняў і пад.)’; *галава гарыць (гарэла)* ‘хто-н. моцна хвалюецца, перажывае’).

А калі ўздзеянне на галаву аказваецца з боку другой асобы, тады, наадварот, у фразеалагізмах даводзіцца пра суцяшэнне, спыненне высокага накалу эмацыянальнага стану чалавека: *астудзіць*

*гарачую галаву* ‘угаманіць, суняць, суцішыць каго-н. залішне нястрыманага, запальчывага, неразважлівага’; *выбіваць з галавы дур (дурасць, дурату)* ‘строга ўздейнічаючы, адвучаць каго-н. ад дрэнных звычак, схільнасцей і пад.’ і інш. У выніку – *галава астыла (астыне)* ‘хто-н. супакоіўся, перастаў гарачыцца’. Праўда, заўважым, што тут відавочнай выступае яшчэ адна сімволіка лексемы галава, скарыстоўваецца метафара «галава – чалавек» пры фразеалагізацыі новых выразаў, ці ўтварэнні фразеалагізмаў (*за галавой* ‘на ўтрыманні каго-н. ці пад чыёй-н. аховай, апекай (жыць, быць і пад.)’; *на галаву* ‘на каго-н.’; *праз (цераз) галаву* ‘не папярэдзіўшы каго-н., мінуўшы таго, да каго непасрэдна трэба звяртацца (рабіць, зрабіць што-н.)’ і інш.), вобразы якіх узыходзяць да старажытнай формы ўсведамлення саматычнай часткі чалавека – галавы як цэлага.

Такім чынам, аналіз фразеалагізмаў з кампанентам *галава*, які вызначаецца высокай прадуктыўнасцю, дазваляе меркаваць, што выбар і частотнасць гэтага саматычнага кампанента звязаны з замацаванай за ім сімволікай. І чым больш выяўляецца сімвалаў, тым большая частотнасць кампанента і адпаведна большая колькасць фразеалагізмаў з гэтым кампанентам. Саматызм-кампанент з сімвальным значэннем, скарыстаны ў новай, другаснай, адзінцы мовы – фразеалагізме, разам з іншымі кампанентамі гэтай адзінкі, перадае, «надзяляе» фразеалагізм гэтай сімволікай. І фразеалагізмы, фіксуючы розныя вобразы, набываюць ролю сімвалаў, эталонаў, стэрэатыпаў як знакаў культуры, захоўваюць, перадаюць і даводзяць да новых пакаленняў носьбітаў мовы пэўную культурную інфармацыю, што і выдзяляе фразеалагізмы як найбольш «культураносныя» адзінкі кожнай мовы. Мы не прэтэндуем на канчатковы і бясспрэчны вывад, але асобныя назіранні за частотнасцю кампанентаў-саматызмаў, у тым ліку і з кампанентам *галава,* дазволілі выказаць гэта меркаванне.

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Никитина, Е.С. Игры с телом / Е.С. Никитина // Психосемиотика телесновти / под общей ред. и с пред. И.В. Журавлева и Е.С. Никитиной. – М.: КомКнига/URSS, 2005. – С. 51–62.

2. Лепешаў, І.Я. Слоўнік фразеалагізмаў: У 2 т. Т. 1. А–Л / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Беларус. Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2008. – 672 с.

3. Лепешаў, І.Я. Слоўнік фразеалагізмаў: У 2 т. Т. 2. М–Я / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Беларус. Энцыклапедыя імя П.Броўкі, 2008. – 704 с.

4. Ляшчынская, В. А. Сучасная беларуская мова: фразеалогія: вучэб. дапам. / В. А. Ляшчынская. – Мінск: РІВШ, 2010. – 230 с.

УДК 81’282.2

***С. А. Янковская***

# СЕМАНТИКА ПРЕДЛОГОВ С ПРОСТРАНСТВЕННЫМ ЗНАЧЕНИЕМ И ПРЕФИКСАЛЬНЫЕ ПРОИЗВОДНЫЕ ЛОКАТИВЫ

В статье рассматриваются коррелятивные и некоррелятивные отношения между предложно-падежными формами имен существительных с локативной семантикой и соответствующими им однословными производными локативами. Отмечается, что в литературном языке и в русских народных говорах предложно-падежные формы имен существительных, выражающие рассматриваемое значение аналитически, в различной степени способны послужить основой для создания соответствующего однословного коррелята-эквивалента с локативной семантикой.

Хорошо известно о смысловом параллелизме между предлогами с пространственной семантикой и значением соотносительных префиксов в составе ряда производных [2]. В диалектном словообразовании и словообразовании СРЛЯ зачастую отмечаются связи между префиксами nomina loci и соответствующими им предлогами в составе предложно-падежных форм имен существительных, которые иногда находят отражение и в словарных дефинициях к производным словам. В таких случаях есть все основания считать, что значение префикса nomina loci может коррелировать со значением предлога, который находится рядом с существительным. Сравните:

*заморье* (СРЛЯ) *Устар. и нар.-поэт.* ‘Местность *за морем*’ [1, т. 6, с. 353];

*предгорье* (СРЛЯ) ‘Местность, расположенная *перед горами*, прилегающая к подножью’ [1, т. 19, с. 529];

*з**а**стенье* и *заст**е**нье* (диалектн.) ‘Место *за стеною’*. Застенье. Даль [без указ. места]. Влад., 1932. Место за крепостною стеною. Пск., 1855 (1-е знач.) [3, т. 11, с. 60];

*междул**у**нок* (диалектн.) ‘Пространство *между лунками’*. Кемер., 1964 [3, т. 18, с. 80];

*п**о**бережье* (диалектн.) ‘Деревни, расположенные *по берегу* реки’. Олон., 1896 (2-е знач.) [3, т. 27, с. 193] и др.

Наряду с рассмотренными выше производными локативами, которые являются полными «поморфемными эквивалентами»

предложно-падежных форм, для русских народных говоров характерны также такие производные, демонстрирующие частичные несоответствия. В таких случаях префикс диалектной производной единицы идентичен предлогу предложно-падежной формы существительного в составе перифразы, отмеченной в СРНГ, однако корневая морфема производного локатива и существительного в структуре перифразы не являются идентичными. Например:

*надп**е**лок* ‘Чердак *над сараем* для мякины, *над клетью* (кладовой)’. Пск., Твер., 1855. Твер. [3, т. 19, с. 247];

*надл**а**вочник* ‘Полка *над окнами’*. Арх., 1969 (2-е знач.) [3, т. 19, с. 237] и др.

Дополнительным доказательством того, что пространственная семантика в единице *надп**е**лок* выражается префиксом *над***-**, является наличие в русских народных говорах единиц с корневой морфемой *пел-*, представляющих значение ‘сарай для мякины’: *2.пел**у**нь*; *пеле-вица*; *пелёвник и пел**е**вник*; *пелёвница, пел**е**вница* и *пелевн**и**ца* (1-е знач.); *пел**е**вня* и *пелевн**я*** (1-е знач.); *пелев**у**шка* [3, т. 25, с. 322–332].

Порой в говорах отмечаются такие nomina loci, префикс которых идентичен предлогу и активно участвует в выражении семантики локативности, однако сама внутренняя форма диалектного слова, его лексическая семантика обнаруживает лишь имплицитную связь с корневой морфемой. Ср.:

*подвор**о**тня* ‘Пространство, щель *под дверью* сарая’. Новг., 1969 [3, т. 27, с. 368];

*2. подг**о**рница* ‘Помещение для мелкого скота *под избой’* (2-е знач.). Куйбыш., 1939 [3, т. 27, с. 379] и др.

По данным Словаря русских народных говоров, номинация *«вор**о**тня»* служит для обозначения двери, а номинация *«г**о**рница»* – для обозначения избы. Сравните:

*вор**о**тня* ‘Ворота’. Курск., Калуж. Твер. (3-е знач.) [3, т. 5, с. 122];

1. *вор**о**та, ворот**а** и вор**о**та* ‘Входная дверь с крыльца в избу, в сени’. Арх., 1912 (1-е знач.) [3, т. 5, с. 118];

*г**о**рница* ‘Холодная изба за сенями’. Калуж., Моск., 1910 (2-е знач.) [3, т. 7, с. 47].

Соответственно, предложно-падежные формы имен существительных, отмеченные в Словаре русских народных говорах в составе словарных дефиниций, *под дверью* и *под избой* идентичны формам под *воротами и под горницей*, которые в территориальных диалектах сконденсировались в префиксально-суффиксальные производные локативные существительные *подвор**о**тня* и *2. подг**о**рница.*

Наряду с корреляцией семантики предлога и префикса nomina loci, в говорах и в литературном языке возможны также их несовпадения, например:

приозерье (СРЛЯ) ‘Местность вблизи, около озера’ [4, т. 11, с. 648];

*застр**е**шье* (диалектн.) ‘Пространство *около крыши*’. Орл., Слов. Акад. 1903 [3, т. 11, с. 67];

*засуст**а**в* (диалектн.) ‘Место *около сустава* на теле человека’. Курган. Тобол., Великорусские заклинания [3, т. 11, с. 75];

*подвол**о**чье* (диалектн.) ‘Место *по волоку, вблизи него*’. Волог., 1898 [3, т. 27, с. 365];

*подб**о**рица* (диалектн.) ‘Участок редкого, мелкого леса перед основным лесным массивом, бором’. Курган., 1962 [3, т. 27, с. 343] и др.

Словарная дефиниция далеко не всегда и не в полной мере отражает систему пространственных координат, которой соответствует локатив. К примеру, *застрешье* – это не только ‘место за стрехой’, но и ‘место около крыши’; *засустав* – не только ‘место за суставом’, но и ‘место около сустава’; *подволочье* – не только ‘место под волокой’, но и ‘место по волоку’; *подборица* – не только ‘место под бором’, но и ‘место перед бором’.

Известно, что некоторые префиксальные производные с семантикой локативности образуются на основе соответствующих предложно-падежных сочетаний имен существительных (*за рекой* → *заречье*). Подобные сочетания, выражающие рассматриваемое значение аналитически, в литературном языке и в русских народных говорах в различной степени способны послужить основой для создания соответствующего однословного коррелята-эквивалента с локативной семантикой. Например, в СРЛЯ сочетаниям место за селом, место между сараями и др. в качестве «поморфемных соответствий» отсутствуют производные локативные существительные. И сравните с говорами, где данные значения эксплицируются уже не аналитически, а посредством однословных производных единиц *заселье* и *межсарайник*:

*заселье* ‘Окраина поселения; пустырь за селом’. Даль [без указ. места]. Ряз. (2-е знач.) [3, т. 11, с. 28];

*межсарайник* ‘Пространство между поставленными в ряд сараями, защищенное сверху соприкасающимися крышами’. Верхнее Поволжье [3, т. 11, с. 90].

В структуру семантических перифраз идентичных по морфемной структуре локативных субстантивов русских народных говоров и литературного языка могут входить предложно-падежные

формы имен существительных, предлоги которых связаны отношениями синонимии. Сравните:

побережье (СРЛЯ) ‘Полоса земли, местность вдоль берега (моря, озера, большой реки)’ [1, т. 17, с. 154–155] и *побережье* (диалектн.) ‘Деревни, расположенные по берегу реки’. Олон.,1896 (2-е знач.) [3, т. 27, с. 193].

Словарная дефиниция литературного языка в качестве коррелята локативу побережье позволяет выделить предложно-падежную форму имени существительного вдоль берега, а словарная дефиниция Словаря русских народных говоров – предложно-падежную форму имени существительного по берегу. Однако совершенно очевидно, что предлоги вдоль и по-синонимичные предлоги. Сравните: вдоль ‘Указывает на направленность действия по длине чего-л.’ [1, т. 2, с. 367].

В словообразовании СРЛЯ отдельное место занимают единицы, лексикографическое толкование которых вполне определенно указывает на наличие тех или иных «составляющих» пространственной семантики. Сравните, например, производные единицы литературного языка с префиксом на-, выражающие семантику расположения на поверхности чего-либо:

налобник ‘Старинный женский головной убор, надеваемый на лоб, в виде нарядной, с украшениями повязки’ (1-е знач.) [1, т. 11, с. 225];

намордник ‘Сетка из ремня или проволоки, надеваемая на морду собак и других животных’ (1-е знач.) [1, т. 11, с. 247] и др.

В диалектном же словообразовании производные единицы с префиксом на- не просто связаны с пространственной семантикой, но в отличие от литературного языка являются локативами. Сравните:

*натопорень* ‘Кожаный чехол для топора’. Том., 1930 [3, т. 20, с. 224];

*нахолищо* ‘Чехол для ружья’. Якут., 1972 [3, т. 20, с. 269];

*наигольник* ‘Ящик, футляр для иголок’. Волог., Енис. [3, т. 19, с. 294] и др.

Из приведенных определений видно, что *натопорень* и *нахолищо* в говорах – это чехлы; *наигольник* –- ящик, футляр. В данном случае локативная семантика таких единиц сконцентрирована на представлении значения вместилища. Кроме этого, следует заметить, что в диалектных nomina loci *натопорень, нахолищо* и *наигольник* отсутствует связь между префиксом производных единиц и предлогом в составе предложно-падежных форм существительных, зафиксированных в Словаре русских народных говоров: единицам с префиксом

